Пентці Хаанпяя

# Боты дзевяці салдат

Раманы

*З фінскай*

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1994

# ШЛЯХІ ЧАЛАВЕЧЫЯ

Калі чытаеш упершыню раман Пентці Хаанпяя «Боты дзевяці салдат», то спачатку адчуваеш нейкі няясны недавер. Нават сам не разумееш чаму. І толькі потым да цябе даходзіць, што чытаеш ты пра салдат варожай нам тады фінскай арміі. Магчыма, гэта адна з першых кніг, якая паказала нам вайну «з таго боку», прычым не «звярыны аскал імперыялізму», а звычайныя чалавечыя твары: то вясёлыя, то разгубленыя, а то й смяротна спалоханыя.

Раман «Боты дзевяці салдат» быў першым творам у фінскай літаратуры, дзе чалавек паказваўся не на дыблях афіцыйнага патрыятызму, а на празаічна-цвёрдай зямлі вайны. Трэба дадаць, што гэты раман адыграў даволі значную ролю ў ацверазенні фінскага народа ад чмуру вялікадзяржаўных ідэй. Цяпер можна з упэўненасцю сказаць, што Фінляндыя — адна з нямногіх краін свету, якія зрабілі свае высновы з урокаў гісторыі і асабліва з апошняй вайны: «Хопіць, навояваліся!»

Другі раман, «Балада пра трох Тэрапя» — кніга зусім іншага плана. Там значна звужана кола герояў і дзейных асоб. Але нават апісваючы сялянскае жыццё трох пакаленняў на хутары Тэрапя, Хаанпяя знаходзіць тыя дэталі, якія ўвесь час трымаюць нас у напружанні. Узлёты і падзенні, беднасць і раскоша, захапленні і расчараванні — такія галавакружныя шляхі герояў двух раманаў нечым падобныя да жыццёвага шляху самога Пентці Хаанпяя.

Ён нарадзіўся 14 кастрычніка 1905 года ў вёсцы Лескеля, у Цэнтральнай Фінляндыі. Ягоныя дзед і бацька былі земляробамі, але вялі і грамадскую дзейнасць, а таксама крыху пісалі. Іх творы не зрабілі ўплыву на літаратуру Фінляндыі, але далі штуршок развіццю пісьменніцкага таленту Пентці

Хаанпяя. Першыя свае творы ён напісаў яшчэ ў школьныя гады, а ў 1921 годзе некаторыя апавяданні былі апублікаваныя і даволі прыхільна прынятыя чытачамі і крытыкамі. Натхнёны першымі поспехамі, Хаанпяя піша яшчэ колькі навелаў і аповесцяў. Але трыумфальны шлях у літаратуру раптам перарваўся, бо пасля службы ў войску ён напісаў цыкл апавяданняў аб фінскай арміі «Пляц і казарма» (1928). Замалёўкі з натуры не вельмі стасаваліся з тымі вобразамі вайскоўцаў і войска, якія стварала тагачасная афіцыйная прапаганда Фінляндыі. Быў тэрмінова арганізаваны «народны гнеў». Вайскоўцы не надта любяць, калі чыё-небудзь вока зазірае за кулісы парадаў. Армія павінна грымець бадзёрымі маршамі і блішчэць галунамі. Генералы камандуюць, зухаватыя салдаты маршыруюць, а цывільны народ «благоговеет». Усё ж, што не ўкладваецца ў гэту схему,— ачарненне і паклёп. Так было і так ёсць усюды. Дастаткова ўспомніць, як люта абараняюцца ад гэтага нашыя генералы, каб зразумець, у якім становішчы апынуўся малады пісьменнік. Выдаўцы адмаўляліся друкаваць яго творы, газеты трубілі пра здраду ідэалам, абывацелі патрабавалі аддаць паклёпніка пад суд. Але малады пісьменнік працягваў пісаць. Часам ягоныя апавяданні і раманы друкаваліся ў левай прэсе, а то й за мяжой. Шэраг навелаў быў апублікаваны ў серыі лепшых навел свету ў Швецыі. Замоўчваць і не друкаваць яго стала нявыгадна. У 1937 годзе блакада маўчання скончылася.

А ў 1939 годзе ён зноў стаў любімцам прэсы, бо рэзка выступіў супраць савецкай агрэсіі, хоць да таго часу вельмі прыхільна ставіўся да СССР. Пад час другой сусветнай вайны Пентці Хаанпяя быў радавым салдатам і на ўласным вопыце спазнаў суадносіны вялікіх ідэалаў з салдацкімі крывёю і потам. Пасля вайны ён зноў вярнуўся ў свой маленькі гарадок Піййпола.

А ў 1955 годзе жыццё пісьменніка трагічна абарвалася: ён патануў у возеры Ісо Лумаярві.

Спрэчкі і дыскусіі вакол творчасці Пентці Хаанпяя не заціхаюць і да гэтай пары. Мне б не хацелася даваць ніякіх ацэнак ні ягонай творчасці, ні тым творам, якія прапаную нашым чытачам. Хай яны мяркуюць самі.

*Якуб Лапатка*

Боты ціхамірна віселі парамі на жэрдачках уздоўж сцяны склада. Гэта былі новыя боты, іх чакалі жыццё і прыгоды, іх чакалі мужныя і пакорлівыя ногі воінаў. Боты ганарліва адсвечвалі сваёю чорнай раскошай і з пагардай глядзелі на другую жэрдачку, дзе віселі старыя салдацкія боты, пакарабачаныя, падрапаныя і бясформенныя. Жыццё і салдацкія ногі абышліся з імі вельмі жорстка. Ніхто б нават і не падумаў, што ў гэтых нікчэмных абноскаў была некалі свая маладосць, што абуты ў іх афіцэр некалі стаяў на ўзгорку і кіраваў ходам бітвы, а салдаты, абутыя ў такія самыя боты, ішлі ў атаку пад жудасным свінцовым градам, ішлі, пакуль не выцягвалі ногі. І боты здзіралі з тых здубянелых ног, каб абуць яшчэ аднаго небараку... А можа, у тым і шчасце скураных салдацкіх ботаў, што іх будучыня і мінуўшчына ўкрытыя чорным змрокам таямніцы.

А некалі ж гэта была скура жывой гавяды, што мірна пасвілася ў айчынных альбо заморскіх лугах, пакрытая калматай або гладкай поўсцю, і яе балюча кусалі авадні і мухі. Але вось аднойчы прыйшоў мяснік, і жывёліну забілі, а скуру выдубілі, парэзалі шавецкімі нажамі, і ў грукаце машын абутковай фабрыкі янаператварылася ў салдацкія боты.

А салдацкія боты заўсёды будуць таварам вельмі шырокага спажывання там, дзе ваюе ўся краіна і ўся планета.

Так і віселі боты на жэрдачцы, пакуль аднойчы на склад не зайшоў фельдфебель Сора, каб пагаманіць з сяржантам Пенсасам. Старыя прыяцелі павіталі адзін аднаго радаснай лаянкай і пачалі ўспамінаць тыя часы, калі служылі разам у адной часці. Фельдфебель прыехаў у адпачынак з фронту і бедаваў, што выглядае як галадранец. На думку ж сяржанта, стары прыяцель выглядаў так, што хоць цяпер на парад. Апрача таго, франтавіку не пасуе залішняя раскоша. Аднак на гэты конт фельдфебель Сора меў асабістую думку: трэба апранацца прыстойна, калі выпадае такі шанц.

Ён зусім не хацеў выглядаць гэткім франтавым зухам, што лічыць за вялікі шык хадзіць абадраны, нямыты і вечна расхрыстаны.

І хоць інтэнданцкі сяржант зусім не вітаў такое, аднак справа, вядома ж, скончылася тым, што фельдфебель выправіўся ў новы мундзір. Пад час экіпіроўкі прагнае вока Сора згледзела новыя боты, а спрытныя пальцы імгненна вызначылі, што гэтая пара пашыта адмыслова дзеля яго. Прамовіўшы адвечнае «хай будзе», ён сцягнуў боты з жэрдачкі, абудзіў іх да жыцця і стаў іх першым гаспадаром.

Фельдфебель Сора і сяржант Пенсас выйшлі са склада і пайшлі па гарадскіх вуліцах. Фельдфебель прагна дыхаў хвалюючым гарадскім водарам і адчуваў, як прыемна, хоць крыху і жорстка, аблягае цела новы мундзір.

І тут у мужнага воіна нарадзілася думка аб значнасці сваёй персоны. Ён адчуў сябе новым чалавекам. Недзе далёка ззаду засталася глухая прадымленая зямлянка і аднастайная, трохі ўстылая вайна. Цяпер ён быў у горадзе, і на кожным кроку, зробленым новымі ботамі па гладкім асфальце вуліцы, яго чакалі новыя і невядомыя дагэтуль магчымасці і спакусы. Новыя боты крыху ціснулі і, ад незнаёмства са

службай, рыпелі ціха і нават неяк сарамліва. Нічога, з цягам часу будуць сядзець як улітыя. Галоўнае, што значнасць персоны такога важнага ваеннага, як фельдфебель Сора, была навідавоку.

Яны ішлі па галоўнай вуліцы. Быў вечар, у горадзе панавала зацямненне, і ў непрагляднай цемры чулася, як часта стракаталі лёгкія жаночыя абцасы і цяжка грукалі падкаваныя боты чужаземных салдат. Гэты новы і нязвыклы голас ваеннага часу дзейнічаў на вушы фельдфебеля, як барабанны бой.

Аднак яны не збіраліся доўга шпацыраваць па вуліцах. Фельдфебель сказаў прыяцелю, што не варта доўга бадзяцца па вуліцах у новых ботах, бо гэтак можна і ногі пазбіваць. Яны завярнулі ў першы ж рэстаран і замовілі выпіўку. Фельдфебель з даўняе пары быў вялікім аматарам як след заліць вочы, а тут была сапраўды святочная нагода: ён толькі што прыехаў з глушы ў горад, у адпачынак з фронту. Ды апрача таго, трэба ж было пачаставаць сяржанта, які так паспрыяў таму, што просты фельдфебель ператварыўся ў такога бравага і важнецкага военачальніка. Прыяцелі ўспаміналі праведзеныя разам дзянькі маладосці, языкі развязаліся, і новыя боты пад сталом пачалі прытопваць у такт электраграмафону.

Яны ўздрыгвалі гэтаксама, як некалі ўздрыгвала скура на спіне жывёліны, калі яе кусалі мухі ў паўднёваамерыканскай пампе.

А цяпер гэта былі салдацкія боты, часціна гістарычнай вялікай арміі, якая прыйшла здабыць свету новую эпоху і новую Еўропу. Фельдфебель Сора неяк адразу адчуў патрэбу ў новай Еўропе, патрэбу ў новым жыцці. І сапраўды, гэта ж будзе смеху варта, калі ён, гэткі выбітны ваенны дзеяч, стваральнік новай эпохі, застанецца назаўсёды ў старой паганай хаціне на беразе глухога возера, у лясных нетрах, дзе жыццё цячэ так нудна і аднастайна. Яму патрэбна і новая

Катарына, пэўна, яшчэ больш, чым новая Еўропа, бо тая, ранейшая, была жанчына занадта валадарная і натурыстая... У яго ўжо была новая Катарына-завочніца, праўда, пакуль што даволі прывідная, але і даволі жывая. Нездарма ж яна так упарта дазнавалася, калі ў яго будзе адпачынак. І ў галаве ў фельдфебеля Сора праклюнуліся парасткі новага плана: у адпачынак ён паедзе да новай Катарыны, а не да той, ранейшай, так добра вядомай назолы...

Фельдфебель адчуў, што ўжо дыхае паветрам новай эпохі.

Сяржант Пенсас раптам здзіўлена спытаўся:

— Ты што? Усё яшчэ фельдфебель? А я згадваю, быццам цябе пасля зімовай вайны ў прапаршчыкі ўзвялі.

— У прапаршчыкі? — адказаў захмялелы Сора.— Я неяк не дазнаваўся... Праўда, маёр штосьці такое гаварыў...

А праўда была ў тым, што фельдфебель выдатна памятаў, як гаварыў маёр, але штосьці зусім не такое: нібыта Сора яшчэ не дарос да прапаршчыка і што, як бы фельдфебеля ні дубілі ў ваенным катле, ён навекі застанецца фельдфебелем. Ды ці ж можна верыць усяму, асабліва даўным-даўно сказаным словам? Апрача таго, можна казаць адно, а рабіць зусім другое... На зорках жа не напісана, што некаму наканавана вечнае фельдфебельства на гэтым свеце, дзе толькі тое і робяць, што вызваляюць народы і землі ды растуць да маршальскіх чыноў. Ды ён быў бы проста нікчэмнасцю, калі б пагадзіўся з гэтым! Цяпер, калі ён, фельдфебель Сора, стаў новым чалавекам, пачаў новае жыццё і збіраецца сустрэцца з абсалютна новай Катарынай, вядома ж, на каўнярах павінны свяціцца афіцэрскія зоркі.

— Пад новымі зорка-а-мі,— летуценна замурлыкаў фельдфебель.

— Не, праўда, я штосьці такое, здаецца, чытаў у загадзе штаба,— сказаў сяржант Пенсас.

— Чытаў і дагэтуль — ні слова! Ну й чхаць я хацеў на іх! Няхай ён там і гібее пад архіўнымі паперамі, той чын!

— Не, мы не дадзім яму прапасці! Прапаршчыка мы табе выкапаем з-пад любой кучы паперак!..

— Чхаць я хацеў на іх! Прапараў і фельдфебеляў на свеце не прабіцца. А вось Вяйнё Сора на свеце толькі адзін!

Але што б там фельдфебель ні казаў, ягоны лёс ужо вырашыўся. Ідэя стаць прапаршчыкам узрастала бурна і неадольна, як вясновыя парасткі на добра ўгноенай глебе. Ён сапраўды быў такой непаўторнай асобай, што тут жа, за чаркай, падвысіў і зацвердзіў сябе ў чыне прапаршчыка.

Вось тут, за сталом, насупраць яго сядзеў чалавек, які чытаў і памятаў, што на свеце стала адным афіцэрам больш. І гэты афіцэр ён, Вяйнё Маціяс Сора... Шмат чаго ствараецца і па болей нікчэмных доказах...

Дадому яны вярталіся позна. Фельдфебель Сора ківаўся туды-сюды, смяяўся, ляскаў абцасамі без дай прычыны і ні з таго ні з сяго казыраў.

Атрымалася так, што адзін бот, як бедная сіротка, прастаяў ноч у кутку каля ложка, а другі ўсю ноч адтырчаў на назе фельдфебеля.

Прачнуўшыся ранкам, фельдфебель Сора зноў адчуў сябе звычайным чалавекам, з усімі слабасцямі. Ён і не згадваў пра сваё афіцэрства, пра новае жыццё і пра сваё перараджэнне. Усё развеялася, як начны сон.

Аднак Сора быў не з тых, што доўга пакутуюць з пахмелля. Ён жвавенька нацягнуў скінуты бот, раздабыў бутэльку квасу, агораў яе разам з рэшткамі гарэлкі і павесялеў. Але ён усё яшчэ заставаўся звычайным фельдфебелем Сора, які ехаў у адпачынак да

сваёй жонкі і дзяцей у глухую лясную вёску. Да адыходу аўтобуса заставалася мала часу, і трэба было спяшацца. Ён развітаўся са старым прыяцелем сяржантам Пенсасам і рушыў у дарогу.

Фельдфебель бадзёра крочыў да аўтобуснай станцыі, як раптам яму на вочы трапілася вітрына з вайсковымі значыкамі, зоркамі і лычкамі. Афіцэрская зорка зіхцела прыгожа і велічна, нібыта першая асенняя зорка над самотным лясным возерам.

Фельдфебель Сора спыніўся. Усе падзеі і думкі мінулай начы раптам абудзіліся ў памяці, ды так і застылі.

Ён болей не быў чалавекам, якому наканавана звекаваць фельдфебелем, які пасля вайны зноў вернецца да сваёй маленькай лапінкі-надзела, да сваёй кульгавай жонкі, да ранейшага бязрадаснага жыцця і зноў пачне ганяць вахлакоў-дзяцей. Калі б так адбылося, то ўся гэтая вялікая вайна была б для яго пустым грукатам і громам. Яна не прынесла б яму ніякага вызвалення, ніякіх перспектыў у жыцці... Але, на шчасце, ёсць чалавек, які зусім нядаўна чытаў дакумент аб прысваенні афіцэрскага звання яму, фельдфебелю Вяйнё Маціясу Сора. А ўсё гэта азначае, што ён стаў чалавекам зусім іншага кола. Яму болей зусім няма патрэбы вяртацца да ранейшага жыцця. Ён свабодна можа паехаць да новай Катарыны і стаць новым чалавекам новага свету.

Фельдфебель Сора зноў адчуў, што дыхае паветрам новай эпохі, і скіраваўся да крамы, дзе купіў пару афіцэрскіх зорачак і пару пятліц на каўнер. Ён паводзіў сябе з належнай годнасцю і даў зразумець прадаўцу, што, маўляў, вось збіраюся памяняць пятліцы і знакі. Прадавец павіншаваў яго.

Затым Сора падаўся ў атэль, замовіў сабе пакой, замацаваў на пятліцах зорачкі і без аніякіх сумненняў выправіў званне фельдфебеля на прапаршчыка ў ад-

пускным пасведчанні. І са спакойнай душой узяўся кавывяраць расклад цягнікоў, каб потым схадзіць у камендатуру і атрымаць афіцэрскі літар. У камендатуры ён таксама натрапіў на старых знаёмых, усё ж другі дзесятак гадоў у войску, і білет яму далі без аніякай затрымкі.

Сустрэчны салдат усім сваім выглядам паказваў нежаданне вітаць афіцэра, але, убачыўшы нядобры позірк прапаршчыка, лянівa падняў руку да казырка.

І тады саматканы прапаршчык Сора адчуў сябе сапраўдным афіцэрам і вялікім военачальнікам. Ён увайшоў у вагон, з годнасцю разваліўся ў мяккім крэсле другога класа, і цягнік рушыў на поўдзень.

Так фельдфебель Сора адрынуў прыстойное салдацкае жыццё і кінуўся ў жыццё самазванага прапаршчыка, як у пуховую пярыну.

Прапаршчык Сора выйшаў з цягніка на нейкай станцыі, агорнутай халоднай асенняй цемрай. У вышыні цьмяна свяціўся самотны ліхтар. Аднак яму пашчасціла даволі хутка адшукаць дом прыезджых і атрымаць там пакойчык, праўда, пусты і няўтульны. Прапаршчык дастаў з пляцака бутэльку, як след глынуў, і адразу ў пакоі стала ўтульней, і нават электрычная лямпачка пад столлю засвяціла ярчэй.

У доме была і свая кавярня. Сора зазірнуў туды, і яму адкрылася сумнае відовішча вясковай кавярні ваеннай пары: некалькі непаўналетніх паўшабэлкаў ды нейкі чалавек, відаць, з простых, чытаў пакамечаную газету. У кавярні не было нават квасу, а гасцей частавалі нейкім нясмачным бурым пойлам, якое ў ваенны час лічылася за каву. Прапаршчык Сора цішком даліў кубак са сваёй запаветнай бутэлькі. Потым прапаршчык завязаў гаворку з мужчынам у цывільным. Той сказаў, што ён афіцэр і едзе ў камандзіроўку. Тады Сора пацікавіўся, ці жыве тут паблізу пані Пухці, Катарына Пухці, ягоная старая знаёмая?

Мужчына неяк дзіўна паглядзеў на яго. Як жа, як жа, жыве тут непадалёку, кіламетры са два адсюль у сваёй віле, праўда, даволі ўжо трухлявай. І дабрацца туды лепш такім чынам... Прапаршчык Сора, нягледзячы на тое, што стаў зусім новым чалавекам, па-ранейшаму застаўся мэтанакіраваным і ўмеў выдойваць з субяседнікаў неабходныя звесткі. Новы знаёмца не ведаў, ці багатая пані Пухці, ці не, але ва ўсякім разе жабракі не жывуць у такіх вілах. Тым болей што яна нідзе не працуе. Праўда, людзі кажуць, што жанчына яна даволі своеасаблівая. Ён сам з пані Катарынай незнаёмы.

— Ну што ж,— сказаў прапаршчык Сора.— Усе мы даволі своеасаблівыя, кожны з нас — адзіны і непаўторны.

У тым не было нічога дзіўнага, але вось наступная звестка крыху ўстрывожыла прапаршчыка: кажуць, што ў госці да пані завітвае шмат ваенных.

Вось дык так! Новая Катарына — гэта новая Катарына. Ці не зашмат у яе добрых знаёмых...

Прапаршчык Сора адчуў вялікую стому, вярнуўся ў свой пакойчык, распрануўся і заснуў.

Назаўтра ён прачнуўся свежы і бадзёры. План склаўся адразу — просты і ясны: паглядзець, як жыве новая Катарына. А значыць, наперад, прапаршчык! Разведай усё як след, а там...

Сора старанна апрануўся, а новыя боты ўпершыню зведалі ласку шчоткі.

Калі верыць учарашняму знаёмцу, то вілу ўдавы Катарыны Пухці знайсці няцяжка.

Прапаршчык Сора спыніўся каля чырванаствольнай сасны і нейкі час разглядваў вілу. Той чалавек сказаў праўду: вілу можна было назваць трухлявай.

Дом быў безнадзейна занядбаны і пад уздзеяннем прыродных сіл набыў нейкую вычварную афарбоўку. Аднак гэта быў вялізны дом з незлічонымі вокнамі,

двума балконамі і верандай, праўду кажучы, даволі прывіднай.

Усё тут парахнела і рушылася. Аднак, нягледзячы на тое, вельмі лёгка было зразумець, што тут ішло зусім не такое жыццё, як там, на беразе далёкага возера, дзе дыміцца бульба ў мундзірах, чуецца плач дзяцей і скрыгат тапара аб тачыла... Прапаршчык Сора падумаў, што новая Катарына цалкам яму падыходзіць у такім афармленні...

Сора ўявіў сябе гаспадаром вілы і адважна рушыў наперад. Ён пратупаў праз веранду і ўбіўся ў цемнаватую прыхожую, дзе было трое дзвярэй, і кожныя з іх, напэўна, вялі ў смярдзючы пыл і духату. Аднак, на думку прапаршчыка, ва ўсім гэтым быў нейкі асаблівы густ. Засталося толькі высветліць, што за птушачка тут гняздзіцца.

Сваім афіцэрскім вокам Сора хутка і дакладна вызначыў, за якімі дзвярыма цеплілася жыццё, і костачкі пальцаў застукалі па дошках, як дзяцел па сухой сасне. Старыя дзверы затрэсліся.

Па некаторым часе пачуліся паспешлівыя крокі і спалоханы жаночы ўскрык.

Затым дзверы адчыніліся, і нейкая істота, захутаная ў стракаты начны халат з чырвонымі кветкамі, жвавая і бойкая, нібы сойка, запоўніла праём. Вялізныя вочы глядзелі весела і жыва. Раскошныя ўскалмачаныя валасы аздаблялі ўжо даволі павялы твар.

«Вядома ж, яна, новая Катарына»,— здагадаўся прапаршчык Сора. Але пакуль што ён ніяк не мог вырашыць — ці падыходзіць яму гэткая Катарына.

— Мы з вамі незнаёмыя знаёмцы,— прадставіўся Сора.— Мяне завуць Вяйнё, Вяйнё Сора.

— Ах, во як! — застракатала жанчына.— Які сюрпрыз! Ну заходзь, любенькі, заходзь! Праўда, у мяне тут беспарадак, але што ж зробіш, позна засядзелася, а я жанчына зусім адзінокая, нават без прыслугі.

Даводзіцца прыбіраць самой. Ну нічога, вы, франтавікі, да ўсяго звычныя...

Яе пышны зад закалыхаўся пад чырвонымі кветкамі шырокага халата. «Павук»,— падумаў прапаршчык і падаўся следам за ёю.

Яны ўвайшлі ў невялічкі пакой, абстаўлены пашарпанай мэбляй. Пакойчык не ўражваў чысцінёй. Пустыя шклянкі на стале і аб'едкі бутэрбродаў на талерках казалі прапаршчыку аб тым, што мінулай ноччу тут як след пагулялі. Аднак мадам Пухці не дала яму надта доўга разглядаць пакой.

— О-о-о, ды ты ўжо й прапаршчык! А пісаў, што фельдфебель! Значыць, павысілі? Віншую, віншую!

Гэтыя словы вельмі паднялі аўтарытэт новай Катарыны ў вачах Сора. «Разумніца, усё заўважае і разумее»,— падумаў Сора і адказаў, што павысілі яго ўжо даўно, але вось даведаўся ён пра тое чыста выпадкова і нядаўна.

— Во як! — зноў затаранціла жанчына.— А ты зусім не выглядаеш разявакам!.. Прабач! Сядай жа, сядай, калі ласка! Ды не туды! Тут будзе зручней! Вось, калі ласка, цыгарэты або нямецкі тытунь, калі табе даспадобы піпка...

Яна яшчэ раз папрасіла прабачэння, стракаты халат зноў закалыхаўся, старая парцьера ўзвіхрылася, і пані знікла ў суседнім пакоі, што, напэўна, служыў ёй за спальню.

Прапаршчык застаўся адзін і закурыў. Ён яшчэ не ведаў, што і думаць. Гэтая новая Катарына была зусім не такая свежая, як думалася, але ўсё ж такая жвавая і бадзёрая... Ды і ад чыста зямных абставін шмат што залежыць... А чаго варта бязгрэшная дзяўчына, калі ў яе ні кала ні двара...

За парцьерай пачуліся крокі, зашамацела адзенне, і раптам яго праніклівы позірк зачапіўся за адну вельмі цікавую дробязь: у шчыліне паміж парцьерамі

прапаршчык згледзеў нешта падобнае на салдацкі бот. Ён падняўся, ціхім крокам следапыта наблізіўся да парцьеры і асцярожна зазірнуў у шчыліну. Ніякага сумнення: вялізны, пакарабачаны і не вельмі чысты салдацкі бот, нават два боты сіратліва стаялі ў пустым пакоі, нібыта хтосьці выпадкова пакінуў іх там. У пакоі не было болей ніякага ваеннага рыштунку. Праўда, там было даволі цёмна, бо шторы на вокнах не прапускалі святла. Жанчына пераапраналася, і сукенка на галаве збілася зморшчаным мяшком. І тады да вушэй прапаршчыка даляцеў ціхі шэпат. Можа, гэта павукасракая мадам размаўляе сама з сабой? А можа, у гэтым напалову разваленым доме ў яго пачаліся галюцынацыі?

Сора ціхенька пракраўся на сваё месца, і ягоныя гарачыя пачуцці да новай Катарыны значна пахаладзелі. А можа, каля дзвярэй Катарынінай спальні кожную ноч стаяць разбітыя салдацкія боты? Над гэтым варта пакумекаць...

У хуткім часе мадам Катарына з'явілася з-за парцьеры, яе магутны зад і раскошныя грудзі яшчэ болей выпіралі з-пад сукенкі. Язык гаспадыні малаціў беспрапынку, і яна ўвішна наводзіла парадак у пакоі і ў сваім убранні.

Тут пазванілі ў дзверы, і Сора падумаў, што на арэне з'явіцца яшчэ адзін ваенны. Але ўвайшла ўсяго толькі жанчына і аб'явіла, што пані Катарыну прасілі пазваніць. А вось куды, для Сора так і засталося таямніцай. Госця пайшла, а пані Катарына звярнулася да прапаршчыка, просячы прабачэння. Так ужо яно выходзіць. У яе нават тэлефона няма, бо яна так любіць спакой.

— Аднак бываюць і неадкладныя справы... Будзь як дома! Я хутка вярнуся...

Яна зноў шмыганула ў спальню, і Сора здалося, што там зноў пачуўся прыглушаны шэпат. Потым

Катарына ўзнікла зноў, апранутая ў дажджавік, бо на вуліцы пачынаўся дождж. Яна ласкава паляпала Сора па шчацэ і знікла.

«Выдатна,— падумаў Сора.— Ёсць магчымасць пазнаёміцца з таямніцамі гэтага дома і гаспадынінай спальні».

Моцна зацягваючыся, прапаршчык злосна загрукаў ботамі па хаце.

Яго непакоіла толькі адно: у якім чыне той ваяка са спальні? Ён спыніўся і крыху рассунуў парцьеру. Ботаў ля дзвярэй не было. А можа, яму толькі здалося? А можа, здагадлівая мадам паспела іх прыхаваць?

— Божачка! — у роспачы праенчыў хтосьці.— Я не вытрываю!.. Я вылезу!..

Голас пачуўся з глыбіні прыцемненай спальні так нечакана, што прапаршчык на нейкае імгненне аж аслупянеў. Але мужнасць хутка вярнулася да яго, і, працягнуўшы руку, ён намацаў выключальнік.

Яркае святло заліло спальню. І тут з-пад ложка, ужо засланага чыстай покрыўкай, выпаўз дзяцюк у споднім. Ён быў зусім малады, гадоў дваццаць, не болей, і вельмі збянтэжыўся, калі ў яркім святле згледзеў на парозе бравага афіцэра.

Разгледзеўшы выгляд і позу маладзёна, Сора адчуў сябе гаспадаром становішча.

— Я вылезу, я пайду! — упарта цвердзіў хлопец у падштаніках.

— А вось не ведаю,— спакойна сказаў прапаршчык,— ці дазволена вам гэта рабіць, бо туды вы трапілі за грахі, а заробленае трэба атрымліваць напоўніцу.

А дзяцюк, згараючы ад сораму, паспешліва нацягваў абмундзіроўку, якую знайшоў на ложку пад падушкай... Нацягнуўшы штаны, ён значна пасмялеў, і гэта адчулася ў ягоных словах:

— Трэба даваць драла, пакуль не вярнулася гэта старая даўбешка.

— Малады чалавек,— сурова сказаў Сора,— калі вы маеце на ўвазе гаспадыню дома і маю родную цётку, дык за «старую даўбешку» вам давядзецца адказваць...

— Я не жадаю і бачыць яе, гэту мадам! Мне трэба на цягнік, а ад яе ніяк не адчэпішся!

— А як вы сюды трапілі?

— Я пісаў ёй... Я паабяцаў прыехаць, але ж я думаў, што яна зусім не такая, што яна маладая...

Прапаршчыку Сора гэта быў удар: ён падзяляў лёс нейкага там зялёнага саплііўца! Ён, такі насабачаны ў жыцці чалавек! Аднак прапаршчык здолеў захаваць спакойны выгляд і нават пакпіў з таварыша па няшчасці:

— Значыць, пісьменства ўвяло ў грэх! Ну, што, пераканаліся, што за грэхам заўсёды ідзе грэхападзенне...

Хлопец моўчкі нацягваў тыя самыя вялізныя разбітыя боты, якія прапаршчык бачыў раней.

— Ну і лыжы адгадаваў! — з'едліва падзівіўся Сора.

— Пане прапаршчык, дазвольце мне пайсці! — умольна папрасіў салдат.— Я пазнюся на цягнік.

— Ідзі, дружа, я не супраць,— літасціва дазволіў прапаршчык.

Салдацік у тую ж хвіліну выцягнуўся, махнуў рукой, нібыта вітаючы афіцэра, схапіў свой амаль пусты пляцак і паляцеў, як з ахопленага полымем дома.

Прапаршчык горка вылаяўся, але і павіншаваў сябе за абачлівасць, за тое, што здагадаўся прыехаць без папярэдняй абвесткі. Прынамсі, цяпер ён мог працягваць сваю разведку боем...

Ён хуценька агледзеў усе куткі ў пакоі і на шафе знайшоў ключы. Прапаршчык без аніякіх ваганняў

узяў іх і адчыніў шафу. Яна была забітая лістамі, раскладзенымі ў строгім парадку.

— Цэлы музей! — вохнуў прапаршчык.

Ён працягваў свае даследаванні. У шафе ён знайшоў вялізную, ростам з ілюстраваную Біблію бухгалтарскую кнігу. Спрактыкаваным у канцылярышчыне вокам Сора імгненна вызначыў, што да чаго. У кнізе змяшчаліся пэўныя звесткі аб перапісцы пані Катарыны Пухці, а таксама звесткі аб узаемаадносінах з карэспандэнтамі. На кожнага быў заведзены свой «рахунак», а ўсяго на ўліку стаяла 207 чалавек.

— Божа ўсеўладны! — жахнуўся Сора.— Аж дзве роты!

Усё гэта былі ваенныя, пераважна салдаты і унтэрафіцэры, але сярод іх трапілася і два дзесяткі афіцэраў на чале з палкоўнікам. На кожнага мелася анкета з адпаведнымі звесткамі: узрост і рост, колер валасоў, вачэй і іншыя асаблівыя прыкметы, а ў некаторых выпадках былі нават фотаздымкі. У асобныя графы выпісваліся сацыяльнае становішча, прафесія, сямейнае становішча і нават звесткі аб маёмасці і багацці кліента. Строга ўлічваліся ўсе лісты, як адпраўленыя, так і атрыманыя. Апісвалася развіццё адносін, сустрэч, іх характар і ступень інтымнасці.

На сваім месцы красаваўся і фельдфебель Вяйнё Маціяс Сора. Анкетных звестак не было. Быў толькі кароткі запіс: «Піша, што нежанаты, пэўна, брэша». Сора вельмі здзівіўся, убачыўшы, якую процьму лістоў ён напісаў з таго марознага дня зімовай вайны, калі атрымаў ад новай Катарыны пасылку «невядомаму салдату», бо лічыў сябе чалавекам не надта схільным да пісаніны.

Там, напэўна, быў і той маладзён, які так паспешліва пакінуў гэты гасцінны дом. Рэестр сведчыў, што такія выпадкі ўжо былі, бо дзе-нідзе значылася: «Збег не развітаўшыся».

А ў некаторых выпадках перапіска чэзла з самага пачатку і, крыху пачадзіўшы, ціха згасала. Хоць прапаршчык Сора і захапіўся сваімі даследаваннямі, але ягоны інстынкт ваеннага разведчыка не драмаў: ён пачуў, як раптам на сцежцы зарыпеў пясок.

Вялізны гросбух з перапіскай імгненна вярнуўся ў шафу, а ключы — на сваё месца.

Калі дзверы адчыніліся і вялікая аматарка перапіскі пані Катарына пачала страсаць дажджавыя кроплі з плашча, нібыта жвавая сойка з пер'я, прапаршчык Сора сядзеў у крэсле і з маркотным выглядам круціў незапаленую цыгарку.

— Ну, як, золатка, ты не дужа сумаваў. Давялося крыху затрымацца. Лінія такая перагружаная!

— Крыху і пасумаваў. Але я тут пра сёе-тое і падумаў.

Сора глядзеў на жанчыну зусім іншымі вачыма, з новай цікавасцю, як бывае заўсёды, калі празнаеш аб чалавеку нешта новае, асабліва калі гэта новае раней ад цябе старанна хавалі. Але як слушна ён адразу, з першай хвіліны, параўнаў новую Катарыну з павуком! Нібыта стовокі павук, яна раскінула сваю сетку перапіскі. А ў гэтую сетку заляцеў і той дурніца-салдацік, потым прапаршчык, і тут жа паблізу гудзе адважным аваднём сам палкоўнік...

Чаго яна хоча? Можа, яна хоча скарыстаць зручны выпадак і як след нажыцца, нездарма ж яна завяла графу, дзе адзначала багацце сваіх знаёмых. Але перадусім — гэта жанчына, у якой схільнасць да збірання калекцый выяўляецца такім дзіўным чынам.

Вось яна разгортвае свой гросбух з лістамі і радуецца сваім заваёвам, сваёй адважнай роце, не раўнуючы як філатэліст сваім паштовым познамкам.

— Вядома, у цябе такія думкі,— малаціла нястомная пані.— У кожным тваім пісьме іх гэтулькі...— Яна

хуценька слізганула за парцьеру. Па ўсім відаць, што мадам крыху непакоілася.

Сора з асалодай падумаў: «Ну, шаноўная пані, якую ты зробіш пысу, калі даведаешся, што тут адбылося нешта вельмі забаўнае?»

Аднак пані Катарына Пухці бліскуча пакончыла з гэтай справай.

— А куды гэта Эверці падзеўся? — крыкнула яна са спальні.— Няўжо ён так спяшаўся?

Яна стаяла на парозе, весела рагатала і гарэзліва паглядала на прапаршчыка.

— Цікава, як вы тут паладзілі! Эверці дурніца, ён зусім падлётак, так спалохаўся цябе, афіцэра, што не хацеў выходзіць... Ты яго бачыў? Што ён казаў? Гэта мой маленькі пляменнічак!

Сора паціху курыў і дзівіўся нахабству гэтай пані. Здаецца, гэта пачвара і сапраўды задаволена такім паваротам справы... Можна ўявіць злосць дзецюка ў споднім пад ложкам, на халоднай падлозе. Ясна адно: гэтая жанчына не магла быць новай Катарынай, гэта не тое, што яму трэба ў жыцці. Гэтая пані, што размясціла яго, нібыта мятліка ў сваёй калекцыі, пад нумарам 207, яму не падыходзіць. Няхай яна камандуе гэтай ротай ці нават батальёнам без яго. Але не варта злавацца. Няхай гэта павукападобная пані будзе кім хоча. Прапаршчык Сора не збіраўся яе перавыхоўваць. Але і парываць канчаткова таксама не варта. Няхай пытанне застаецца адкрытым. Сора лічыў, што ў чалавека павінна быць як мага болей усялякіх сувязяў. Ён ведаў, што часцяком самыя нечаканыя знаёмствы прыносілі немалую карысць...

А таму прапаршчык пачаў плесці, як напалохаў яго нечаканы шум з суседняга пакоя: ён жа лічыў сябе адзінай жывой істотай ва ўсім доме. Спачатку ён падумаў, што там завяліся здані. Але разважыўшы крыху і супакоіўшыся, прапаршчык вырашыў, што

сучасны матарызаваны свет не пакінуў месца прывідам, зданям і іншай нячыстай сіле. А потым і Эверці выйшаў з пакоя. Яму было вельмі няёмка, што трэба сыходзіць, не развітаўшыся з цёткаю, але нічога не зробіш — цягнік чакаць не будзе. Ён прасіў прабачэння і перадаваў прывітанне пані Катарыне...

А пані Катарына ўвесь час так уважліва глядзела на яго, што Сора пераканаўся, што гаваркая пані выдатна разумее, з кім мае справу — з гэткім жа прайдзісветам і пралазай, як і яна сама.

Потым прапаршчык рашуча падняўся. На жаль, хутка будзе ягоны цягнік. Яму трэба ісці...

Гэта вельмі ўразіла пані Катарыну.

— Ні ў якім разе! Нам жа трэба пагутарыць, пазнаёміцца... А цягнікі ідуць кожны дзень...

Аднак прапаршчык быў няўмольны. Час падціскае. Аднак не мог жа ён праехаць міма і не заглянуць на хвіліначку. Яшчэ настане час, калі можна будзе без спешкі пасядзець і пагутарыць... А зараз...

Давялося развітацца. Яны паглядзелі адно аднаму ў вочы, нібыта імкнучыся адгадаць патаемныя думкі.

Прапаршчык Сора бадзёра пайшоў па пясчанай сцежцы, абапал якой шумелі пад восеньскім ветрам чырванаствольныя сосны. Дажджавыя кроплі гучна стукалі па шэрым шынялі.

А вялікая аматарка перапіскі глядзела прапару ўслед, пакуль ягоная фігура не знікла з вачэй. І, напэўна, недзе ў глыбіні душы ў яе варушылася думка, што пакінуў яе адзін з самых цікавых мужчын, які быў у яе спісах...

Грукаталі колы, але цяпер цягнік ішоў на поўнач. А прапаршчык Сора сядзеў у мяккім крэсле, і на душы ў яго было даволі пагана. Новая Катарына не адбылася, паход аказаўся няўдалым, і ён з горыччу думаў,

што даводзіцца адступаць ні з чым. Да таго ж грошы канчаліся, а значыць, трэба прыбівацца да родных берагоў.

Аднак Сора быў не з тых людзей, якіх лёгка выбіць з каляіны. Ён быў не з тых, хто траціць розум і развагу разам з грашыма. Праўда, крыху засмучае тое, што і ён ледзь не трапіў у калекцыю дурняў, аднак не варта зважаць на тое...

Няхай сабе і давядзецца вярнуцца да неласкавых берагоў ляснога возера, да абрыдла знаёмага наваколля і да ранейшай Катарыны. Але затое ж гэтая хатняя Катарына дацяміць, што трэба парадавацца, напрыклад, узвышэнню свайго мужа ў новы чын прапаршчыка. Ды і суседзі таксама няхай паглядзяць, як добра ў яго ідзе служба. Праўда, кожны паглядзіць па-свойму, у залежнасці ад характару. Сёй-той і не ўзрадуецца, а наадварот... А нашчадкі радасна кінуцца насустрач бацьку. І такія ўражанні таксама зрэдку бываюць прыемнымі. Ды і ўвогуле нядрэнна будзе паказацца ля свайго змрочнага возера. Вось я, жывы, нягледзячы на бурны і нядобры час.

Няўдача — гэта ўсяго толькі эпізод, вайна яшчэ не скончылася, а значыць, будуць і новыя прыгоды, і новыя мясціны, і новыя Катарыны, і новыя чыны... І зусім няма падстаў лічыць сябе няшчасным, якому ніколі нічога не дастаецца...

З такімі думкамі прапаршчык Сора і заснуў на мяккай канапе салодкім сном бязгрэшнага дзіцяці.

А потым новыя боты новаспечанага прапаршчыка ўпершыню пазнаёміліся з карэннем і камянямі на лясной сцяжыне, з падступнай балотнай багнай і слізкімі масткамі. Пацёрліся яны і па ўзбярэжных камянях, і па лодачных рэбрах, пахадзілі па гнілаватых маснічынах лясных хутароў. А потым іх добра змазалі і пачысцілі, бо кароткі адпачынак прапаршчыка Сора скончыўся і ён вярнуўся на фронт.

У прапаршчыка Сора быў даволі цвярозы розум, калі толькі ён не лунаў у паднябессі і не думаў аб тых вялікіх зменах, што адбываюцца ва ўсім свеце і ў яго-ным жыцці. І ён перакана‌ў сябе, што мае поўнае права насіць афіцэрскія зоркі, бо служыў жа ён так доўга і бездакорна, што ніхто і не зверне ўвагі на ягонае павышэнне.

Але ў тыя рэдкія хвіліны, калі фельдфебель не думаў аб велічы сусветных падзей і ўласнага жыцця і калі не баяўся вярнуцца да старога застойнага жыц-ця, словам, калі зрэдку ўдавалася працверазець, ён усё ж думаў, што падмурак у ягонага афіцэрскага чына даволі слабы. Часам ён нават думаў, ці не варта зняць гэтыя ненадзейныя зорачкі і змяніць іх на старыя добрыя лычкі фельдфебеля. Аднак было позна. Вельмі шмат людзей бачылі яго ў афіцэрскім чыне і нават віншавалі з падвышэннем. Да таго ж і жонка, і ўся акруга ведалі, што ён узляцеў да зорак... Дарогі назад не было. Дый занадта нязначнай падзеяй былі нейкія зорачкі прапаршчыка ў той пральнай машыне, дзе круціліся цэлыя народы і краіны.

Аднак пачуваў ён сябе ніякавата. Няпэўнасць ста-новішча і навязлівыя думкі патрабавалі рашучага пад-мацавання адпаведнымі зёлкамі.

А прыхмялеўшы, ён адразу адчуваў, што ўсё ідзе як след і афіцэрскі чын якраз адпавядае ягонай вы-праўцы. Сора нават распавёў аднаму знаёмцу на вулі-цы, як у штабе акругі Эска Карху адлаяў яго: што ты, маўляў, сабе думаеш, чалавеча! Ты ж не маеш права хадзіць фельдфебелем! А потым раскапаў паперы і па-казаў... І ён сапраўды чуў шолах паперы, бачыў таўсты валасаты палец капітана Карху, які паказваў на ягонае прозвішча, надрукаванае на машынцы.

Такім чынам, прапаршчык, не прасыхаючы ні на хвіліну, пасоўваўся да сваёй часці, а ў ягоным партфе-лі і ў вялізным пляцаку было гэтулькі спіртнога, што

хапіла на добрую вечарыну. Новыя сябры-афіцэры пачаставаліся як мае быць, і ўсё прайшло добра. Ніхто не здзівіўся таму, што адбылося з фельдфебелем Сора. Ніхто не згледзеў у гэтым нічога незвычайнага.

Свята прайшло вельмі радасна, а новыя сябры-афіцэры былі такія вясёлыя ды свойскія, і Сора лёгка даў пераканаць сябе, што гэта была проста несправядлівасць, што ён так доўга праслужыў унтэр-афіцэрам.

У афіцэрскім чыне ён, вядома ж, не мог выконваць абавязкі фельдфебеля. У часці знайшлося вакантнае месца афіцэра-інтэнданта, абавязкі якога Сора выконваў і раней. Гэта было вельмі дарэчы. Фельдфебелем жа стаў адзін з сяржантаў. І атрымалася так, што, падвысіўшыся ў чыне, Сора даў і іншым пашырыць свае даляглялы і магчымасці.

Міналі дні, і Сора канчаткова звыкся са сваім афіцэрствам. Ён атрымліваў афіцэрскі аклад, яму выпісалі пасведчанне прапаршчыка. Ніхто не задаваў ніякіх пытанняў.

Пазіцыйная вайна рабілася ўсё болей аднастайнай. Надышла зіма, зрэдку грукаталі гарматы, а прапаршчык Сора сядзеў і гартаў паперы. Часам ён адчуваў нейкі дзіўны неспакой, і тады яго ахоплівала надзвычайная прага дзейнасці. Ён выпісваў сабе камандзіроўкі і адпраўляўся ў паездкі.

Аднаго разу, атрымаўшы грошы на сваё падраздзяленне, ён рушыў у горад, насадзіўся гарэлкі, і жыццё зноў здалося яму вясёлым і радасным. Ён велічна сядзеў за столікам, на грудзях зіхцелі ордэнскія планкі і іншыя адзнакі доблесці. Салдацкія грошы ляжалі ў палявой сумцы, і ён плаціў па рахунках з таўстых, як Біблія, пачак. Дух яго лунаў у паднябессі, чын прапаршчыка здаваўся Сора маленькім і нязначным, а таму і не выклікаў ніякіх сумненняў. Наадварот — такі чалавек, як ён, павінен быць не менш чым палкоўні-

кам, і гэта ніяк не пярэчыла таму духоўнаму ўзлёту, што перажываў самазваны прапаршчык.

Працверазеўшы, ён адразу зразумеў, што за гэтую паездку без дапамогі дамашняй Катарыны яму ніяк не разлічыцца. Грошы ў яе павінны знайсціся, бо ў гаспадарцы шмат добрага лесу, ды і сама яна — дбайная гаспадыня.

Толькі ці згадзіцца яна так лёгка аддаць тыя грошы. Гэта ўжо іншая справа. Яна нікуды не дзенецца, калі добра прыперці, але звягі не абярэшся... На шчасце, вайна працягваецца, і змены ў жыцці яшчэ будуць.

Прапаршчык вярнуўся ў звераватым настроі і адразу пасварыўся з новым фельдфебелем. Наздзіў, гэты смаркач, якога Сора і вывеў у людзі, насмеліўся яшчэ і пярэчыць. Вось ён сядзіць за фельдфебельскім сталом, гэты лайдак-п'янюга з перапэцканай пысай, увесь стол завалены неразабранымі паперамі, а ён яшчэ хваліцца, што справіцца і сам. Ды яшчэ нават пагражае напісаць куды трэба, туды, дзе, маўляў, ведаюць, адкуль узяўся гэткі прапаршчык.

І напісаў. Сора пераканаўся ў тым, калі праз некалькі дзён яго выклікалі на размову да камандзіра. Камандзір, кашчавы, лядашчы дзед, гарлаў: ён даўно ведаў, што Сора прайдзісвет і шыбенік, але каб адважыцца на такое! Ці не глузданууся ён, калі палез у самазванцы! Гэта ж нечувана! Ён крычаў і махаў паперкай, дзе сведчылася, што Вяйнё Маціяс Сора ніколі не атрымліваў чына прапаршчыка.

У Сора аж сэрца зайшлося. Не пашанцавала, як заўсёды, нездарма ён увесь час думаў, што гэтак яно і скончыцца. Аднак ён паспрабаваў мармытаць нешта ў сваё апраўданне, нібыта ёсць недзе і яшчэ паперы і ён іх бачыў на свае вочы.

— Пад суд вас, пад трыбунал! — заходзіўся ад крыку камандзір.

Аднак было зразумела, што гэта ўсяго толькі па-

гроза. Скандал вырашылі замяць. Сора павінен расказаць усё свайму падраздзяленню, вярнуць тыя лішкі грошай, якія ён атрымаў пад час свайго салодкага жыцця прапаршчыка, а потым яго перавядуць у іншае месца, дзе ў старым чыне фельдфебеля ён паспрабуе пачаць новае сумленнае жыццё.

Усё скончылася ціхамірна. Абышлося без трыбунала.

— Вы, хітраван, ужо і самі здагадаліся, што гэта мы робім не дзеля вас, а проста не хочам, каб з-за вашай дурасці невінаватых каралі,— растлумачыў яму камандзір.

На тым і скончылася афіцэрская кар'ера Сора.

Афіцэрскія зорачкі зніклі з пятліц, і Сора нават сам здзіўляўся, што гэта яму ўзбрыло ў галаву, які нячысцік увогуле спакусіў яго... Напэўна, такі ўжо ягоны лёс, такая ўжо ягоная доля...

Некалькі дзён Сора ўвогуле хадзіў без ніякіх знакаў адрознення. Ён злосна пазіраў на новага фельдфебеля, былога сяржанта. Вунь ён, смаркач нямыты, фанабэрыцца за сталом, а ў самога ўся пыса ў чарніле, стол завалены неразабранымі паперамі, а ён пнецца ў змагары за справядлівасць...

Нарэшце дамашняя Катарына прыслала грошы, і Сора ўздыхнуў з палёгкай.

Якая б сквапная ні была Катарына, а ўсё ж, напэўна, дапяла, што муж трапіў у нявыкрутку! Можна толькі ўявіць, якія слоўцы адрасаваліся яму разам з грашыма! Але вайна яшчэ не скончылася, а прапаршчыкам ці фельдфебелем — пакуль што лепш на вайне, чым дома...

Нарэшце Сора мог разлічыцца за грахі і здаць касу свайму пераемцу. Затым атрымаў свае паперы і ціхенька адправіўся на новае месца службы.

Ён ехаў з калонай адпускнікоў, сядзеў самотны і маўклівы, скурчыўшыся ад холаду, у цёмным кутку

пакрытага кардонам кузава. Адзін этап ягонага жыцця скончыўся і пачынаўся новы. Зноў красаваліся на пятліцах нязменныя, вечныя лычкі фельдфебеля. Але вайна працягвалася, увесь свет мяняў скуру... Гульня яшчэ не скончылася... А пакуль трэба радавацца, што так мякка ўдалося ўпасці ў фельдфебелі і прызямліцца на чатыры нагі, як кошка.

Пад час прыпынку ён зайшоў у кавярню, каб выпіць кубачак эрзац-кавы, і сустрэў знаёмых. Нейкі лейтэнант з абветраным тварам доўга ўглядаўся, а потым радасна закрычаў:

— А каб цябе, дык гэта ж Сора!

Сора таксама пазнаў яго. Гэта быў Йоперы, адзін з першых ягоных курсантаў у тыя далёкія часы, калі ён ганяў маладых рэкрутаў.

Тры месяцы гэты хлопец слухаў ягоныя «смірна» і «раўнуйся», а потым яго забралі ў афіцэрскую школу. З выгляду ён цяпер сапраўдны франтавы афіцэр, але прызнаў жа свайго былого сяржанта. Фельдфебель расчуліўся: ён не такі чалавек, якога можна забыць.

— А мы тады думалі, што ўсё гэта простая забава,— казаў далей Йоперы.— Так, звычайныя выбрыкі ваеннага ведамства. Затое цяпер упэўніліся, што армія — гэта сапраўдная справа. А ты ўсё яшчэ фельдфебель, хоць і служыш куды болей, чым мы, афіцэры... Ты ж служыў ужо тады, калі мы лічылі армію дзіцячай гульнёй... У адпачынак едзеш?

Не, Сора проста пераязджае на новае месца.

— А прыбраўся, быццам на парад перамогі. А ў нас боты амаль развальваюцца... Слухай, давай памяняемся ботамі! А то першы раз еду ў адпачынак, а пальцы схаваць няма куды...

— А ты абкруці кожны чырвонай стужкай,— пажартаваў Сора.

Яны памяняліся ботамі. Сора вёз у пляцаку яшчэ

адны добрыя боты, ды і заўсёды мог здабыць сабе новыя. Ён пахваліўся тым перад лейтэнантам.

Сцягваючы боты, Сора ўзгадаў, што ўпершыню ён абуў гэтыя боты менавіта ў той няшчасны вечар, калі надумаўся стаць самазванцам. Хто ведае, можа, гэтыя боты і навялі яго на думку, якая не прынесла яму шчасця. Яны так добра сядзелі на назе, новенькія чорныя халявы так прыемна сціскалі ногі і таямніча адсвечвалі ў цемры начных вуліц ваеннага горада.

Сора злосна сцягнуў боты, здзіўляючыся, як гэта мёртвая скура можа ўвесці ў грэх жывога чалавека.

Так боты перайшлі да новага ўладальніка.

Бацька Йоперы быў ленсманам і рана памёр. Было ў яго тры сястры, дзве ўжо замужам у розных канцах краіны, а трэцяй у гэтыя часы давялося туга, як і кожнаму, хто не працаваў. А таму вайна загнала яе на канторскі зэдлік. Сям'я была даволі заможнай, і Хейкі Йоперы не меў патрэбы спяшацца з адукацыяй. Ён паступіў ва універсітэт, нібыта між іншым адслужыў абавязковы тэрмін у войску і зноў паспрабаваў заняцца навукай. У яго было шмат захапленняў, але найболей блізкімі былі спорт і турызм. Ён быў даволі добры бягун і на спаборніцтвах выступаў нядрэнна. Потым ганяў па дарогах краіны ў пошуках прыгодаў. І нарэшце, ужо ў сталым узросце, некалькі гадоў працаваў на сціплай пасадзе настаўніка народнай школы. Ён не адчуваў цягі да гэтай прафесіі, аднак яму пайшоў ужо чацвёрты дзесятак і пара было заняцца нечым сур'ёзным, тым болей што стаць настаўнікам народнай школы яму было няцяжка. Гэты выбар быў напалову выпадковым, але ў значнай ступені адпавядаў ягоным ідэалам. Ён не любіў гарадскога жыцця і з задавальненнем вырваўся на свежае паветра. Ён не мог уцяміць, як гэта маглі ўзнікнуць гарады, а людзі могуць жыць сярод такой мітусні і таўканіны.

Ужо ў тыя гады пачалі збірацца навальнічныя хмары, а газеты пісалі аб недалёкай вайне, як аб нечым канчаткова вырашаным, і тады Хейкі Йоперы прарочым тонам узвяшчаў, што ў будучай вайне авіяцыя стане тым бізуном божым, які выганіць сціжмы людзей на ўлонне прыроды... Найболей жа адпавядала ягоным ідэалам тое, што ў настаўніка народнай школы вялікі летні адпачынак, нібыта адмыслова адведзены для ягоных заняткаў спортам і вандровак на матацыкле. У дадатак яму было куды прыямней глядзець на дзіцячыя твары, чым на дарослых, па якіх можна лёгка ўбачыць, што жыццё вырабляе з чалавекам.

Захапляўся ён таксама і ідэяй Вялікай Фінляндыі. Ён быў цвёрда перакананы, што фінская раса — гэта раса, абраная Богам, якая будзе расці і жыць, што ёй наканавана стварыць вялікую магутную дзяржаву. Напярэдадні зімовай вайны ён старанна махаў кувалдай на ўмацаваннях Карэльскага перашыйка. Вайну ён скончыў жывы і здаровы, але вельмі ўзлаваны на сусветных буржуяў, якія захацелі зрабіць з ягонай маленькай радзімы паддоследную жывёліну, каб на ёй праверыць зубы ўсходняга велікана, даведацца ім захацелася, ці сапраўды такі ўжо небяспечны гэты звер.

Перспектыва была даволі змрочнай. Аднак па нейкім часе ўсё памянялася. Удалечыні засвяціла новая зара: некалі сціхлая Германія павярнулася на ўсход.

Яе непераможныя танкі бурным патокам рынуліся наперад.

Цяпер Фінляндыя магла вярнуць усе свае і нават тыя даўно страчаныя землі, дзе калісьці жылі фінскія плямёны. Настаў час адраджэння Вялікай Фінляндыі. Тое страшнае лета ў непралазных нетрах Хейкі Йоперы здавалася адным ваенным трыумфам. Наступленне, смерць, шматкі знявечаных трупаў. Бясконцыя маршы, галодныя дні, бяссонныя ночы, бруд і вошы не маглі спыніць іх, бо ўзнагародай былі перамога і на-

ступленне. Толькі пакутамі і ахвярамі дасягаецца ўсё новае ў гэтым свеце.

Хейкі Йоперы быў спраўны салдат і заслужыў аж два ваенныя крыжы за смеласць. І капітанскі чын быў зусім побач, але толькі цяпер, перад самай зімой, ён атрымаў свой першы франтавы адпачынак. А перад тым яны некалькі тыдняў стаялі ў абароне, забіўшыся ў брудныя сырыя акопы. Пачалася шэрая проза вайны, і ўзнёсласць Йоперы паступпова спадала. Усходняга звера не ўдалося дабіць не толькі да сенакосу, як гаварылі сяляне, але і за ўсё лета. У ваўка была моцная скура, і тыя размовы пра бліцкрыг толькі дарэмна ўзрушылі народ. Як жа, фінская раса ніколі не стамляецца! Хто другі сканае ад стомы, ды толькі не фіны! Аднак лейтэнант Йоперы ўпотай прыйшоў да высновы, што вайна зацягнецца надоўга...

Вось ужо болей за два гады, як ён носіць шынель; ён заставаўся на службе і ў час перамір'я, і толькі Бог ведае, колькі яшчэ яму насіць ваенную форму. А можа, і не давядзецца апрануць нічога іншага? Хто яго ведае, так, можа, і лепей.

Цягнік грукатаў на поўдзень, і боты спакойна стаялі пад лаўкай. Здаецца, што разам з ботамі фельдфебеля Сора новаму ўладальніку перадаліся і думкі фельдфебеля. Лейтэнант упершыню падумаў, што вярнуцца зноў у школу, да настаўніцкай працы, было б неразумна, ды і проста немагчыма. Ён уявіў, як лёгка сарвецца з вуснаў звычнае «Каб цябе чэрці!», калі будзе пытацца ў дзяцей пра старажытны Ізраіль, ці пра нечаканы захоп Выбарга рускімі, або пра будову кашэчых зубоў. І вядома ж, яму запатрабуецца цвёрдая вера ў тое, што двойчы два і сапраўды чатыры, і давядзецца пераконваць у тым іншых, як і раней.

На шчасце, да былога вяртаюцца ўсё радзей і радзей. Напрыклад, яму ўжо немагчыма вярнуцца ў добра знаёмы прыморскі горад, да свайго роднага

дома, які маці набыла неўзабаве пасля таго, як памёр бацька і настаў час падумаць пра адукацыю дзяцей. Вярнуцца было немагчыма, бо той дом у самыя першыя дні вайны быў знішчаны бомбай; ён згарэў дашчэнту і ператварыўся ў попел. Йоперы сумна ўсміхнуўся, згадаўшы, як некалі прарокаваў, што авіяцыя — гэта той самы бізун божы, які выганіць людзей з каменных гарадскіх нетраў на прывольныя зялёныя мурагі... І вось цяпер яго маці аказалася на вясковым прыволлі, якое некалі не было ёй даспадобы. Думаючы пра маці, якую вайна пазбавіла і старога дома, і шмат якіх звычных старых рэчаў, Йоперы шкадаваў яе. Лейтэнанту здавалася, што яго маладосць скончылася якраз тады, калі згарэў той дом, адзіны дом, які ён называў родным, здавалася, што на свеце болей ніколі не будзе вясны, той самай хлапечай вясны, калі мячык так правабна круціцца ў нагах на лужку, яшчэ крыху вільготным ад нядаўняга снегу... І ўсё ж той дом быў у горадзе, а Хейкі Йоперы ненавідзеў горад гэтак жа моцна, як любіў слухаць лапаценне дажджавых кропель аб палатку, глядзець на гарэзнае полымя вогнішча ў полі, як любіў утрапёны лёт матацыкла па бясконцых бальшаках...

Калі Йоперы выйшаў з вагона і ўжо збіраўся пайсці, каб распытаць, як прабірацца далей, на прыступках вагона ён убачыў свайго спадарожніка, гаваркога хвалька-лейтэнанта, які на развітанне даваў яму свае парады:

— Гэй, паслухай, зазлянi куды-небудзь на малочную ферму, празнай, ці ёсць там якая дзяўчына або салдацкая ўдава, словам, хто-небудзь са слабой паловы роду чалавечага... Цяпер масла даражэй ад золата, павер вопытнаму фінансісту. Памятай, што патрыятызм звычайна ўласцівы толькі таму, хто заўсёды мае масла ў маслёнцы.

І Йоперы чамусьці слухаў яго, хоць звычайна ста-

віўся да такіх размоў, як да надакучлівага шолаху дажджу. «Вось яны, звычайныя салдацкія думкі,— падумаў ён.— Вельмі часта нашы галовы толькі тым і забітыя, дзе здабыць хлеба, ды і яшчэ чаго-небудзь у дадатак. Дый сапраўды было б нядрэнна, каб якая паненка намазала б мой кавалак хлеба сваім маслам...»

— Гэта даволі сучасны светапогляд! — пачуўся голас гаваркога лейтэнанта з цягніка, які набіраў ход.

Лейтэнант Йоперы знайшоў сваю маці ў вялікім доме вясковай сялібы, дзе жылі яе далёкія родзічы, дакладней, родзічы яе мужа-нябожчыка, а значыць, і родзічы яе сына.

— Так, пані Йоперы жыве тут,— сказала маладая дзяўчына, якая адчыніла яму дзверы.— А вы, значыць, і ёсць мой траюрадны брат Хейкі Йоперы?

Бялявая прыгажуня вабна ўсміхалася. Гэта была дачка гаспадара, і звалі яе Ханна.

— Дык заходзьце ж у дом!

Раптам лейтэнант Йоперы падумаў, што ён, мусіць, выглядае брудным абадранцам. Колькі тыдняў ён не мыўся ў лазні і не мяняў бялізны. У адпачынак жа давялося збірацца даволі паспешліва. І ён адчуў, як нясцерпна чэшацца ўсё цела.

— Не ведаю...— сказаў ён.— Можа, гэта было б... ну, не зусім прыстойна. Я хацеў бы пакуль што пахадзіць за сваімі жывёлінкамі. Мне трэба пякельная, прабачце, вельмі гарачая лазня.

— Яна якраз і ладзіцца. Хутка натопіцца і будзе гатова. Ідзе малацьба, і людзям трэба мыцца.

Дык вось што азначала тое далёкае гудзенне, да якога лейтэнант міжволі чуйна прыслухоўваўся, як да непрыемнага зыку непрыяцельскага самалёта. Цяжкі, сумны спеў малатарні поўніў асеннія абшары...

— Заходзьце ж! — сказала дзяўчына.— Напэўна,

вашы маленькія жывёлінкі не так ужо дрэнна і даглядаюцца, каб адразу разбегчыся...

Затым лейтэнант убачыў сваю маці. Яна была жывая і здаровая, у добрым гуморы, аднак вельмі пастарэла за гэты час. Хоць яна была гаваркая, як і раней, аднак здавалася ўсё ж крыху прыціхлай і разгубленай у чужым, нязвычным асяроддзі. Сын здагадваўся, што маці не стае гарадскога шуму, свайго вялікага асабняка і сябровак, водаправода і прыбіральні, мяккай канапы і яркага святла. Электрычнасць гарэла і тут, хоць даволі цьмяна. І ўсё ж пані Йоперы не сядзела ў дымным святле газніцы або зусім у цемры.

— Чым жа ты тут займаешся, мама?

— Амаль нічым. Летам прыглядаю за садам, а цяпер вось корпаюся паціху з ніткамі...

У лейтэнанта Йоперы стваралася ўражанне, што маці сама не ведае, чым ёй займацца. Вясковае жыццё дагэтуль заставалася ёй чужым і нязвычным. Апрача таго, яна была тут адна, амаль чужая, бежанка, адна з многіх тысяч гэткіх жа бяздомных. Вось і ёй даводзіцца цярпець за айчыну. А можа, у чалавека павінна быць нешта такое, што б дапамагала яму зносіць нягоды і пакуты...

— А чаму ты не паехала да Герты або да Гелены? Напэўна, табе было б лепей жыць у сваіх дачок, ды і жывуць яны ў горадзе... Ты ж ніколі не любіла вёску...

— Але я не такая ўжо і дурная,— сказала пані Йоперы,— каб не ведаць, дзе родзіцца хлеб. І потым, гарады бамбяць, а мне гэта не падабаецца. Гэта штосьці жахлівае! Скажы, а там, на вайне, заўсёды так?

— Не заўсёды. Усяляк бывае. Часам бывае і проста весела, калі сядзіш ля паходнага вогнішча... Аднак фінскія гарады бамбілі ўсяго некалькі разоў і болей,

напэўна, не будуць. Рускім цяпер не да таго. Мяркуючы па лістах, сёстры і крыўдуюць, што ты да іх не паехала...

— Ведаеш, шчыра кажучы, з Геленай я б доўга не вытрывала, а мужа Герты я проста цярпець не магу!

— Нядрэнна! — засмяяўся лейтэнант.— Усё зразумела...

— Вось так! Хоць мы і лічымся вельмі аднадушным і згуртаваным народам. А ёсць шмат і такіх блізкіх, што і глядзець на іх не хочацца...

— А як ты жывеш з гаспадарамі?

— Добра. Яны мне чужыя і могуць быць якімі хочуць — не мая справа выхоўваць іх. Уся бяда адносін з блізкімі ў тым, што заўсёды хочацца пабыць гэткім настаўнікам... Гаспадары — вельмі добрыя людзі. Здаецца, яны крыху нават і задаволеныя, што гараджанам у вайну даводзіцца цяжка... Вітрыны пустыя, а ад гульняў ды музыкі жывот не пасыцее. Гараджанін, калі пачаў атрымліваць паёк па картках, успомніў пра вёску і пра сялян. А раней ён смяяўся з іх...

— Так, прыспеў час падумаць і аб тым, хто чый хлеб еў.

— Кліча зямля да сябе,— уздыхнула пані Йоперы.— Кліча нават самых зацятых гараджан. І чым гэта ўсё скончыцца?

— Даброл, вядома! Толькі трэба крыху пацярпець...

— А ці не зашмат цярпяць людзі?

І матчын твар упрыгожыўся такой загадкавай усмешкай.

Потым лейтэнанта паклікалі ў лазню. Гаспадары пазычылі яму бялізну, бо цяпер лейтэнант быў такі ачышчаны ад усялякага зямнога майна, што калі б ён узімку палез на дрэва, то на снезе засталіся б толькі сляды... Так звычайна казаў ягоны апошні сувязны,

так сказаў і лейтэнант да сваёй бялявай сястры. Яго-ныя рэчы і адзенне яшчэ пад час перамір'я завезлі да маці, і разам з домам яны пайшлі дымам.

Гэта была цудоўная курная лазня, а духмяны дымок і неверагодна чорныя сцены прыйшліся вельмі даспадобы лейтэнанту Йоперы. Пасля лазні падалі вячэру, дзе былі такія рэдкія ў ваенны час прысмакі, як масла і скалацьвіны.

А потым стомленага лазняй і нязвычна сытнай вячэрай салдата чакаў ложак, засланы чыстымі прасцінамі, на існаванне якіх лейтэнант амаль забыўся, бо доўга, вельмі доўга яму даводзілася засынаць на саломе або проста на голай зямлі.

І глыбокі салодкі сон агарнуў лейтэнанта ў гэтым ложку.

Наступныя пару дзён лейтэнант пачуваў сябе даволі няёмка ў цывільным касцюме, бо лічыў, што падобны да пудзіла, але трымаўся даволі мужна і нават знаходзіў сілы жартаваць з таго. Да таго ж касцюм быў яму крыху малаваты, бо належаў гаспадару, маленькаму вясёламу старому, і той жартаваў, што вось і яго святочны касцюм спатрэбіўся дзеля вызвалення Карэліі...

Ніякіх клопатаў у Йоперы не было, і ён нават папрацаваў на таку, але хутка стаміўся. Потым узяў сабаку і стрэльбу і падаўся ў лес. Дабратворны шум векавога досвітнага восеньскага лесу суцяшаў і супакойваў. І лейтэнант падумаў, ці такая ўжо вялікая справа гэтая вайна... Спракаветны лясны шум будзе і пасля вайны... Аднак лес гэтак жа шумеў і там, на вайне, хоць там ён не супакойваў, а наадварот, змінаў напружана прыслухоўвацца і заўсёды хаваў штосьці ад пільнага вока. Там даводзілася ступаць вельмі асцярожна і ўвесь час трымаць палец на спускавым кручку. Ёсць і такія лясы...

Ён падпільнаваў пару зайцоў і вяртаўся задаволе-

ны, але ўсё ж сумныя думкі гнялі яго: што ж гэта за істота такая чалавек, калі забівае ўсіх спадрад.

Вечарам ён сядзеў, акружаны людзьмі, у прасторнай, нібы царква, хаце і апавядаў пра свае франтавыя прыгоды. Часам ён прымаўкаў, і тады раптам яму прыходзіла думка, што гэта стала яго характэрнай рысай... І дзе ён толькі прывык да такога? На вайне? На пастоях стала звычкай, што ён сядзіць, аточаны цэлым роем салдат, і штосьці ўспамінае... Ды яшчэ які-небудзь падліза-хітрун запытае, ці не памятае лейтэнант тое ці гэта... І хоць лейтэнант выдатна разумеў, што ў такіх пытаннях крыецца нямала ліслівасці, аднак такая ўвага кранала за душу...

Між тым ягоны мундзір, які напачатку ён сам старанна прапарыў, вычысцілі, памылі, зашылі і адпрасавалі. Лейтэнант з вялізнай асалодай зноў апрануў яго.

Боты, якія ён выменяў у фельдфебеля Сора, мякка сядзелі на нагах, і свежы глянец пакрываў драпіны, атрыманыя пад час прыгодаў фельдфебеля. Вось цяпер ён можа сядзець і вечарамі апавядаць і ўспамінаць у вялікай хаце. Ён ведаў, што ў цесным касцюме з кароткімі рукавамі выглядаў даволі няўклюдна. А хто ж паверыць чалавеку ў такой недарэчнай вопратцы?

Ён праводзіў шмат часу са сваёй бялявай родзічкай, хоць тая заўсёды некуды спяшалася і мела шмат клопатаў у гаспадарцы. Яна стала гаспадыняй у хаце пасля таго, як у час перамір'я памерла яе маці. Яна скончыла толькі нейкую гаспадарчую школу і народную вучэльню, але была добрай і вясёлай дзяўчынай. Трымалася яна проста і добразычліва, а таму вельмі падабалася лейтэнанту Йоперы.

Некалькі разоў ён заўважаў, што маці кідае на іх доўгія ўважлівыя позіркі і за халоднай усмешкай на твары хаваецца нямы дакор. Ёй, шляхцянцы, не хаце-

лася бачыць разам свайго адзінага сына і просталюдзінку Ханну Сакеус.

Аднак пані Йоперы была жанчына разумная і выдатна разумела, што ўсё гэта нічым сур'ёзным не скончыцца. Гэта ўсяго толькі эпізод, выпадак, і не болей. Лейтэнант паедзе на вайну, а гэтая сялянская дзяўчына застанецца тут са сваімі каровамі, як і раней... Праўда, яе сын даўно ўжо не спраўдзіў тых надзей, якія маці ўскладала на яго, заўсёды быў занадта натурысты, а цяпер, за часы ваенных паходаў, сваёю моваю зусім прыпадобніўся да просталюдзінаў.

Цяпер прынята ўсхваляць працу чорнарабочых, бо іхняя праца такая неабходная грамадству. Можа, яно і праўда, але кожны павінен ведаць сваё месца.

Так праходзілі дні адпачынку лейтэнанта Йоперы. Дзён тых было няшмат, і вось неўпрыкмет пачаў набліжацца канец.

Лейтэнант патраціў дзянёк, каб наведаць сваю сястру Герту, якую любіў за шчырасць і вясёлую натуру. Яна ніколі не сумавала, што б там ні тварылася на свеце. І цяпер яна не заўважала ніякіх змен: зямля круціцца, жывыя жывуць, а нябожчыкі ў магілах...

У апошні дзень адпачынку даволі рана для тых мясцін нечакана пайшоў першы снег, аднак увечары неба пасвятлела, замігцелі яркія зоркі, у чорнай вышыні зіхцеў срэбны месяц.

Срэбны бляск новага, белага і мяккага покрыва зямлі, дзівосны звон бразготак глыбока ўразілі лейтэнанта. Коні ўжо стаялі каля ганка. Час развітання настаў.

— Шчаслівай дарогі! — празвінеў у марозным паветры голас Ханны, а яе светлыя вочы глядзелі на лейтэнанта запытальна і крыху здзіўлена.

— Шчаслівай дарогі! — пачуўся звонкі голас маці, а ў вачах яе blішчэлі слёзы. Сын адпраўляецца на вайну, і хто ведае, ці не апошні раз маці бачыць яго.

— Шчаслівай дарогі! — сказаў і сам гаспадар, стары Сакеус. Ён глядзеў на лейтэнанта сумна і спачувальна: маладыя адпраўляюцца ў апраметную, а яны, старыя, застаюцца жыць.

— Шчаслівай дарогі! Вяртайцеся жывы і здаровы! — чуліся высокія і нізкія галасы з прыступак ганка і з дзвярэй. Потым сяброўскія рукі захуталі Йоперы ў футру. Конь ірвануўся, звінелі званочкі, снег серабрыўся, а ў чорным небе свяціліся буйныя зоркі.

А на зямлі такімі ж зоркамі свяціліся вокны хацін. Лейтэнант Йоперы падумаў, што няма на роднай зямлі нічога болей прыгожага, чым агеньчыкі сялянскіх хат у восеньскай цемры.

Чалавек, які цяпер насіў боты Сора, у параўнанні з самаробным прапаршчыкам быў сапраўдны салдат і ведаў, што такое вайна. У хуткім часе ён ужо таптаў дно акопа і слухаў глыбакадумныя развагі свайго сябра-капітана. Капітан выконваў абавязкі камандзіра батальёна і вельмі зайздросціў лейтэнанту, які толькі што прыехаў з Фінляндыі, пабачыў жыццё і жаночыя ножкі, пасядзеў у рэстаранах, паслухаў музыку, шум галасоў і панюхаў як след водар рому.

Яны стаялі, апёршыся на край акопа.

— Вось топчамся на адным месцы,— казаў капітан.— Я, напэўна, ніколі не спасцігну таямніцы вядзення вайны.

Вось, да прыкладу, той пагорак, дзіўнае месца... Напачатку ён быў нам патрэбен дазарэзу, і мы чатыры разы забіралі яго ў рускіх. І роўна гэтулькі разоў аддавалі назад. А потым рускія нам яго і зусім не аддалі, хоць разы са тры мы ўсур'ёз спрабавалі зноў забраць у іх гэты пагорак. А цяпер вось ужо колькі тыдняў выдатна жывём і без той горкі, і я пачынаю думаць, што яна ўвогуле нікому не трэба, хоць тут і быў з-за яе такі вэрхал...

— Дык вось як вы цяпер ваюеце! Здаецца, што мне трэба неяк выбірацца адсюль. Такога я не вытрымаю...

— Вядома, што тут добрага... Гэтае корпанне на месцы толькі пацвярджае, што наш запал скончыўся. Але мне ўжо абрыдлі бясконцыя тактычныя перасоўкі. У маім узросце лепей ляжаць, чым бегаць. Каб толькі мы зноў не пачалі браць гэты пагорак.

— Мы яго ўжо страцілі,— сказаў лейтэнант Йоперы.

— Тады я цябе віншую... Хаця ты можаш перайсці ў часць дальняй разведкі...

«Ціў-ціў»,— рэзка, як удар, прасвісталі кулі, і лейтэнант міжволі ўцягнуў галаву ў плечы.

— Ды ты зусім абцывіліўся,— сказаў капітан.— Тут не так ужо і спакойна, як здаецца на першы погляд. Рускі салдат — цямкі хлопец. Проста гэтым разам паміж смерцю і жыццём была патрэбная адлеглась.

Яны вярнуліся ў бліндаж і пачалі круціць ручку тэлефона. А потым выйшла так, што лейтэнанта перавялі ў новую часць.

Падраздзяленне лыжнікаў стаяла ў прыфрантавой вёсцы і размяшчалася ў сапраўдных драўляных дамах, а не ў зямлянках. Там былі нават сапраўдныя ложкі, двухпавярховыя, як у казарме, і з чыстымі прасцінамі. Там лыжнікі адпачывалі, там жа ў двары яны становіліся на лыжы, ішлі на заданне, а потым зноў вярталіся на адпачынак. А часам хто-небудзь і не вяртаўся...

Лейтэнант Йоперы закінуў свае боты пад ложак, а замест іх узяў лямцавыя лыжныя чаравікі. Такім чынам, боты не змаглі пахадзіць у лыжныя рэйды і зведаць, што такое ваенныя прыгоды. Забытыя, яны ляжалі ў кутку пад ложкам і ўкрываліся тоўстым слоем шэрага пылу.

Затое яны маглі назіраць за тым, як жыве гаспадар, вярнуўшыся дамоў. Звычайна лейтэнант вяртаўся

з рэйду стомлены і маўклівы. Аднак пад'еўшы, памыўшыся ў лазні і як след адаспаўшыся, ён падымаўся ў добрым гуморы і браўся за газеты і лісты. Часам ён атрымліваў пасылкі ад маці, ад сясцёр і ад іншых родзічаў. Прыйшла аднойчы пасылка і ад Ханны Сакеус. Тым днём у лейтэнанта быў асабліва добры настрой. Дзе цяпер ягоны гаваркі спадарожнік? Няхай паглядзеў бы на чалавека, у якога ёсць масла ў загашніку.

Йоперы пайшоў у хату, яго тут жа атачылі цікаўныя, і лейтэнант пачаў свае аповяды і ўспаміны...

У такія моманты ён ажываў. Падначаленыя любілі яго, бо хоць ён і паходзіў з паноў, але з салдатамі трымаўся проста і быў адным з іх.

Але жыў ён у асобным пакоі, ці, дакладней, у пакоі з трыма афіцэрамі, таксама камандзірамі рэйдавых груп. Вельмі рэдка здаралася так, каб яны збіраліся ўсе разам. Ды калі збіраліся нават двое, то і тады адразу пачыналіся шумныя бяседы, спевы і іншае, пры дапамозе чаго салдат паказвае шырыню душы і запаўняе пустату існавання. Яны сціхалі толькі тады, калі садзіліся пісаць лісты, і пісалі іх доўга і старанна на стале з грубых дошак. А потым з-пад падушкі даставаліся карты, і ў пакоі зноў пачыналася шумная бяседа.

Апрача таго, лейтэнант Йоперы рэгулярна кожны дзень рабіў зарадку, каб размяцца як след і падтрымаць форму, бо добры фізічны стан, вучыў ён пад час сваіх аповядаў і ўспамінаў, гэта і ёсць тое шчасце, якое дапамагае салдату пазбегнуць гераічнай смерці ў доўгіх і небяспечных рэйдах.

Разы са два ён даставаў боты з-пад ложка, сціраў з іх пыл і нацягваў на ногі. Потым ён ішоў альбо да сяброў, або пажартаваць з ваеннымі лотамі[1]. А вяр-

[1] Лоты — так называлі членаў ваенна-патрыятычнай арганізацыі жанчын імя Лоты Свярд.

нуўшыся, лейтэнант сярдзіта закідаў боты назад, у пыльны змрок пад ложак.

Павярнула ўжо на вясну, калі лейтэнант Йоперы і яшчэ некалькі чалавек не вярнуліся з рэйду. Пасля кароткай сутычкі атрад паспешліва адыходзіў і, як гэта было дамоўлена раней, раздзяліўся на дзве групы. З групы лейтэнанта Йоперы не вярнуўся ніхто. Сувязныя нічога не знайшлі, узнялася вялікая замець і пахавала ўсе сляды.

Пасля гэтага рэйду лейтэнанту павінны былі даць яшчэ адзін адпачынак. У ягоным пакоі, як і ва ўсім падраздзяленні, стала нязвыкла ціха. Вакол каго цяпер сабрацца салдатам? Каму задаць хітрае пытанне наконт таго ці іншага? На жаль, не сядзе болей лейтэнант у цеснае кола людзей, каб пачаць свае бясконцыя ўспаміны...

А яго боты валяліся пад ложкам, і слой пылу станавіўся ўсё таўсцейшым і шчыльнейшым.

Надышоў сакавік, і прырода высвецілася колерамі фінскага сцяга: сіняе неба і бялюткі снег.

Адным з такіх сакавіцкіх дзён лейтэнанта Йоперы афіцыйна занеслі ў спісы без весткі згінулых. І тады на кватэру лейтэнанта заявіўся сяржант інтэнданцкай службы Лінтунен, каб сабраць маёмасць. Яе было не шмат: невялікага папяровага мяшка з двухгаловым арлом хапіла, каб змясціць усе пажыткі афіцэра.

Боты таксама выцягнулі з-пад ложка, і прыгоды іх пайшлі сваім парадкам.

Іх лёсам і трэцім уладальнікам стаў сяржант Нірва, бо зусім нядаўна ён пачаставаў інтэнданта нямецкім ромам і даволі прыстойнымі цыгарэтамі. І тады ж ён сказаў, што хацеў бы здабыць добрыя боты, бо даўно ўжо ходзіць у драных чобатах. І тады сяржант-за-

беспячэнец запэўніў Нірву, што такому чалавеку ён абавязкова знойдзе сапраўды добрыя боты. Цяпер пакуль няма, але першая прыстойная пара будзе яго...

І вось, на шчасце, сяржант Нірва сустрэўся з ім якраз тады, калі інтэндант цягнуў мяшок з лейтэнанцкім пажыткам.

Магчыма, што лёс ботаў склаўся б зусім іначай, бо забеспячэнец меў кароткую памяць, а ахвотнікаў набыць боты альбо яшчэ які патрэбны тавар было вельмі шмат. Аднак насустрач трапіўся менавіта сяржант Нірва і адразу запытаўся, што ў торбе. Забеспячэнец яшчэ памятаў пра бутэльку рому, а таму адказаў бадзёра і сумленна:

— Вось табе боты. Добрыя боты, афіцэрскія.

— Старыя апоркі! — абурана запярэчыў Нірва, паглядзеўшы на боты.— Ці няма ў цябе чаго навейшага?

— Навошта табе навейшыя? Гэта ж сапраўдныя афіцэрскія боты, а яны лепшыя за любыя новыя! Ты толькі паглядзі! Ды і нашаму брату без добрай падмазкі такіх ніколі не знайсці.

Так сяржант Нірва з батальённага абозу, селянін, уладальнік гаспадаркі і сумленны жыхар поўначы — так ён сябе называў — стаў трэцім уладальнікам ботаў.

На пачатку вайны Нірва, тады яшчэ малодшы сяржант, сапраўды верыў, што перамога немцаў недзе недалёка. Нямецкія танкі рваліся наперад, немцы наступалі, разам з імі наступалі фіны, каб узяць сваё і ўзяць усё, што захочуць...

Так, з баямі, яны паглыбляліся ў бездарожныя нетры. Сам пан капітан выступіў перад салдатамі, калі яны фарсіравалі нейкую рэчку, і сказаў, што тут рускія крыху пасупраціўляюцца, таму што тут у іх ёсць нейкія палявыя ўмацаванні і нават аэрадром. Затое потым зноў пачнуцца дарогі, і фінскім салдатам застанецца адно што сядзець у машынах, якія пакуль

адсталі на бездарожжы, але хутка дагоняць тых, што наступаюць.

Рэчку яны фарсіравалі, і дарогі сапраўды пачаліся, але пачалося і другое — сапраўдная вайна. Да Нірвы пачало даходзіць, што словы пра вясёлую вандроўку на машынах былі ўсяго толькі недарэчным жартам. Тут ён упершыню пабачыў немцаў, убачыў першы нямецкі абоз і тады, з яго слоў, аж заплакаў.

Шасцёра коней цягнулі нейкую дзівосную крытую запрэжку на чатырох вялікіх колах. На калёсах везлі дзве вялікія вязкі саломы. Божа ўсеўладны, з кім жа мы звязаліся! Гэта ж выхвалякі і балбатуны! А значыць, усе гаворкі пра маланкавую вайну таксама ўсяго толькі недарэчныя жарты...

Саюзнік жа анізвання не разумее ў конным транспарце... На такіх колах па гэтых мясцінах далёка не заедзеш...

І вушы коней у вачах Нірвы раптам пачалі расці. Яны падаўжэлі на два аршыны і кпліва гойдаліся ў паветры, нібыта насміхаючыся з усяго на свеце, ператвараючы ўсю вялікую вайну ў вялікі і недарэчны жарт...

Тойва Нірва быў возчык. Магутныя грузавікі гразлі ў балотах і на бездарожжы, былі бездапаможныя, нібы сіроткі-немаўляты. А конь ішоў наперад, ішоў няспынна і ўпэўнена, асабліва калі лейцы трымаў сапраўдны мужчына. На хрыбціне каня трымалася ўсё забеспячэнне, а на забеспячэнні трымаліся ўвесь ход вайны і ваенныя поспехі.

У тым пераканаліся тады, калі ледзь не трапілі ў акружэнне і калона на чале з чалавекам, які зусім не петрыў у конях, вярнулася назад ні з чым, бо, маўляў, перашкодзілі балота і праціўнік. Тады настала чарга малодшага сяржанта Нірвы. Ён павёў абоз і нават прывёў яго назад. Дарога была як дарога, а праціўніка зусім не было.

Галоўнае было — адважыцца і паспрабаваць. А гэта было нялёгка, бо ў апраметнай цемрадзі коні правальваліся ў балота па самую хрыбціну, а там, дзе ўчора ішоў бой, ногі ступалі па трупах. Прабіраліся ціха, рускія маглі быць непадалёку, трэба было спяшацца, бо на рускіх можна было напароцца і ў гэтай чортавай цемры, не кажучы ўжо аб белым дні. Паклажа на валакушах здалася б да смешнага маленькай чалавеку, які не прайшоў гэтага невялічкага шляху да галгофы. Затое салдат, залёгшы ў балоце, змог падсілкавацца, зарадзіць вінтоўку і ваяваць далей.

Назад яны везлі параненых. Абоз Нірвы зрабіў шмат такіх начных рэйсаў. За тое Нірва атрымаў сяржанцкі чын. Пасля таго вайна стала ціхай і бясслаўнай. Ён даглядаў коней, карміў і чысціў, клапаціўся аб падковах і аўсе. Жывёле патрэбен догляд, чорт пабірай, хаця б сабе людзі і ваявалі! Але часу хапала, каб крыху і палайдачыць і нават схадзіць на госці ў вёску. Ён быў нядрэнны кухар і ведаў толк у каве і нават у эрзац-каве. Ён добра ўмеў пячы бліны і хутка згатаваць смажанку. Ён рэзаўся ў карты, гаварыў пра палітыку, дэмабілізацыю і ўзроставыя групы. На ягоную думку, вайна мінулася. Трэба толькі паставіць у строй маладых, каб яны ахоўвалі гэтыя вельмі важныя ваенныя аб'екты, а старэйшым сказаць: «Гэй, хлопцы, давайце дадому!» Яму было за трыццаць, але дагэтуль сяржант быў жвавы і вясёлы, як малады, любіў папарыцца ў лазні, як след выпіць, любіў хадзіць на «берлінскі рынак», дзе паказваў сябе вялікім знаўцам мовы жэстаў і спрытным гандляром.

Але праходзіла зіма, старэйшы ўзрост паслалі ў адпачынак, а чарга сяржанта Нірвы ўсё не прыходзіла, і з тае прычыны ён стаў нервовым і сярдзітым, а таму пачаў выказваць незадаволенасць тым, што вярхоўнае камандаванне так марудзіць. Яшчэ ж восенню нямецкія газеты пісалі, што рускім канец, што сілы ў іх

болей няма, дык навошта ж тады трымаць людзей без толку... Усё часцей яму пачалі мроіцца родныя мясціны, жонка, дзеці. У хаце завіхаюцца Хейкі, Кале і Лійса, а трое коней стаяць у канюшні і дваццаць тры каровы ў хляве. Хоць аднаго каня забралі на вайну, а трох кароў давялося здаць на грамадскія патрэбы. Вайна прыцясняла селяніна, забірала коней і кароў, спусташала сусекі і павялічвала падаткі, а самога яго адарвала ад родных палёў, каб закінуць у гэтую лясную глухамань, дзе ён сумуе па спракаветным краявідзе, абжытым, апрацаваным, такім родным вачам і сэрцу селяніна.

Туды, на радзіму, вярнулася ўжо шмат яго знаёмых. Але вярталіся па-рознаму: адных прывезлі ціхімі хлопцамі, якія папоўнілі шэрагі геройскі загінуўшых, другія ж вярнуліся, каб працягваць свой зямны шлях. А Тойва Нірве ўсё яшчэ даводзілася сядзець тут, нібы дваццаць кароў і сорак гектараў ворнай зямлі можна пакінуць без догляду.

Ён часцей стаў наведваць «берлінскі рынак» і выпіваць, ад чаго станавіўся больш гаваркім. Але канюшні і коней ён даглядаў па-ранейшаму старанна.

Такі вось чалавек і нацягваў на свае ногі боты лейтэнанта, чый апошні след адразу замяло снегам. Тойва Нірва прайшоў не адну вярсту па баразне за плугам, і ногі яго былі вялізныя, кашчавыя, з пляскатымі пальцамі. Адразу было зразумела, што не на святах і танцах атрымалі яны такую форму, хоць сяржант у маладосці нямала пахадзіў і па вечарынках.

Новыя боты былі малыя. Але сяржант напружыў мускулы рук, пацягнуў, і боты налезлі. Не надта добра адчулі сябе боты і ногі сяржанта. Аднак ён быў задаволены. Раптам ва ўсім яго целе нібыта абудзіліся ўспаміны аб тых маладых днях, калі ён нацягваў на ногі цесныя боты і кіраваўся на гулянне. Гэтыя ўспаміны так ажывілі яго, што сяржант нібыта памаладзеў

і зрабіў некалькі танцавальных выкрунтасаў на рыплівых маснічынах.

— Во яно як, хлопцы! Самы раз боты — надзеў, нібы зноў на свет нарадзіўся, можна і ў скокі пускацца...

— Самы раз? — не паверыў нехта.— Вельмі ўжо абліпаюць...

— Нічога, маладая скура расцягнецца,— адказаў сяржант Нірва.

Блізілася вясна, раставаў снег, і маці-зямля паказвала свае вечна маладыя грудзі. Вясна не страціла сваёй заўсёднай прыгажосці. Дрозд у лясных нетрах заліваўся гэтак жа радасна, як і раней. Нават брудны шматок газеты, які вецер ганяў туды-сюды, здавалася, нёс толькі прыемныя, шматабяцальныя весткі. Там гаварылася аб вялікім вясновым наступе, які нястрыманым патокам вясенняй вады раз і назаўсёды пакончыць з уладай зімы. Чалавек з радасцю верыў у такія цуды. Вясенні наступ! Нічога іншага не трэба! І жыць стане весела і радасна. Адталая зямля бадзёра хрупала пад ботамі сяржанта Нірвы. Аднак душа яго была неспакойная. Як жывыя, паўставалі перад ім родныя палеткі. Хто будзе іх баранаваць? Нірва думаў, што ягоныя палі застануцца незасеянымі. Да апошняй драбніцы ён быў хлебаробам і возчыкам, селянінам, і вясна без ворыва, без пасеву здавалася яму нежывой і жудаснай, як у страшным сне.

Яму не было чаго рабіць тут.

— Пад'ём, хлопцы, уставайце,— грымеў ён зрання ў бараку.

Ішла вясна. Аднак сяржанта Нірву не пускалі ў адпачынак і не дэмабілізоўвалі. Ён аж трызніў далёкімі палямі і вясенняй працай у полі. Ён неспакойна хадзіў туды-сюды ў сваіх цесных ботах. Часам тыя

боты так цiснулi ногi, што даводзiлася сцягваць iх i абуваць вялiкiя чаравiкi, так званыя дэсантныя боты.

Настала вясна. Дарога, якую толькi што пралажылi дзеля забеспячэння фронту, нагадвала паток веснавой гразi. Яна была пустая i мёртвая. Вось ужо два тыднi не было пошты. Слова «бездарожжа» набыло свой сапраўдны глыбокi сэнс. Сяржант Нiрва часта стаяў ля гэтай нежывой дарогi, i ад яе патыхала апраметнай глухаманню. Сапраўды, па такой дарозе мог прайсцi толькi жораў альбо чорт. Аднойчы Нiрва бачыў, як па дарозе iшоў нямецкi ўсюдыход, уздымаючы вялiзныя хвалi гразi. Гэта, напэўна, якi-небудзь сучасны чорт, валадар непралазнай гразi, з шэрагам каткоў пад пузам...

Аднак гэтае вiдовiшча нiяк не ўзбадзёрыла сяржанта Нiрву. Машына, якая перавальвалася з боку на бок у хвалях непралазнай гразi, зноў абудзiла ўспамiны пра вясновае поле. Ён раптам усiм целам адчуў, як гойдаецца на высокiм сядзеннi трактара, якi з буркаценнем цягне за сабой дзве бараны i пакiдае за сабою след, якi так цешыць вока селянiна. За сваё жыццё шмат давялося яму паездзiць на трактары па нiвах даўгiмi вясеннiмi днямi i светлымi начамi.

Але калi ўсюдыход знiк i дарогай зноў завалодала адвечная гразь, настрой яшчэ больш пагоршаў. Адзiная прыкмета жыцця i руху знiкла. Яны зноў засталiся ў адрэзанай, забытай Богам i людзьмi вёсцы. Сяржант Нiрва зноў швэндаўся туды-сюды, часам абуваючы свае цесныя боты, i гэта крыху суцяшала i супакойвала яго: сяржант успамiнаў тыя шчаслiвыя дзянькi сваёй маладосцi, калi хадзiў на вечарыны ў такiх самых цесных ботах.

На iмгненне можна было ўявiць, што чалавек атрымаў адпачынак ад цяжкага i поўнага клопатаў сялянскага жыцця, але мала яму радасцi ад таго, i вось ён блукае па чужой вёсцы i шукае забавы цi сабутэль-

ніка. Да ўсяго добрага яшчэ і сувязь з «берлінскім рынкам» зусім перарвалася.

Аднойчы раніцою сяржант Нірва і ўся ціхая вёсачка прачнуліся ад страшэннага грукату: на сярэдзіне вёскі ўзарвалася міна, а на ўскраіне затрашчалі вінтоўкі, пачуўся злавесны віскат рыкашэтнай кулі.

У бараках панавала шалёная мітусня, людзі паспешліва нацягвалі вопратку, лаяліся і хапалі зброю. Што там здарылася? Вёска ж была адрэзана бездарожжам ад усяго белага свету! За тыдзень тут ні разу не прайшло ніводнай калоны адпускнікоў, не было нават пошты. І раптам гэтакі вэрхал. Сапраўдная вайна, пра якую пішуць у газетах. І як толькі рускія прабраліся па лясной глушы, праз адталыя азёры і рэкі, праз веснавы грузкі снег? А можа, іх скінулі зверху, з самалёта? Але што б там ні было, рускія атакавалі далёкую тылавую вёску. У іх нават мінамёты былі! На вуліцах грукаталі міны. Гэта ж нейкае чортава насланнё! Жахлівае прабуджэнне!

Сяржант Нірва пакутліва крактаў, нацягваючы на ногі цесныя боты. Ён падумаў, што салдацкія боты павінны быць такімі шырокімі, каб у іх можна было ўскочыць проста з ложка. Але і чаравікі з пераблытанымі шнуркамі таксама не надта... Нарэшце боты налезлі, сяржант схапіў вінтоўку і прышпіліў патранташ. Цяпер гэта быў зусім іншы чалавек — сама рашучасць. Усялякія думкі пра ўзроставыя групы, пра незасеянае поле зніклі, як дым. Сяржант стаў збіваць людзей у гурт. Трэба прабіцца да канюшні. Там іх баявы ўчастак. Трэба паглядзець, што там з коньмі...

— Ды на чорта нам тыя коні! — вылаяўся нехта.

— Як на чорта? — адказаў Нірва.— Коні цяпер у цане, вось і загонім іх на рынку...

Ён пабег, і за ім следам кінуліся яшчэ некалькі конюхаў.

У шэрым ранішнім прыцемку па вёсцы мітусіліся

людзі. Аднак супрацiўленне пакрыху наладжвалася. На шчасце, вёска была не толькі інтэнданцкай базай. Там стаялі на адпачынку і разведчыкі далёкіх рэйдаў, салдаты вопытныя і баявыя. І гэтага ворага адаб'юць, хай сабе ён і з неба зваліўся. У абодвух канцах вёскі трашчалі вінтоўкі. У ранішнім паветры працяжна вішчэлі кулі, зрэдку грукалі міны. Пара хацін на ўскраіне вёскі палала.

Калі Нірва бег пад горку, побач з ім секанула некалькі чэргаў. Варожы кулямёт біў аднекуль з лясістага пагорка насупраць. Адлегласць была вялікая, стралялі без прыцэлу, але кулі клаліся зусім побач. Адна куля нават абадрала халяву з унутранага боку, але сяржант Нірва так ніколі аб тым і не даведаўся. Ён з усіх ног ляцеў пад горку, і посвіст кулямётнага бізуна гнаў яго яшчэ шпарчэй, а таму хутка варожы кулямётчык ужо не мог дастаць яго. Астатнія спыніліся адразу, як толькі пачулі спеў гэтай чортавай машынкі. Нірва махнуў ім, каб яны абагнулі небяспечны схіл, на якім нехта ўжо завяршыў свой зямны шлях. Забіты ляжаў на спіне, шырока раскінуўшы рукі.

На канюшні ўсё было ў парадку. Большасць коней спакойна, як заўсёды, жавала корм, аднак некаторыя нервова ўскідвалі галовы і білі капытамі. Яны ўжо чулі галасы вайны і не вельмі любілі іх. Увогуле ж коням нічога не пагражала. Канюшні былі ўкапаныя ў схіл гары і мелі толькі адну сценку з бярвенняў, ды і тая была завалена зямлёю, нібыта сапраўдная крэпасць. Толькі праз дзверы ці маленькія акенцы туды магла трапіць выпадковая куля.

Перад канюшняй вілася траншэя, якую ўвосень капаў сам сяржант Нірва і прымушаў капаць іншых, але без вялікай ахвоты, бо ўсе былі перакананыя, што гэтую дурную працу прыдумала начальства, каб не пакінуць салдат у спакоі... А цяпер траншэя вельмі нават прыдалася.

— Добрыя могілкі, якраз для нас,— сказаў сяржант Нірва,— хоць і праклінапі мы іх, капаючы.

Перад імі прасціралася балота, а за балотам павольна ўзбіраўся на пагорак лес. Каля паўдзесятка салдат сядзелі ў акопах і чакалі. Тут было спакойна, хоць з абодвух канцоў вёскі чулася страляніна. Нірва нават пачаў нерваваццa і бурчаць, што дарэмна толькі яны калупалі зямлю. Аднак потым яны заўважылі, як з лесу выскачылі некалькі чалавек і пачалі балотам прабірацца да вёскі. Салдаты ў траншэях напружана чакалі іх, нарыхтаваўшыся пачаць агонь. Потым загрымелі стрэлы, і людзі з балота паспешліва кінуліся назад, у лес, а два ці тры чалавекі так і засталіся на месцы. Для іх вайна скончылася на гэтым балоце. І ў тую ж хвіліну лес на пагорку насупраць нібы прачнуўся. Адтуль градам пасыпаліся кулі. Застрачыў кулямёт. Ён стаяў высока на схіле, траншэя выдатна праглядвалася і прастрэльвалася, а таму давялося зашывацца ў розныя куткі.

— Нядрэнна было б цяпер стаць з кулак велічынёй,— прабурчаў сяржант Нірва,— а то нават і меншым...

Але тут з іхняй гары бадзёра затрашчаў кулямёт, і хутка паганая варожая машынка змоўкла. Так бой працягваўся некалькі гадзін. Віскаталі кулі, грымелі стрэлы, а толку не было. Рускія адступілі ад вёскі, але ўчэпіста трымаліся на вакольных узгорках. Было ясна, што гэта не выпадковы атрад разведкі, а моцны ўдар з фланга, вясновае наступленне рускіх.

Падмацаванне падыходзіла павольна, ледзь цягнучыся па крыху падсохлай дарозе. Пачалося контрнаступленне, аднак прайшло некалькі гадзін, перш чым праціўнік адступіў.

Толькі вечарам скончылася маленькая пазіцыйная вайна ля канюшні. Пагорак насупраць не выяўляў ніякіх прыкмет жыцця. На стрэлы з траншэі ніхто не

адказваў. Па траншэі можна было хадзіць свабодна, не прыгінаючыся.

— Нядрэнна было б паглядзець, куды падзеліся нашы суседзі,— сказаў сяржант Нірва.— Тым болей што, здаецца, я магу законна атрымаць ад тых забітых на балоце што-небудзь у спадчыну.

— А што з іх возьмеш, апрача вашывага рыззя ды вінтовак. Яны ж бедныя, як чэрці...

— Ну, гэта яшчэ невядома,— запярэчыў Нірва.— Прыемна ж уявіць сабе, што ў іх там ёсць гадзіннікі, залатыя пярсцёнкі ці зубы, ці яшчэ Бог ведае што...

І ён пасунуўся па балоце. Некалькі салдат рушылі за ім. Яны ішлі насцярожана, узяўшы вінтоўкі напагатоў. Упэўненасці, што з варожага пагорка не трэсне стрэл і не прасвішча куля, не было. Толькі яны падышлі да забітага, як гэта і здарылася. Прагучаў стрэл, і сяржант Нірва моўчкі апусціўся на парослую белым мохам купіну.

Толькі на адзін стрэл і хапіла сілы ў смяротна параненага варожага салдата.

Спакойна свяціла вечаровае сонца, а сяржант Нірва ляжаў на посцілцы, шырока раскінуўшы рукі сярод мноства іншых параненых. Жыццё ледзь цеплілася ў ім, але часам да яго вярталася прытомнасць. Тады ён бачыў, як маленькі парастак травы спалохана выглядваў з зямлі побач з покрыўкай, на якой ляжаў паранены сяржант. Была вясна, зямля прачыналася. Гэта ж вялікае дзіва, што з такога маленькага парастка вырасце высокая трава, якую будзе гойдаць ветрык, а потым зрэжа вострая каса. І самае вялікае дзіва, што зямля застанецца вечна маладой, адна вясна зменіць другую...

Жыцця ў ім засталося яшчэ меней, пакуль санітарная машына траслася па разбітай дарозе. Ногі ў цесных ботах пачалі халадзець.

А каля дарогі ў халодным святле вясенняй начы радасна і бестурботна заліваліся дразды. Калі санітарная машына прыйшла ў шпіталь, то стала ясна, што сяржанту Нірве ніякая дапамога не патрэбна. Ён ужо быў «па-геройску загінуўшым».

Салдат Ахвен, які служыў у палявым шпіталі, адразу згледзеў, што ў нябожчыка неблагія боты, занадта добрыя для таго, каму болей не давядзецца ступаць па гэтай зямлі. А ў салдата Ахвена зусім не было ботаў, а толькі вялікія прадраныя чаравікі. Гэта быў шчаслівы збег абставін. Цяпер яму не трэба маліць інтэнданта, у якога не надта настойлівы чалавек ніколі не выпрасіць прыстойных ботаў...

З вялікай цяжкасцю Ахвен сцягнуў боты з ног нябожчыка і агледзеў іх з уласцівай яму ўвагай. Нічога, добрыя боты, не вельмі зношаныя. На адным ёсць драпіна, відаць, ад кулі, дык гэта не так ужо і важна. Цёмны ад гразі і сонца твар Ахвена зморшчыўся ў задаволенай усмешцы. Свае старыя дэсантныя апоркі ён кінуў ля ног нябожчыка.

Гэтым разам сціхлы заўсёднік «берлінскага рынку» нічога не папрасіў у дадатак.

Салдат Ахвен зайшоў у кабінет капітана-медыка Кола. Ля дзвярэй ён выпруціўся, што ў ягоным разуменні азначала стойку «смірна».

Яны з капітанам былі старыя знаёмыя. Афіцэр толькі вярнуўся з трохмесячнага адпачынку, але яшчэ з першых дзён вайны, дакладней, з тых дзён, калі сапраўднай вайны толькі чакалі, капітан запамятаў гэты рана зморшчаны карычневы твар і шчуплае цела, у якім адчувалася пругкасць і жылістасць ядлоўцу.

Палявы шпіталь у прыфрантавой вёсачцы быў гатовы. Чакаў пусты дом, чакалі чыста засланыя ложкі. Каго? Пакуль што гэтага ніхто не ведаў. Вядома было толькі тое, што нядоўга будзе пуставаць дом, не за-

пустуюць і ложкі, як толькі пачне вярцецца мясакрутка. Хоць доктар Кола быў чалавекам спакойным і разважлівым, аднак выгляд пустога шпіталя нерваваў яго. Вядома, у цывілізаваным грамадстве трэба мець у запасе шпітальныя ложкі для тых, хто захварэе ці трапіць у якое здарэнне, аднак гэта зусім не тое. Засланыя белым ложкі будзілі ў доктара нейкае змрочнае пачуццё. Хутка пачне працаваць ваенная мясакрутка.

Доктар Кола хадзіў па шпіталі і гутарыў з людзьмі больш грунтоўна, чым заўсёды.

Так ён пазнаёміўся з салдатам Ахвенам. Ягоны спакойны карычневы твар, зморшчаны, як печаны яблык, прыцягнуў увагу доктара. «Вось,— падумаў капітан Кола,— вось чалавек, які не пакутуе ад нядобрых прадчуванняў, якому ўсё проста і ясна».

Ён даведаўся, што салдат Ахвен — сапраўдны лясны чалавек. Ад гэтай лясной вёскі, дзе быў шпіталь, да лясной хаціны Ахвена было кіламетраў дваццаць, і трапіць туды можна толькі па маленькай, ледзь прыкметнай сцежцы. Хаціна тая згарэла яшчэ ў часы зімовай вайны, бо стаяла амаль каля самай мяжы. Ацалела толькі лазня. Сям'я — жонка і шасцёра дзяцей — жыла ў эвакуацыі, і не салодкае гэта было жыццё.

«Шасцёра дзяцей,— раздумваў капітан Кола.— На дзяцей тут багатыя, а за такое багацце кажуць дзякуй, толькі калі трэба ваяваць. Гэты чалавек нямала папрацаваў для бацькаўшчыны, хоць яму ўсяго толькі пад трыццаць. Калі б усе былі такія, то заўсёды было б каму і працаваць, і ваяваць».

Капітан пацікавіўся, а чым жа дрэннае жыццё ў эвакуацыі? Няўжо сярод людзей, так бы мовіць, жыццё горшае?

Салдат Ахвен і сам не ведаў, як гэта растлумачыць. Але там, у вялікай вёсцы, яны заўсёды нібыта бы-

таюцца ў людзей пад нагамі. Вось там, на хутары Лапука, там сапраўднае жыццё. Там жыць можна як захочаш. Няма чужых людзей, якія смяюцца з тваіх хібаў і зайздросцяць тваім поспехам. А да суседа, такога ж ляснога чалавека, каля дзесяці кіламетраў.

— А няўжо табе не хочацца часам пагаварыць з людзьмі? Ці, да прыкладу, так ужо дрэнна, калі паблізу будзе сусед, калі ты раптам захвараеш?

— Гэта ўжо звычка,— адказаў салдат Ахвен.— А хварэюць у нашай глухамані толькі каб памерці.

Капітан Кола шмат чаго даведаўся пра лёс і жыццё ляснога жыхара. Напрыклад, што Ахвен быў павітухай для большасці сваіх нашчадкаў. У ягоных жылах, напэўна, цякла кроў вельмі далёкіх продкаў, бо ўлюбёным заняткам Ахвена былі паляванне і рыбная лоўля. Ад іх жа ён і атрымліваў большасць усяго даходу. Нямала давялося яму папрацаваць і на лесапавале на розныя прамысловыя кампаніі.

Капітану Кола гэты лясны чалавек, з якім ён упершыню сустрэўся твар у твар, здаваўся нейкай дзіўоснай істотай. «І як чалавек можа жыць такім жыццём? Гэты Ахвен, хоць мы з ім і адной нацыі, усё ж належыць да нейкай іншай расы». Калі б Кола трапіў у такія ўмовы, дык памёр бы, калі не ад чаго іншага, то ад сумоты...

Ён быў чалавекам іншага, абжытага, старога свету, чалавекам дагледжаных паркаў і садоў. Ён любіў водаправод, электрычнае святло, цэнтральнае ацяпленне, свежыя газеты, роўны асфальт на вуліцах і мяккія сядзенні аўтамабіля.

А што, калі б і яму давялося цягнуцца дваццаць кіламетраў па лясной сцежцы з трохпудовым мяшком за плячыма, несці харчы на восем ці дзевяць едакоў.

Харчы, што нідзе не бываюць такія смачныя, як на беразе глухой лясной ламбы[1].

А цяпер абодва стаялі разам у двары палявога шпіталя, прыведзенага ў баявую гатоўнасць, абодва стаялі за радзіму.

Так што капітан Кола выдатна памятаў салдата Ахвена. Ён падумаў, што варта было б зрабіць заўвагу салдату за дрэнную выпраўку. Аднак ці да твару такому чалавеку выцягвацца і высякаць агонь абцасамі... Капітан успомніў показку пра вясковага хлопца, які адказаў на такую заўвагу: «А што там бедняку выпручвацца?» Капітан усміхнуўся.

Салдат Ахвен ужо не першы раз падыходзіў са сваёю справай: ён прасіўся ў адпачынак. І прычына была даволі сур'ёзная: яму дазволілі перавезці сям'ю назад, у Лапуку. Жыццёвай прасторы як-ніяк прыбавілася.

— Але ж, здаецца, ваш дом згарэў?

— Падпалілі, дык і згарэў,— адказаў салдат Ахвен.— Але ж лазня засталася.

Ён казаў, што добра жыць можна і ў лазні, асабліва летам. А за водпуск ён склаў бы якую-небудзь печку. Яшчэ ён пасеяў бы ячмень і пасадзіў бы бульбу. Таксама трэба перагнаць у Лапуку дзве каровы на прывольныя лясныя пашы...

Капітан Кола ўявіў той караван, што прабіраецца па лясных нетрах: Ахвен з жонкай, шасцёра дзяцей і дзве каровы цягнуцца некуды да счарнелай лазні далей ад людзей і людскіх дарог.

— Божа! Што ж, яны не могуць з'ядаць свой паёк дзе-небудзь бліжэй?

— Бліжэй да чаго? — адказаў Ахвен.— Неба ўсюды аднолькава высока. А тут таксама айчына.

Ягоны рот скрывіла нейкая дзіўная ўсмешка. Пра магчымасць перабрацца ў нейкую апраметную глуха-

---

[1] Ламба — маленькае лясное возера *(фінск.)*.

мань ён гаварыў, як пра самае галоўнае, як пра самае вялікае шчасце. І пану капітану Кола жыццё салдата здалося нейкім гераічным подзвігам.

— Я думаю, што вы і вашы дзеці зможаце перанесці ўсё. Мала каму выпадае такое...

Салдат Ахвен нічога не зразумеў, але скеміў, што яго адпускаюць, адпускаюць на цэлыя два тыдні.

Касперы Ахвен цяжка ўздыхнуў і закурыў люльку.

— Цягне, цягне! — закрычаў маленькі Касперы Ахвен, васьмігадовы старэйшы нашчадак салдата Ахвена. У эвакуацыі хлопчык, убачыўшы ўпершыню фары аўтамабіля, закрычаў: «Мама, глядзі, якія ў нячысціка вялікія вочы!»

А тут здарылася маленькая непрыемнасць: новая печка, якую склаў старэйшы Касперы Ахвен у кутку пракуранай лазні, гнала ўвесь дым у памяшканне.

— Вось табе і маеш! — засмуціўся Ахвен.

Аднак праз нейкі час печка пачала цягнуць з прысвістам. Агонь радасна мільгацеў, чорныя сцены весела блішчэлі, з-пад маснічын выбіваўся пах сапрэлага лісця.

Над пагоркам Лапукі зноў уздымаўся дым, ён цягнуўся да шэрага веснавога неба і сведчыў, што на гэтай зямлі зноў палае агмень чалавечага жыцця.

Салдат Ахвен яшчэ ўчора прывёў сюды дзвюх кароў, а маленькі Касперы падганяў іх сваёй пугай.

Па берегах возера і абапал ручая зелянела маладая трава, а падаіць кароў зможа і сам гаспадар Лапукі.

Сапраўдная ж даярка, гаспадыня Лапукі, Мары, з маленькімі павінна прыйсці сюды заўтра, калі якраз усё будзе гатова: і новая печка, і жытло. Ёй асабліва нецярпелася вярнуцца сюды, дзе яна адчувала сябе сапраўднай гаспадыняй. Яна адчувала сябе непрыдатнай да жыцця ў вялікім шумлівым свеце, куды іх выгнала вайна са спакойнай лясной Лапукі. Яшчэ

вясной, па цвёрдым снезе, яна перанясла сюды некаторыя рэчы і нават крыху мукі. Мары была і душой, і рухавіком гэтага паспешлівага пераезду ў Лапуку.

Тым вечарам Касперы Ахвен быў у надта добрым настроі. Ён прысеў падаіць карову і з задавальненнем падумаў, што заўтра сюды прыйдзе гаспадыня і вызваліць яго ад такога малапрыемнага абавязку, бо даяр ён быў не такі ўжо і спрактыкаваны. Малако пырскала і туды і сюды, цякло па запэцканых пальцах, бо ён неяк і не падумаў памыць рукі, перш чым узяцца даіць карову. Мары сказала б што-небудзь і наконт «чыстай» даёнкі.

Пакуль бацька даіў, малодшы Касперы гладзіў і супакойваў карову, каб яна не брыкалася. А думкі даяра былі ўжо далёка.

Гаспадар Лапукі думаў, што такім вечарам у лесе, напэўна, такуюць глухары, ды яшчэ як такуюць, чэрці гарбаносыя, заплюшчыўшы вочы і распусціўшы хвост. Толькі адна думка аб тым, як спявае мацёры глухар, прымушала кіпець яго кроў, кроў сапраўднага паляўнічага... Злажыцца як след, і цяжкая птушка грымнулася б долу, нібы пяцікілаграмовая торба... Так бы і зляцела, каб толькі была стрэльба. Аднак за гады вайны і эвакуацыі Касперы Ахвен збяднеў і застаўся без стрэльбы. А фельдфебель, гэты пан-бюракрат, не дазволіў узяць з сабою вінтоўку. Маўляў, забаронена ў адпачынак з вінтоўкай... Што б з ёю сталася, з гэтай чортавай трубкай! Гарбаносая птушка заліваецца колькі ўлезе побач з Касперы Ахвенам, вось дзе бяда! Як толькі вытрываць такое! Трэба пайсці і паставіць хоць пасткі каля ручаіны ці нераты, не ўсю ж рыбу тут вылавілі...

Ён вырашыў закончыць з дойкай і пайсці ў лес. Маленькі Касперы павінен застацца пільнаваць дом. Гаспадар Лапукі быў вялікі аматар пахадзіць па лесе. Ён заўсёды хадзіў адзін, нагадваючы казачную балотную птушку.

Бледны тварык маленькага Касперы расчаравана выцягнуўся, калі ён убачыў, што бацька пайшоў у лес. А ён застаўся адзін на маленькай паляне каля пракуранай старой лазні. Аднак хлопчык не баяўся адзіноты, як і належыць сапраўднаму лясному жыхару. Хутка ён будзе спаць у чатырох сценах, а новая печка, складзеная са старых камянёў, будзе саграваць яго.

Касперы Ахвен паставіў пару сетак у ручай. Вядома, рыба таксама прыдасца. Праўда, рыба — не наедак, але ж не паміраць з голаду.

Ён пайшоў далей. Яму карцела пачуць спеў гарбаносага глухара. Так ён і хадзіў па лесе. І раптам яму стала сорамна. Вось так хадзіць без мэты і занятку, нават пастак не правярае. Дурны занятак. Ён спыніўся на маленькім пагорку ля ўскрайку балота. Некалі тут праляцеў ураган і паваліў некалькі дрэў. Паваленыя сосны высахлі, а чорныя карані з зямлёй нагадвалі казачных пачвар.

Яму здалося, што на адным з такіх вываратняў блішчыць нешта падобнае на стрэльбу. Салдат Ахвен не паверыў сваім вачам. Яму вельмі хацелася мець зброю, а таму ўсюды мроіцца нешта падобнае.

Аднак на каранях папраўдзе ляжала стрэльба, сапраўдная, не ўяўная, стрэльба — рускі паўаўтамат. А ў чорнай яміне ад вывернутых каранёў ляжаў былы гаспадар зброі, але ад яго мала што засталося — косці ды рэшткі вопраткі. Напэўна, пад час зімовай вайны тут адбылася нейкая сутычка. Вось ён, салдацкі лёс... Тут жа не было ніякіх баёў...

А Касперы Ахвен думаў толькі пра зброю. Здаецца, яна нядрэнна збераглася. Магчыма, з яе і не стралялі. Яна так і засталася новай, нават збярогся тоўсты слой змазкі. Крыху паржавела, але ржу можна лёгка адчысціць.

Салдат Ахвен адразу ўзяўся за працу. Яму лёгка ўдалося вычысціць вінтоўку, бо вясновая ноч была

дастаткова светлай, як звычайна на поўначы. У кішэнях свайго шыняля ён знайшоў некалькі патронаў. У магазіне вінтоўкі таксама былі патроны, але яны крыху адсырэлі. Ён зрабіў значок на дрэве і стрэліў. Зброя была ў парадку, і куля трапіла ў мішэнь.

Вось дык пашанцавала, вось гэта падарунак беднаму чалавеку! Сёння лес раздобрыўся. Свайму чалавеку ён можа даць усё, што хочаш, нават зброю.

Узрадаваны Касперы Ахвен закідаў галлём чалавека, які ляжаў пад чорнымі вывернутымі каранямі. Дзіўны чалавек, трэба ж было загінуць менавіта тут! Але затое ён узброіў гаспадара Лапукі.

Такія падарункі проста так не робяцца. Лес, напэўна, яшчэ болей раздобрыцца.

І сапраўды, выйшла так, што гэтай белай ноччу Касперы Ахвен сустрэў вялізнага лася, дакладней, ласіцу, і трапіў ёй проста ў сэрца са сваёй зброі, набытай такім дзівосным шляхам.

Касперы са спакойным сумленнем браў усё, што даваў яму лес. Ён раздзяліў сваю здабычу на кавалкі, зрабіў часовае сховішча, а частку мяса закінуў на спіну і падаўся дадому.

Згінаючыся пад цяжкою ношай, ён спяшаўся назад. Лось быў худы, але што зробіш, гэта ж вясна. Аднак жа гэта была ежа, якая сама прыйшла да яго ў рукі. Гаспадар Лапукі быў у добрым гуморы. Ён верыў, што лес чакае яго. Вось і дачакаўся, і даў зброю, і даў здабычу. Каб цяпер яшчэ прыйшла жонка. Вось тады ўсё было б выдатна.

Сонца стаяла ўжо высока, калі Касперы Ахвен, сагнуты пад цяжкою ношай, падыходзіў да свайго маленькага жытла. І раптам ён здрыгануўся: што за постаць стаіць на ранішнім ветрыку? Толькі Мары, гаспадыня Лапукі. Яна так радавалася і пляскала ў ладкі, што Касперы забыўся на стому.

— Ого, стары! Што ён прынёс, нягоднік! Вось і будзе ў нас мяса!

Басаногая і проставалосая Мары ўяўляла цудоўнае відовішча на заселянелым пагорку. Жвавая і радасная, нягледзячы на ўсе нягоды жыцця, яна, здавалася, выпраменьвала гэтую радасць вакол сябе.

Побач з ёю стаяла малодшая сястра. Яна дапамагла прывесці сюды пяцярых малодшых дзяцей. Пятнаццаць кіламетраў па лясной сцяжыне — гэта вам не жарты. Аднак яны дайшлі раней, чым думалі, бо ішлі і ўночы. Усе шасцёра дзяцей спалі ў лазні. Было цесна, аднак знайшлося месца яшчэ траім дарослым.

— Цесна, ды цёпла,— сказаў Касперы.

— А прасторы і на вуліцы хапае,— дадала Мары.

Так яно і было на справе: далёка-далёка сінелі лясныя пагоркі, залітыя веснавым сонцам. А ў счарнелай лазні, дзе пахла новай печкай і прэлым лісцем старых венікаў, гаварылі аб тым, як добра жыць тут, на волі. Ніхто болей не скажа малым, што яны равуць, нібыта дзікія звяры.

Эрзац-кава была незвычайна смачная, тут жа гатавалася свежая ласяціна, а боты, якія Ахвен сцягнуў з ног забітага, сушыліся перад печкай.

На хутары аднавілася сямейная жыццё і пачалося выхаванне новага пакалення для краіны. Вяртанне ў Лапуку азначала для сям'і незалежнасць і свабоду, за якія на гэтым свеце ваявала і гінула безліч людзей.

Адпачынак скончыўся, і Мары засталася адна з дзецьмі ў чорнай старэнькай лазні. Салдат Ахвен вярнуўся ў сваю часць, дзе капітан Кола па-ранейшаму цікавіўся жыццём гэтага ляснога чалавека. Капітан задумаў пабудаваць Ахвену дом сіламі свайго падраздзялення. Нядобра, вырашыў доктар, калі сям'я салдата будзе мучыцца ўсю зіму ў лазні. Задумана — зроблена. На пабудове дома да сярэдзіны лета працавалі салдаты, не занятыя ў шпіталі, а часам нават і тыя,

хто ўжо дастаткова паправіўся. Так салдату Ахвену пабудавалі двухпакаёвы светлы дом з магутных соснаў.

Жыццё здалося яму незвычайна светлым, калі на доме замацавалі вільчык. Але да гэтага часу падэшвы ягоных ботаў працёрліся. Салдат Ахвен ужо вельмі звыкся са сваімі ботамі, а таму аднёс іх у вайсковую шавецкую майстэрню і ўзяў квіток, што выдаткі за папраўку бярэ на сябе яго часць. Ён спадзяваўся атрымаць боты нават мацнейшымі, чым раней.

Але салдат Ахвен болей не ўбачыў тых ботаў.

Нарэшце боты змаглі адпачыць, закінутыя ў куток майстэрні, дзе яны і праваляліся некалькі тыдняў разам з іншымі такімі ж зношанымі і падранымі ботамі. З гэтай кучы тырчэлі халявы і абцасы старых салдацкіх ботаў, і ўсе яны мелі спецыфічны вайсковы пах. Усе яны ў свой час пабылі на салдацкіх нагах, а наперадзе іх чакала гэткая ж доля, пакуль чалавецтва будзе ваяваць, змагацца і вызваляць.

З паўтузіна шаўцоў у салдацкіх мундзірах працавалі ў гэтым пакоі звычайнымі саматужнымі інструментамі і з той прадукцыйнасцю, якую фінская натура набыла ў гэтай армейскай арцелі. Тут яны елі, курылі, расказвалі розныя показкі, смяяліся, а часам і касавурыліся адзін на аднаго. Болей за ўсё ім абрыдла вайна, якая ўяўлялася шаўцам у выглядзе бясконцай, як сама вечнасць, чарады салдацкіх ботаў. Адзін з майстроў быў легкаверным пракам і сцвярджаў, што вайна не сёння-заўтра павінна скончыцца. Аднак старэйшы шавец, капрал Ісолінту, якога мабілізавалі ў шэрагі абаронцаў радзімы толькі пасля зімовай вайны, быў чалавекам зусім іншага складу. Ён казаў, што вайна ніколі не скончыцца. Вайна будзе заўсёдным ладам жыцця, і гэта добра, бо галоўныя цяжкасці ў мірныя часы былі не ад таго, што шавец уколецца іголкай або

шылам. А таму вайну трэба разумець як шчаслівы адпачынак ад цяжкага і клопатнага мірнага жыцця...

Такое ўслаўленне вайны капралам Ісолінту гучала даволі здзекліва. Аднак ён быў хлопец языкаты і любую справу мог перакруціць на свой капыл, а таму спрачацца з ім было вельмі цяжка.

Шавецкая майстэрня займала толькі невялікую частку аднаго з тых вялізных баракаў, якіх так багата напладзіў ваенны час у паўночных лясах. Там жа былі размешчаны пральня і кравецкія майстэрні. Там няспынна грымелі пральныя машыны, там парылася брудная салдацкая бялізна, ад якой за вярсту патыхала салдацкім гераізмам. Там жа былі склады, канцылярыі і казармы.

Жыццё ваенных шаўцоў было не такім аднастайным, як салдацкае харчаванне: чэрствы хлеб, бульба ды зацірка. Аднак і харчы можна было неяк разнастаіць дзякуючы гандлю і асабліва «берлінскаму рынку»: баракі саюзнікаў былі побач, а фінскія боты і зімовае адзенне служылі выдатнай валютай людзям у груба падкаваных ботах. Апрача таго, там можна было раздабыць выпіўку, і гэты забаронены промысел вельмі разнастаіў жыццё і рабіў яго болей цікавым.

Капрал Ісолінту часцяком стукаў ды грукаў малатком, а побач, у пустым салдацкім боце, стаяла запаветная пляшка. Ён ведаў меру, а таму ніколі не бузіў на падпітку. Ён толькі часам расказваў цікавыя гісторыі або спяваў уголас: «Кулямёты стракаталі «тра-та-та», а салдацік збег з пазіцый «ха-ха-ха»... А часам ён выступаў як пастар на казані: «Вы, афіцэры і лоты, вы, унтэры і франтавыя дзевяткі, салдаты і прачкі, я засцерагаю вас, каб не выціраліся лісцямі белых гарлачыкаў, бо ліст прадзярэцца і можна запэцкаць палец...»

Ён быў вялікі прайдзісвет, і было вядома, што на пачатку вайны, калі зараўлі самалёты і завылі бомбы,

ён выдаваў сябе за веруючага-фанатыка, а цяпер стаў заядлым карцёжнікам махляром, сапраўдным бацькам хлусні і крадзяжу, але, калі было трэба, станавіўся гэткім непахісным увасабленнем дабрачыннасці. Казалі, што сярод прачак у яго была каханка, дзяўчына на шостым дзесятку, ды яшчэ і сляпая.

На тое капрал Ісолінту казаў, што ў яго ўзросце цяжка знайсці маладую, ды яшчэ і без ніякай заганы.

Як і гаварылася, ён папоўніў узброеныя сілы толькі ў час перамір'я. Да таго ж ён шмат чаго пабачыў на сваім вяку, а таму пазбег муштры мірнага часу, прычым вельмі проста: стаў «падмазваць» прыдуркаватага унтэр-афіцэра. Харчы ж у яго былі нават тады, калі ў іншых салдат не хапала хлеба, бо ён уладкоўваўся «сакратаром» да непісьменнага салдаціка і пісаў у лістах дадому: маўляў, падкіньце кілаграмаў дзесяць масла і тысяч пяць грошай, а то ваш сын тут сканае ад голаду.

Пра сваю ж каханку капрал Ісолінту казаў, што хаця ў яе зрок і слабы, затое нюх добры, бо як бы ціха ён да яе ні падыходзіў, яна адразу пачынала працягваць рукі і здзіўляцца, як свежа пахне гэты сапраўдны мужчына.

Вось такі быў шавец, у чые рукі трапілі з кучы абутку боты, на якіх красавалася паперка з адрасам салдата Касперы Ахвена. Першы ўладальнік ботаў, самазванец Сора, відаць, быў абазнаны ў скураных вырабах, бо капрал Ісолінту, аддзіраючы квіток з падэшвы, абвясціў, што гэткаму лапцю, як санітар Ахвен, зусім не патрэбны такія добрыя боты. Добра яму будзе і ў апорках, а вось немцы за такія боты падкінуць парачку бутэлек.

Капрал Ісолінту быў добра дасведчаны ў такіх справах. Неаднойчы ён заглядаў на «берлінскі базар». Але ён быў і сапраўды добры шавец, а таму боты, якія

да таго часу памянялі некалькі гаспадароў і прайшлі гэтулькі дарог, былі пасаджаны на калодку, падбіты і начышчаны так, што люба паглядзець.

— Лепшыя чым новыя,— сказаў Ісолінту.— Проста смяротны грэх аддаваць іх нейкаму лайдаку.

Тым часам у майстэрню зайшоўся Юхані Норпа. З працоўнай арміі. Ён ехаў у адпачынак і вырашыў спыніцца ў гэтай вёсачцы, каб пабачыцца са старым сябрам і знаёмцам — капралам Ісолінту.

Юхані Норпа быў чалавек сталага веку — яму даўно пераваліла за пяцьдзесят. У маладосці ён шмат паваяваў і нават быў так званым « вызваліцелем супляменнікаў». Але з цягам часу новыя думкі завалодалі ім, і Норпа выпрацаваў уласную лінію паводзін і па магчымасці ўпарта ажыццяўляў яе.

Так, на пачатку гэтай вайны ён дайшоў да старой дзяржаўнай граніцы і не схацеў ісці далей. Ён сказаў, што адзін раз ужо быў там, куды ішлі войскі цяпер, і адтуль яму давялося «вымятацца назаўсёды», як пяецца ў адной з песень. А ён быў чалавекам, які засвойвае правіла з першага разу. Апрача таго, ён абвясціў, што ў тэксце прысягі, якую некалі давялося прымаць, нічога не гаворыцца пра вераломнае парушэнне чужых граніц.

Афіцэр у шаленстве назваў Юхані Норпу пустагаловым вар'ятам. Як гэта фін не можа зразумець, што такога зручнага выпадку болей не будзе. Цяпер, калі ствараецца такая вялікая дзяржава і калі трэба дасягнуць стратэгічных межаў!.. І апрача таго, салдат прысягае выконваць загады сваіх камандзіраў. Афіцэр шалеў і махаў пісталетам перад носам Юхані Норпы. Аднак салдат адказаў, што ягоныя стратэгічныя межы праходзяць тут, а калі паны афіцэры, кажучы пра добрыя мясціны, маюць на ўвазе мясціны для магіл, а ў тым няма сумненняў...

Аднак магілу капаць не давялося. Пакуль іншыя

ваявалі, Юхані Норпа рыў канавы ў балоце. Калі ж тэрмін пакарання скончыўся, яго перавялі ў працоўную армію, дзе ён атрымліваў тры маркі ў дзень, без ніякіх пайкоў і вайсковага забеспячэння. Ды ён і не меў ніякай у тым патрэбы. Ён быў удавец, а дарослы сын ваяваў недзе на фронце.

І вось Юхані Норпа, які выглядаў напалову цывільным, а напалову вайскоўцам, зайшоў у майстэрню і весела павітаўся з усімі. І вядома ж, адразу згледзеў боты, якія капрал Ісолінту спрабаваў прыхаваць пад грудай іншых непрывабных апоркаў.

— Вось я і разжывуся ботамі,— абвясціў ён.— А то старыя ўжо нікуды не вартыя.

— Ні ў якім разе! — адказаў капрал Ісолінту.— Ты нават не ўяўляеш, які ў нас цвёрды парадак. Кожны павінен атрымаць свае боты, інакш адразу пачынаецца расследаванне... Апрача таго, гэта боты аднаго майго прыяцеля, Ахвена, і памяняць іх нельга ні ў якім разе.

Аднак Юхані Норпа быў чалавекам жвавым і спрытным. Пакуль капрал гаварыў, ён ужо скінуў свае старыя боты і тупаў па майстэрні, прабуючы новыя.

— А калі ты возьмешся за мае боты, як след падшыеш і падаб'еш, то ніякі Ахвен не заўважыць падмены.

Капрал Ісолінту ўпарта і гераічна спрабаваў уратаваць боты. Павінен жа Норпа зразумець, што ў вайсковай майстэрні — вайсковыя парадкі. І парадкі вельмі строгія. Тым болей што сам Норпа з працоўнай арміі і не мае права на казённыя боты.

— Вось менавіта я і маю права,— запярэчыў Норпа.— Каб усе былі такія танныя казне, як я, то дзяржава не пагрузла б у замежных даўгах.

Памалу капрал Ісолінту дапяў, што боты вярнуць не ўдасца. Гэты бандзюк Норпа проста жыўцом вырваў іх з рук. І апрача таго, так нахабна балбоча, не горш чым сам капрал Ісолінту.

— А цяпер прызнайся, нягоднік, што ты сабраўся проста выменяць іх на гарэлку. Ды што тая гарэлка! Быў бы хлеб...

Капрал Ісолінту зарагатаў. Яны абодва любілі павесяліцца — пасмяяцца і параcказваць розныя байкі. Любата паслухаць, як яны распавядалі пра свае апошнія прыгоды, як яны бэсцілі тых, што прыгнятаюць працаўніка. Невялікая сутычка з-за ботаў ніяк не псавала іх адносін, бо і капрал і салдат працоўнай арміі лічылі, што яны ўладкаваліся ў гэтай вайне не горшым чынам, і нялёгка было пераканаць іх, што жыць на гэтым свеце — нявесела. Сутнасць гэтага аптымізму капрал Ісолінту выказаў адной прымаўкай: «Была б шыя, а хамут знойдзецца». (І прычым адзін хамут не лепшы, чым другі.)

Аднак гэта не перашкодзіла капралу Ісолінту з прыкрасцю паглядзець на ногі Юхані Норпы, калі той сабраўся пайсці. Занадта яскрава паўсталі перад ім дзве бутэлькі гарэлкі. Ды прынесла ж нячыстая старога сябрука! І ён сказаў некалькі слоўцаў пра марадзёраў і рабаўнікоў — як іх толькі зямля носіць!

Але марадзёр бесклапотна ляснуў ля дзвярэй абцасамі, боты зніклі назаўсёды з вачэй капрала Ісолінту і рушылі насустрач новым прыгодам.

У тыя часы Юхані Норпа не меў сталага месца жыхарства. Пасля балотнай катаргі ён служыў нейкі час у адной інтэнданцкай часці, але і там лічыўся непажаданым элементам, бо яго злосныя і насмешлівыя размовы аб трох марках у дзень былі невыноснымі для доблесных забеспячэнцаў. Яго накіравалі ў цэнтр папаўнення, але і там яго не любілі. Лепей было б сплавіць такога ваяку як найдалей.

І ў хуткім часе Юхані Норпу накіравалі ў заваяваны раён Усходняй Карэліі. Там патрабаваліся будаўнікі.

Юхані Норпа быў моцна незадаволены. Ён ужо

аднойчы быў за мяжой і добра памятае, чым усё гэта скончылася. Аднак балотная катарга таксама яшчэ жыла ў памяці, і Юхані моўчкі сеў у цягнік.

У начной цемры, храпучы ў бітком набітым вагоне, ён пераехаў мяжу, бачыць якую ўжо даводзілася. І Юхані Норпа добра засвоіў тое, што пабачыў, таму і мусіў перакапаць не адзін квадратны метр балота. Аднак такую працу яму даводзілася рабіць, яшчэ калі ён быў вольным чалавекам. Ён ператварыў балотную глухамань у ніву, заснаваў так званы сямейны агмень, які потым у яго адабралі, хоць святое права прыватнай уласнасці заставалася ў сіле. Гэта было гадоў дзесяць таму. Тыя часы цяпер называлі крызіснымі гадамі. Але, здаецца, тыя дзівосныя часы вельмі хутка выветрыліся з чалавечых мазгоў. Краіна і ўся зямля танулі ў таварах і хлебе, а калі б толькі ўдалося пазбавіцца ад такой бяды, каб не закруцілася ваенная мясакрутка...

Аднак Юхані Норпа тых часоў ніколі не забудзе. Ягоны новы дом пайшоў з малатка, смерць прыбрала жонку Аліну, а сам ён пабачыў свет зусім іншымі вачыма.

І вось цяпер ён перасякаў мяжу, іначай кажучы, рабіў агрэсію. А зусім нядаўна агрэсія лічылася ў гэтай краіне вялікім злачынствам. Аднак пазней погляды змяніліся, і Юхані Норпа трапіў на катаргу, як толькі пабачыў граніцу. Увогуле, яму варта было б зноў адправіцца туды, але занадта свежыя былі ўспаміны пра катаргу на балоце, і ён супакойваў сябе тым, што едзе не заваёўваць. Яго паслалі будаваць.

Ён з цікавасцю глядзеў на зямлю за вокнамі вагона. Некалі ён ішоў па гэтай зямлі з вінтоўкай у руцэ і абсалютнай неразбярыхай у галаве: «Гэтыя землі апрацоўваюць і насяляюць фінскія плямёны. Іх трэба вызваліць — і землі, і народ». Дык хто быў вольны? Ягоны дом у Куўселе прадалі з малатка, пайшлі з ма-

латка і палеткі, якія ён з такой цяжкасцю адваяваў сваімі рукамі ў няласкавай прыроды Фінляндыі, краіны, якая так ганарылася сваёй свабодай і незалежнасцю.

Юхані Норпа не бачыў ніякага прасвету. Нямецкая цыгарка дымілася, прылепленая ў куточку рота, было так цесна, што аж нылі плечы, а ён узяўся разважаць аб тых прасторах, якія чакаюць фінаў там, на ўсходзе. Навокал былі тупыя сонныя твары, цесна — ні пальцам варухнуць, і гэтыя словы гучалі здзекліва і багахульна.

Вядома, Фінляндыя вялікая краіна, аднак пакуль што цеснаватая... Ну, нічога, яшчэ разамнём косці, пакуль датупаем да Белага мора...

Так Юхані Норпа шчасліва дабраўся да Усходняй Карэліі і далажыў аб сваім прыездзе ў адпаведнае ведамства. Высветлілася, што яму давядзецца будаваць царкву.

Царкву тую будавалі ўжо цэлы год, з тае пары, як заваявалі гэты край. Шмат гаварылася аб тым, што бальшавікі робяць з цэркваў тэатры. А цяпер будзе зроблена адваротнае пераўтварэнне, тэатр стане царквой. Гэтая задума нарадзілася ў галаве ў аднаго ваеннага папа. Сюды сагналі архітэктараў, інжынераўбудаўнікоў і майстроў з усёй арміі. Меркавалася пабудаваць адмысловую, непаўторную царкву. На пабудову ішла толькі чырвоная карэльская сасна.

Сярод будаўнікоў царквы Юхані Норпа апынуўся толькі таму, што некаму ў ваенным ведамстве захацелася загнаць яго далей у чортавы зубы. Аднак і тут магло стацца так, што Юхані Норпе так і не давялося б папрацаваць на будаўніцтве царквы. Канцылярскі чын, вядома, даведаўся з папер, якім шляхам трапіў Норпа ў гэты край, і з'едліва пацікавіўся, як гэта ён зрабіў такую ласку, прыехаў сюды? Юхані Норпа раз'юшыўся і ператварыўся ў гнеўнага маленькага

прарока... Ён вяшчаў, што настане такі дзень, калі давядзецца жорстка пакаяцца, што палезлі сюды без дазволу...

Гэткае нахабства, у сваю чаргу, так раз'ятрыла штабіста, што пытанне аб тым, ці варты Юхані Норпа гонару быць будаўніком царквы з чырвонай карэльскай сасны, увогуле аказалася пад сумненнем. Але потым прыйшоў нейкі афіцэр і звёў усю сварку да жарту, а Юхані Норпа любіў пасмяяцца і лічыў, што нават за тры маркі ў дзень можна пражыць даволі весела.

Так ён стаў будаўніком царквы. Ён часцяком жартаваў і гаварыў пра вялікія часіны росквіту Фінляндыі, якая палічыла найпершым клопатам пабудаваць у заваяванай краіне царкву, ды не абы-якую, ▪ з адмысловай векавой сасны. Ён толькі крыху сумняваўся, ці будзе ў царкве добры падмурак, ці хопіць у скалы моцы, каб вытрымаць усе будучыя навалы і нягоды...

Увогуле ж ён быў задаволены сваёй працай, сваёй вайной. Нават у холад і замець ён ахвотна ішоў на працу. Печы даволі добра ацяплялі будынак, які малапамалу пачаў набываць велічныя формы царквы з купаламі. Цюкалі малаткі, цвыркалі пілы, шапаталі гэблі.

Юхані Норпа рабіў лаўкі. «Гэта вам не проста зэдлі, на якія чалавек бестурботна плюхаецца задам, гэта такія лаўкі, на якія садзяцца, каб узвысіцца душой»,— казаў ён.

Яму падабалася праца, і ён цюкаў, як дзяцел, хоць і не ведаў, дзеля чаго ён працуе і навошта.

Аднак гэты будынак з кожным днём набываў усё больш выразныя абрысы царквы, будзіў у ягонай душы ўспаміны аб тых далёкіх часах, калі ён, маленькі хлопчык, разам з бацькам сядзеў у халаднаватай царкве і слухаў спакойны голас святара.

Юхані Норпа ўспамінаў тыя далёкія часы, калі яшчэ ў паветры не раўлі самалёты, а радыё не марда-

вала чалавечыя вушы няспыннымі заклікамі і бравурнай музыкай.

А вечарамі ён займаўся сваімі ўласнымі вырабамі з той самай чырвонай сасны, што і царкоўныя лавы. Тады ў арміі сталі вельмі модныя ўсялякія дробныя вырабы з бяросты і металу. Корпаючыся з такой драбязой, людзі проста бавілі час. А Юхані Норпа быў прыроджаны разьбяр. Гукі гэбля цешылі ягоныя вушы, не раўнуючы як добрая музыка. Ягоныя куфэрачкі былі просценькія, але вельмі прыгожыя. Апрача таго, яны давалі значную прыбаўку да тых трох марак, якія выдзяляла яму дзяржава, а таму ён займаўся гэтым промыслам яшчэ болей старанна. Ён рэзаў, габляваў і прыгаворваў, што вось так, з дапамогай такой драбязы можна пазбегнуць вялікіх грахоў і спакусаў. Вось ён і шчыруе ў вольны час, каб мець крыху на невялікія грахі, такія салодкія пасля трохмарачных дзён устрымання.

А часам ён хадзіў па вуліцы, любаваўся краявідам, разглядваў вясковыя дамы і пабудовы, глядзеў, як жывуць тыя нямногія жыхары, што яшчэ засталіся ў вёсцы. Ён часцяком наведваўся ў маленькую хацінку на ўскраіне вёскі і пасябраваў з бабуляй, якая жыла там. Ён лічыў, што чалавеку, які мае добрыя дачыненні са старымі жанчынамі, заўсёды будзе шанцаваць у жыцці.

«Частуйся, вось чаёк. Ну, чаго ж ты не п’еш чайку?» — частавала яго бабуля, і Юхані Норпа піў чай, цікавіўся жыццём у былыя часы, распытваў, ці падабаюцца ёй фіны. Напалову глухая бабуля адказвала мудрагеліста і шматслоўна, а таму зразумець штонебудзь было вельмі цяжка. Яму было прыемна, што гэтая бабулька таксама з фінскага племя, і ён часта раздумваў, а як жыла б гэтая старая ды і ён сам, калі б фінскія салдаты стаялі на Свіры ўжо некалькі стагоддзяў, а Адольф Другі і Карл Дванаццаты змаглі

б удала ажыццявіць свае задумы. Але магутная Швецыя пацііху праглынула б фінскія плямёны,і, магчыма, гэтая бабуля і Юхані Норпа цяпер размаўлялі б зусім на іншай мове...

Аднак усё ідзе як мае быць. Цяпер нашы хлопцы стаяць на запаветным рубяжы, толькі Юхані Норпе чамусьці здаецца, што яны вельмі прыпазніліся, а таму ўсё гэта даволі ненадзейна...

Апрача бабулі Норпа знайшоў сабе маладую Таццяну і стаў яе сябрам і суцяшальнікам. Муж Таццяны таксама быў салдатам, але з таго боку фронту. Яна была адной з тых многіх салдатак на свеце, якія маглі б ужо быць і сапраўднымі салдацкімі ўдовамі. І нічога дзіўнага не было ў тым, што яна слухала Юхані Норпу і паддалася на ўгаворы. Яна была бялявая, добразычлівая, прастадушная і вельмі падабалася Юхані Норпе. Аднак яны абое добра ведалі, што ўсё гэта ненадоўга...

Так пацііху жыў сабе Юхані Норпа і быў цвёрда перакананы, што жыць можна нядрэнна, нават калі ўвесь свет ваюе. Ваяваць гэтак, будуючы царкву, значна лепей, чым сядзець у акопах і пад грукат снарадаў памінаць Бога і чорта і радавацца, што гэтым разам пранясло... Ён быў на такой вайне і ведае, чым яна пахне.

Ранняй вясной, ласкавым і сонечным днём, адбылося першае набажэнства ў толькі што пабудаванай царкве. Там было шмат святароў, ваенных і цывільных, шмат важных паноў, якіх запрасілі з самой Фінляндыі, і мясцовыя жыхары з Карэліі. Афіцэры і лоты, салдаты і будаўнікі запоўнілі астатнюю частку царквы. Свяціліся чырванню сасновыя бярвенні, вострыя смаляны водар прабіваўся праз цяжкі чалавечы дух, і словы святара гучна разносіліся пад сасновымі скляпеннямі. Святар казаў, што гэта вялікія імгненні, асабліва для карэльскага народа, бо прыйшоў старэй-

шы брат і прынёс карэлам сапраўдную свабоду набажэнстваў, пабудаваў гэты храм сярод віру вайны. Гэта, можна сказаць, падарунак фінскай арміі, і памяць пра тое, бясспрэчна, будзе жыць у пакаленнях, і бацькі будуць расказваць аб тым сваім дзецям. Старонка гісторыі перагорнута, і для фінскай нацыі пачалася новая эра...

Цясляр Юхані Норпа сядзеў на лаве, зробленай ягонымі рукамі, і думаў, што гэта і сапраўды нячутая, казачная дзея, што маленькая Суомі пабудавала царкву далёкай Усходняй Карэліі. Напэўна, гэта вялікая хвіліна і для яго, хто зрабіў некалі паход у Карэлію дзеля вызвалення аднапляменнікаў. І вось мары здзейсніліся. Аднак пасля таго, першага, паходу ў ягонай душы адбыліся вялікія змены. Ён падумаў, што апрача царквы і папа карэльскі народ атрымаў яшчэ і царкоўную дзесяціну, а пераможцам будзе магутная лесапрамысловая кампанія, якая зможа гаспадарыць у карэльскіх лясах. Вось тыя паны, магчыма, і выгадаюць. Яны і будуць сапраўднымі пераможцамі, бо простаму люду ў Фінляндыі і так хапае дрэў, пад якімі можна паслухаць спеў пілы. Магчыма, салдаты і сапраўды ўспрымаюць гэта як вялікае імгненне, бо яшчэ не выйшлі з таго дзіцячага ўзросту, які ўжо даўно мінуў Юхані Норпа.

Неўзабаве пасля гэтых урачастасцяў Юхані Норпа атрымаў водпуск. Ён доўга цягнуўся ў перапоўненых цягніках, але нарэшце прыехаў у горад, дзе працаваў на пачатку вайны. У гэтым жа горадзе, на гарышчы аднаго з дамоў, ляжалі і ягоныя небагатыя пажыткі. У горадзе Норпа сустрэў некаторых родзічаў і знаёмых, але вялікай радасці ад гэтых сустрэч не было. Кожны быў заняты сабой і сваімі справамі: дзе што купіць, дзе здабыць болей тавараў ці прадуктаў. З дапамогай знаёмых Норпа знайшоў за невялікую плату сабе прытулак. «Трэба неяк сагрэцца душой»,— казаў

Юхані Норпа. Вельмі добра ён памятаў халодныя дні і ночы ў цягніках і аўтамабілях на ваенных дарогах. І водпуск грэў яго летнім цяплом.

З'ездзіў ён і ў сваю былую вёску, дзе некалі апрацоўваў свае палі. Вельмі даўно ён не быў тут, бо цяжкія ўспаміны выклікаў выгляд тых месцаў, дзе некалі яго напаткала няшчасце.

Цяпер ён уважліва слухаў гаворкі сялян аб тым, што жыць стала вельмі цяжка, што падаткі сталі непамерна высокія, што лепшых коней і гавяду забралі вайскоўцы. Пахадзіў ён і па вясковых могілках, дзе на шматлікіх белых крыжах убачыў шмат знаёмых імёнаў. Там спачывалі «геройскі палеглыя», простыя вясковыя мужыкі, а па вуліцах хадзілі маладыя ўдовы ды гыкіньчылі на мыліцах пакалечаныя, у якіх за спіною засталася кароткая вайна, а наперадзе было доўгае жыццё. Юхані Норпа купіў некалькі кілаграмаў масла, якое цяпер было ў цане, і зноў паехаў у горад.

Адпачынак ужо канчаўся, калі Юхані Норпа сустрэў аднаго свайго знаёмага, які таксама быў у адпачынку. Ён працаваў у немцаў на пабудове ўмацаванняў. Ён быў неблагі муляр і атрымліваў па пяць марак ледзь не за кожную цагліну.

Аднак ён скардзіўся, што гэта вельмі мала, бо курс маркі падае.

Норпа сядзеў і думаў, які ж розны лёс у розных людзей. Вось сядзіць ягоны аднагодак, які атрымлівае па пяць марак за сваю працу, і Юхані Норпа, які атрымлівае па тры маркі ў дзень... Праўда, Юхані Норпа трымаў свой лёс ва ўласных руках, але калі параўнаць ягоныя ўражанні з тым, што пабачылі хлопцы, якія поўзалі пад агнём...

І яшчэ адна сустрэча адбылася ў апошні дзень адпачынку. Юхані Норпа сустрэў капрала Корпі, які бадзяўся без грошай і з хворай пасля выпіўкі галавой. І ў часы старой добрай Еўропы ён быў адчайным

хлопцам, а цяпер, у гэтым ваенным свеце, кожны дзень жыў так, нібыта гэты дзень быў апошні. Норпа пачаставаў яго гарэлкай, пахваліўшыся, што грошы ў яго яшчэ ёсць, хоць ён і атрымлівае па тры маркі ў дзень. Потым ён згледзеў на нагах у Корпі даволі прыстойныя боты і прапанаваў памяняцца. Ягоныя боты за зіму стапталіся, а ён жа ў працоўнай арміі, а значыць, новых ботаў яму не здабыць, а вось Корпі, той зможа разжыцца добрымі ботамі, калі захоча. Корпі заўсёды быў просты і добразычлівы хлопец, а цяпер, калі гарэлка пачала саграваць душу, згадзіўся не вагаючыся. Так боты абулі яшчэ адны ногі. Потым дружбакі разышліся. Юхані Норпа глынуў яшчэ, падаўся на вуліцу, дзе хлюпала вада і звінелі вясеннія кроплі. Ён спяшаўся на цягнік. Салдат быў у добрым настроі, і нават успамін аб трох марках на дзень не псаваў гэтага настрою. Хто ведае, што яшчэ там нарыхтаваў яму лёс...

Эйнары Корпі, без граша ў кішэні, застаўся сядзець за сталом у піўнушцы, слухаючы музыку электраграмафона.

Змучаная гаспадыня кідала на яго варожыя і нецярплівыя позіркі.

— Цётачка, золатка, я пайду,— сказаў капрал.— Пацярпі крышку. Нашаму брату болей падышло б у брацкую магілу герояў. Там прынялі б вельмі гасцінна, аднак я пастараюся туды не трапіць...

Набалбатаўшыся, капрал Корпі падняўся і выйшаў.

Калі б капрал Корпі ў сваіх нованабытых ботах, якія ўжо парадкам знасіліся і напакутаваліся на будаўніцтве царквы і нават атрымалі рану ад сякеры на левым боце, калі б Корпі не спыніўся на скрыжаванні, каб напхаць люльку, то хто яго ведае, як склаўся б ягоны лёс...

Дык вось што з таго выйшла.

Дзьмуў вецер, і люлька ніяк не распальвалася. Корпі так захапіўся гэтым, што схамянуўся, толькі пачуўшы голас афіцэра:

— Гэй, капрал, вам што, люлька важней, чым увесь свет з усімі капітанамі і войнамі?

Капрал Корпі падняў вочы і разявіў рот, але адказаць не паспеў, бо ўбачыў, што перад ім свеціцца радасцю абветраны твар Нэпянена.

— Гэ, дык гэта ж Корпі!

— Нэпянен, дык ты ўжо капітан!

— Так, галубочак, так! Вось гэта сустрэча!

Сябры моцна пацiснулі рукі, яны пазнаёміліся яшчэ на зімняй вайне, цяпер ужо такой далёкай. Чорт ведае, што ім давялося перажыць разам.

Нэпянен, ад якога ўжо несла, не раўнуючы як ад бровара, узяў капрала пад руку і пацягнуў з сабой. Яны абодва хацелі яшчэ выпіць.

Дружбакі наведалі шмат месцаў, сустрэлі шмат новых людзей і паспыталі не адзін сорт гарэлкі. Калі скончыліся грошы, Корпі прадаў свой гадзіннік. Усё жыццё пайшло весела і безладна. Потым ужо Корпі не разумеў, куды ён трапіў і з кім мае справу. Яму было весела і лёгка.

Нейкі прыгожа апрануты чалавек трымаў яго за рукаў і казаў, што, можа б, лепей капрал пайшоў дадому. Капрал Корпі быў у выдатным гуморы. Ён устаў і пайшоў.

З адчыненых дзвярэй на зацемненую вуліцу падала палоска святла. І ў тым святле памутнелыя вочы Корпі разгледзелі шыкоўную лісу, а за лісой — жаночы твар.

— Тпрусенька, тпрусенька,— ласкава паклікаў Корпі.

Дзверы зачыніліся, і святло знікла. Знік і жаночы твар. З цемры ўзнік паліцыянт.

— Салдат, не чапляйцеся да прахожых!

— Як гэта? — здзівіўся Корпі.— Я замінаю прахожым? Вы толькі паслухайце, як ласкава я клічу: тпрусенька, тпрусенька, тпрусенька...

Аднак ён раптам раззлаваўся і ператварыўся ў бязлітаснага воіна:

— Апрача таго, тылавым сабакам няма ніякай справы!..

— Ну, пабачым! У нас ёсць месца, дзе можна адпачыць і супакоіцца.

У гэтую хвіліну ліса і жаночы твар апынуліся зусім побач, амаль нябачныя ў цемры.

— Паслухайце! — раздаўся пявучы насмешлівы голас.— Мне здаецца, што салдат паводзіў сябе даволі прыстойна. Так жа клічуць цялят, праўда? О, гэта вельмі пацешнае стварэнне... Ці не лепей нам разысціся па-сяброўску, тым болей што хутка Вялікдзень...

— З задавальненнем, пані. Але наўрад ці зможа гэты ваяка яшчэ некуды пайсці.

— Пані,— мармытаў Корпі,— шаноўная пані, мы тут маем справу з аматарам праводзіць п'яных...

— О, ды гэта гучыць як у Стрындберга,— адказала пані ў футры.

Тут дзверы рэстарана адчыніліся, і на вуліцу зноў упала палоска святла.

— Дык гэта ж мой родзіч,— выгукнула жанчына.— Пан канстэбль, я забіраю яго з сабою. Ці не зробіце вы паслугу знайсці нам возчыка?

Уражаны паліцыянт ветліва казырнуў. Напэўна, ён ведаў гэтую даму ў футрах і быў здзіўлены яе паводзінамі.

Але капрал Корпі не ведаў нікога. Ён быў у свеце хаосу і соннага адурэння. У гэтую хвіліну ён не пазнаў бы ні бацькі, ні маці. Ён мармытаў:

— Вы занадта добрая, пані...

І тут жа зарагатаў:

— Вось дык цётка! Добрая ідэя!

Пані шчыра засмяялася:

— Нядрэнная ідэя! Я ж не магу вас кінуць так... Ці, можа, кінуць?

Капрал Корпі паглыбіўся ў роздум, засунуўшы рукі ў кішэні расшпіленага шыняля, які перад тым швейцар толькі што зашпіліў на ўсе гузікі.

Прыехаў возчык, капрал залез у экіпаж, а дама села побач. Конскія капыты зацокалі па цёмных вуліцах. Корпі, здаецца, заснуў. Часам ён прачынаўся і зухавата крычаў: «Возчык, заварочвай!» Потым пачынаў з кімсьці сварыцца і зноў засынаў.

Але калі дрожкі спыніліся, ён вельмі бадзёра саскочыў, ляснуў абцасамі і ліха ўзяў пад казырок.

— Дабранач, шаноўная пані.

— Э, не! — сказала жанчына.— Не выйдзе.— Яна заплаціла вазаку і растлумачыла: — З гэтымі вясковымі родзічамі адна бяда.

Возчык пасміхнуўся ў вусы, цокнуў на каня і паехаў прэч.

— Нам, пэўна, пара і адпачыць,— сказала дама капралу, які цяпер стаў ціхім і паслухмяным.

Корпі на непаслухмяных нагах рушыў у дом.

Калі капрал Корпі прачнуўся, ён згледзеў, што ляжыць на белым мяккім ложку без фрэнча і без ботаў, але ў штанах. Адразу кінулася ў вочы, што ягоныя паношаныя штаны выглядаюць на белых прасцінах бруднымі рызманамі. У галаве шумела, а ў роце ўсё перасохла. Здавалася, што рот у яго ператварыўся ў птушыную дзюбку.

Капрал перавярнуўся на другі бок, убачыў на начным століку графін з вадой, працягнуў руку і напіўся. Стала крыху лягчэй. Безумоўна, ужо быў дзень, хоць у пакоі панаваў ласкавы прыцемак, пэўна, з-за апушчаных фіранак. Пакой быў абстаўлены вельмі гус-

тоўна. Паліраванае дрэва, скураная абіўка, на сценах карціны.

Капрал Корпі ціха вылаяўся і здзівіўся, што за праява такая здарылася з ім. Аднак на ягоным фрэнчы, які вісеў непадалёку на крэсле, па-ранейшаму былі капральскія лычкі, а не генеральскія эпалеты. Капрал паспрабаваў што-небудзь прыпомніць: «Вось чортаў Нэпянен! Куды ён мяне зацягнуў?» Але капітан знік, як ранішні туман, а капрал ніяк не мог звязаць парваныя ніткі ўспамінаў.

Ён устаў і падняў штору на акне. Вось гэта краявід! Вось дык пакой: на падлозе шыкоўны дыван, у якім патаналі босыя ногі. За акном быў двор з гожымі дрэвамі і кустамі, снег крыху падтаў і блішчэў на сонцы. На стале ляжалі цыгарэты, цыгары і нават тытунь. Ён напхаў сваю люльку, сеў у мяккі фатэль і моцна зацягнуўся. Вось дык так! Што ж, вышэй галаву, Корпі! Такое цудоўнае прабуджэнне, чаго ж лепей?

У дзверы пастукалі.

— Калі ласка!

Увайшла ўжо немаладая добра дагледжаная пані. Яна была ў сінім, сінія вочы смяяліся.

— Добрага ранку! Ну, як вы сябе пачуваеце?

Капрал Корпі падняўся і пакланіўся:

— Дзякуй, нядрэнна. Аднак я крыху здзіўлены. Я не надта вам назаляў?

— Як мне вядома, не надта.

— Праўду кажучы, я павінен задаць славутае пытанне: дзе я?

Пані пацяшалася. Яна падышла бліжэй, і Корпі добра разгледзеў, што яна і сапраўды ўжо не першай маладосці.

— А дзе вы меркавалі быць?

— Я меркаваў? — спытаў Корпі і вырашыў гаварыць шчыра, бо гэта магло спадабацца гаспадыні. Ён

махнуў рукой.— Ніякіх меркаванняў не было! Але мяркуючы па ранейшым вопыце, мне належала б прачнуцца зусім у іншым месцы. Якое прабуджэнне! Да прыкладу, гэты дыван пад нагамі. Пад нагамі павінна была быць цвёрдая цэментавая падлога, не зусім сухая і чыстая. Глотку пячэ і смажыць. І толькі настукаўшыся даволі нагамі ў дзверы, атрымаеш бляшанку з вадой.

Пані ўжо не ўсміхалася. Яна глядзела на Корпі сур'ёзна.

— Што ж! Гэтым разам вам пашанцавала...

— Безумоўна, але калі выбіваешся са звычнага кола, дык заўсёды крыху непакоішся, не зусім пэўна пачуваеш сябе...

— Нічога, вам не пашкодзіць крыху пахваляваццa. Учора вы былі зусім п'яны...

— Свіння свіннёй,— нягучна прарыпеў Корпі.

— Але я зусім забылася...

Пані растлумачыла яму, як знайсці прыбіральню, і выйшла. Зіхцеў фарфор. Безумоўна, гэта шыкоўны дом, і гэтая шыкоўная бабуля — лепшая з усіх бабуль. У галаве ў Корпі ўвесь час круцілася думка, што трэба быць ветлівым і выхаваным, каб падоўжыць такое шчасце...

Ён старанна памыўся, аднак бянтэжыў брудны мундзір. Хаця хто яго ведае, можа, ягоны выгляд і падабаецца пані. Можа, яна і хоча пазнаёміцца з гэткім зухаватым воінам-франтавіком. А ў сваіх штанах і фрэнчы Корпі пачуваў сябе выдатна...

Яго паклікалі піць каву. Прыгажуня-служка з цікаўнасцю паглядзела на госця. Аднак цяпер капрал быў непахісна адважны. «Куды ж ты заляцеў, чорны крумкач?» — падумаў Корпі[1].

Свежы абрус, свежыя кветкі і натуральная кава. Пэўна, багатая і абачлівая бабулька, халера яе бяры.

---

[1] Korppi *(фінск.)* — крумкач.

Натуральная кава вясной сорак трэцяга года! Апрача таго, каля кубачка з кавай стаяла чарка каньяку.

— Падлячыцца,— сказала пані.— Думаю, што вам палепшае. Але калі даць такіх лекаў болей, то нават самы адважны салдат зваліцца з ног, як гэта было ўчора...

— Так,— уздыхнуў Корпі.— Гэта было ўчора.

— Паабяцайце забыцца пра гэта на доўгія часы.

— Папраўдзе,— сказаў Корпі,— цяпер яно атрымаецца само па сабе. У мяне ў кішэні знайшлася толькі пяцёрка. А таму ўчора салдат і апынуўся на вышыні...

— Дык вы не выпіваеце, толькі калі няма грошай?

— Ніколі не спрабаваў. Я ніколі не складаў ніякіх планаў. Магчыма, гэта і проста зрабіць. Аднак скажыце ж, нарэшце, дзе я?

Жанчына паглядзела на яго здзіўлена і з папрокам.

— Дык вы нічога не памятаеце? Адбылося гэта так. Мне стала сумна. Я ішла па галоўнай вуліцы і слухала, як у цемры стукаюць жаночыя драўляныя падэшвы і тоўстыя абцасы чужаземных салдат. Я думала аб мінулым, і старыя часы ўсплывалі ў памяці так ярка, як асветленыя вітрыны. А навокал была цемра і тупат ног. Куды яны ішлі? Журботныя думкі захапілі мяне: «Як суцешыць мой народ? Ужо вясна, і набліжаецца Вялікдзень». Тысячы ўспамінаў атачылі мяне. Я праходзіла каля адчыненых дзвярэй і пачула, як вы клікалі цяля. Я ўспомніла далёкае вясковае дзяцінства. Я мелькам убачыла ваш твар, і ён здаўся мне страшным і цнатлівым. Напэўна, я пайшла б далей, ды тут у вас пачаліся непрыемнасці з паліцыянтам. І мне стала шкада вас, аднаго з многіх вандроўнікаў па гэтым свеце мітусні і вайны. Я вырашыла зрабіць падарунак да Вялікадня салдату, абаронцу айчыны. Я не доўга думала і дапамагла вам...

Капрал Корпі амаль збянтэжыўся.

— Гэта быў высакародны і гераічны ўчынак. Гэта вельмі незвычайны падарунак. Дзякую, пані...

— Бачыце, зацямненне надае рашучасці. І мне заўсёды падабалася даваць людзям нагоду пагаварыць...

— Капралу Корпі гэта даспадобы... Госпад заўсёды літасцівы да дурняў...

— Во як! Значыць, ваша прозвішча Корпі. А я пані Рысу, удава, домаўладальніца і камерсантка.

Гэта прозвішча Корпі даводзілася чуць і раней. Рысу былі ўладальнікамі гандлёвых прадпрыемстваў, шматлікіх дамоў у горадзе і, здаецца, у вёсках. Гэтая жанчына — гарадскі павук, але нічым не адрозніваецца ад простых людзей і, здаецца, не супраць пазабаўляцца.

Яны працягвалі размову. Высветлілася, што капрал Корпі ў адпачынку і мае некалькі дзён яшчэ.

— Значыць, вам трэба выехаць у пятніцу перад Вялікаднем. Чаму гэта вы так дрэнна разлічылі свой водпуск?

— Бо мне гэта падыходзіць найболей. У мяне няма ні дома, ні сям'і, ды і родзічаў амаль няма. Усё маё я нашу з сабою.

— Дык тады гэтыя астатнія дні вы будзеце маім госцем. Згодны?

Капрал Корпі сказаў, што не мае нічога супраць. Толькі вось каб не надакучыць пані.

Наадварот, ёй будзе вялікая радасць прывеціць і пачаставаць невядомага салдата, зрэшты, не такога ўжо і невядомага...

Так пазнаёміліся пані Рысу і капрал Корпі.

Канец водпуску прайшоў адносна нядрэнна. Яны схадзілі нават у тэатр, хадзілі па цёмных вуліцах, добразычліва, прыстойна гутарылі за кавай і за абедам. Капрал спаў у княжацкай пасцелі, сядзеў у стра-

шэнна глыбокіх утульных крэслах, смактаў сваю піпку і шкадаваў, што ніхто з ягоных сяброў не бачыць гэтага казачнага неверагоднага жыцця. Позіркі маладой феі-служкі болей ніяк не бянтэжылі яго.

Часам гаспадыня і госць разглядалі адно аднаго з прыхаванай цікаўнасцю, нібыта імкнучыся разгадаць думкі і намеры субяседніка. Няўрымслівай душы капрала Корпі нават крыху стала сумна. Аднастайная раскоша, чысціня і стамляючая ўтульнасць. І нават гаспадыня ў нейкія моманты здавалася яму паскуднай размаляванай і напарфумленай старой сыраежкай. Здавалася, што яна ўвесь час імкнецца залезці ў чужую душу. Выпіўкі яна болей не давала і грэбліва крывілася, калі капрал запальваў сваю ўлюбёную піпку. Дзіўны быў яе велікодны падарунак, ды і сама атрымала не менш дзівосны...

Калі надышоў дзень ад'езду, капрал Корпі адчуў сябе так, нібы яго выпускаюць з вязніцы. Пані правяла яго на станцыю з годнасцю, як і належыць велікасвецкай жанчыне, салдацкай маці. Яна сказала, што спадзяецца, што «арыштант» пакідае яе не навечна. Корпі ўціснуўся ў вагон са сваім пляцаком за спіной. Там былі розныя смачныя рэчы і падарункі.

Пыхнуў паравоз. Закруціліся колы. Яны памахалі адно аднаму — шыкоўная дама з перона і капрал у заношаным мундзіры з вагоннай прыступкі. На перасадачнай станцыі Корпі падсеў да двух салдат, якія змрочна прыкладваліся да пляшкі і параўноўвалі месцы, дзе яны правялі апошнюю ноч. Адзін пабываў на «губе» ў Оўлу, другі — у Каяні. Адзін пераначаваў на цэментавай падлозе, пакрытай вадкай гразёю. Толькі маленькае акенца было пад самай столлю, ды «вочка» ў дзвярах. Затое ў другім горадзе былі нават нары, голыя, але сапраўдныя нары, і вялікае акно.

Адзін салдат змрочна выслухаў гэтыя аповяды і абвясціў сваю выснову:

— Ніколі не паеду адпачываць у Оўлу.

— Не едзь! — усклікнуў другі.— Лепей едзь у Каяні альбо Ійсалмі — там губа лепшая...

Слухаючы гэтую гутарку, капрал Корпі адчуў сваю перавагу. Ён спасціг, што быў чалавекам, які прайшоў па незвычайнай дарозе.

Тое прабуджэнне было шчаслівым і шыкоўным, незабыўным велікодным падарункам.

Вясна бурна перайшла ў свой вялікі наступ.

Капрал Корпі адчуў тое на канцавой станцыі. У цэнтры, дзе збіраліся адпускнікі, паведамілі: машыны далей не ідуць, пачалося бездарожжа.

Аднак вясна ад таго не страціла сваёй прыгажосці.

Цудоўныя светлыя ранкі і вечары, радасна шчабечуць птушкі, зямля пад нагамі пасля зімовых снягоў і льдоў здавалася такой прыемнай. Нават эрзац-кава, гэтае слабое пітво ваенных часоў, здаецца, набыла абноўленую вясеннюю сілу і смак. Нават газеты на стале ў салдацкай канціне, здаецца, таксама абнавіліся, нібыта там і сапраўды з'явіліся нейкія навіны. Там пісалі пра вялікае вясенняе наступленне, і чалавек забываўся тое, што пра гэта пісалі ўжо шмат гадоў запар, каб людзі паверылі, што пытанне стаіць так, каб разам пакончыць з усімі цяжкасцямі і з цяжкімі часамі...

Капрал Корпі непакоіўся. Яму не цярпелася рушыць у дарогу. Назад, у лясныя нетры! Калі-нікалі, а дабірацца туды трэба. Невялікая радасць аціраццa тут без грошай і ніякай радасці ад таго, што адпачынак працягваецца, як шапталі яму некаторыя па-вясенняму легкадумныя галовы. Няўжо не будзе ніякай машыны? Ён усё ж адшукаў нейкі грузавік, што збіраўся ў дарогу. Але перад самым ад'ездам захварэў шафёр і лёг у шпіталь.

Салдат на пункце запраўкі, напаўняючы бак машыны, нешта бурчаў аб цяжкім салдацкім лёсе, праклінаў казарму і гераічнае салдацкае жыццё.

Аднак у гэты першы сапраўды вясенні дзень нічога не магло сапсаваць настрою капралу Корпі. Ён добра ведаў казарменнае жыццё, і цяжка было здзівіць яго такімі развагамі.

Грузавік рушыў у дарогу. Засталася ззаду вёска. Пачаўся лес, дзе за вёскай на паваленых дрэвах каля дарогі сядзелі дзве дзяўчыны. Можа, падвезці? Не! Дзяўчаты радасна махалі рукамі, і капралу падалося, што гэта дзве вясеннія птушкі радасна б'юць крыламі. «Калі яшчэ такое пабачыш? — расчулена сказаў кіроўца.— Толькі ў старой Еўропе».

Потым пачалася вясенняя дарога. Наступленне вясны растапіла не толькі снег, але і дарожную гразь. Грузавік цяжка гойдаўся па ямах, нібыта карабель, заспеты ўраганам. «Гэта яшчэ нічога,— сказаў кіроўца.— Вось што будзе заўтра».

Але колы круціліся, машына, хоць і з цяжкасцю, пасоўвалася наперад.

А яны не трацілі надзеі і памалу дацягнуліся да яшчэ аднаго пункта запраўкі.

Часам траплялiся моцна завязлыя ў гразі машыны. Некаторыя былі пакінуты шафёрамі, побач з некаторымі бездапаможна тапталіся людзі.

А потым яны трапілі ў «затор». Дарога была забіта машынамі. Кіроўцы змрочна курылі на ўзбочынах. Пасунуцца далей не было ніякай надзеі. Але праз нейкі час падышлі магутныя нямецкія цягачы, і грузавікі паціху крануліся з месца. Дарога вызвалілася, і фінскія грузавікі з гераічнай настойлівасцю рушылі наперад.

Потым яны пераадолелі яшчэ адно балота. У час шматлікіх прыпынкаў Корпі шчодра дзяліўся са сваімі спадарожнікамі ўсім тым, што змяшчаў ягоны пляцак.

Вось дзе прыдаліся велікодныя падарункі старой дамы!

Гэтае падарожжа працягвалася чатыры дні. А раней такую адлегласць праходзілі за палову дня... І калі капрал Корпі ўспомніў усе нягоды на вясенняй дарозе, ён з палёгкай выгукнуў:

— А ўсё ж прабраліся!

Аднак падарожжа капрала Корпі яшчэ не скончылася. Ягонае месца службы на працягу вайны было на пункце палявой аховы далёка ў баку ад гэтай тылавой дарогі. Туды, у Метсаваару, трэба дабірацца яшчэ кіламетраў дваццаць па лясной сцяжыне, потым плыць на чоўне або дабірацца на лыжах зімой па сумётах.

Звычайна туды раз на тыдзень хадзіў караван з харчамі, а ў такую бездараж дык і яшчэ радзей, бо на пункт аховы даставілі загадзя невялікі запас на санках. Але тэлефонная сувязь была, і Корпі далажыў аб сваім прыездзе начальніку палявой аховы, лейтэнанту Пурку.

— Ласкава просім у хату! — пачуўся сварлівы голас.— Пара ўжо і пасоўгаць фігуры...

Лейтэнант быў заўзяты шахматыст. Корпі сказаў, што трэба крыху пачакаць, можа, па начным замаразку ўдасца дабрацца на лыжах.

Ён застаўся ў гэтай маленькай інтэнданцкай вёсачцы, дзе служыў ягоны брат, сяржант і, апрача яго, шматлікія знаёмцы, з якімі можна было выдатна бавіць час. Сярод іншых непрыкметных людзей асабліва вылучаўся Пайю-Ватула, толькі што зроблены старшым сяржантам. Цяпер у яго на пагонах красавалася цэлая чарада лычак, нібыта імклівая чарада жураўлёў. Свежаспечаны старшы сяржант вызначаўся тым, што ў вольны час забяспечваў жыхароў свайго барака ласіным мясам, піў усё, нават конскія мікстуры, і тым,

што ўмеў па-майстэрску мацюкацца і брахаць, бо, па ягоных словах, ён усюды пабываў, усюды папрацаваў і меў ужо каля ста сямі гадоў працоўнага стажу. Але самай адметнай асобай быў фельдфебель Ліпацін. Ён быў жвавы, як рыбка, і меў значна багацейшы вопыт, чым Пайю-Ватула. Васемнаццаць год ён праслужыў у войску, да таго быў два гады швейцарам у гатэлі, потым мулярам, пяць гадоў працаваў у цырку, быў мараком і яшчэ шмат чым займаўся ў жыцці, а таму, як падлічылі сябры, ён працаваў ужо сто васемнаццаць гадоў. Капрал Корпі ўзгадаў, як на пачатку першай ваеннай восені фельдфебель быў вельмі незадаволены тым, што блакаду Піцера не ўдалося завяршыць. Там у яго былі свае інтарэсы. У яго, а дакладней, у ягонай жонкі, там некалі былі два дамы, так бы мовіць, родавая спадчына. Ён схадзіў на кансультацыю да юрыста, сабраўшы ўсе паперы, і той сказаў, што справа яго справядлівая і ясная. Вядома ж, ён атрымае тыя дамы ў сваё ўладанне ці, прынамсі, зямельныя надзелы, бо вайною ці мала што можа здарыцца з будынкамі. Справа надзейная. Толькі могуць узнікнуць складанасці, калі ў гэтых дамах былі рускія казармы...

Яны выпівалі, і капрал Корпі спытаў:

— А ты не пацікавіўся, ці можна атрымаць грошы за пастой салдат?

Але фельдфебель не дапяў паставіць такое пытанне.

Цяпер Ліпаціна ўжо не так хвалявала піцерская спадчына. Трыумфальныя маршы першага ваеннага лета адышлі ў нябыт. У яго засталіся толькі цікавыя згадкі пра службу ў гатэлі, у цырку і прыгоды ў трапічных джунглях.

Толькі першы дзень у гэтай інтэнданцкай вёсцы прайшоў зусім не сумна. Тут таўкліся нейкія залётныя вайскоўцы з незразумелымі функцыямі ў вайне і «ра-

зумна» жартавалі, што ў гэтай вёсачцы народ ездзіць у лазню на санках.

Аднак ненашмат затрымаўся там капрал Корпі. Ён проста болей не вытрываў і падаўся ў сваю Метсаваару...

Ён падняўся зранку і пайшоў. Ноччу крыху падмарозіла. Снег прыемна шаргацеў пад лыжамі. Боты ў капрала былі з адмысловымі пасамі для лыжаў. Ён не памяняў сваіх зношаных ботаў на базе ў вёсцы. І ў тым была маленькая хітрасць. Калі на заставе стане зусім не ўтрываць, ён возьме невялічкую камандзіроўку, каб вярнуцца сюды, да ваеннай дарогі, пабачыцца з людзьмі і памяняць боты.

Днём падтала, і навокал пачаўся сапраўдны патоп, а таму падарожжа па бязлюднай мясцовасці было нялёгкае і небяспечнае. Аднаго разу ён ледзь не праваліўся з лыжамі пад лёд, калі пераходзіў праз рэчку. Аднак сінім адвячоркам ён здаля ўбачыў знаёмыя баракі заставы.

Прыемна было скінуць са спіны пляцак, набрынялыя вадой боты і працягнуць ногі да распаленай грубкі. Таварышы ўзяліся распытваць яго, але капрал стаміўся і адказваў без вялікай ахвоты. На шчасце, ён прывёз пошту, і цікавасць таварышаў пераключылася на лісты.

Так скончыўся адзін адпачынак і пачалася служба ў чаканні другога.

А наступным днём капрал Корпі сядзеў з лейтэнантам Пурку за сталом ля маленькага акенца, з якога біла вясенняе святло, асвятляючы шахматную дошку з чорнымі і белымі фігурамі, сэнс і сутнасць якіх былі вядомыя толькі ім дваім. Астатнім людзям заставы гэты сэнс быў незразумелы. Скамянелыя постаці шахматыстаў, паглыбленых у роздум, іхняе існаванне зусім у іншым свеце драўляных цацак выклікала ў астатніх нешта сярэдняе паміж свяшчэнным страхам і звычайнай прыкрасцю.

Ці ж гэта чалавечая гульня! Карцёжнік дык хоць што скажа ці засмяецца, палаецца, калі не пойдзе карта. А гэтыя сядзяць гадзінамі, утаропіўшы вочы на дошку. Паглядзіш на іх, і пляваціца хочацца.

А фігуры шахматыстаў нерухома схіляліся над гульнёй. Няўжо ім было мала нерухомасці ў жыцці? Вось ужо два гады, як яны прыйшлі на гэтую заставу, у гэтыя самыя баракі. Прыйшлі на пачатку вайны, ды так і засталіся тут, у лясной глухамані. Навокал толькі непралазныя лясныя нетры. І болей нічога не было. Нічога нідзе не адбывалася. Быў толькі вечны спакой лясной пустэльні. Ворага таксама не было. Ён проста не існаваў. Што азначалі сляды, якія часам з'яўляліся на балоце, што азначалі далёкія стрэлы альбо ледзь чутны гул самалёта? Што гэта значыла ў сусветнай вайне, дзе ствараліся вялізныя «катлы», дзе кожную хвіліну адбывалася нешта вялікае?

Раз на тыдзень прыходзіў харчовы караван. Кавалкі масла і цукру, шалахлівыя газеты і тытунь быццам пацвярджалі, што яны ўсе належаць да баявой арміі. Лісты і газеты былі старыя. Але ў кожным нумары тлустыя чорныя літары распавядалі аб тым, што пачалося ўдалае наступленне, а контратакі ворага адбіты не меней удала.

Праз кожныя чатыры месяцы салдаты ехалі ў адпачынак і адразу ж пачыналі адлік часу да наступнага выезду. Водпуск вырываў людзей са звычайнага кола жыцця. Але адпачынак заканчваўся вельмі хутка. Яны вярталіся, і лясная пустэча зноў акаляла іх з усіх бакоў, і увесь свет са сваімі вялікімі ваеннымі дзеяннямі зноў станавіўся казачным і нерэальным.

Былі толькі абрыдлыя баракі, знаёмыя твары і неабдымны глухі лес. Нічога не мянялася. Тэлефонныя званкі і то былі вялікай падзеяй.

Лясным людзям, а такіх было шмат, гэткае жыццё здавалася зусім нармальным. Яны хадзілі па лясах,

палявалі на птушак, вавёрак, а часцяком завальвалі і ласёў. У бараках булькаталі кацялкі, сквірчэлі патэльні, а шкуры вавёрак і ласёў давалі дадатковы даход адпускнікам. Аднак з цягам часу дзічыну ў наваколлі павыбівалі. Тайга спусцела. Атрымлівалася бязрадасная карціна, нібыта цяжкі подых вайны дакаціўся і сюды.

Навокал панавала цішыня і нерухомасць.

Так цягнулася два гады. Гэта лёгка сказаць, але калі падумаеш, дык памяні ўздыхам два гады. Даўно, яшчэ маладымі і зялёнымі, яны прыехалі сюды. З тае пары нічога не адбылося і не змянілася, што б там ні крычалі газетныя загалоўкі. Настаў час, калі яны самі пераканаліся, што іх удзел у вайне стаў нейкі дзіўны, неверагодны і ледзь не кашмарны. Яны памянялі б свой ваенны лёс на любы іншы. Адных, да прыкладу, забіралі з дому, садзілі на параход і везлі на другі канец зямлі, прымушалі скакаць па шыю ў ваду. А там выбірайся на бераг, з якога ў цябе азвярэла страляюць. Гэта называлася высадзіць дэсант. А то цябе скідвалі з самалёта ў чужы тыл з дынамітам за спіной, і ты павінен некаму прычыняць шкоду і ўзрываць важныя пабудовы. Тады цябе называлі парашутыстам-дыверсантам.

Незайздросныя гэта лёсы. Але ўсё ж хоць штосьці адбываецца, чалавек жа да нечага імкнецца. Зусім не тое што на гэтай іхняй вайне, дзе не давялося нават пабачыць праціўніка, ды і наўрад ці давядзецца. Яны толькі існавалі і чакалі. Нават каманда «пад'ём» гучала прыкладна так: «Гэй, прыяцелі, уставайце, пара існаваць!»

Часам яны падазрона паглядалі адзін на аднаго. Ці не адбываецца што-небудзь не такое з прыяцелем? Навошта гэта Лалі калупае і рэжа бярозавы парасцень, пакуль ад яго нічога не застанецца? Што ён, не можа выразаць хоць бы дрэнную папяльнічку? А што

вытварае Роўві? Калі нехта казаў пра штосьці немагчымае, то Роўві праз нейкі час браўся давесці, што такое цалкам магчыма. Напрыклад, ён павыдзіраў палову барады абцугамі для чысткі аўтамата... Ці галададаваў цэлы тыдзень, паказваючы сілу волі.

А як разумець тое, што камандзір і капрал Корпі гадзінамі сядзяць за шахматнай дошкай? Сядзяць, як нежывыя, утаропіўшыся на фігуры, і гэтак асцярожненька іх соўгаюць, нібыта баяцца, што з драўляных фігур можа душа выскачыць. А тым часам на свеце адбываецца вялікае наступленне, зямля дрыжыць, дыміцца, выкідвае слупы дыму і асколкі, трашчыць, а тым часам жыццё чалавечае нічога не вартае.

Нават злосць бярэ, як гэтыя двое могуць так удала схавацца ад жыцця ў свеце драўляных фігурак.

Лейтэнант Пурку — чалавек сур'ёзны, які чакае канца вайны, каб зноў вярнуцца да сваёй працы і да сям'і. А капрал Корпі — проста вялікі пралаза, які думае, што чалавецтва ваюе толькі з-за таго, каб жыццё нейкага капрала зрабіць больш цікавым. Прынамсі, ён сам гэтак гаворыць. Цяжка даць веры, што гэты самы Корпі, які тут бавіць увесь час, гуляючы ў шахматы, у адпачынку — самы што ні ёсць беспрасветны п'янюга. Таму амаль ніхто не верыць, усе думаюць, што ён проста брэша, калі расказвае аб колькасці спустошаных бутэлек... А капрал пачынае пакрыўджана моршчыцца і круціць галавой. Ён вядзе тут звышпрыстойнае жыццё, што, праўда, не патрабуе асаблівых намаганняў. Вярнуўшыся з апошняга адпачынку, ён зусім не казаў пра п'янкі, а толькі пра нейкую багатую ўдаву, і ўвогуле здавалася, што ён зрабіў падарожжа вакол свету.

Праўда, дзякуючы яму лейтэнант можа кожны вечар праводзіць як чалавек, за ўлюбёнай гульнёй. Да шахмат лейтэнант Пурку ставіўся вельмі сур'ёзна, як поп да службы.

Потым надыходзіць момант, калі ён заўважае, што ў партнёра фігуры стаяць зусім не так, як ім належала б пры нармальным ходзе гульні. Тады можна пачуць галасы праціўнікаў.

— Як гэта твой кароль апынуўся там? Ён жа звязаны!

— Ды кінь ты! Як гэта ты звяжаш караля? Ён жа рухаецца. Вялікім людзям не належыць быць у небяспечных месцах.

— Ты мухлюеш! — крычыць Пурку.

Часта бывае, што Пурку злосна зграбае фігуры ў кучу і аб'яўляе, што з такім партнёрам гуляць немагчыма.

Аднак ужо наступным вечарам ён забывае на сваю крыўду. Тым болей што на заставе няма нікога, з кім можна было б адправіцца ў падарожжа па шахматным свеце. І зноў яны кожны божы дзень нерухома тырчаць за шахматамі. Іхнія застылыя постаці — гэта смяротная кара ў напружанай цішыні закінутай заставы.

Начальнік заставы быў такі заядлы шахматыст, што не хацеў ніводнага дня прабыць без гульні. Апрача таго, ён меў магчымасць неяк пакараць махляра Корпі за нячыстую гульню, а таму не пусціў яго мяняць боты. Справа зладзілася па тэлефоне: харчовы караван прывязе новыя боты і забярэ старыя.

Так боты зноў рынуліся ў водаварот вайны, а капрал Корпі ў новых ботах застаўся сядзець супраць лейтэнанта, пакуль старая пара прабіралася па балоце з караванам насустрач новым прыгодам.

Старыя боты, падрапаныя і аблезлыя, амаль тыдзень праваляліся ў кутку цёмнага інтэнданцкага пакоя. Потым іх закінулі ў машыну разам з такімі ж патрапанымі жыццём ботамі і іншай салдацкай амуніцыяй, і доўга яны ехалі па ваенных дарогах, іх перакідвалі з грузавіка на цягнік, з цягніка зноў на

машыну (грузавік), пакуль старыя боты не трапілі ў вялікую майстэрню, дзе ім зноў надалі ранейшы выгляд. Хаця гэта быў не зусім ранейшы выгляд, бо што мінула, тое мінула і болей не вернецца. Падэшвы зрабілі з нейкай эрзац-гумы, абцасы — з бярозы. Так далёка пралеглі ваенныя дарогі, што, здаецца, дарог было болей, чым скуры. Аднак след сякеры на халяве шавец зашыў па-майстэрску. Затым боты старанна пачысцілі, і выгляд старой пары стаў хоць куды.

А потым боты трапілі ў той самы склад, адкуль аднойчы, спакусіўшы фельдфебеля Сора мяккай скурай і свежым глянцам, яны адправіліся на другую сусветную вайну ствараць новую Еўропу.

Цяпер такі чалавек, як фельдфебель Сора, калі б у яго захаваліся ранейшыя сілы душы, проста плюнуў бы і ніколі не надзеў бы такіх ботаў. Аднак час, асабліва так званы вялікі час, зношвае і чалавека, а не толькі боты, у якіх чалавек маршыруе, стаіць, паварочваецца, танцуе або штосьці скідвае з дарогі.

Нейкі час боты віселі на жэрдачцы ў чаканні наступнай пары ног. Адным днём іх знялі і перапраўлі на склад вялікага вайсковага шпіталя. Там яны доўга віселі, пакуль малады салдат Матці Ноканен, ад'язджаючы на папраўку, не нацягнуў іх на свае ногі, перамераўшы перад тым яшчэ некалькі пар. Ён быў вельмі незадаволены, круціў носам і лаяўся, што ад гэтых ботаў за вярсту прэ салдацкім потам, а падкоўкі на абцасах і ўвогуле маюць жахлівы выгляд.

— Гэта ж сапраўдныя конскія падковы,— бурчаў ён, шчодра перасыпаючы кожнае слова смачнай лаянкай.— Калі «вось»[1] не мае нават добрых ботаў, то ці не пара канчаць...

Аднак кладаўшчык сказаў, што мяккія ялавыя боты засталіся там, дзе і ялавая скура,— далёка ў мі-

[1] Маецца на ўвазе «вось» Берлін — Рым — Токіо.

нулым. Так што няхай салдат Ноканен едзе дамоў у гэтых ботах. Ноканен скіраваўся да дзвярэй, злосна грукаючы абцасамі, нібыта выпрабоўваючы іх трываласць.

Боты зноў шчытна сядзелі на салдацкіх нагах. Аднак лепшыя часы мінулі. Што ж зробіш, вясной ліст вырастае на дрэве, шэпчацца з летнім ветрам, жаўцее і падае долу, калі надыходзіць восень. І снег замятае апалае лісце.

А вайна працягвалася, і салдацкія боты працягвалі свой шлях.

Тыдні праз два Матці Ноканен, які стаў салдатам ледзьве не ў дзяцінстве, сядзеў у апраметнай цемры чыгуначнага вагона. Аднастайна грукалі колы, і вагон брынчэў. Навокал былі такія ж, як і ён, істоты ў шэрым салдацкім сукне, маўклівыя і змрочныя, таму што адпачынкі і камандзіроўкі канчаліся, пункт прызначэння набліжаўся. Хтосьці жаваў, хтосьці курыў, хтосьці ляніва лаяўся.

Матці Ноканен пачуваў сябе нядобра. У яго была тэмпература, і яго крыху трэсла. Яго мучыла сумленне, бо паводзіў ён сябе зноў не зусім прыстойна. Перад вачыма, як жывы, паўставаў твар маці, яе дакорлівы позірк, на сэрцы было цяжка.

Пасля ранення ён колькі тыдняў праляжаў у шпіталі і атрымаў водпуск для папраўкі здароўя. Там ён добра павесяліўся з сябрамі. А што такога? Нават у песнях спяваюць, што журбота не для нас... Ён павесяліўся б і болей, ды бракавала грошай. Нават у родзічаў давялося пазычаць. І няёмка было цяпер. Але ж як жыць чалавеку? Напэўна, пра тое сказана дзе-небудзь у ваенных статутах. Але статуты мярцвелі і пакрываліся пылам на паліцах у папоў. Гэта — проста нежывыя кніжкі. А салдат — жывы, і з ім магло здарыцца ўсё, што хочаш, асабліва калі яму давалі волю і не прымушалі выцягвацца ў струнку...

Той водпуск скончыўся перад самымі Калядамі. А цяпер вось Матці Ноканен каляднай ноччу сядзіць у цягніку і набліжаецца да канцавой станцыі, якая кожны раз была для яго новай і чужой. Ды нічога дрэннага ў тым няма. Куды горш тое, што ў кішэнях няма абсалютнага нічога — ні грошай, ні тытуню. І было зусім дрэнна, калі перад вачыма ўзнікаў матчын твар, твар чалавека, які яшчэ мог абудзіць ягонае сэрца. На душы было змрочна. Ноканена мучыла прадчуванне чагосьці нядобрага.

Цягнік спыніўся, і салдат Матці Ноканен, закінуўшы свой салдацкі мяшок за плечы, падаўся на станцыю. Там было цёмна і толькі самотны ліхтар гойдаўся ў цемры. Раптам ён пачуў звонкі голас: «Матці! Матці!»

Сэрца салдата ўздрыгнула. І тут нехта яго ведае, ды яшчэ і жанчына.

І праўда! Гэта ж Кая, Кая Хольм, памяць далёкіх часоў, калі яшчэ не было ні вайны, ні цяжкіх ботаў, ні шыняля, ні акопаў, ні ран, ні бясконцага чакання, ні бяссонных начэй.

Вось яна стаіць пад ліхтаром, і яе круглы твар з казачнымі ямачкамі на шчоках такі знаёмы.

— Матці! Няўжо ты? Як мы даўно не бачыліся!

Сапраўды, як даўно! Тады Матці Ноканену было 19, а цяпер ужо 24 гады... Паўдзесятка гадоў... Лёгка сказаць, а што адбылося за гэтыя гады: спачатку абрыдлая аднастайнасць вайсковых гарадкоў, лясныя нетры, потым вайна, хвіліны, якія маглі стаць апошнімі, першая п'янка, першая жанчына, хвароба, раненне, словам — маладосць.

— Як ты памужнеў! — захоплена выгукнула Кая.

Няўжо яна змагла прайсці міма гэтых гадоў? Якая сіла зберагла тыя казачныя ямачкі на шчоках?

Потым Ноканен заўважыў, што ягоная незабыўная Кая носіць форму лоты. Лота — гэта вайскоўка, а ўсё

вайсковае так абрыдла! Здаецца, некалі ён чуў, што Кая стала лотай. А цяпер ён пераканаўся ў тым і з глыбіні ўспамінаў вярнуўся ў цяперашні час. І ўспомніў сучасную прымаўку: каханне лоты — дабрачынная падачка абшчыны.

А Кая Хольм цнатліва ўсміхалася і зусім не адчувала, якую горыч яна абудзіла ў салдацкай душы. Яна шчабятала, што ты ж, Матці, вядома, застанешся пагасцяваць у мяне.

— Нельга! Статуты і законы жорсткія...

— Аднак сёння ж Каляды! Кожны чалавек павінен мець хоць крыху добрай волі... А заўтра ідзе аўтакалона, вось з ёй і паедзеш.

Салдат Ноканен пакінуў свой мяшок і пайшоў адзначаць паперы. Людзей амаль не было — усе спяшаліся дадому запальваць калядныя свечкі. Калі Ноканен вярнуўся, Кая тупала на снезе. Лепей пакінуць пляцак у салдацкай канціне, а на кватэру цягнуць не варта. Матці скарыўся перад яе воляй. Відаць, так ужо было наканавана, што Каляды ён сустрэне тут. Яны пайшлі, узяўшыся пад ручку, і весела размаўлялі. Яны яшчэ маладыя. Апаленыя вайной гады, калі так хутка сталеюць і старэюць людзі, адсунуліся ўбок. Здавалася, што толькі ўчора яны праходжваліся берагам мора ў густым жнівеньскім змроку.

Дзяўчына прыціснулася да яго.

— Я часта ўспаміната цябе,— сказала яна.

— А я цябе,— адказаў хлопец.

Гэта была праўда. Ён часта ўспамінаў Каю, гэтыя казачныя ямачкі на шчоках, і самотнымі вечарамі ў сырым бараку, і на фронце, калі спалохана прыціскаўся да зямлі, і ў адпачынку ў вясёлай сябрыне, калі падпітыя хлопцы думалі, што трэба ўрваць крыху радасці ў сваёй маладосці, якая працякала нібыта пясок скрозь пальцы. Кая жыла ў прыватным доме, і ў яе быў свой пакой. Відаць, яна была ў добрых

дачыненнях з гаспадыняй, а таму весела адрэкамендавала Матці як свайго старога, сапраўднага яшчэ даваеннага знаёмага, прычым з такім выглядам, з якім вядуць гаворку пра сапраўдную каву або яшчэ якінебудзь тавар са старой, даваеннай Еўропы. Яна ўмела пажартаваць.

Ім было сапраўды ўтульна і добра. Гарэлі дзве свечкі. Яны абудзілі ў душы салдата згадкі аб тых часах, калі Каляды былі вялікім святам. Да дзяцінства, здаецца, можна было дакрануцца рукой, і нібыта не было тых засушлівых ваенных гадоў, якія праляцелі над ім, як сухавей над нівай, праз якія ім давялося працягнуць сваё існаванне.

Цудоўныя ямачкі на шчоках у Каі адмаўлялі рэальнасць тых гадоў.

Цыгарэта, прапанаваная гаспадыняй, здалася вельмі смачнай пасля доўгага ўстрымання.

— Няўжо ў цябе нават цыгарак няма? — спытала Кая.

— У мяне зусім нічога няма,— адказаў Матці.— Я голы як бізун і адзін на ўсім свеце.

Дзяўчына паабяцала даць яму цыгарак нават з сабою. Ім было вельмі весела. Праз нейкі час яны ўжо абдымаліся і забыліся на ўвесь гэты марны свет.

Тым больш цяжкім было для Матці Ноканена, салдата з самага ружовага дзяцінства, вяртанне да жорсткай рэчаіснасці.

Дзяўчына прыводзіла ў парадак свае непакорныя валасы, і на шчоках гарэзліва свяціліся цнатлівыя ямачкі. Яна выглядала гэткай маленькай шэльмай, якой удаўся маленькі жарт.

— Ты ведаеш, я ж замужам.

— Замужам! — аслупянеў Матці Ноканен.

Ямачкі на шчоках зніклі. Яна ўбачыла, што гэтая звестка балюча ўразіла хлопца.

— Дык чаму ж ты раней не сказала? — змрочна спытаў хлопец.

— Не магла я. Я думала, што табе будзе няёмка, нам... Я не магла цябе адпусціць...

Шчаслівае імгненне знікла. Свет і жыццё зноў набылі свае жорсткія, няпэўныя, карузлівыя, скрыўленыя абрысы.

Матці Ноканен са здзіўленнем глядзеў на Каю. Перад ім стаяла зусім чужая жанчына. Ён аж паматаў галавой.

— А ты добрая птушачка!

— Я і сама не ведаю, як так выйшла,— паспешліва загаварыла дзяўчына.— Ён добры хлопец, і малады. Ён цяпер на фронце... Ён прапаршчык.

— Вядома, хаця б адна зорачка свяціла на пагонах...— сказаў Матці Ноканен.

— А ты чаго засмучаешся? Не цябе ж падманулі, а яго...

Але салдат лічыў, што падманулі і яго. Чаму жыццё не сцёрла тыя дзіцячыя ямачкі на шчоках дзяўчыны, як сцёрла ўсё астатняе...

— Ён мне падабаецца, мой муж,— гаварыла Кая.— Але так ужо выходзіць... Я цябе як убачыла пад ліхтаром, дык адчула, што проста так я не магу цябе адпусціць...

— Дык ты была ўжо замужняй,— мармытаў Матці.

— Ты можаш таксама быць якім хочаш,— абражаная і няшчасная, адказала Кая.— Я табе хацела лепшага...

Ну адкуль чалавеку ведаць, як трэба жыць? Можа, пра тое сказана ў статуце, але статут застаўся на паліцы...

Тут у дзверы загрукалі так, што затросся ўвесь дом, і нечы голас запатрабаваў адчыніць.

Кая перапалохалася.

— Гэта Лаўры, мой муж! У апошнюю хвіліну яму далі водпуск. Што рабіць?

— Адкуль я ведаю. Можа, ён хлопец вальнадумны...

Хоць салдат быў спакойны з выгляду, аднак сур'ёзна ўстрывожыўся. Сітуацыя была для яго незвычайнай.

— Ён азвярэе, калі здагадаецца...

Прыбегла заклапочаная гаспадыня ў сваім шыкоўным халаце, і пачалася надзвычайна тэрміновая нарада. Матці Ноканен так і не паспеў як след зразумець, чый ён стрыечны брат ці родзіч, але давялося перамясціцца ў пакой гаспадыні.

У дзверы ляпалі ўсё мацней, а голас рабіўся ўсё болей нецярплівым. Нарэшце ўсё было дамоўлена. Матці Ноканен панура слухаў, як чужы мужчына з нахабнай радасцю вітаў Каю. Ён, гэты высокі юнак, які выглядаў нашмат маладзейшым ад Ноканена, у сваім некалі шыкоўным, а цяпер ужо заношаным афіцэрскім мундзіры, здаецца, зусім не звярнуў аніякай увагі на тое, што ў доме начаваў салдат. Нічога дзіўнага: свет перапоўнены салдатамі. Усё скончылася добра.

А ці так ужо добра? Салдат Матці Ноканен у тым так і не разабраўся. Занадта хутка прайшло напружанне. Ён сядзеў пануры і адзінокі, а той, другі, быў у тым пакоі, дзе ён толькі што паспытаў з Каяй хвіліны шчасця і нечаканага ўражання, нібыта ён наступіў на міну: у Каі быў муж. «Ці гуляюць зараз ямачкі на шчоках у Кайсы?»

Так думаў ён, выцягнуўшыся на вузкім ложку.

Праз шчыліну ў фіранках на цёмным небе мільгацела калядная зорка.

Матці Ноканен, салдат з самага дзяцінства, наступным днём працягваў свой шлях. Развітанне з Каяй было халаднаватым і нешматслоўным, бо побач

з ёю стаяў яе малады муж. А ямачкі на шчоках у Каі гарэзавалі, як і раней...

Калона рушыла дакладна ў прызначаны час, нягледзячы на тое, што былі Каляды. Дзьмуў сцюдзёны рэзкі вецер, і снегу было па калена. Аднак машына расчышчала снег, і грузавікі ішлі не спыняючыся. Грубка ў кузаве грэла пяшчотна, зусім як дома.

Цяпер у Матці Ноканена было што закурыць, бо ўчора вечарам Кая запіхнула яму ў кішэню пачак цыгарэт, але салдат пачуваў сябе абкрадзеным. Здавалася, што з рук вырваўся нейкі даўно забыты скарб, пра які ён успомніў, але тут жа і страціў...

Цыгарэта дымілася горка, і Ноканен у думках згадзіўся са сваім дурнаватага выгляду спадарожнікам, які праціснуўся да грубкі і, грэючы рукі, сказаў:

— Нас прадалі...

На месцы прызначэння Матці Ноканену паказалі зямлянку, а ў зямлянцы — месца на нарах, нібыта ўсё гэта чакала яго з першага дня стварэння свету. Рабочае месца было знаёмае: від на заснежанае балота, дзе чарнеў калючы дрот, гэтае павуцінне вайны... Калі ён першы раз стаў на гэтае месца, дык раптам падумаў, што ён сам, напэўна, і ёсць адзін з тых, пра якіх пішуць у газетах: нашы хлопцы стаяць на сваіх пастах.

Усё было гэтак жа, як і паўсюль, у любым іншым месцы. Заставалася толькі завучыць, як завуць новых прыяцеляў, бо імёны ў іх былі, хоць яны гэтаксама зубаскалілі і лаяліся, як і ў любым іншым месцы жартуюць і лаюцца салдаты.

— А што мы будзем рабіць, калі вайна скончыцца? — нечакана спытаў адзін з новых знаёмцаў, калі яны ляжалі на нарах.

— Як скончыцца? — здзіўлена перапытаў Ноканен.

— Калі ж небудзь скончыцца. І працаваць мы, вядома, не будзем. Трэба прыдумаць штосьці лягчэйшае і цікавейшае.

— Не ведаю,— адказаў Ноканен.— Я неяк думаў павучыцца ў прамысловай школе,— паведаміў ён.— Мой брат майстар-будаўнік...

— Хе-хе,— выскаліўся прыяцель.— Занадта старыя мы для вучобы, занадта ўжо старыя... А хто маладзейшы, тыя, вядома, вернуцца туды, адкуль прыйшлі...— Яны памаўчалі.

— Дык вайна ж яшчэ не скончылася.

— А калі скончыцца, лепей за ўсё будзе падацца куды-небудзь на Свір.

Прыяцель брыдка вылаяўся, і Ноканен падтрымаў яго. Такая ўжо была завядзёнка.

— А можа, яны куды-небудзь завязуць,— выказаў спадзяванне прыяцель.— А то возяць нас і возяць і ніводнага разу не завезлі туды, дзе б не было ўжо кухараў і хлебапёкаў.

Гэта была сур'ёзная размова, якіх Ноканену даўно ўжо не даводзілася весці. У ходзе гутаркі высветлілася, што ўсе яны баяцца пасля вайны стаць нікому не патрэбнымі.

Аднак большасць з іх жыла сённяшнім днём: хадзілі ў дазоры, атрымлівалі паёк і пошту, пісалі лісты і чакалі чарговага адпачынку.

Якімі б аднастайнымі ні былі шэрае салдацкае сукно і смурод анучаў, якімі б падобнымі ні былі зашмальцаваныя калоды картаў, з якімі салдаты бавілі час,— усё гэта было толькі звонку. Малады Ноканен пачаў разбірацца ў тым. Пад вонкавай покрыўкай хаваўся чалавек, які адрозніваўся ад іншых людзей, як адрозніваліся лісты на адным дрэве. Вайна была неаднолькавая для ўсіх. Яна адбірала ў адных верхнюю канечнасць, у другіх — ніжнюю, а ў трэціх — і ўсё цела, мяняючы іх не толькі звонку, але і знутры таксама. Ён і сам нібыта з выгляду ніяк не мяняўся, але ў душы адчуваў, што цяжкое кола вайны пракацілася і па ім — адабрала маладосць.

Матці Ноканен быў вельмі ўражаны знаёмствам з салдатам Яара.

Там была зямлянка, якую празвалі «Карцёжнае пекла», бо там штодзень, штоноч, тыднямі, няспынна ішла карцёжная гульня. Там збіраліся ўсе, хто падымаўся з-за стала або разбагацелым, або голым як бізун, таксама прыходзілі туды тыя, што хацелі паціху паспытаць шчасця.

Але самым славутым з усіх карцёжнікаў быў салдат Яара. Казалі, што некалі ён выйграў во-о-сь такую суму ці прайграў шалёныя грошы. Уражвала ўпартасць, з якою салдат Яара штодзень сядзеў за картачным сталом.

Зноў прасядзеў гэтулькі часу, не падымаючыся з месца. Усе партнёры памяняліся, а Карцёжнік Яара ўсё сядзеў.

Малады Ноканен аднойчы зайшоў паглядзець на Карцёжніка Яару.

Гарэла карбідная лампадка, і патрэсканы стол быў засланы газетамі. На яго ляцелі карты: бубны, пікі, чырвы. Перад кожным іграком ляжала карта, цэнтр і стрыжань усёй гульні, і яны неспакойна час ад часу падымалі яе за рог і заглядвалі. Іх вочы блішчэлі. Яны азартна сачылі за банкамётам і за картамі, якія ён выцягваў з калоды. На стол падалі грошы — новенькія або пакамечаныя паперкі, як смецце. Чуліся дзіўныя воклічы:

— Я ў цёмную!

— Сваё гуляй!

Матці Ноканену такое не было ў навіну. Дзе б толькі ні сышліся два ці тры салдаты, яны часцяком садзіліся за карты. Але раптам яму здалося, што гэты бязладны стол, гэтыя заклятыя карцёжнікі, напэўна, самае жудаснае відовішча, якое яму даводзілася бачыць за вайну. Яны ўсе тут, аднак лёгка ўявіць, што яны жывуць у нейкім іншым свеце, невядомым яму...

Жудасна было глядзець на салдата Карцёжніка Яара. Ён быў страшэнна худы і бледны, бо еў вельмі рэдка і не выходзіў па некалькі тыдняў з гэтай апраметнай. Бруднае шчаціньне пакрывала твар, худая шыя зарасла неахайнымі космамі, а рукі, якія спрытна пералічвалі стос грошай, былі чорныя ад даўняга бруду. Ягоныя мутныя невыразныя вочы часам блішчэлі, як у вар'ята. Цэлымі днямі ён не вымаўляў ні слова.

Шапталіся, што ён сядзіць так вось ужо два тыдні. Некалькі разоў ён еў, калі хто-небудзь з прыяцеляў прыносіў сюды ежу, і некалькі разоў ён спаў гадзіны па дзве ў самым цёплым кутку зямлянкі. З сабою ў яго заўсёды была пляшка, і ён часам глытаў адтуль нейкі напітак, а потым працягваў гульню. Стос асігнацый перад ім то пухне, то зусім худнее. Часам здавалася, што грошы зусім знікнуць. Тады ён выцягваў банкноты з-за халявы, з нейкіх патаемных кішэняў у штанах і працягваў гульню.

Ноканен бачыў, як яго піхалі пад бок:

— Гэй, табе на варту! Твая чарга!

Відаць было, што яму цяжка апрытомнець і зразумець, што ад яго хочуць. Ён павярнуў свой жахлівы, на думку Ноканена, твар і нецярпліва бліснуў вачыма:

— Ну!

— Табе на варту!

— Дык ёсць жа там гэтыя пяцідзесятнікі...

Голас, хрыпаты і замагільны, ледзь чуўся. Ён хуценька адлічваў некалькі паперак і аддаваў назад. Казалі, што ён ужо даўно адкупляецца ад свайго дзяжурства грашыма, па пяцьдзесят марак за гадзіну.

Яара цалкам паглыбіўся ў свет карцёжнай гульні. Ягоная худая, брудная і калматая, як у вар'ята, постаць, здавалася маладому Ноканену страшным і шкадобным відовішчам. Гэта быў крык перасцярогі: глядзіце, што вайна зрабіла з чалавекам!

Так, у тым была вінавата вайна. Усе тыя ігракі

спрабавалі схавацца ад вайны, ад кашмарнага жыцця ў прывідным свеце картачнай гульні. Аднак глыбей ад усіх туды праваліўся салдат Яара. Ён ужо болей не быў салдатам, ён не быў чалавекам. У яго болей не было імя. У ім жыў апантаны нячысцік гульні.

Малады Ноканен назаўсёды запамятаў гэтую жудасную замалёўку ваеннай пары: згорбленую фігуру Карцёжніка Яары ў падзямеллі, цьмяна асветленым карбіднай лямпай, шлёпанне картаў, шолах грошай... Магчыма, у тым быў і іншы, яшчэ больш жудасны сэнс: народы свету гэтаксама захоплены страшнай ваеннай гульнёй і спыніцца не могуць, пакуль не прайграюцца да ніткі...

Зямлянку называлі «Карцёжным пеклам». Але з-пад яе змрочных скляпенняў можна было выйсці на вуліцу. І калі малады Ноканен выйшаў адтуль пад вольнае неба, яму стала нават лягчэй дыхаць.

Чарнела начное неба. Там адбіваліся ўспышкі гарматных стрэлаў, недзе далёка грукала і зусім побач стракатаў кулямёт.

Але вайна калі-небудзь скончыцца. Куды падзенецца тады Карцёжнік Яара? Ці зможа ён выбрацца з гэтай апраметнай?

Здаецца, выберацца яшчэ да канца вайны. Адным днём Карцёжнік Яара прайграў усе грошы. Ні ў халявах, ні ў патаемных кішэнях не было нічога, хоць ён аблазіў усе швы. Тут жа сплылі гадзіннік, кашалёк і фінскі нож.

Тады Карцёжнік Яара падняўся, як здань, са свайго пекла і лёг спаць на нарах.

Людзі здзіўляліся, як ён мог пражыць без гульні. Аднак змог жа! Яшчэ як змог, калі скончыліся грошы...

Такім чынам Карцёжнік Яара спыніў сваю гульню.

Аднойчы Матці Ноканен убачыў, як Карцёжнік Яара ідзе на пост. Ён быў памыты, паголены і пастры-

жаны, але вельмі худы і бледны, вочы глыбока праваліліся, аднак там абудзілася нешта чалавечае. Здавалася, што ён мог бачыць не толькі карты, здольны думаць не толькі пра шанцы на выйгрыш...

Аднак малады Ноканен сумняваўся, што гэты чалавек змог канчаткова выбрацца са свайго пекла. Напэўна, д'ябал азарту яшчэ жыве ў ім, ён проста заснуў. Калі-небудзь у яго зноў будуць грошы і зноў ён спусціцца ў тую апраметную, дзе не існуе нічога, апрача гульні. І жахлівым прывідам паўставала перад вачыма Ноканена зграбная постаць Карцёжніка Яары ў глыбіні зямлянкі пад карбіднай лямпай. Неверагодна. Няўжо гэты чалавек уратаваўся.

Але душой салдата Яара цалкам завалодаў злы дух азарту. Ноканен заўважаў, што пасля таго, як Карцёжнік Яара прайграўся, ён быў вельмі неспакойны. Спаў ён зусім мала. Кожнаму салдату вядома, што такое сон на вайне, але Карцёжнік Яара спаць не мог. Ён нічога не чытаў, нічым не займаўся ў вольны час. Ён проста хадзіў паміж зямлянак і аб нечым думаў, думаў, думаў. Магчыма, перад вачыма яго мільгацелі карты. Часам ён смяяўся хрыплым смехам, нібыта бачыў перад сабой вялікі выйгрыш. Ён ніколі не спыняўся ля «Карцёжнага пекла», дзе па-ранейшаму ішла гульня, але ўжо без яго.

Аднойчы ён трапіўся насустрач Ноканену і прапанаваў памяняцца ботамі. Ноканен згадзіўся, але доўга не мог зразумець, навошта гэта спатрэбілася Карцёжніку, бо ягоныя боты выглядалі куды лепей, чым тая заношаная пара, якую Ноканен з лаянкай нацягнуў на ногі ў складзе шпіталя. Ноканен убачыў, як Яара пачаў засоўваць пальцы за халявы ботаў, нібыта спрабуючы запіхнуць туды пачкі грошай. Можа, ягоныя боты болей падыходзілі для кашалька. Можа, Карцёжніку мроілася, як ён распіхвае вакол сваіх худых лытак грошы салдат з усяго падраздзялення.

А можа, нічога яму не мроілася. Проста Яара памяняўся ботамі, каб запоўніць такі пусты аднастайны дзень без гульні, якая была для яго адзіным прыстойным заняткам у гэтым свеце.

Так думаў Ноканен, гледзячы ўслед Карцёжніку, які тупаў па сцежцы на сваіх тонкіх нагах сагнуты і счарнелы, як стары цыган.

Салдат Нійло Яара сеў за брудны стол перад сапсаванай карбіднай лямпай, абы-як залепленай мылам. Лямпа шыпела і часам ярка ўспыхвала. Яара пачаў пісаць ліст да жонкі.

— Прывітанне з..,— пачаў ён. Аднак за бадзёрым пачаткам пайшлі нейкія бяздушныя пустыя словы. Ліст не атрымліваўся. Ды і пра што пісаць? Ад пісаніны нічога не памяняецца. Ён быў амаль упэўнены, што жыццё без сям'і, без жонкі не такое ўжо і дрэннае, асабліва калі таго патрабуе час. Жонка, чый старэчы твар ён з вялікай цяжкасцю аднавіў у памяці, была надзіва далёкім успамінам, гэтак жа як і маленькая хаціна на ўскрайку вёскі, як маленькія лапікі поля, гавяда і конь, якога ўсе гэтыя гады кармілі дарэмна. Такімі ж далёкімі сталі для яго і дзеці — дачка і сын. Ён думаў пра іх, як пра чужых дзяцей. Ці мала такіх бегае ў кожнай вёсцы.

«Ну і няхай сабе жывуць»,— стомлена падумаў ён. Атрымліваюць жа яны ваенную выплату ад дзяржавы, а дзяржава куды болей надзейны апякун, чым нейкі там Яара. Так супакойваў ён сваю душу і сваё сумленне.

Праўду кажучы, ён пачаў адвыкаць ад сям'і, ад дому і ад родных яшчэ ў мірныя часы, у перадваенныя гады, калі падаўся з канём на лесанарыхтоўкі. Такое жыццё здалося яму цікавейшым. Там ён пачаў гуляць у карты, уцягнуўся ў гульню, а на вайне і зусім глузданууся ад картаў.

«Я звар'яцеў»,— думаў ён. Ён адчуваў, што прапаў

канчаткова і нічога яму ўжо не дапаможа. Ды гэта нічога. Ён цешыў сябе тым, што калі-небудзь зможа пакончыць з усім гэтым, калі ў адну чароўную хвіліну ўсе грошы, усе гадзіннікі з кішэняў усіх партнёраў пяройдуць да яго. І тады ён устане з-за стала, пацягнецца і, пазяхнуўшы, скажа, што трэба канчаць гульню, бо гуляць болей няма каму. Вось тады ён і завяжа.

А пакуль ён жыў толькі гульнёй. І цяпер таксама, думаючы, што б такое напісаць жонцы, ён бачыў перад сабою карты. Яны ляцелі і лажыліся на стол. У яго была масць, падбор масці з самай маленькай. У партнёра — таксама, але не такая моцная. Ён чуў, як партнёр бездапаможна шэпча: «Трэба глянуць...» А ў яго была тая самая галоўная карта, якая і патрэбна, якая заўсёды была ў яго.

Аднак, папраўдзе, у гульні яна была не заўсёды. Калі б яна і сапраўды была, дык яму б не давялося вось так пакутаваць без улюбёнага занятку. Ён мог бы сядзець і чакаць, пакуль пашанцуе, бо такі момант можа настаць калі хочаш. Тады ён абыграе ўсіх і кіне гульню... А магутная ваенная дзяржава будзе бацькам для ягоных дзяцей, і трэба сказаць шчыра, будзе багатым бацькам. Яара можа гуляць спакойна. Яго ж маглі тут і забіць.

Але ж Карцёжнік Яара нават лісты піша, а забітыя не пішуць. Ды аб чым ён будзе пісаць? У мяне ўсё добра, прывітанне, бывайце здаровы. Няма чаго тут распісваць! Хто-ніхто ўжо меў справу з ваеннай цэнзурай...

Потым ягоныя думкі неяк зачапіліся за каня, які там дома толькі дарма стаіць у канюшні і жарэ сена ў чаканні, пакуль вернецца гаспадар і падасца на заробкі. Жонка неяк скардзілася ў лісце, што цяжка з кормам, што цяжка трымаць каня. І раптам яго натхніла. Няхай жонка прадасць каня!

І тут ён пачаў страчыць бадзёра, складна і ўпэўнена.

Сусед, які часцяком браў каня на свае патрэбы, ужо не адзін раз прапаноўваў прадаць яго. Дык няхай жонка прадае і не думае! На грошы можна купіць дроў, і гэта будзе лягчэй, чым самой жанчыне цягаць бярвенні. Ды няхай купляе што хоча, калі не хапае ваеннай даплаты. І не трэба траціць грошай на корм каню. А коні цяпер у цане. Нійло Яара растлумачыў усе выгады гэтай справы і дадаў, што гаспадару трэба выслаць пяць тысяч марак, бо ён, Нійло Яара, тут праверне маленькую гандлёвую аперацыю...

Калі ён скончыў пісаць, то падумаў, што гэта была выдатная прыдумка і што зноў можна будзе паспытаць шчасця ў гульні. Ён уявіў, як злосна засмяялася б жонка, калі б ведала, што гандлёвая аперацыя гаспадара — гэта гульня ў карты. Як злосна яна закрычала б: «Нійло, ты звар'яцеў!» Але надзея зноў пачаць гульню завалодала ім, і нічога не было на свеце больш важнага, чым вярнуцца ў карцёжны свет...

Вядома ж, гаспадыня прадасць каня, бо клопату стане меней, ды і грошы будуць. А хто ж не хоча мець грошай? І яна абавязкова вышле патрэбную суму. Паспрабавала б яна запярэчыць тады, калі Нійло Яара быў дома!

Нійло Яара быў амаль у добрым гуморы, калі заклейваў ліст. Абудзілася надзея, што ён зноў пачне жыць. Тады можна будзе гуляць па-панску, не баючыся, што сто марак ваеннага салдацкага жалавання сплывуць імгненна і давядзецца вымятацца з-за стала.

Некалькі тыдняў ён жыў гэтай светлай надзеяй. Нарэшце грашовы перавод прыйшоў, Карцёжнік Яара зноў спусціўся ў «Карцёжнае пекла», дзе няспынна ішла па кругу карта. Ён папрасіў, каб і яму далі карту, і сеў на сваё звычайнае месца.

І ўсё пачалося зноў. Карцёжнік Яара чэзнуў над

картамі цэлымі тыднямі, плаціў за свае дзяжурствы і надзіва мала еў. Часам, калі азарт гульні крыху спадаў, ён, хістаючыся, выходзіў на волю, каб перадыхнуць, памыцца, пагаліцца і як след паесці. Ён выходзіў адпачыць ад гульні і зноў жа да яе вяртаўся. Шанцавала яму не заўсёды, але грошы пакуль што былі. Часам шырокія халявы ботаў ледзь змяшчалі пакамечаныя паперкі. Ягоныя ўчэпістыя, спрытныя, чорныя ад бруду пальцы пяшчотна мацалі след ад кулі на халяве старога бота.

Была зіма, і ўпершыню пачалі хадзіць чуткі аб канцы вайны, над гарадамі роднай Суомі з'явіліся варожыя самалёты, падалі бомбы, і счарнелыя руіны заставаліся там, дзе некалі было штосьці іншае...

Карцёжнікі часам пачыналі гаворку пра перамір'е. Але ўсе прыходзілі да высновы, што Фінляндыя таго не зробіць, бо «зяцёк» не дазволіць.

Карцёжнік Яара не цікавіўся тымі разважаннямі. Бліскучымі вачыма ён сачыў за картамі, і страшна было глядзець на яго: зарослы, брудны, худы, як здань, ён жыў у сваім сусвеце азартнай гульні і чакаў той шчаслівай хвіліны, калі абыграе ўсіх і не знойдзецца навокал нікога з грашыма, куды ні глянь.

Але такая вялікая хвіліна не настала ні ў гульні, ні ў сусветнай вайне.

Надышла вясна, снег растаў, вясенняя вада заліла акопы, і ў зямлянках стала мокра. У «Карцёжным пекле» лаяліся, калі на стол і на новыя карты траплялі вялікія кроплі.

Аднак зямля хутка высахла. Аднойчы карцёжнікі вылезлі са сваёй зямлянкі і працягвалі гульню на дне нейкай ямы. Дзівосна сінела неба, святло ашаламляла, свежая зеляніна лісця дражніла вочы, з зямлі высоўваліся зялёныя парасткі травы. Лёгкі ветрык даносіў чароўны водар вясны, часам чуліся птушыныя галасы.

Толькі наўрад ці карцёжнікі зважалі на тое. Яара ж пад адкрытым небам, на яркім святле выглядаў яшчэ страшней. Ён быў проста ўцякач з царства духаў. Для яго існавалі толькі гульня, толькі азартны карцёжны сусвет...

Потым надышоў час, калі карцёжнікі навастрылі вушы і адчулі, што пачаўся новы этап вайны. Праціўнік прарваў фронт і распачаў вялікае наступленне. Толькі Карцёжнік Яара, здаецца, не зважаў на тыя навіны. Ён слухаў іх так, нібыта гаворка ішла аб наступленні і контрнаступленні недзе далёка ў Кітаі. Ён гуляў, бо гульня працягвалася незалежна ад змен на фронце. А гульню Нійло Яара ведаў выдатна і гуляў з тонкім разлікам. Яму шанцавала. У халявах і патаемных кішэнях было поўна грошай.

Аднак вялікая мэта — усеагульная перамога, канчатковае знішчэнне супраціўлення, надзея на якую ўсё яшчэ жыла ў ягонай галаве, не была дасягнута. Партнёры пакуль што былі, хоць і не так шмат, як раней. Ды і думалі яны пра нешта іншае, і таму Яара, чые думкі засяродзіліся толькі на картах, лёгка абдзіраў сваіх праціўнікаў.

Аднак надышоў дзень, калі змены, якія даўно прадчуваліся — паражэнне на Карэльскім перашыйку,— пачалі ўплываць і на іх. Карцёжнікі вылезлі з ямы, і толькі тады канчаткова высветлілася, да чаго дагуляўся Нійло Яара. Ён выглядаў зусім бездапаможным, калі калоды картаў распіхалі па кішэнях. Ён стаяў, круціў галавой, жмурыў вочы, нешта мармытаў сабе пад нос, і адзінае, што мог зрабіць,— гэта выцягнуць грошы з кішэняў і халяў. Ён змясціў іх у болей надзейнае месца — у заплечны салдацкі мяшок. З тае пары яго ўжо ніхто не лічыў нармальным.

Аднак ён здолеў стаць у строй, калі пачалося вялікае адступленне. Аслабелы, падобны на цень, ён, хістаючыся, цягнуўся за таварышамі, як уцякач з цар-

ства ценяў. Пляцак і зброя згорбілі яго, як Дзеда Мароза, боты да крыві разбівалі і цёрлі ногі. Напэўна, ён не слухаў і не разумеў, аб чым гамоняць салдаты. Не разумеў ён і іхніх жартаў. «Хіба мы ўжо не стаім на Свіры? Ці паспелі нашы прыхапіць хаця б вядзерца з Анежскімі хвалямі, як раіў Цілт?» Салдаты з'едліва казалі, што ім так і не давялося выпрабаваць стратэгічную прыдатнасць тых рубяжоў, куды яны так азвярэла рваліся на пачатку вайны. Яны злосна цікавіліся, чаму гэта Фінляндыя, бедная і маленькая, вырашыла наведаць гэтыя месцы і нават набудаваць дарог і Божых храмаў...

Так яны размаўлялі на маршы, і гэты маленькі крытычны разбор стратэгічных дасягненняў крыху ажыўляў і суцяшаў салдат. Толькі салдат Яара ішоў моўчкі, як здань, і ўпарта, нібы цень.

Калі на світанку самалёты атакавалі калону і шмат у каго сціснулася сэрца — няўжо надышла тая хвіліна, калі вайна скончыцца навечна,— Карцёжнік Яара ўпарта сядзеў на купіне і сцягваў боты. А калі калона рушыла далей, то ўсе ўбачылі, што салдат Яара ідзе босы. Суседзі пыталіся, ці не прайграў прыдурак Яара свае боты ў карты, і Яара адказваў гэткім жа тонам, што боты ён пакінуў, бо яны даўно ўжо варагавалі з нагамі.

Боты засталіся на ўзбочыне — адзін дагары падэшвай, а другі стаяў стаўбуром. А салдат Яара працягваў свой шлях, месячы босымі нагамі Аланецкі бальшак, па якім у густых хмарах пылу вярталіся дадому калоны салдат.

Так і праляжалі боты на ўзбочыне дарогі цэлы дзень — адзін стаяў, а другі валяўся побач. Бязлітасна паліла сонца, і ад пылу яны сталі шэрымі.

А вечарам на дарозе зарыпелі колы. Праходзіў даўгі ваенны абоз. На адных калёсах сядзеў салдат

Вяйнё Лехто, высокі чарнявы дзяцюк, які звычна акідваў вясёлым дапытлівым позіркам усё навокал, і было відаць, што жыццё абрыдла б салдату, калі б яму завязалі вочы. І хоць пачынала вечарэць, рухавы позірк салдата наткнуўся на бот, які стаяў каля дарогі. Ён скочыў з воза, схапіў пакінутыя Карцёжнікам Яара боты, зноў залез на калёсы і пачаў разглядаць знаходку. Гэтыя боты яшчэ можна панасіць, ды і памер падыходзіць. Лехто гукнуў суседу: «Вось што значыць быць саюзнікам у Госпада», бо толькі сёння ўранні ён абы-як прыладзіў падэшву свайго старога бота, і вось зараз можа абуць неблагія боты, а старыя запхнуць куды-небудзь паміж стосамі папер на возе. Салдат Вяйнё Лехто ніяк не мог зразумець, навошта цягаць гэткія кучы папер. Гармату ж паперамі не зарадзіш...

Абоз шчасліва поўз усю ноч і большую частку дня. Вяйнё Лехто акідваў наваколле хуткім учэпістым позіркам і думаў: «Бывай, Вялікая Фінляндыя. Занадта вялікую костку ты ўхапіла. Не па зубах яна табе...»

Далёкі гул самалётаў насцярожваў. Ніколі не ведаеш, калі яны наляцяць з такім грукатам і чыркатаннем, што, здаецца, неба развальваецца на кускі, а гэты ўвогуле прыемны шлях дамоў ператвараць у шлях на Галгофу... Аднак таго не адбылося. На дзень спыніліся ў лесе, а ў начным прыцемку абоз пагрузілі ў эшалон. Казалі, што полк кінулі затыкаць прарыў на галоўным напрамку фронту. Абоз кіраваўся туды ж.

Цягнік рушыў з месца і пайшоў. Толькі занадта ўжо шумна і адкрыта, бо летняя ноч была светлая, хмараў на небе амаль не было, і кожную хвіліну можна было трапіць пад налёт.

А на адной станцыі так яно і выйшла. Наляцелі самалёты, загрукаталі бомбы, затрашчалі кулямёты. А калі налёт скончыўся, то высветлілася, што страты невялікія, як сярод людзей, так і сярод коней. Вось

вагонам дасталося болей. Паравоз, праўда, ацалеў, і пасля невялікай папраўкі цягнік зноў рушыў наперад.

Пад час гэтага падарожжа салдат Вяйнё Лехто ўпершыню пабачыў бежанцаў, пабачыў дарогі, забітыя вазамі, рыкаючымі каровамі і людзьмі. Жанчыны, дзяўчаты і малыя дзеці мясілі гразь на ваенных дарогах. Так яны днямі ішлі пад ветрам і дажджом. Гэтае відовішча моцна ўразіла салдата, але не атруціла яго-най душы, ■ зберагчы душу чыстай і жывой таксама нямала ў такія часы...

І салдат Лехто стаяў каля дзвярэй вагона і спяваў: «Разбагацею, калі будзе багатая спадчына...»

Ён падумаў, што спявае старую, яшчэ даваенную песеньку. Нездарма старыя казалі, што людзі паміраюць і ў мірны час, а не толькі на вайне... А ўвесь народ ніколі не загіне... Ён пройдзе праз усе нягоды, але выжыве...

На адной станцыі Лехто пагутарыў са старым інгерманландцам[1], які вельмі не любіў калгасы. Ён казаў, што яму вельмі падабаецца Фінляндыя, краіна, дзе кожны жыве як захоча.

— Нічога, трапіш і ты ў зямлю запаветную,— сказаў яму Лехто.— І пажывеш там... Вось толькі мы яшчэ крыху павоюем...

Так салдат Вяйнё Лехто разам з абозам даехаў да Карэльскага перашыйка, пабачыў там спусцелыя вёскі і падумаў, што ніколі не забудзе такога відовішча. Аднойчы ён убачыў у глухім лесе прыгожага пеўня, які зваліўся ці сам зляцеў з воза, але і тут у адзіноце збярог ганарлівую афіцэрскую выпраўку. І гэты певень таксама, на думку Лехто, уяўляў нешта незабыўнае ў гэтым свеце вайны і бежанцаў.

З фронту амаль увесь час даносіліся далёкія цяж-

---

[1] Інгерм — карэннае фінскае насельніцтва, Ленінградская вобласць.

кія ўдары. Часам яны пераходзілі ў няспынны грукат. Гудзелі самалёты. А ваенная дарога жыла звычайным жыццём: на фронт везлі боепрыпасы, а з фронту — забітых і параненых, гэты жудасны ўраджай вайны.

На гэтым полі працаваў і Лехто са сваім канём: ён ездзіў туды, куды не маглі прайсці машыны. Конь яму трапіўся рахманы і разумны: варта было гаспадару кінуцца на зямлю, пачуўшы выбух, як конь таксама лажыўся. Ён шкадаваў гэтую разумную істоту. А калі гаварыў, што, мабыць, сумна яму было хадзіць у баразне, то лавіў сябе на тым, што чакае ад каня адказу.

Так праходзіла лета. Удзень цэлыя хмары мух гудзелі ў паветры, а ў светлым змроку белай начы стракаталі конікі.

Народ чакаў навін, і навіны пачалі прыходзіць. Змяніўся кіраўнік дзяржавы, заключылі перамір'е, выйшаў загад спыніць агонь. Салдаты нават неяк разгубіліся, калі зразумелі, што пасля перамір'я яны апынуліся на другім баку фронту. Болей ніхто не абяцаў «паказаць русам», пачалі ветліва гаварыць аб Савецкім Саюзе.

Адным днём салдат Вяйнё Лехто зноў апынуўся ў ваенным эшалоне, які павёз яго на поўнач. Там, здаецца, зноў збіраліся ваяваць, каб выгнаць «зяцька». Нядаўні брат па зброі не толькі не прызнаў перамір'я, а ўзяўся падрываць масты і паліць вёскі.

На адной станцыі цягнік спыніўся надоўга. Там Лехто, які ўвогуле быў хлопцам гаваркім, пазнаёміўся з салдатам Ахвенам. Гэты салдат шукаў сваю часць пасля адпачынку.

Гэты немалады мужчына са зморшчаным карычневым тварам расказаў пра сваё жыццё, у якім было шмат падзей, але ўсе яны былі вельмі падобныя. Пад час зімовай вайны фіны спалілі ягоную хаціну, каб яна не дасталася рускім. У гэтую вайну яму пабудавалі так званы дом братоў па зброі. Аднак нядоўга ён пажыў

там. Мінулым летам давялося пакінуць і гэты дом, бо з'явіліся партызаны, каб нашкодзіць і рускім, і фінам, спалілі і гэты новы дом.

Чым яшчэ мог суцешыць яго другі салдат. Толькі абнадзеіць, што пажывём яшчэ, дай толькі адваявацца. Ды пачаставаць новага знаёмца вывезенымі з Карэліі дрэнна прасохлымі лісцямі тытуню, такімі зялёнымі, што іх называлі «царскай зелянінай».

— Дык жывуць жа іншыя,— сказаў Ахвен, нібыта вінавацячы некага, паглядзеў на заможную вёску.— Што яны ведаюць пра вайну?

— Ну, можа, што-небудзь яны і чулі,— сказаў Вяйнё Лехто, напіхаючы піпку «царскай зелянінай».

Салдат Ахвен памяняў гаворку. У яго было вострае вока, хоць, здавалася, ён і не глядзеў на гэта. Ахвен зацікавіўся ботамі салдата Лехто.

— Здаецца, я ўжо бачыў гэтую скуру,— сказаў ён.— Так і ёсць. Гэта ж мае старыя знаёмцы. Вось драпіна ад кулі, а вось той дзіркі тады яшчэ не было. Не надта ўпрыгожыў іх час...

— Яны памякчэлі,— адказаў Лехто.— Хтосьці пакінуў іх каля Аланецкага бальшака.

— Я сцягнуў іх з ног аднаго небаракі, які аддаў богу душу,— растлумачыў Ахвен.

— Так, шмат хто аддаў яе і яшчэ не адзін аддасць. Такая ўжо на свеце завядзёнка...

І яны разышліся, бо цягнік Лехто крануўся з месца.

Вяйнё Лехто болей не быў салдатам. Яго дэмабілізавалі. Аднак ён быў яшчэ ў салдацкіх ботах, у суконных салдацкіх штанах і шэрай гімнасцёрцы. А ўвогуле ў яго і не было цывільнага адзення. Малалетнія нашчадкі за гады вайны знасілі ўсё, што было. Ён знайшоў толькі невялікую старую шапку.

У першыя дні дома было вельмі нязвычна. Няўжо сапраўды скончылася? Няўжо болей не знойдзецца

«чалавека, які павядзе за сабой»? Вяйнё Лехто стаяў на восеньскім полі, абапіраючыся на рыдлёўку, высокі і смуглявы. У яго была зямля, хацінка на ўскраіне вёскі, жонка і дзеці.

Аднак ён занадта доўга быў толькі часцінкай нечага вялізнага, і цяпер яму здавалася дзіўным тое, што яго пакінулі аднаго сярод поля, і ён сам, адзін, павінен вырашыць, што рабіць, напрыклад, расчысціць гэтыя канавы або пакінуць усё як ёсць. Салдату здавалася, што ён згубіў сувязь з суседам злева і справа.

На шчасце, міма праходзіў сусед, які вельмі здзівіўся, што Лехто дэмабілізавалі. Яны павіталіся, і сусед спытаў: «Што, памяняў інструмент?» Вяйнё Лехто вельмі ўзрадаваўся суседу. За доўгія гады ён так звыкся, што побач заўсёды знойдзецца суразмоўца або слухач, а таму адзін ён нават пачуваў сябе нядобра сярод поля.

Лехто гаварыў, што канавы зараслі за той час, пакуль ён абараняў і заваёўваў новыя землі, браў стратэгічныя рубяжы і мячом праводзіў граніцу. Шмат вады выцекла за гэты час.

— Ага,— казаў сусед.— Напэўна, было б куды лепей, каб мы ўвесь гэты час капалі канавы.

Аднак Вяйнё Лехто лічыў, што ад вайны не было куды падзецца. Яна была вельмі патрэбная. І не варта думаць, што кроў і пот ліліся дарэмна, як у дрыгву. Усё ж яна прынесла змены ў свет.

— Змены? Як жа, падаткі і пастаўкі. Вось і цябе зноў кінула на поле. Можа, і канавы цяпер трэба капаць не так, як раней?

— Ну, не варта спяшацца,— сказаў Вяйнё Лехто.— І зерне не адразу прарастае. Вось я стаяў і думаў, што ёсць на свеце розныя машыны — экскаватар, канавакапальнік. Вось іх бы сюды. Мы ж ваявалі машынамі, і не варта пакідаць іх без справы цяпер, у мірны час. На вайне мне давялося пабачыць такі

бульдозер, што ты не паверыш. Ён зварочваў сосны па метру таўшчынёй і каменні ростам з гэтую хаціну. Вось гэта сіла! Калі б яе на нашыя палі, во, тады штонебудзь і выйшла б.

— Пабачыш, нічога яна нам не выкапае...

— Выкапае, выкапае і поле, толькі б нам на мірную працу, як на вайну...

Сусед пайшоў, а дэмабілізаваны Вяйнё Лехто пачаў капаць канаву рыдлёўкай, думаючы пра тыя часы, калі на палях будуць болей моцныя механізмы.

Паціху канава расчысцілася і старой рыдлёўкай. Неўзабаве Вяйнё Лехто пачаў паднімаць ногі вышэй. Боты цяклі, і ногі прамоклі. А халера з імі! Яны і раней не былі балотнымі ботамі, апрача таго, іх абувалі на розныя ногі, і нямала яны патупалі за сваё жыццё. У іх ішлі ў наступленне, тапталіся на пазіцыях, адступалі. І вось цяпер, зношаныя ўшчэнт, яны трапілі на поле, на мірную працу.

Няшмат было ад іх радасці: ногі моклі. Але дзіва было тое, што гэтыя вайсковыя боты апынуліся на нагах у чалавека, які займаўся цяжкай сялянскай працай.

Вяйнё Лехто ўсадзіў рыдлёўку ў зямлю.

— Яны сабе няхай мокнуць. На фронце не зважалі на тое, што ўсё цела мокла, абы галава ацалела. Досталося ботам, дасталося і гаспадарам. Усе хапянулі бяды.

Канава расчышчалася так, што люба паглядзець. Вада хлюпала ў ботах, і Вяйнё Лехто сказаў суседу, які праходзіў міма, што боты ўпершыню на сапраўднай працы зарабляюць сабе на хлеб.

Былы салдат Вяйнё Лехто быў чалавекам, які па слова ў кішэню не лезе, і разумеў, што да чаго.



Балада пра трох Тэрапя

# I

Шэрыя густыя хмары нізка цягнуліся над вершалінамі дрэў, над вясковым полем. Недзе ў глухамані прачнуўся вецер і, вылецеўшы са свайго патаемнага берлагу, натужліва захрыпеў хворымі лёгкімі, ад чаго хмары надзьмуліся, запаласкаліся і памянялі форму, нібыта шэрая сатлелая вопратка. Яны то выгіналіся да зямлі, як адвіслае чэрава, то потым зноў нібы падцягваліся да нябачнай хрыбціны.

Потым хмарная тканіна разадралася, і буйныя ахлопкі снегу завялі свой бязладны імклівы карагод. Завіруха мацнела, змрок ахутаў зямлю. Святло і цемра перамяшаліся ў шалёнай панылай замеці.

На схіле вялікага пагорка гнездзіўся дом Тэрапя, сяліба знакамітых Тайкінамаа. Яе шэрыя змрочныя пабудовы патаналі ў глыбокім снезе. Гаспадар, Цімо Тайкінамаа, стаіць на ганку, бледны старэчы твар ледзь выглядае з высокага каўняра даўгога шэрага кажуха. Ён занепакоена глядзіць у цемру, на шалёнае кружэнне завірухі, і адчувае, як муціцца ў галаве, як душу ахоплівае трывога і змрок. Ён цяжка ўздыхае і мармыча:

— Вясна гэта ці зіма? Сакавік настаў або зноў снежань? Пераблыталі ўсё там, на небе, змастачылі дзве зімы запар...

Ён зноў уздыхае.

— За грахі чалавечыя такія кары. Злому сэрцу няймецца. Толькі багахульства і ёсць у галаве...

Стары гаспадар паварочваецца, адчыняе рыплівыя дзверы, заходзіць у дом і ўкладваецца на ложак. Змрочны і ўстрывожаны, ён стараецца заснуць.

Надыходзіць ранне. Замець сціхла, усё наваколле пакрыта таўстою пушыстай снежнай коўдрай. Халодны паўночны вецер разганяе апошнія шматкі хмараў, і вялізнае палатно нябёсаў паволі ачышчаецца.

Гаспадар Тэрапя стаіць па калена ў снезе, заклапочана чухае патыліцу, а потым, пераваньваючыся, кіруецца да дому.

— Вось табе і вясна...

Затым ён бярэ сякеру і пачынае секчы дровы на бярозавай калодзе. Але праца не ідзе, усё валіцца з рук, і ад палення ляцяць толькі тоўстыя трэскі.

Уваходзіць гаспадыня, старая таўставатая кабета. Яна пераваньваецца з нагі на нагу, нібыта качка, і абвіслыя рукі бяссільна гойдаюцца ўздоўж цела. Яна становіцца на лаву ля сцяны і спрабуе дастаць ключ ад клеці, які вісіць высока пад столлю, аднак гэта ёй не ўдаецца, бо не можа падняць рукі: замінае агромністы жывот, і яна спаўзае на падлогу.

— Стары, дастань ты ключ,— просіць яна ціхім мяккім голасам.— Я не магу.

Стары не чуе, а можа, і не хоча пачуць. Сякера ўпіваецца ў сухое дрэва, і трэскі ляцяць ва ўсе бакі. Гаспадыня зноў спрабуе дастаць ключ, але зноў нічога не выходзіць, і яна зноў пачынае ўпрошваць:

— Стары, ды вазьмі ты гэты ключ.

Нарэшце стары са злосцю адкідвае сякеру, лезе на лаву, здымае ключ, злосна тыцкае яго пад нос гаспадыні і ашалела хрыпіць:

— Вось табе! На табе гэты ключ! Што бы будзеш рабіць у пустой клеці? Канец настае, канец усяму...

— Не злуйся, стары, і так жыцця няма.

З хлява выходзіць даглядчыца жывёлы ў рызманах

з грубай тканіны, у стаптаных старых ботах: голыя лыткі заляпаны гноем.

— Вось адна і здохла...

— Што адна? — злосна гукае стары.

— Карова. Яны ўсе пухнуць з голаду. Нават усе бярозавыя галінкі пажэрлі. Чым яшчэ іх карміць...

— А каб іх нячысцік! Няма чым карміць! Калі няма чаго жэрці каровам, дык чалавек не будзе здыхаць з голаду! Няма чаго болей чакаць! Пакуль тое лета прыйдзе!..

Цімо Тайкінамаа, гаспадар хутара Тэрапя, пачынае злосна тачыць нажы.

— Стары, стары,— ледзь чутна енчыць гаспадыня,— ды не злуйся ты так!

## II

З доўгага прыземістага хлява адну за адной выцягваюць панылых жывёлін. Рэбры ў іх выпіраюць, і гэта надае ім ускудлачаны і спалоханы выгляд, і хоць яны ледзь стаяць на нагах, аднак усё ж спрабуюць супраціўляцца. Але абух апускаецца ім на макушкі, у горла ўпіваецца нож, і кроў пырскае ў падстаўлены таз, і жывёліны з памутнелымі вачамі выцягваюць ногі. На белы снег адна за адной падаюць скрываўленыя скуры, кучы худога мяса, косці, жылле; скручаныя кішкі і трыбухі запаўняюць усё навокал хлява. Сонца, нібыта чортава вока, насмешліва сочыць з вышыні, як наліваецца снег навокал барвовымі фарбамі, і пад гэтым позіркам з паўднёвага боку пачынае капаць са стрэх.

А з хлява выцягваюць і выцягваюць жывёлін. Карова жаласна рыкае, але тут ёй на галаву апускаецца абух, нож даканчвае жудасную справу, і зноўку настае халодная цішыня. Стары гаспадар, нібы маленькі д'я-

бал, лёгка і спрытна перабягае ад жывёліны да мясных куч, рукі яго па локаць у крыві, ён спрытна здзірае шкуры і аддзяляе дробныя косці. Вечарэе, апускаюцца прыцемкі. Даўгі хлеў Тэрапя спусцеў. Паўдзесятка жывёлін ледзь стаяць ля прывязі і жаласна мыкаюць. Сорак кароў ужо забіта і асвежавана. Стары ходзіць паміж тушамі і глядзіць, ці добра распялены шкуры, ці добра ачышчана ад жылля і касцей мяса, якое перапаўняе ўвесь посуд у хаце.

Так ён і ходзіць, глядзіць, дае парады і пакрыквае, нібыта нічога асаблівага не адбылося, нібыта гэта такая ж звычная справа, як сенакос або жніво. Потым да яго даходзіць уся сур'ёзнасць таго, што адбылося, кроў пачынае бурліць: ён, сквапны ад прыроды, кідаецца ў роспач, калі хоць маленькае няшчасце звальваецца на хутар, бо лічыць гэта прадвесцем хуткай пагібелі, ён пакутуе, калі здыхае маленькае ягня, а тут ён сам пазабіваў усю гавяду!

— Сорак кароў, сорак кароў! Што за кара такая на чалавека! Ляснула ўсё, усё жыццё, прапалі ўсе мае дваццацігадовыя пакуты! Госпадзі, ці мудра ты зрабіў, няўжо я так награшыў, што трэба згубіць мяне на гэтай зямлі? — Ён паціху тупае, нешта мармыча і раптам спыняецца, зрывае шапку, кідае яе вобзем і пачынае рваць валасы.

— Я, бедалага, сам спустошыў свой хлеў! Усё жыццё марна! Смерць надыходзіць, смерць мая блізка! Няўжо мне застаецца ісці жабраваць!

Ён ідзе ў канюшню, хапае лейцы і, закінуўшы іх за кроквы, спрабуе павесіцца. Ягоныя ногі гайдаюцца ў паветры, як маятнік, а з горла рвецца прыдушаны хрып. Але тут забягае парабак і пераразае лейцы.

— Ці варта з-за такога вешацца.

Стары гаспадар Тэрапя хрыпіць, прыходзіць у прытомнасць, потым ускоквае з кавалкамі рамянёў у руках і раз'юшана раве на парабка:

— Такія лейцы парэзаў! Ты за гэта заплоціш! Што! Не будзеш плаціць?! Вылічу з платы!

Але парабак зусім не зважае на гэта. Ён бярэ гаспадара пад руку, заводзіць у дом і ўкладвае на ложак.

Гаспадар захварэў, у яго жар, смерць сціснула яго сваімі абцугамі, хоць стары і не памёр, пакуль гайдаўся на лейцах... Надыходзіць ноч, апошняя ночь Цімо Тайкінамаа...

У небе павольна плывуць аблокі, вецер уздыхае, нібы кавальскія мяхі, шуміць лес, пачынаецца дождж, і кроплі вады падаюць на страху, як цяжкія свінцовыя гарошыны. Таямнічы грукат дажджу нібыта вяшчае хуткую смерць старому гаспадару.

— Што? Няўжо дождж? Вада... Лета настае! Каму лета, а мне смерць! Я сам забіў сорак сваіх кароў напярэдадні лета! Вось забурліць жа ў чалавека грахоўная кроў, штурхае яго на вар'яцтва, на смяротныя грахі. Але смерць ачысціць усе грахі мае... Паклічце сюды Ійсакі...

Ійсакі, адзіны сын старога, пераступае парог; ён невысокі ростам, з такім жа невыразным бледным тварам, як і бацька. Спакойная павольная хада сведчыць, што ў ім цячэ вялая кроў маткі, але можа быць, што недзе ў глыбіні стаіўся і бацькаў запал.

— Ійсакі! Мая пара прыйшла, настаў мой час... Двойчы ў жыцці я рабіў вялікі грэх. Першы раз мне даравалі. Цяпер не... Нічога не зробіш, Ійсакі, але табе трэба пастарацца. Не дай загінуць хутару. І ўсяму набытку, набытку... Набытак будзе тваёй апорай. Жыві мудра, прыкладзі ўсе сілы, забагацей... Я цябе так вучыў, хоць мне і не ўдалося. А ты зможаш, я ж ведаю... Набытак, набытак...

Гэта былі апошнія словы старога Тэрапя. Ён мірна спачыў, заснуў вечным сном.

## III

Развіднела, настаў дзень. Усюды ляжаў мокры расталы снег, стаялі вялізныя лужыны, а з шэрых аблачын яшчэ падалі рэдкія кроплі, з-за хмар часам выглядвала сонца, і тады па зямлі слізгала яго шчаслівая, мяккая ўсмешка.

Дрэвы ў лесе стаялі нерухома, ад іх падалі зялёныя цені, набрынялыя пупышкі на бярозах нібыта саромеліся свайго выгляду, у галінах звінеў і пырхаў лёгкі ветрык. Гэта была старая і адначасова новая песня свабоды.

З двара даносіўся пах гною і расталага снегу, нівы стаялі шэрыя і голыя, ля кучы гною кешкаўся певень з курамі і час ад часу задзірліва кукарэкаў.

Старога гаспадара Тэрапя, абмытага і паголенага, у белай кашулі палажылі на дошку і занеслі ў асець. Ійсакі стаяў на парозе, глядзеў і думаў:

«Вось тут ляжыць цяпер мой бацька, бледны і навек супакоены. Яшчэ ўчора ён, закасаўшы рукавы, у крыві па локаць, з нажом, забіваў скаціну. У душы ў яго былі сумота і непакой. Так ён і жыў... А ці не ўсё роўна, у сумоце, у журбе, хаваючы іх пад бледным тварам, пакідаць сваё жытло зямное...»

І ў думках у хлопца паўстаюць малюнкі нягод, якія выпалі на долю гэтага чалавека, ужо нерухомага і схаладнелага, на гэтай зямлі. Колькі ж працы трэба было пакласці, колькі нечалавечых намаганняў, а потым страціць апошнюю надзею і апынуцца на гэтай шурпатай дошцы паголеным, у чыстай кашулі...

Тут ён прыйшоў у гэты свет, поўны пакутаў, і тут жа, на гэтым самым хутары Тэрапя, перайшоў у лепшае царства. Ягоны бацька быў каржакаваты стары. З магутных дрэў ён пабудаваў гэтую сялібу Тэрапя, урабіў гэтую камяністую зямлю, ператварыў хутар у багатую сялібу, набыў грошы і самастойнасць. Яго-

ная маці, гаспадыня хутара, кажуць, адбілася ад цыганскага табара і перадала хлопцу бурлівую, гарачую цыганскую кроў.

Калі яму было 15 гадоў, ён пачаў гуляць па вёсках і выпіваць. Ён збіваў замкі з канюшняў, краў коней і мяняў на гарэлку. Нарэшце бацьку ўсё гэта надакучыла, і ён сказаў: «Калі басцяешся, дык і басцяйся, ідзі сваёй дарогай, а дадому можаш не паказвацца». Тады Цімо Тайкінамаа сышоў, і гадоў дзесяць пра яго не было нічога чуваць. Дома застаўся другі сын, крыху маладзейшы, які быў дамаседам, спакойным і працавітым. Затое старэйшы сын дзе толькі не валачыўся: быў матросам на парусніку, ездзіў у заморскія краіны, то працаваў, то валацужыў, пабыў у вялікіх і малых гарадах, словам, нагледзеўся ўсяго. Потым раптам з'явіўся ў роднай вёсцы, шыкоўна апрануты, з манішкай, у чаравіках, чорных, як добра прасмолены човен. Ягоная маці памерла некалькі гадоў таму, а бацька ляжаў хворы.

Сэрца яго старога бацькі, набалелае і жорсткае ад пакутаў, паціху змякчэла, а сам ён у чаканні смерці забыўся на сынавы грахі. Ён паклікаў свайго сына-валацугу і сказаў, што аддае яму ў спадчыну палову зямлі і гаспадаркі, а будуць ягоныя браты жыць з ім ці не — гэта іхняя справа.

Такі паварот вельмі цяжка параніў сэрца дамаседлага брата. Ён сказаў, што гэта несправядліва, бо той, хто басцяўся немаведама дзе, прыйшоў і атрымаў палову таго, што ён набыў, ламаючы хрыбет на гэтай зямлі, нібы прыгонны. І, напэўна, яму давядзецца пакінуць усё і пайсці куды вочы глядзяць, бо тут ён не зможа жыць і працаваць спакойна. І ён сышоў, падаўся некуды за мора ды там і застаўся.

А старэйшы сын Цімо гаспадарыў на хутары ды заляцаўся да дзяўчыны з суседняга заможнага хутара. Бацька памёр. І тут у сынка зноў ускіпела кроў: ён

вырашыў справіць памінкі і вяселле адначасова. Вяселле трэба было згуляць як мага хутчэй, дык лепей ужо зрабіць гэта адразу, чым адкладваць надоўга. Дарэмна набожныя вясковыя бабулі даказвалі яму, што ён гнявіць Бога, дарэмна яны стараліся ўгаварыць яго пахаваць бацьку з мірам.

— Няхай бацька спіць спакойна. Думаю, што яго болей не хвалюе наша зямная мітусня, ні тым болей памінкі, вяселлі ці хрэсьбіны... Ён шмат разоў казаў мне, што ў хаце патрэбна гаспадыня. Вось і будзе самы час...

Так і атрымалася, што на адной палове хаты паміналі бацьку, а ў другой спраўлялі сынава вяселле. Стаяла восеньская ноч, у бяздонні чорна-сіняга неба мільгацелі зоркі, за лесам павольна спускаўся серп месяца, моўчкі рассціламіся палі, залітыя жоўтым месячным святлом, на дарогах і ў двары серабрыўся, зіхцеў галалёд. У пакоі, дзе спраўлялі вяселле, было ціха, здаецца, што радасць і весялосць адляцелі далёка-далёка. І толькі п'яны жаніх гойдаўся на лаўцы.

— Гэй, здаецца, што ў маім доме спраўляюць двое памінкаў! Я ж назнарок зладзіў вяселле і хаўтуры разам, каб радасць побач са смуткам была болей выразнай. Аднак здаецца, што вяселля не атрымалася, а толькі двайныя памінкі... Грайце, музыкі! Давайце вып'ем віна!

Стары сівы музыка, асмялелы ад выпітага віна, размашыста падставіў скрыпку да шчакі. Чырвона-карычневая паліроўка заблішчэла ў цьмяным святле, даўгія худыя пальцы забегалі па струнах, заскакаў смычок, і прастору пад чорнай закуранай столлю запоўнілі нізкія радасныя гукі вясельнай полькі. Яны дурманілі сваёй весялосцю, і ўсе кінуліся скакаць. Зарыпелі масніцы, далёка ў начной цемры разносіліся грукат абцасаў, гучныя выкрыкі хлопцаў і дзявочае хіхіканне. П'яны жаніх ківаўся ў пакоі, дзе ішло

вяселле, часам прабіраўся праз цёмныя сенцы на другую палавіну, дзе сядзелі пажылыя людзі і ў журбоце ўспаміналі нябожчыка, гаварылі пра ягонае жыццё і смерць і пра нядаўняе пахаванне. Да іх падсаджваўся спахмурнелы і нібыта працверазелы жаніх; здавалася, што ён таксама гараваў, але і прыслухоўваўся, калі яго лаялі за грахі і бязбожныя ўчынкі, ён слухаў, згаджаўся і ківаў галавой, але раптам успыхваў:

— Жыццё трэба пражыць! А ў магіле яшчэ наляжымся...

І ён зноў з цяжкасцю прабіраўся ў пакой, дзе ішло вяселле, рагатаў і весяліўся, ды раптам азвярэў невядома з-за чаго, стаў хапаць мужчын за грудзі, яго адкінулі ў кут, і тады ён зусім разварʼяваўся:

— Што?! Хто вам дазволіў прыйсці сюды на хаўтуры скакаць і весяліцца? Гэта ж зусім не па-людску, хоць я і не надта здаровы мужык, але ў мяне яшчэ хопіць розуму, каб спыніць гэтыя паганыя скокі ў доме, адкуль толькі што вынеслі майго небараку бацьку і пахавалі з мірам.

Ён схапіў качаргу, брыдка вылаяўся і пачаў выганяць усіх на двор. І вось ён стаіць сярод двара без шапкі, ускалмачаныя валасы стаяць дыбам, у руцэ закапцелая качарга, і раптам ён дастае з кішэні бутэльку і кажа:

— Выпʼем з гора глыток за бацькаву смерць, а другі за маё вяселле.— У бяздоннай нябеснай глыбіні цьмяна мільгалі зоркі, яны нібыта падміргвалі камусьці, заледзянелая дарога зіхцела, як алавяная стужка, і памалу шум гасцей з вяселля і хаўтураў стаў аддаляцца. Дамашнія і маладая стаялі на ганку і ля варот і на чым свет лаялі новага гаспадара, а нейкая жанчына нават заплакала:

— Хто ж думаў, што так выйдзе.

Пакрысе ўсе пачалі разыходзіцца. Маладога гаспадара, пʼянага, як цэп, так і пакінулі сярод двара. Ён

ледзь дацягнуўся да лазні, дзе яшчэ заставалася ўчарашняе цяпло, грымнуўся на падлогу і заснуў, як бервяно.

Яго знайшлі толькі пад ранне, здубянелага, з прымёрзлымі да падлогі валасамі, яго біла ліхаманка.

Хвароба была цяжкой. Шмат разоў бабулі думалі, што ён вось-вось аддасць канцы. Аднак праз колькі тыдняў ён ачуняў, падняўся і стаў даглядаць сялібу і гаспадарку з такім стараннем, нібыта гэта быў іншы чалавек.

## IV

Хвароба высмактала з новага гаспадара Тэрапя ўсе сілы, ад яго засталіся скура ды косці. Валасы пасівелі, і гэта быў ужо не той бадзёры і зухаваты хлопец, а нейкі цень былога чалавека. Аднак ягоная кроў зноў забурліла, і здавалася, што цяжкая хвароба нават прыбавіла яму запалу, ён стаў часцей успыхваць і злавацца. Аднак гэта стаў зусім іншы чалавек. Ён болей не браў ні кроплі, кінуў усе свае дурасці, а ўвесь свой запал скіраваў на тое, каб лепей весці гаспадарку, сабраць як мага болей грошай і павялічыць сваю маёмасць. У хуткім часе вясёлы некалі гаспадар Тэрапя праславіўся сваёй сквапнасцю і хцівасцю. Набытак, вялікі набытак, хлеб, каровы і грошы — вось чым была напоўнена ягоная душа. У той жа час ён удала прыкідваўся вельмі набожным чалавекам, чытаў Біблію, вёў бясконцыя размовы пра закон і справядлівасць, стараўся неяк суняць сваю бурлівую кроў, жыць ціха і спакойна, каб вымаліць сабе благаславенне боскае і пад аховай нябёсаў павялічваць свае набыткі...

Тады ж, на першым годзе, нарадзіўся Ійсакі. Болей дзяцей у сям'і не было. Маці, добразычлівая і слабая жанчына, якая ў тыя гады пачынала таўсцець, вельмі

старанна даглядала хлопчыка. Бацька шчыраваў на гаспадарцы, працаваў сам і не даваў лайдачыць іншым. Ён радаваўся, калі хутар багацеў, але адразу кідаўся ў роспач ад самых маленькіх няўдач.

Час ішоў, і ў памяці Ійсакі адкладваліся першыя карціны жыцця. Лета, хата на схіле пагорка, шэрыя будынкі, зялёная трава, сіні купал неба, чорныя крылы ластавак, выган, дзе пасвіліся каровы, вятрак за зялёным полем на вяршыні пагорка, вялізныя крылы шумяць і свішчуць ад ветру... Або зіма, калі ён залазіў каленькамі на лаўку і глядзеў праз заінелае акно на вялізныя сумёты, адшліфаваныя да бляску вострымі нябачнымі ножыкамі ветру, на дзівосныя снегавыя ўзоры... Снежны пыл белым воблакам ляцеў да лесу, і там, на чорным фоне заснежаных дрэў, бачыліся дзіўныя лялечныя галовы, пачварныя тулавы, вялізныя пагрозлівыя пальцы...

Хутка Ійсакі давялося пакінуць свае назіранні. Бацька пачаў прымушаць хлопчыка працаваць у гаспадарцы. Як толькі маленькія рукі памацнелі, каб можна было трымаць лейцы, бацька, выцершы хлопчыку нос, ставіў яго на калёсы і вучыў кіраваць коньмі. Ён даваў яму ў рукі нож і загадваў выразаць розныя рэчы для гаспадаркі, прымушаў хлопчыка раздзімаць мяхі ў кузні, словам, рабіць усё, што было яму па сілах, а часам нават і болей. Вечарамі, пры лучыне, ён вучыўся чытаць, ды так старанна, што пот выступаў на лбе.

Цімо Тайкінамаа выхоўваў свайго сына. Яго ўвесь час мучылі згрызоты сумлення за маладыя гады свайго жыцця. Ён быў упэўнены, што стаў некалі распуснікам і п'янюгай толькі таму, што яго гадавалі занадта вольна, што да яго зазелянелых парасткаў жыцця ў свой час не паставілі ніякіх падпорак. Ён рос і поўзаў па свеце, пакуль ягонае амаль загубленае жыццё не паставіла апору само сабе, і па гэтай апоры яно пачало

ўздымацца ў вышыню і ў той жа час пусціла магутныя карані, здабываючы сокі зямлі.

З ягоным сынам такое не павінна было здарыцца. Галінкі трэба прыгінаць маладыя. Ён узяўся надаваць свежай гліне патрэбную форму, пакуль сын быў малады і хуткі, бацька пачаў забіваць для яго ў зямлю падпоркі, угнойваць глебу і паказваць сыну правільны шлях у жыцці, якое ён сам сабе намеціў, пасля таго як рассеяўся туман маладосці...

Ён увесь час вучыў Іісакі, што ў жыцці трэба заўсёды працаваць, быць ашчадным і багацець любым чынам. Ніякіх адхіленняў ад бацькавага следу не магло быць. Цімо Тайкінамаа быў ад прыроды запальчывы і нецярплівы, але ў прысутнасці сына трымаўся надзіва ціха і прыстойна. Ён заўсёды стрымліваўся, амаль ніколі не лаяўся, хоць заўсёды сварыўся з усімі сваімі парабкамі і суседзямі. Хлопчык памятаў толькі два ці тры выпадкі, калі бацька дарэмна крычаў на яго.

Яны працавалі ў кузні. Стаяў асенні вечар. Хлопчык раздзімаў мяхі, палаў вугаль, і чырванела жалеза ў горне, вычварна скакалі сіняватыя языкі полымя. Бацька старанна махаў молатам, ён каваў жалеза на кавадле, праз комін у начную цемру выляталі іскры. Бацька загаварыў, як прапаведнік, бо заўсёды размаўляў з сынам павучальным тонам. Ён казаў, што чалавек павінен старанна працаваць, старанна ўрабляць зямлю і ніколі не пакідаць свайго дома. Толькі прыдуркі цягаюцца па свеце ды туляюцца па розных закавулках... Аднак як толькі хлопец спытаўся, чаму ж бацька некалі пайшоў па свеце...

— Што?! — аж скамянеў ён, і потым усунуў жалеза ў агонь, хоць яно і так чырванела, ажно іскры паляцелі.— Ты што пытаешся, смаркач? Што табе нагаварылі людзі? Можа, і ты хочаш пайсці? Дык ідзі, ідзі на Паўночнае мора, на рыбацкі карабель! Ідзі! Паку-

пайся ў ледзяной вадзе, пажары гнілых селядцоў ды цюленевага тлушчу... Я ведаю, што гэта такое...

Пакрысе ён супакоіўся. Нетаропка, спакойна ён растлумачыў сыну, што некалі сышоў праз дурасць, проста маладая прыдуркаватасць заела. Вось таму ён усё і ведае, ведае цвёрда. Чалавек павінен жыць на адным месцы. Перакаці-поле нічога не набудзе.

Аднойчы яны былі ў млыне. Дзьмуў суровы, пранізлівы асенні вецер. Шумелі крылы, высокі млын дрыжаў, з грукатам круціліся цяжкія жорны, і ручаёк мукі плаўна сцякаў у мяшкі на падлозе. Маленькі Ійсакі прыслухоўваўся і думаў. Ён успомніў, як Хура, сварлівая старая з маленькай хаціны, папрасіла крыху мукі, а бацька толькі пакрактаў: «Няма чаго даць».

«Шмат каму патрэбна мука»,— сказаў сабе Ійсакі, успамінаючы бацькава «няма чаго даць».

— Што?! — загарлаў бацька.— Што ты слухаеш усялякіх лайдакоў? Ты думаеш, у нас шмат мукі? Ты што думаеш, яе трэба раздаваць усім гультаям, якія валяюцца на лаўках і не хочуць жыць сумленна? Дык што, усё, набытае цяжкаю працай, раздаць гэтым п'янюгам? Пайшоў прэч!

Хлопец, не спыняючыся, бег дамоў праз цёмнае поле з такім адчуваннем, што бацька яго бывае часам надзіва жорсткім і незразумелым. Калі спусціцца з пагорка Тэрапя ў вялікую вёску каля рэчкі, то там, каля ручая, стаіць чырвоная хацінка з белымі аканіцамі. Там жыў Матці-Законнік, дзіўны чалавек, які пісаў вяскоўцам справавыя паперы, адпраўляў іх у кантору, хадзіў па судах. У ягоным жытле было безліч кніг, кучы паперы, бутэлек з чарнілам і алоўкаў. І вось аднойчы Цімо Тайкінамаа ўбачыў там свайго сына. Матці-Законнік сустрэў яго на дарозе, завёў да сябе ў хаціну, пачаў паказваць яму кніжкі і малюнкі, тлумачыў, што да чаго, а хлопчык слухаў, разявіўшы рот і гледзячы на ўсё вялізнымі вачыма. У Матці-Законні-

ка была свая запаветная мара: людзей трэба вучыць і развіваць...

Аднак Цімо Тайкінамаа вельмі раззлаваўся, вылаяў Матці-Законніка, а сыну заляпіў моцнага ляшча.

— Ты што?! Можа, збіраешся забіць сваю галаву гэтай дрэннню — кніжкамі, збіраешся вучыцца ў кніжнікаў, дурань ты гэткі?.. Ежа, добры дрын і праца — вось і ўся твая навука.

Не, Цімо Тайкінамаа не дазволіў сыну збочыць з правільнага шляху. Чытаць яму дазвалялася толькі ў нядзелю і толькі Біблію, тую самую Біблію ў драўляных вокладках, якую набыў яшчэ дзед. І не болей. Яму ніколі не дазвалялі хадзіць у госці.

Так рос і разумнеў Ійсакі. З маладых гадоў ён быў сур'ёзным чалавекам. Ён ніколі не смяяўся, не гаварыў шмат, і толькі зрэдку на ягоным невыразным твары з'яўлялася нешта падобнае на ўсмешку. З маленства ён прывык да працы і ні хвіліны не мог пасядзець без справы. Уначы ён моцна спаў, у нядзелю чытаў Біблію, спачатку без асаблівай ахвоты, а потым, паступова, гэты занятак прыйшоўся яму даспадобы. І вось тады ўсякія сумненні пакінулі яго, хлопец зразумеў усе перавагі заможнай гаспадаркі, урадлівых палёў, дагледжанай жывёлы, хлеба і грошай. Ніколі ён не растраціў дарэмна ніводнага пені, не паспытаў, як пахне люлька з тытунём, не пакаштаваў гарэлкі і віна, не купіў сабе ніякіх убораў, нічога.

З цягам часу Цімо Тайкінамаа стаў пазіраць на сына са здзіўленнем і нават пачаў пабойвацца яго. Бацька нават не паверыў, што яму ўдалося выгадаваць такога бездакорнага і дасканалага чалавека, ці гэта толькі яму здаецца... Аднак усё было на праўдзе. І Цімо Тайкінамаа нават пачаў асцерагацца сына, паважаць яго. Стары паверыў сыну і з цвёрдай надзеяй сказаў яму, стоячы на парозе смерці:

— Ты зможаш...

Такі быў гэты хлопец, Ійсакі Тайкінамаа, новы гаспадар Тэрапя, які стаяў, прыхіліўшыся да вушака, і апошні раз глядзеў на бацьку, што ляжаў на лаўцы памыты, паголены і ў белай кашулі.

Жаўрук, першы вясновы жаўрук, узляцеў у бясконцую сінечу веснавога неба і радасна заспяваў сваю песню. Дождж скончыўся. Толькі кроплі вады зіхцяць на галінках і напамінаюць аб тым, што нядаўна быў дождж.

## V

Ійсакі Тайкінамаа стаў гаспадаром Тэрапя, калі яму не было яшчэ і дваццаці гадоў. Вяскоўцы і хутарскія прыслухоўваліся, прыглядваліся, ажно шыі выцягвалі ад цікаўнасці: як жа ён будзе жыць? Бацькі ж, які прыглядаў за ім, кіраваў і паказваў, ужо не было... Ці прачнецца ў ім бурлівая кроў сям'і Тэрапя. Аднак не відаць было, каб яна прачнулася і завіравала. Малады Ійсакі жыў, як і бацька, ён быў сур'ёзны, негаваркі і пахмурны. Ён працаваў ад цямна да цямна, і гэтак жа працавалі ягоныя парабкі. Непрыкметна і спакойна праходзілі тыдні. Кожную нядзелю зранку ўсе парабкі хутара Тэрапя праходзілі адзін за адным у прысценак, дзе выпівалі па чарцы гарэлкі. Такая завядзёнка існавала на хутары ўжо не адзін дзесятак гадоў, і малады гаспадар не адмяніў яе, хоць сам не браў у рот ні кроплі. Потым ён завальваўся спаць на ложак або чытаў Біблію, адкуль яшчэ стары гаспадар-нябожчык узяў гэтую завядзёнку, бо там гаварылася: няма такой зямлі, дзе не было б віна.

Праз пару гадоў хлеў на хутары зноў запоўніўся скацінай, як і тады, калі Цімо Тайкінамаа ў апошні дзень свайго жыцця ўзяўся забіваць яе. Свіран быў поўны збожжа, а металёвы куфэрачак поўніўся гра-

шыма, там ляжалі яшчэ бацькавы грошы, а на самым дне, напэўна, былі яшчэ і дзедавы.

Вяскоўцы з цікавасцю паглядвалі на яго: ці не здарылася чаго на хутары, ці не завёў ён сабе гаспадыню, жанчыну з якога-небудзь багатага дому, ці не заляцаецца ён да сваіх румяных парабчанак. Аднак Ійсакі хадзіў па-ранейшаму замкнёны і негаваркі. Адразу відаць, што ў яго жылах цячэ бляклая вада, а не чырвоная бурлівая кроў, бо не было ў ім ні страсці, ні пажадлівасці.

Але ўсе памыляліся, жаданне ў яго было, адно, ды такое моцнае, што другому месца ў душы ўжо не заставалася: любым чынам павялічыць набытак, сабраць як найболей грошай.

Неяк узімку ён адшукаў куфэрак бацькі-нябожчыка, поўны грошай.

— А ці варта збіраць грошы, каб яны ляжалі вось так дарэмна? Ці не лепей пусціць іх у свет, паліхвярыць? Няхай яны памножацца ў два, у дзесяць разоў...

Ійсакі пачаў даваць грошы сялянам і торпарам пад вялікія працэнты. Памалу ён стаў нібыта банкірам, гэткім вялікім тузам, якога ненавідзелі і баяліся, паважалі і схіляліся перад ім. Ён праславіўся сваімі дзіўнымі звычкамі, але болей за ўсё скнарлівасцю і сквапнасцю. Апранаўся ён не так, як усе людзі, і нават калі еў, здавалася, шкадаваў ежы. Узімку і ўлетку ён насіў адзін і той жа запэцканы гноем брудны кажушок, аўчынную шапку і старыя збітыя боты.

Калі хто-небудзь не мог заплаціць яму працэнтаў або станавіўся банкрутам, то ўсё ішло з малатка і, вядома ж, трапляла да Ійсакі Тайкінамаа. Ішлі гады, і ён стаў уладальнікам шматлікіх дамоў, палёў, вялікіх лясоў, тоўстых пачак грошай, вэксаляў, якія цягнулі грошы з няшчасных людзей, ды так, што многія былі вымушаны пакідаць бацькоўскія дамы таму, у каго і так было безліч усялякага дабра.

Гаспадара Тэрапя болей ужо не звалі Ійсакі. Цяпер яго клікалі Вялікі Тэрапя. Ён, як і раней, жыў у сваёй шэрай хаціне на схіле пагорка, на вяршыні якога шумеў вятрак. Стары дом гніў, развальваўся, страха замшэла і цякла. Аднак нічога не рамантавалася. Калі разбівалася акно, то яго затыкалі жмуткам саломы або зацягвалі старым мяшком. Завесы ў дзвярах заржавелі і жудасна рыпелі, маснічыны прагнілі і патрэскаліся, вялікая печ аблупілася, і з яе абвальваліся кавалкі цэглы, паўсюль ляжаў пыл, па кутках вісела павуціння. У вялікай, ростам з чалавека, шафе не ішоў, а кульгаў стары гадзіннік, па закураных сценах бегалі рудыя прусакі. Увесь дом і ўсё навокал яго здавалася змрочным і закінутым. Аднак Вялікі Тэрапя пачуваў сябе выдатна, ён хадзіў па хутары, нешта задумваў, кіраваў працай у сваім вялізным уладанні, размаўляў з даўжнікамі, учыняў дамовы. Часцяком ён хадзіў паглядзець свае неабсяжныя землі, дзе жылі яго арандатары і наглядчыкі. Ён ішоў па пясчаных дарогах у брудным кажушку, у зімовай аўчыннай шапцы, у старых ботах, нягледзячы на летнюю спёку. Убачыўшы ля дарогі свой дом, ён уважліва аглядаў усе закуткі, даваў парады парабкам і рабочым, вячэраў, лажыўся спаць, а ўранні падаваўся да другога дома. Такім чынам ён кружляў па сваіх уладаннях, пакуль зноў не вяртаўся ў стары хутар на схіле гары. Адтуль віднелася балота Суўрысуо[1], вялізнае і гладкае, як возера. Ён асушыў яго, выкапаў канавы і апрацаваў зямлю. Дзесяткі шэрых і белых адрын паўсталі на зазелянелым тарфяніку.

Вялікі Тэрапя быў магутным і незвычайным чалавекам. Трыццаць гадоў ён гаспадарыў на хутары, і нічога там не здарылася, а ён толькі разбагацеў. У яго не было ні жонкі, ні дзяцей. Вяскоўцы дзіву даваліся:

---

[1] Суўрысуо — Вялікае балота *(фінск.)*.

навошта ён толькі гаміць такое багацце? Куды яно пойдзе, калі ён памрэ? Ды і ці памрэ ён? Нельга ўявіць, што Вялікі Тэрапя памрэ, альбо ажэніцца, ці ўвогуле што-небудзь зменіцца ў ягоным жыцці.

Ён здаваўся непахіснай каменнай скалой, вечнай і непарушнай.

## VI

Непадалёку ад Вялікага балота, на пагорку, зарослым верасам, стаіць абшарпаная хаціна, сцены яе аблупіліся, тарфяныя глыжы адваліліся ад старых дошак, а побач стаіць, нібыта ўтапіўшыся ў бульбяную яму, стары хлеў, за якім пачынаецца невялікі камяністы надзел. На ім пракапана вялікая канава і ляжаць сабраныя груды камянёў. У хаціне жыве шавец Тэпо, торпар, які арандуе зямлю Тэрапя. Чалавек ён ужо не малады, высахлы і згорблены ад вечнага сядзення над ботамі і калодкамі, з ім жыве і старая Хура, ягоная жонка, балбатлівая, языкатая жанчына. Яе язык меле няспынна, як тыя жорны, і спыняе сваю працу толькі тады, калі старая засынае. У хляве стаіць карова з крывымі рагамі і вялізным раздутым жыватом. Дзеці даўно пакінулі бацькаў дом і падаліся ў свет, хто сплаўшчыкам, хто парабкам. Часам хто-небудзь з іх у нядзелю наведвае бацькоў, прыносіць кулёк з кавай, цукрам, гасцюе дзень-другі, а потым зноў сыходзіць.

Стаіць цёплы жнівеньскі дзень. Пад пякучым сонцам на палях Тэрапя збіраюць ураджай. Адна за адной падымаюцца ў шэраг жаўтаватыя сцірты, з дзвярэй асеці вылятае мякіна. Там жа стаяць і першыя мяшкі з зернем, зранння адтуль даносіцца стукат цапоў. Восень ужо не далёка, і ў халаднаватым вячэрнім сутонні далёка чуваць шматгалосыя пастуховыя дудкі.

Настае жнівеньскі вечар. Вялікі Тэрапя ідзе з балота, у руцэ ён трымае вялікі сукаваты кій, нешта бурчыць і лаецца. Ён гоніць карову шаўца Тэпо, якая кідаецца ўбок, злосна рыкае, калі гаспадар Тэрапя набліжаецца да яе. Праз нейкі час яны падыходзяць да хаціны шаўца Тэпо. Тут жа з'яўляецца старая Хура і бярэ карову пад сваю абарону.

— Лепей прыглядала б за сваёй хваробай, каб не лазіла па чужых пасевах,— злосна бурчыць гаспадар.

— Ага! — таранціць у адказ старая.— Бач ты які пастух знайшоўся! Заганяў жывёлу, ледзь кішкі не павылазілі... Ды абгарадзі ты свае пасевы, а то беднай скаціне няма дзе нават божай травінкі скубянуць!

— Ды не гыркай ты! Кожны павінен жыць як можа, а не квапіцца на чужое. Ды скажы свайму Тэпо, каб прыйшоў да мяне.

— Як можа! Каб ты так жыў, як мы можам! А ты толькі смокчаш з усёй акругі, што людзі здабываюць потам...

Старая лаецца і мітусіцца, супакойвае карову, але Тэрапя ўжо не слухае, а кіруецца з кійком у руцэ да свайго хутара.

Ідучы да дому сярод гаспадарчых пабудоў, ён заўважае, што на ганку сядзіць мужчына з люлькай у зубах, і сінія клубы дыму ўздымаюцца ў яснае летняе неба. Вялікі Тэрапя спыняецца і нейкі час сочыць за мужыком з-за вугла. Вось стаіць ён, Вялікі Тэрапя, чалавек, якога праклінаюць і баяцца, нізкарослы высахлы стары з адбіткам шэрых цяжкіх дум на твары, з шырокім бугрыстым ілбом, тоўстым носам; ягоны рот зласліва пасміхаецца, рэдкая сівая барада тапырыцца, а ў вачах пад грозна нахмуранымі брывамі закіпае злосць.

Вось і зноў у двары славутага Тэрапя сядзіць нейкі арандатар з далёкага хутара. Напэўна, ён атрымаў ліст ад Вялікага Тэрапя, у якім гаспадар патраба-

ваў заплаціць працэнты. Безумоўна ж, ён не зможа заплаціць. Адкуль ён возьме патрэбную суму? І вось зноў чужая зямля і двор пяройдуць да Вялікага Тэрапя, як гэта было ўжо шмат разоў. Вось і сядзіць абяздолены селянін на ганку Тэрапя, смаліць люльку, стараючыся схаваць трывожныя думкі.

Нарэшце Тэрапя падыходзіць, і чалавек на ганку ўстае.

— Добры дзень, гаспадар.

— Добры, добры. Ну, што там чуваць у Каўкокорпі?

— Нічога такога. Як звычайна, летам спяшаемся сабраць збожжа, аднак, відаць, ураджай не дапаможа. Вось я і прыйшоў па справе... Вы нам пісалі, што тут трэба заплаціць працэнты...

— Ага, так, так. Патрэба з'явілася. Зямля ў гэтых мясцінах, пэўна, госць і сам бачыў, запусцілася. Трэба ўгнойваць.

— Так яно так, але ж я не магу адразу ператварыць ураджай у грошы. Вось я і прыйшоў пагаварыць, можа, як-небудзь інача́й уладкуем справу, можа, яшчэ можна крыху пачакаць, а я памалу заплачу́...

— Не, так не пойдзе! Я і так доўга чакаў. Мне патрэбны гэтыя грошы як мага хутчэй.

— Дык вы, кажуць, багаты чалавек, і я думаю, зможаце ўладкаваць як-небудзь інача́й гэтую справу, калі захочаце.

— Э, ці мала чаго наслухаешся ў вёсцы. Усе чамусьці лічаць мяне багатым, а людская звычка такая, што малога затопчуць, а вялікага і моцнага ўздымуць пад неба. Мяне называюць і сквапным, і хцівым, хай сабе. А вось вам я па сакрэце скажу, што ў мяне і сапраўды шмат спраў і, калі трэба, я магу і выкруціцца, як сапраўдны камерсант. Вось паглядзіце на мой дом. Вялікі дом, але толькі чорт ведае, што там ніжэй падмурка, а што пад страхою.

— Хм, хм, цяжка даходзіць. Аж у галаве не ўкладваецца, у вас жа столькі грошай. Вам жа столькі плоцяць працэнтаў. І я плаціў, дык няўжо мне разарыцца?

— Так, так, але дамова ёсць дамова...

Селянін у шэрай світцы з люлькай у зубах зазлаваўся, голас ягоны пачаў дрыжэць.

— Во, цяпер я бачу, што людзі праўду кажуць: вы абдзірала, бязлітасны чалавек, бессаромны ліхвяр, сквапны крумкач. Так я і думаў, калі пазычаў грошы, што суну палец у пашчу д'яблу. Вось і пойдзе ўсё ветрам.

— Дык навошта ж бралі?

— Ад дурасці сваёй. Калі б тады ў маёй галаве было б так светла, як цяпер, дык я б ні капейкі не ўзяў бы. Як-небудзь перабіўся б. Ды загналі ў бяду неспадзяванкі, вось і ўзяў у вас вялікую суму пад вялікія працэнты. Узяў, бо вы самі давалі такую суму. Я думаў, што такі багаты чалавек не пачне адразу каркаць. А я праклінаю той дзень.

— За тым, хто спазняецца, і смерць ганяецца.

— Усё яно так. Вы так спяшаецеся, што, пэўна, давядзецца прадаць зямлю. Тады хоць пачакайце, пакуль знайду пакупніка.

— Будзе лепей, калі я сам у вас куплю. А калі вы будзеце доўга шукаць пакупніка, то і працэнты набягуць большыя.

— Вось і я ўляцеў! Зусім як іншыя. Распрадаю дом і гаспадарку. А вы толькі што талкавалі пра ўмацаванне зямлі і гаспадаркі.

— Так яно так. Не ў гэтым справа. Калі дом прадаецца, ці не ўсё роўна, хто заплоціць? Якая вам розніца, той ці іншы.

— Вядома. Але мне не ўсё роўна, бо вы павялічваеце бацькаву спадчыну, а я ў канцы года і сваю страчу.

Ён цяжка ўздыхнуў і напхаў люльку.

— Значыць, так. Зямля вам, нерухомасць вам, а рухомая маёмасць мне. Танна аддаю, за бясцэнак. Ды што зробіш, калі так прыспешваюць...

— Зямля! І клець, і хлеў, і дрэвы, і ўсё, што расце на зямлі...

— Вядома. Апрача збожжа і гародніны, якую ўдасца сабраць. Гэта ўжо мне.

— Добра, дамовіліся. Што там сварыцца за мякіну...

— Гэй! — кліча ён парабчанку, якая праходзіць да выгану.— Бяжы да Матці-Законніка, хай шыбуе сюды, і як мага хутчэй! Аформім пакупку як след, запішам кантракт у паперу. Хадзем у хату.

І яны зайшлі праз дзверы, якія жудасна і жаласна зарыпелі.

## VII

У хуткім часе па дарозе паспешліва крочыць Матці-Законнік. Матці — даўгалыгі, танканогі чалавек, і пры кожным кроку шырокія калашыны матляюцца, нібыта пустыя. У яго доўгі і вузкі бледны твар. Усім сваім выглядам ён нагадвае жорава, які крочыць па балоце: разважлівы, абачлівы, гультаяваты. Ён часта бывае хадайнікам. Многія вяскоўцы даручаюць яму пісаць дзелавыя пісьмы, якія спачатку трэба пісаць па-шведску, а потым па-фінску, просяць парады ды і ўвогуле карыстаюцца ім як спрытным судовым пралазам. Ён жыве ў чырвонай хацінцы непадалёку ад бальшака, і адзіная кампанія ў яго — гэта папера, чарніліца ды стос кніжак. Ён патрэбен Вялікаму Тэрапя як законнік, дарадчык, блізкі чалавек, ледзь не лепшы сябра гэтага дзіўнага багатага пустэльніка. Вось такі гэты чалавек, што ў чорным касцюме з капелюшом на

галаве і скураным партфелем пад пахай падскокваючы ўваходзіць у двор і кіруецца ў хату.

— Ага! — гукае Вялікі Тэрапя.— Вось і той чалавек, які нам патрэбен. Цяпер зоймемся справай. Трэба аформіць невялічкую куплю-продаж з гаспадаром Каўкокорпі. Ты вучоны чалавек, напішаш паперку так, каб да яе не прычапіліся ні суды, ні ўлады са сваімі зачэпкамі.

— Ну, такое мы можам зрабіць колькі хочаш,— гаворыць Матці-Законнік. Як зазвычай, ён прамаўляе гэта суха, адрывіста, сур'ёзна, старанна падбіраючы словы. Ён кладзе партфель, ставіць на стол чарніліцу, кладзе некалькі лістоў паперы і пачынае пісаць.

— Якія галоўныя прадметы куплі?

— Гаспадар Каўкокорпі прадае мне ўвесь свой зямельны ўчастак па зніжанай цане. Мы доўга спрачаліся аб тым, але вось неяк дамовіліся. Увесь яго доўг будзе скасаваны. За ім жа застанецца і ўся рухомасць.

Настае цішыня. Матці-Законнік рыпіць пяром. Вялікі Тэрапя выцягвае шыю і заглядвае яму цераз плячо. Сонечныя прамені пранікаюць у хату праз задняе акенца, закратаванае лучынай і напалову заткнутае жмуткам саломы. Сонечнае святло выхаплівае са змроку прагнілыя маснічыны, па хаце пралягаюць дзівосныя ўзорныя цені. Гаспадар Каўкокорпі сядзіць, смокча піпку і злосна плюецца:

— Вось так і сплывае з рук бацькава зямля, і цягайся бяздомны па дарогах...

— Нічога,— суцяшае Вялікі Тэрапя,— ёсць на свеце людзі і бяднейшыя за цябе. У цябе вунь яшчэ тавару, як на кірмашы, ды каровы, ды коні.

— А дзе мне іх трымаць, тых кароў ды коней?

— Нічога, пад божым небам усім месца хопіць.

Каўкокорпі змаўкае. Чуецца толькі таканне гадзінніка і рыпенне пяра.

— Гатова,— кажа нарэшце Матці-Законнік.— Трэба толькі падпісаць вам і сведкам.

Вялікі Тэрапя ўважліва вывучае паперы і асцярожна выводзіць унізе свой подпіс.

— Не тое каб прыгожа,— кажа ён,— аднак надзейна. Ніводзін судзейскі жук не прыдзярэцца... Цяпер трэба аддаць яму закладную і паклікаць сведак. Можна і парабкаў.

Ён выходзіць на ганак, крэхча і падзывае дзяўчат, якія працуюць у агародзе, а потым ідзе ў другі пакой на другой палове хаты. Каўкокорпі і Матці-Законнік застаюцца ўдвух. Сонечныя промні працінаюць густыя клубы тытунёвага дыму.

— Што за чалавек гэты гаспадар? Ці праўду пра яго людзі кажуць?

Матці-Законнік адрывае ад папер свой даўгі бледны твар.

— Што за чалавек? А па мне дык усё роўна, чалавек як чалавек...

— Не, гэты, здаецца, не такі, як усе, занадта самаўпэўнены, бяздушны...

— Усе людзі з адной гліны злепленыя, з аднаго цурбака вычасаныя. Хтосьці яго не любіць, хтосьці любіць, а так чалавек як чалавек...

Вяртаецца гаспадар, а з ім і дзве маладыя дзеўкі; яны ціхенька смяюцца, прыкрываюць рот далонямі ды і ўвогуле паводзяць сябе так, нібы прыйшлі на нейкую забаву. Нарэшце Матці-Законнік дабіваецца ад іх нейкага толку, дзяўчаты ставяць на паперы крыжыкі замест подпісу, і гаспадар праганяе іх на работу.

Каўкокорпі крэмзае сваё імя, кідае на стол ручку, ды так, што пырскае чарніла, і кажа:

— Ці лёгка гэта надрапаць такое...

— Затое цяпер гэта сапраўдная папера,— адказвае Вялікі Тэрапя і аддае закладную. Каўкокорпі прабягае яе вачыма і засоўвае ў кішэню.

— Вось з-за такога чалавек траціць і жытло, і маёмасць.

— Наадварот! У самы час яе справілі... А то магло быць і не такое...

Каўкокорпі не пярэчыць, ды і адказаць яму няма чаго, ён увогуле, здаецца, і не слухае. Яго апанавала нейкая спешка і непакой. Ён ідзе да дзвярэй і спатыкаецца на прагнілай маснічыне.

— Ну вось,— гаворыць Вялікі Тэрапя. За апошняе дзесяцігоддзе ён стаў болей гаваркім, зусім не той маўклівец, што ў маладосці, дый ці была яна, маладосць, у гэтага чалавека.— Ну вось,— паўтарае ён,— жыві сабе паціху, асцярожненька... Грошы — ненадзейная справа, спытайся ў каго хочаш.

Каўкокорпі падыходзіць да дзвярэй, надзявае шапку і паварочваецца.

— Бывайце здаровы,— неяк разгублена прамаўляе ён,— і дзякуй вам.

— Куды спяшаешся? — гукае гаспадар.— Ну што ж, бывай, бывай.

Чалавек у шэрай вопратцы ідзе па дарозе з піпкай у зубах, хоць там не засталося ні крыхі тытуню. Пясок рыпіць пад нагамі, і змрочныя думкі круцяцца ў галаве.

Шмат хто выходзіў вось так з хутара, а сам хутар, шэры і запушчаны, па-ранейшаму стаяў на сваім пагорку, падміргваючы дзіўным святлом напалову пустых цьмяных вокан.

## VIII

Вялікі Тэрапя сядзіць за сасновым сталом без шапкі і перабірае стос грошай, пералічвае і нешта мармыча сабе пад нос. Вусны яго напружана варушацца.

Восень у разгары, змяркаецца. У печы гарачае вуголле пераліваецца блакітнымі агеньчыкамі.

Прыйшоў шавец Тэпо і стаіць каля самых дзвярэй, але гаспадар, заняты сваёй справай, не заўважае яго. Раптам ён падымае галаву, глядзіць на госця, уздрыгвае і хуценька запіхвае грошы пад аблавухую шапку на стале.

— Ты што гэта, Тэпо? — бурчыць ён.— Чаго ты падкрадваешся і залазіш у дом, не пастукаўшы. Дый дзень добры сказаць трэба альбо яшчэ што там.

— Хай гаворыць, хто гаворыць, а хто не, то не.

— Паскудная звычка. Нібыта злодзей які. Ды гэта ў вас у крыві.

— Як гэта?

— А вось так, мне здаецца. Памятаеш, як пастар нас вучыў, калі рыхтаваў да канфірмацыі: хай кожны трымае свае рэчы асобна — сваё пры сабе.

— Ды ўжо ж, такія, як я, сваё не забываюць. Ды і што там берагчы? Шыла ды калодку.

— І я так думаў бы, але ўсё ты блытаеш. То дровы возіш сабе з майго лесу, то жэрдзе з майго плота паліш у печы, ды так, што ад плота амаль нічога ўжо не засталося, сена маё крадзеш з балота. Словам, хапаеш усё, што бачыш.

Тэпо натапырваецца і хоча запярэчыць.

— Як вы можаце мне проста ў вочы казаць, што я злодзей?

— Магу, калі даказана.

— Ну, яшчэ трэба паглядзець. Ёсць закон і для беднякоў.

— Ай-яй, Тэпо! — голас Вялікага Тэрапя гучыць па-бацькоўску, нібыта ён хоча штосьці параіць і перасцерагчы небараку.— Табе ж будзе горш, калі справа дойдзе да суда. Цябе там па галоўцы не пагладзяць. У мяне ж і сведкі ёсць. Ды навошта нам, суседзям, па судах цягацца, сварыцца, можна і так уладзіць. Пад-

шыеш вось нам чаравікі за тыдзень, і ўсё ў парадку.

— Уго, за тыдзень! А як жа мне са старой жыць, калі я буду працаваць задарма?

— А як і раней жылі. Бульба ў вас ёсць, пракормі-цеся.

— Дык што, нам бульбу за восень з'есці толькі дзеля таго, каб вы грошай не трацілі?

— Ды гэта ж табе лепей, а то бакі пралежыш, Тэпо. Ты, злодзей ты гэткі, мне і так нямала шкоды робіш, ды яшчэ й таргуешся. Каб ты браў меней, ды не ў мяне, ■ ў іншых...

Тэпо не вытрымлівае і неасцярожна прызнаецца:

— Дык я і іншых не забываюся.

Зморшчыны ля вуснаў Вялікага Тэрапя робяцца выразнымі і глыбокімі, ён падміргвае шаўцу, але зноў становіцца суровым і сур'ёзным.

— Дробны ты зладзюжка, Тэпо, на вялікія справы цябе не хопіць. Ды навошта мне такі сусед пад бокам? Вось зацягну цябе ў суд, калі не паразумнееш.

— Ну давайце,— злуецца шавец,— ну якая вам з мяне карысць, мне ўсё роўна, магу і пасядзець на казённых харчах.

— Глянь ты на яго! Ты ж па старцах пацягнешся і хаціну сваю страціш. У цябе дома ёсць якія-небудзь паперы ці кантракты?

Стары шавец пахмурнеў, глядзіць нейкі час пад ногі, потым неахвотна выціскае:

— Давядзецца, відаць, брацца за вашыя чаравікі, калі ў вас ні на грош няма сумлення.

— Гэта ў мяне няма сумлення? Калі б у мяне не было сумлення, дык стаў бы я тут з табой цырымоніцца... І трэба мне ад цябе, старога суседа, толькі адно: каб жыў ты па справядлівасці...

— Дык вось якая ў вас да мяне справа, нездарма мяне старая папярэдзіла, аб чым вы тут хочаце паталкаваць.

— Хопіць і гэтага на першы раз.

— Вядома, ужо хопіць,— кажа Тэпо, паварочваецца і выскоквае на вуліцу.

Вялікі Тэрапя перамешвае вуголле ў печы і пасміхаецца:

— Нікуды не дзенецца, паправіць. І грошы цалейшыя будуць.

Ён дастае з-пад шапкі пачак грошай, хавае іх у надзейнае месца, асцярожна пераступаючы цераз прагнілыя маснічыны, ходзіць па хаце, нешта абдумвае, усміхаецца і бурчыць. Цямнее, вуголле дагарае і адкідвае ў пакой чырванаватае цьмянае святло.

Рыпяць дзверы, і на парозе ўзнікае цёмная постаць Матці-Законніка з партфелем пад пахай. Ён ледзь паспявае сказаць добры вечар, як з-за спіны выскоквае старая Хура, жонка Тэпо, кашчавая, рухавая жанчына з жаўтаватым зморшчаным тварам, вытарклым вострым падбародкам і пранізлівым, як нож, позіркам. Сцяўшы кулакі і выцягнуўшы шыю, яна раз'юшана выскоквае на сярэдзіну пакоя. Твар яе палае пад вялізнай хусткай, завязанай на нейкі адмысловы вузел. Падол зашмальцаванай сукенкі трасецца. Яна падскоквае, хрыпіць і шыпіць ад злосці.

— У, паскудная морда, жмінда, торба з грашыма,— малоціць яна, і словы яе цякуць патокам, бурляць, як настаялая брага, а часам і зусім перарываюцца.

— Як ты пасмеў сказаць Тэпо ў вочы, што ён злодзей, вінаваціць яго! Знайшоўся праўдзівец! Сам ты зладзюга, якіх свет не бачыў. Хоць ты і завешся Вялікім Тэрапя, хоць і грошы ў цябе не малыя, а я табе скажу, што зладзюга ты, з усіх зладзюг зладзюга. Ты вечна нас абдзіраеш, грабежнік, рабаўнік, крывасмок! Ды яшчэ хочаш, каб на цябе задарма хрыбты ламалі! Усе ў акрузе павінны напаўняць тваю торбу! А, вось яшчэ цаца заявілася! Пудзіла, жардзіна, чарвяк су-

дзейскі! Пішаце паперкі, закладныя, каб потым смактаць з людзей апошнія грошы і сокі! Няўжо гэта заўсёды будуць цягнуць толькі дробязь, а такіх вось шчупакоў пакідаць на выраст?!

Матці-Законнік спалохана кідаецца ў куток, прыціскаецца да сцяны, і твар яго палатнее. Вялікі Тэрапя прыгаломшана стаіць сярод пакоя, збянтэжаны такім наскокам. Нарэшце ён апрытомнеў і гарлае, стараючыся перакрычаць раз'юшаную старую:

— Што ты вярзеш, старая ведзьма!

А Хура раз'юшана махае кулакамі перад самым яго носам.

— Ты яшчэ нешта мармычаш, пень пустагаловы! Хоць раз паслухай праўду! Не заўсёды ж гнуцца перад табой і кланяцца, як залатому цяляці, як архангелу з вогненным мячом. Хоць ты і багацей і грошай у цябе чэрці не злічаць, але ж ты не Гасподзь Бог, а вось для цябе бог гэта капейка.

Вялікі Тэрапя нарэшце асмялеў і пастараўся ўставіць слова:

— Закрый зяпу!

— Ха-ха! Во які ты скарбнік божы, манеты твае пазелянелі і вэксалі твае пакамечыліся! Вось ім і пакланяйся, ха-ха!

Старая злосна рагоча, і гэты смех выводзіць Вялікага Тэрапя з цярпення.

— Пайшла вон, старая, а то я табе пакажу, дзе ракі зімуюць!

— Я прыйшла без запрашэння і пайду, калі захачу, але ты ў мяне выслухаеш усё, што я скажу. Усё скажу, хоць ты і выганіш нас з хаты, хоць і давядзецца нам грызці верас да канца дзён сваіх...

Старая мітусіцца па хаце і раптам падае на спіну, праваліўшыся ў дзірку ад гнілой маснічыны. Яна крэхча і ледзь падымаецца, праклінаючы ўвесь белы свет.

— Мы з табою за ўсё разлічымся, пудзіла ты

агароднае! А ў самога ў хаце ўсё прагніло, людзі аж ногі ламаюць, хутка столь на галаву абрынецца! Так табе і трэба, сам сабе пастку збудаваў. А куды ты дзенеш усё сваё багацце?! Здохнеш, як сабака, і адразу ў пекла, а там чэрці цябе на вілы і раз, і другі — за ўсё адкажаш! А багацце тваё застанецца другім. І раздадуць яго калекам і жабракам... Ха-ха-ха! Не будзе ў цябе спадчыннікаў, і роду твайго не застанецца.

— Хура! — раз'юшана вішчыць гаспадар.— Вон адсюль!

Аднак баба ад таго толькі ўваходзіць у смак, зларадна рагоча і працягвае:

— Ды якой ты бабе патрэбен, душагуб ты, хоць і багацей, а жылі б тут у мярлогу, у гэтым спарахнелым палацы... Не, не бачыць табе свайго семя, згіне яно ў гэтай кучы гною. Ха-ха!

Нарэшце Вялікі Тэрапя не вытрымлівае. Ён кідаецца да старой і штурхае яе за дзверы.

— Прэч адсюль, а то горш будзе! Не злуй мяне, баба!

Хура спалохалася, але ўсё роўна шыпіць праз шчыліну ў дзвярах:

— І не думай! Не будзе Тэпо задарма працаваць, хоць галаву сячы! Ні шэлега ад нас не атрымаеш! Знойдзецца і на цябе закон, не тут, дык у пекле! Пачакай, брыда, пачакай!

І яна бяжыць па цёмным полі да сваёй хаціны, лаючы гаспадара самымі чорнымі словамі.

## IX

Вялікі Тэрапя зачыніў дзверы, выцягнуў аднекуль з кутка газніцу і паставіў яе на шырокі сасновы стол. Матці-Законнік выходзіць са свайго схову і пачы-

нае спакойна абмяркоўваць справу, нібыта ён нічога не чуў і не бачыў раз'юшанай беднай жанчыны.

— Я прыйшоў, як ты і загадваў, каб паглядзець, якія паперы ў цябе тут сабраліся.

Гаспадар Тэрапя сядзіць за сталом, нібыта нічога не чуе, і задумліва пастуквае брудным, пачарнелым пальцам па стале.

— Што ты думаеш пра куплю Каўкокорпі? — суха пытаецца Матці-Законнік.— Ты думаеш, што многа страціў, таму што палоскі вузкія і дрэнна ўгноеныя. Затое лясы, багатыя лясы! А дрэва будзе ў вялікай цане праз нейкі час.

Вялікі Тэрапя не адказвае, ён усё стукае пальцамі па стале. Праз колькі хвілін ён падымае твар і гаворыць:

— Ты чуў, што сказала гэтая баба?

— Ну, дык гэта жонка шаўца, сапраўдная вар'ятка...

— Аднак гэтым разам яна выказалася, як мудрая арліца.

— Ну і што, яе словы нешта праяснілі ў тваім жыцці?

— Ты думаеш, гэтая баба сказала мне што-небудзь новае? Не, браце мой. Я разумею і разбіраюся ў справах лепей, чым думаюць. Даўно разабраўся. Мне начхаць на кпіны і ўсмешкі, я ўжо шмат пражыў, і пляваць мне на цэлы свет і на гэтых людзей. Кожны мерае ўсё на свой капыл, аднак чыя мерка правільная? Я думаю, што правільная мерка ў таго, хто багацейшы. Вось ён і зможа даказаць сваё.

— Ну, ты петрыш лепей, чым тыя, хто хоча разбагацець.

— Можа, і так, і болей нічога. І ты мала ведаеш, хаця павінен мяне ведаць лепей, чым іншыя, ведаць, што мяне вядзе. Ты думаеш, што я збіраю багацце, як мурашка, каб памерці з зацёртай манетай у руках...

— Крыху падобна і на тое.

Вялікі Тэрапя сядзіць нейкі час моўчкі, а потым пляскае сябе па лбе:

— А вось усё ж такі накапіў і зварыў мой кацялок! Я ўпэўнены, што любую цемень можна рассеяць, калі ты багаты... Я думаю, што багацце і ўласнасць і ёсць той самы молат, той магутны рычаг, з якім на свеце можна рабіць вялікія справы.

Па бледным твары Матці-Законніка слізгае цень іранічнай усмешкі.

— Нацягнуў ты багацця! Я думаю, што адусюль цягнуў старанна, як мураш, адбіраў бязлітасна і бессаромна...

— Бессаромна! Усе вы мяне вінаваціце, што я бессаромны, несумленны. Нібыта ўсе людзі на свеце такія ўжо сумленныя і жаласлівыя. Проста адзін слабейшы, а другі мацнейшы і разумнейшы. Ці ж не так?

— Можа, і так увогуле, можа, і так.

Вялікі Тэрапя падымае шэры твар, на якім адбіваецца нешта падобнае на натхненне. Ён нават уздымае рукі.

— Няўжо ты не бачыш, што гэта ўсё чалавечая прырода такая, што ўсе ваююць, губяць адзін аднаго, каб самому разбагацець і патаўсцець.

— Але ж чалавек тым і адрозніваецца ад астатніх жывёлін, што ён чалавек, у яго ёсць сумленне, а гэта — ягоная мера і ягоныя вагі. Толькі адважваюць па-рознаму. Аднаму дастаткова ста грамаў, а другому і кілаграма, і нават дзесяці кілаграмаў мала... Ты ж у сваіх справах стараўся напаўсілы, а ўсё астатняе пакрываў густым ценем праўды і справядлівасці. Ты ніколі не хапаў так, каб патрывожыць свае вагі, сваё сумленне. Вось таму ты цяпер і сядзіш такі спакойны і шчаслівы. А калі б раптам вагі паказалі табе, што ты рабіў няправільна, ты захваляваўся б ці падумаў бы, што там, наверсе, сядзіць нехта, каму трэба служыць

і пакланяцца, перад кім ты вінаваты, таму што ён не пакараў цябе, не раздушыў, як казюльку. Вось гэты страх і дае пачатак нашай веры...

— Ну, ты зайшоў у нетры, адхіліўся ад сутнасці.

— Можа, й так. Ты, значыць, вырашыў параўнаць усё з прыродай і застацца перакананым, што галоўнае ў тваім жыцці — гэта сабраць як мага большае багацце.

— Не, гэта толькі часовы сродак, прамежкавы стан, дзеля таго, каб жыць яшчэ багацей, бо менавіта ў гэтыя дні я збіраюся зрабіць рашучы паварот у сваім жыцці.

— Цікава паслухаць!

— Ну, нічога новага я не выдумаў, я не буду болей нічога браць, а буду толькі спажываць набытае. Я пабудую сабе шыкоўны дом, вежу, вазьму бабу, шмат баб, шлюх, куплю прыгожыя касцюмы і кожны дзень буду жыць у радасці і раскошы.

— Ну і ну. Ці ж гэта разумнаму чалавеку? Ці не лепей было б скарыстаць грошы з большай выгадай? Вядома, з пункту гледжання рэлігіі багацце псуе чалавечую душу.

— Рэлігія! Я яе ўсю наскрозь правучыў і вывучыў. Вунь там на паліцы ў куце ляжыць Біблія, яшчэ прадзед мой яе купіў. За яе можна было б атрымаць вялікія грошы.

Законнік Матці злёгку пасміхаецца, і гаспадар Тэрапя адчувае, як усе старыя звычкі ажываюць у ім, а таму з прыкрасцю працягвае:

— Ды прачытаў я гэтую кніжачку. Там у адным апавяданні пішацца пра нейкага багацея, які кожны дзень жыў у радасці і раскошы, а другі ўвесь час назапашваў грошы, пакуль яму не сказалі: «Дурань ты, а можа, заўтра ты аддасі Богу душу!» Але ніхто так не скажа мне, Ійсакі Тайкінамаа, гаспадару Тэрапя.

— Ты так думаеш?

— Пачынаю думаць.

Нейкі час ён барабаніць пальцамі па стале і нечакана пытаецца:

— Як па-твойму, ці надоўга мне хопіць майго багацця?

— Ага. Адразу і сумняваешся. Гэта залежыць ад таго, як хутка траціць. У цябе шмат усяго: наяўныя грошы, урадлівыя землі, выгадныя вэксалі, такія, як гэтага Каўкокорпі. Ад іх і нарастаюць грошы, як грыбы.

— Ну і няхай сабе нарастаюць. Цяпер іх будзе меней.

— Але май на ўвазе, што за які-небудзь дзесятак гадоў ты мог бы падвоіць сваё багацце.

Багацей уважліва глядзіць на яго спадылба і затым гукае:

— Не дражні мяне! Не выйдзе! Часу няма! Ты дурань, да заўтра, можа, Богу душу аддадзім, а я хачу жыць!

— Ну і жыві сабе, як чалавек, як заўсёды жылі багатыя людзі на хутарах: зладкуй добрую сялібу, вазьмі жонку, завядзі дзяцей і апрацоўвай зямлю. Гэта будзе куды разумней, чым усе твае дурасці. Ды і для нашчадкаў гэта будзе куды лепей.

— Навошта мне тыя нашчадкі! Ці не хапае і тых, што жывуць на зямлі па адзіным запавеце? Я пабудую цагляную вежу, ды такую вялізную, каб людзі глядзелі на яе і казалі: вось той пабудаваў яе! А калі яе не стане, дык старыя ля вогнішча будуць расказваць паданні пра мяне, мужыка, які жыў даўнымдаўно...

— Дзіўна! Ты ненавідзіш людзей і грэбуеш імі і ўсё ж хочаш, каб яны дзівіліся і захапляліся табой.

— Усё дзіўна на гэтым свеце.

— Але самае дзіўнае, што ты збочваеш з наезджанага шляху.

— Наадварот. Гэта і ёсць мая натура. Ці ж я раней не жыў, як усе?

— Праўда, ты заўсёды і ўсюды стараўся збочыць з дарогі.

— Трыццаць гадоў, а можа, і болей, усё сваё жыццё я збіраў багацце, збіраў і жыў, як жабрак, нават не еў як след. Але канец мой будзе іншы.

— А калі твае пагулянкі абыдуцца занадта дарага, то што? Па старцах пойдзеш?

— І пайду. Глядзі на мяне. Я і так нібыта бадзяга які. Так што мне не дзіва.

— Ёсць жа розніца, сам ты так робіш ці паняволі.

— Пабачым. Вось тут прыйшло мне ў галаву. Калі я хутка надзену багатае адзенне і зажыву, як багацей, то ты возьмеш усю гэту старызну ад чаравікаў да аблавухі. А я ад цябе атрымаю іх, калі прыйдзе патрэба.

— А якая мне з таго выгада?

— Будзе і табе. Ты вінаваты мне невялікую суму. Пішы распіску. Я падпішу яе, і калі прыйдзе патрэба, атрымаю ад цябе сваё адзенне, а калі такой патрэбы не будзе, то скасуем твой доўг. Згодзен?

— Чаму ж не. Калі з тваіх задумак нешта атрымаецца, дык няхай будзе і так.

— Не бойся.

Вялікі Тэрапя ўзрушана ўскоквае, выходзіць праз сенцы ў задні пакой і шчыльна зачыняе дзверы. Праз нейкі час ён вяртаецца і грукае на стол кафэрачак з жалезнымі вугламі.

— Вось грошы і паперы, але што рабіць мне з усім астатнім? Што мне рабіць са старым дамашнім ламаччам, мне, які задумаў будаваць новую вежу! Глядзі, былое прайшло, і я зраблю ўсё нанава.

Вялікі Тэрапя качаргой раскідвае па хаце гарачае вуголле.

— Падкіньце дроў пад катлы, як казаў Сіекінен

у апраметнай.— Ён раскідвае па хаце лучыны і галавешкі.

Законнік Матці стаіць спалатнелы і нерухомы, як статуй.

— Т-т-т-ы што? Зусім здурнеў? Усё ж вылезла бацькава вар'яцкая натура.— Ён хапае партфель і борздзенька вылятае з хаты, а гаспадар тым часам старанна падпальвае ўсё.

Калі ў хаціне ўсё палае, выходзіць і ён, трымаючы пад пахамі куфэрачак з грашыма і Біблію.

Чуюцца пранізлівыя крыкі парабчанак:

— Пажар!

У двары стаіць страшэнны гвалт. Парабкі спрабуюць патушыць агонь, аднак гаспадар рэзка спыняе іх: хай гарыць! Старое гняздо крумкача, так яму і трэба. Дамашнія глядзяць на свайго гаспадара здзіўлена і доўга, ці не звар'яцеў ён, а можа, яго апанавала нячыстая...

Старшы парабак, кашчавы прыземісты мужчына сярэдняга веку, папярэджвае, што агонь можа захапіць і іншыя пабудовы.

— А хай сабе! Далёка не пойдзе. У Тэрапя і застанецца.

Так і гарэў стары дом Тэрапя ў восеньскай цемры. Языкі полымя вырываліся праз вокны і страху. Ужо гарэлі сені, гарэла прыбудова, і доўга асвятляла гарачае полымя двор і палі. Непадалёку стаялі парабкі, Законнік Матці і сам гаспадар, і ўсе разам глядзелі на агонь. Зазвычай шэры твар гаспадара пачырванеў, разрумяніўся; ён стаяў, адкінуўшы галаву назад; куфэрачак з грашыма ён засунуў пад кажух, а каля ног валялася старая Біблія. Ён стаяў і час ад часу разважаў аб тым, што гарыць і як, зрэдку чулася і пахвальба: што нам усяго адзін дом! Пры нашым багацці! Гэта беднякам шкода, а не нам!

Полымя трашчыць і ўзвіваецца, нарэшце дах аб-

вальваецца ўніз, а ў чорнае неба высока ўзлятае цэлы рой іскраў.

— Ці не субота сёння? — раптам пытаецца гаспадар.— Трэба вытапіць лазню, а то і яна загарыцца.

І вось яны мыюцца ў вялікай лазні, гаспадар, Законнік Матці і іншыя. Шыпіць каменне, клубы шэрай пары вырываюцца з лазні на асветлены пажарам двор. Крэкчуць ад задавальнення людзі, пляскаюць венікі, і чуецца задзірыстая пахвальба Вялікага Тэрапя:

— Чаго мне шкадаваць, старому селяніну. Вось гарыць мой стары дом, мой родны Тэрапя, а я мыюся ў лазні.

Усе глядзяць на яго з недаверам і здзіўленнем: усё ж, напэўна, з глузду з'ехаў чалавек, шмат шурупаў, напэўна, вылецела з галавы.

А Вялікаму Тэрапя, як звычайна, шанцуе. Пажар не разгуляўся. Згарэла толькі старая хата, ■ хлявы, свірны і ўсе астатнія пабудовы засталіся. Памалу пажар сціхаў, бярвёны ператварыліся ў галавешкі, маленькія сіняватыя язычкі агню шыпелі і скакалі па вуголлі, і дзівоснай незвычайнай кучай выглядала папялішча здалёк.

Ноч была цёплая і спакойная, бязветраная і цёмная. Неба праблісквала, нібыта весялілася, рэдкія зоркі мільгацелі ў цемры.

Дамашнія разышліся спаць — хто ў пуню, хто ў канюшню. А стары гаспадар застаўся ў лазні з адной маладой, вясёлай і распуснай парабчанкай. Раней ніхто не чуў і не бачыў, каб Вялікага Тэрапя цягнула да жанчын. Было зразумела толькі адно, што гаспадар канчаткова з'ехаў з рэек. І вось яны засталіся ў нагрэтай лазні, разамлелыя ад жары — Вялікі Тэрапя і маладая парабчанка. Стары зрабіў паварот у жыцці. Цяпер ягоны лёс вёў зусім у іншы бок. Куфэрачак з грашыма ён цішком схаваў пад маснічыну. Іншыя

парабчанкі, сыходзячы, кпілі, смяяліся і зайздросцілі ягонай абранніцы. Яны казалі, што ў гэтай распусніцы няма ні сораму, ні сумлення і Бога яна не баіцца, раз пускае да сябе старога грахаводніка. Але ў глыбіні душы яны зайздросцілі: зусім неабавязкова кахаць чалавека, можна спакусіцца і на ягоныя грошы.

Законнік Матці запыніўся каля ачахлых галавешак, чырвоны і распараны пасля лазні. Ён прысеў каля вогнішча, задумаўся і глядзеў на вуголле, самотны стары бабыль. Ён не мог нават і спадзявацца, ды і не хацеў верыць, што некалі і ён зможа акунуцца ў такое бяздумнае заліхвацкае вар'яцтва, якое давялося ўбачыць сёння ў пракуранай лазні старога знаёмца. Ягонай адзінай радасцю і ўцехай былі думкі ў цішыні лясоў.

Нейкі час ён сядзеў, не зводзячы вачэй з чырвонага вуголля, ■ потым падаўся дадому адзін у начной цемры.

Абрысы ветрака паўсталі перад ім, і гэта было апошняе, што ён убачыў перад тым, як зайсці ў сваю хаціну, і яму здалося, што стары млын, нібыта манах, узносіць модлы і грозна ўказвае пальцам на неба.

## X

А назаўтра пайшла па вёсках пагалоска, што Вялікі Тэрапя здурнеў, спаліў сваю хату, а пакуль будынак гарэў, ён забаўляўся з дзеўкамі ў лазні. У хуткім часе пачалі расказваць і новыя дзівосы: ён збудаваў сабе цагляны дом — высачэзную, на тры паверхі круглую вежу на стромкім схіле каля возера. Сам жа ён хадзіў разубраны, як баба, абвешаны ўсялякімі аздобамі. Ён задумаў узяць сабе маладую гаспадыню, самую што ні ёсць прыгажуню з дзесяці паветаў. Ён зусім не клапаціўся аб сваіх вялізных уладаннях, яму было ўсё

роўна, працуюць парабкі на палях альбо б'юць лынды. Ён вельмі змяніўся і стаў спакойны, добразычлівы мужчына.

У вёсцы меркавалі і так і гэтак, хітра пасміхаліся і казалі, што таго і трэба было чакаць, хоць чакаць давялося вельмі доўга: ніхто і ніколі з сямейства Тайкінамаа не жыў як людзі.

Стаяла купальская ноч — светлая, цёплая і кароткая. Зямлю ўкрываў раскошны зялёны дыван, яркія кветкі струменілі п'янючы водар, а вялізнае нябеснае вока, светлае і абыякавае, глядзела на зямлю. Начную цішыню зрэдку праразаюць спевы начной птушкі. Песня нясецца з густога лесу, радасная і гарэзлівая. Цагляная вежа Вялікага Тэрапя прывідам уздымаецца ў белай начы, магутная і раскошная. У вокнах свецяцца жоўтыя лямпы, кідаючы цьмяныя водбліскі ў казачнае сутонне белай начы. Вялікі Тэрапя назваў свой дом Рогам Шчасця, аднак людзі часцей завуць яго Званіцай.

Радасна гараць у прасторнай круглай зале Званіцы жоўтыя лямпы. На сценах і на сталі, ледзь бачныя праз густыя воблакі тытунёвага дыму, блякла свецяцца нацюрморты з дзівоснымі пладамі. За круглым сталом сядзяць знакамітыя госці, там жа сядзіць і сам гаспадар, які зусім нядаўна хадзіў, як пудзіла, у рызманах, нібыта гэта і не ён быў гаспадаром абшараў Тэрапя, нібыта зусім не ён множыў свае багацці. Але як жа памяняўся гэты чалавек! Дзіўныя і незвычайныя яго выгляд, ягонае ўбранне: шыкоўныя чаравікі раскінулі завязаныя адмысловым вузлом шнуркі, як мятліковыя крылы, ядвабныя шкарпэткі, кароткія, старанна адпрасаваныя штаны, белая камізэлька, тоўсты залаты ланцуг гадзінніка, прасторны блакітны сурдут, размаляваны рамонкамі. Цень добразычлівасці

і высакароднага спакою пакрывае ягоны шызаваты твар. Вочы ільсняцца ад віна, на шчоках прабіваецца хмельны румянец. І гэта той самы чалавек, які раней не браў ні кроплі, а ўсю гарэлку раздаваў парабкам. Затое цяпер ён не цураецца пякучых напіткаў і часцяком весяліць сваю душу такім чынам. У шкляных графінах блішчыць празрыстая гарэлка і жаўтаваты пунш. У зале шумна, смех то весела звініць, то гудзіць, як дабрадушны чмель. Хто гэтыя людзі, гэтыя мужчыны і жанчыны, адкуль у Вялікага Тэрапя гэтулькі сяброў? Але як раней, так і цяпер у Вялікага Тэрапя няма ні сяброў, ні прыяцеляў. Ён размаўляе з людзьмі, аднак увесь час застаецца нібыта ўбаку, быццам самотны драпежны сокал, які лятае высока ў небе і проста не жадае кідацца на гэткую птушыную дробязь. Усе, хто прыходзіць у Званіцу, у гэты Рог Шчасця, могуць есці і піць колькі ўлезе, бо ў Вялікага Тэрапя шмат ежы і пітва, а таму шмат сабутэльнікаў і гасцей. Вялікі Тэрапя шчодра частуе ўсіх, не шкадуючы нічога.

Тут жа і маладая гаспадыня дома, прыгожая, радасная і вясёлая, у шыкоўнай сукенцы, вялікая аматарка павесяліцца. Яна вельмі часта адрывае ад круглага стала з ежай і пітвом доўгавалосага скрыпача са змрочным поглядам. Той залазіць на маленькі столік у куце і пачынае іграць меланхалічную, маркотную мелодыю, і шматлікія пары пачынаюць кружыцца па зале вакол стала, дзе сядзяць гаспадар і некалькі пыхлівых гасцей, якіх не завабіш на скокі ні чырвонай скрыпкай, ні мяккімі рухамі смычка.

Віно блішчыць у чарках, шызы тытунёвы дым дзівоснымі воблакамі расцякаецца па зале.

Ідзе няспешная размова, Вялікі Тэрапя паблажліва хітае галавой, слухаючы, як адзін з гасцей расказвае нейкую показку альбо як заўзяты балбатун, з'едліва пасміхаючыся, ледзь варочае языком, але ўпарта пера-

бірае костачкі розным людзям, залазячы ў самыя цёмныя куточкі іх жыцця. Часам пачынае гаварыць і сам гаспадар, і тады ўсе пачціва змаўкаюць, а ён, падагрэты такой увагай слухачоў, пачынае выказваць свае думкі, распавядаць пра розныя выпадкі са свайго жыцця або заводзіць спрэчку са з'едлівым балбатуном, хоць той, баючыся багацея, пярэчыць вельмі асцярожна.

Ноч канчаецца. Усе ўжо добра захмялелі. Музы́ка ў куце амаль спіць і ледзь пілікае, ён забыўся нават на сваю чарку; пары ў зале болей дурэюць, а не танцуюць, размовы за сталом становяцца вялымі і бесталковымі...

— Чаму,— пытаецца з'едлівы балбатун,— чаму вы пабудавалі гэты Рог Шчасця менавіта тут? На старым жа месцы, дзе стаяла ваша сяліба, таксама даволі высока і прыгожа. Вось там і паставілі б палац Тэрапя.

Вялікі Тэрапя п'е і кашляе.

— Не пойдзе. На старым месцы нельга спакойна павесяліцца: успамінаеш нябожчыкаў, якія жылі там раней, пачынаеш трывожыцца, розныя думкі, страшнавата... Вось так яно. Хоць да дурня такое і не дойдзе. Ды і прывіды, чаго добрага, завядуцца. А вось гэты будынак зладжаны зусім для іншага, новага жыцця. Тут ужо не ўспомніш нічога такога, можна жыць спакойна, радасна і весела...

— Якія забабоны,— кажа тупалобы балбатун,— сумленне замучыла...

— Можа, і так. Але болей у старых дамах я жыць не буду, бо там жывуць душы нябожчыкаў. Калі чалавек паміpae, трэба спальваць і ягоны дом. Я таму і спаліў Тэрапя, бо стары гаспадар памёр, а нарадзіўся новы, вось гэты самы, які сядзіць перад вамі, свежы, як немаўлятка.

Так яны і размаўляюць, перабіраючы, як дзеці, адны і тыя справы, усё болей і болей хмялеюць, смя-

юцца і скачуць пад стомленую скрыпку, і гукі музыкі далёка разносяцца праз вокны ў начной цішы. Высока ўзлятаюць у неба, якое, нібыта абыякавае вока, глядзіць на зямлю, і недзе высока-высока ў чарнаце, здаецца, ледзь прасвечвае водбліск надзеі.

Вялікі Тэрапя адчувае, як цяжэе ягоная галава, нібыта наліваецца свінцом, а перад вачыма ўсё плыве ў чырвоным тумане. І ён засынае, хіснуўшыся да стала, і праз дрымоту чуе п'яны гоман і нястройныя спевы.

Тэрапя прачынаецца, калі на вуліцы ўжо пануе светлы ранак. Праз вокны ў пакой урываюцца чырванаватыя сонечныя праменні, і чаркі, якія стаяць на вялізным стале, успыхваюць чырванаватым святлом. Пакой спусцеў. Госці пайшлі на сыходзе ночы, калі падымалася сонца і ажыўлена зашчабяталі птушкі.

Нейкі час гаспадар глядзіць навокал пустымі вачыма, і ўсё здаецца яму велізарным і неабсяжным. Гледзячы на гэтую дзіўную і такую чужую яму абстаноўку, ён вырашае пайсці паспаць. Ён праходзіць праз кухню, каб прамачыць вадой перасохлае горла, і чуе, што там няспынна грымяць вялізныя жорны — гэта храпе той самы з'едлівы балбатун, заваліўшыся каля кадушкі з цестам, а цеста выпірала з дзяжы і спускалася яму на жывот. Вялікі Тэрапя нейкі час здзіўлена, знямеўшы, глядзеў на гэтую праяву і ніяк не мог дапяць, што здарылася: ці не вантробы з госця палезлі. Нарэшце ён скіраваўся ў спальню, рынуўся на ложак і праспаў цэлы дзень, пакуль не настаў светлы летні вечар.

Вось так весела жыве Вялікі Тэрапя ў сваёй чырвонай вежы пад вялізным і чыстым нябесным вокам.

## XI

Ішлі гады. Людзі жылі, і Вялікі Тэрапя таксама жыў на зямной цвердзі пад магутным, бяскрайнім небам.

Вялікая рака несла свае цёмныя воды праз лясы і палі, на берагах раслі густыя трыснягі, у вадзе калыхаліся водарасці, свяціліся жоўтыя гарлачыкі, няўцямна глядзелі на свет яркія кветкі, а часам шумна плёскалася рыба. На схілах крутых берагоў узвышаліся старыя бугрыстыя асіны, іхняе лісце трымцела і штосьці шаптала, хоць не адчувалася ніякага павеву ветру. Быў прыгожы летні дзень, спакойны і цёплы. Сонца хілілася на адвячорак, і на зямлю падалі косыя праменні, высока ў нябеснай сінечы вісела рэдкае воблака, нібыта вялізны жмутак ваты, нагадваючы абрысамі стары зморшчаны лоб...

На стромкім беразе, як пунцовая пачвара, тырчаў цагляны дом Вялікага Тэрапя. Сонца адсвечвалася ў ягоных вялікіх вокнах, за якімі ў той самай вялікай круглай зале, абвешанай усё тымі ж малюнкамі пладоў і кветак, сядзеў у крэсле святочна апрануты Вялікі Тэрапя.

Непадалёку ад стала сядзеў Законнік Матці, які на выгляд зусім не змяніўся за гэты час. Ён гаварыў:

— Я табе і кажу, што ты болей не багацей. Няма ў цябе ні зямлі, ні каштоўных папераў, разышлося ўсё тваё багацце! Добра, калі яшчэ не трапіш на ўтрыманне грамады.

Вялікі Тэрапя гушкаецца ў крэсле, зацягваецца і, нарэшце, спакойна і абыякава адказвае:

— Вось, вось, круціцца кола жыцця. Стракатая птушка дзяцел, але жыццё наша яшчэ больш стракатае.

— Усё яно так, аднак ты болей не багацей і не зможаш болей жыць, як багацей: весяліцца, забаўляцца. І жыць трэба адпаведна.

— Нездарма прымаўка гаворыць, што зрання смяешся, а пад вечар плачаш. Хай усё ідзе само па сабе, чалавек усё перажыве.

— Дурань ты стары! — злосна адказвае Законнік Матці.— Падумай пра тое, што ты ж не адзін жывеш. У цябе жонка — адна законная, а колькі яшчэ прыблудных... А ў гэтай тваёй былой парабчанкі яшчэ і сын ад цябе. Трэба і аб ім паклапаціцца.

— Хай кожны клапоціцца сам аб сабе — такія ўжо законы на гэтым свеце. У кожнага з нас аднолькавай велічыні вочы...

Законнік Матці паціху закіпае.

— Ты такі лянівы, дурны і абыякавы, нават паверыць няможна, што ў цябе ўсе дома. Зразумей жа, што ты амаль голы! Нават калі ты прадасі ўсе землі, табе ледзь хопіць расплаціцца з даўгамі, бо ў цябе нічога болей не засталося: усё сваё ты даўно ўжо атрымаў і чакаць няма чаго. Можа, толькі ад мяне свае старыя рызманы атрымаеш, калі распіска яшчэ ацалела. У цябе толькі й засталася гэта вежа-ламіна ды тое, што ў ёй напхана.

— Ёсць там адзін дзядуля,— тыцкае пальцам у столь Вялікі Тэрапя,— вось няхай ён і непакоіцца пра тых істот, якіх ён пусціў на свет... Чаго там мітусіцца, калі ўсё даўно ўжо наканавана і распісана.

— З такімі, як ты, будзе, не прыкідвайся дурнем... З разумным будзе так, як ён сам зробіць.— Ён памаўчаў і ўжо спакайней працягваў: — А можа, ты прыхаваў дзе-небудзь грошыкі і не ўсе яшчэ прасадзіў?..

— А ты не чытаў у Святым Пісанні пра таленты, закапаныя ў зямлю? Што за карысць ад грошай, калі іх не пускаць пад працэнты?

— Ну, так яно было б і лепей, аднак у цябе ніякага прыбытку пасля таго, як ты пусціўся шыкаваць.

— Ну дык што тут зробіш?

Стары законнік злуецца і пыхкае.

— Не, ты мяне даканаеш сваім спакоем і абыякавасцю! Вось што я табе скажу,— ціхім злавесным шэптам прамаўляе ён,— як старому сябру дзяцінства кажу: табе пагражае вялікая небяспека...

— Што мне ўжо так пагражае, што ты аж трасешся?

— Пабачыш. Я ўсё табе расталкую і растлумачу, толькі аддай мне распіску, тую, што мы некалі напісалі.

— А, хабару, хабару захацелася! — з'едліва адказвае Вялікі Тэрапя.— Вядома, усе людзі такія, нават ты, якога я лічыў сваім лепшым сябрам.

— Калі распіска напісана, дык ты ж можаш мне яе вярнуць.

— Я табе сказаў, што атрымаеш яе пасля маёй смерці альбо калі я запатрабую сваё старое адзенне, тое самае, што так добра вядомае ўсяму наваколлю, як і гэты мой новы касцюм.

— А каб ты ляснуў! Ну і разбірайся сам у сваіх справах!

— Ты што, думаеш, я зусім глузднуўся, калі перастаў ліхвярыць і нажывацца? Ні ў якім разе! Вось што я табе скажу: калі я пачаў жыць, як пан, я ўзяў сабе жонку, і я ўзяў маладую, спрытную дзяўчыну, я, стары корч, які вось-вось аддасць канцы, а ёй дастанецца ўсе мае грошыкі! А я не збіраўся паміраць! Я толькі пачаў жыць з тае пары. Сам ведаеш, якое расчараванне гэта для маёй бабы. Тады і яна вырашыла схітраваць: пачала паціху красці ды збіраць мае грошыкі. Здаецца мне, што і ты, сябра мой душэўны, як мог, так і дапамагаў ёй. А цяпер яна думае, што я збяднеў, а ёй усё мала й мала, дык вось яна і выра-

шыла празнаць, ці не захаваў я яшчэ куды грошы, каб адправіць мяне да Абрама на піва, а ўсё астатняе самой прыхапаць.

Законнік Матці, знямелы ад здзіўлення, глядзіць на яго.

— А калі ты так усё добра ведаеш, дык чаму ж ты не навядзеш парадак?

— А навошта мне веславаць і кіраваць, калі наверсе ёсць вясляр, лепшы за мяне? Ды і які я буду багацей, калі пачну ваяваць і судзіцца з усім светам і з усімі людзьмі?

— Хутка па старцах пойдзеш, вось тады і пасмяешся.

— Можа, і так, але ці варта турбавацца з-за таго, што будзе заўтра.

— Я сказаў табе ўсё, што павінен быў сказаць. Але табе ўсё адно. Ты думаеш толькі пра сябе. Ну што ж, дагэтуль ты трымаў лейцы лепей, чым хто іншы. Я пайшоў. Да пабачэння.

Ён падымаецца, бярэ капялюш, а Тэрапя працягвае гушкацца ў крэсле з цыгаркай у зубах.

Законнік Матці спускаецца па вітых усходах, а насустрач яму падымаецца мажная маладая жанчына з прыгожай паставай. Яна прыгожа апранута, і ўвесь яе выгляд, паводзіны і голас — усё выказвае холад і пыхлівасць. Гэта гаспадыня Рога Шчасця.

— Ну,— пытаецца яна,— нічога новага?

— Нічога. Здаецца, у яго няма прыпасаў, але гэта яго зусім не хвалюе. Ён усё яшчэ разумны і хітры мужык, хоць пару клёпак і вылецела...

— Хітрасць супраць хітрасці,— з нянавісцю прамаўляе жанчына.— Трэба знайсці грошы, хоць з-пад зямлі выкапаць.

— А можа, іх і ўвогуле няма.

— Павінны быць! Каб не было, дык гэты стары жмінда не сядзеў бы так спакойна.

— Мне здаецца, што не надта вялікая сума ў яго прыхаваная — я ўжо ўсё ведаю пра ягоныя справы.

— Маленькая ці вялікая, але яна мне патрэбная, і яе трэба знайсці, хоць лопні.

Стары законнік прысланяецца да парэнчаў і бездапаможна пакерхвае:

— Спадзяюся, што вы не зробіце нічога такога і не абчысціце яго дагала. Мне было б сорамна глядзець яму ў вочы.

— Ага! Вы спалохаліся!

Маладзіца глядзіць на законніка з асляпляльнай усмешкай, і вечаровае сонца залаціць яе кучаравыя валасы.

— Не хвалюйцеся, вы атрымаеце сваю долю, дый старому што-небудзь дастанецца, каб не жабраваў.

— Так яно так. Але цяпер лепей пачакаць. Не трэба спяшацца, а то ўсё сарвецца. Час — найлепшы саюзнік, ён усё падкажа, і спосабы, і магчымасці.

— О, гэта так сумна, чакаць і чакаць. Я і так дастаткова начакалася ў гэтай вязніцы. Вы разумны чалавек, вы зможаце і хутка і хораша...

Законнік Матці адмоўна хітае галавой.

— Лепей пачакаць.

Ён развітваецца і сыходзіць. Жанчына сочыць, як знікае гэты танканогі, нібыта жучок, маленькі чалавек.

— Вось яшчэ адзін дурань,— кажа сама сабе жанчына. У яе валасах залацяцца іскрынкі сонца.

## XII

Зіма. Бясконцы снежны дыван укрывае ўсё навокал, і нават дрэвы ў лесе стаяць, нібыта пухлыя снежныя камякі. Мароз падціскае. Бляклы нябесны шацёр вісіць над стылай зямлёй. Толькі мільгаценне

зорак і жоўтае кола месяца парушаюць ягоную аднастайнасць. Зімовае сонца, ледзь паказаўшыся над заснежаным лесам, тут жа знікае. Паветра марознае, шэрае, суровае і строгае.

Цяжкія часы насталі для старога шаўца Тэпо. Хацінка прамерзла наскрозь. Ён не можа пайсці ў лес па сумётах і сабраць там дроў у сваіх даўно пратаптаных чунях. Ён не адважваецца нават выскачыць на вуліцу, каб выламаць кол з плота ды пратапіць у хаце. Пойдзеш дый завязнеш у снезе, нібыта стары руды прусак. А вось гаспадарам хутара не даводзіцца цягаць дровы з лесу, яны не шыюць ботаў. Ім усё робяць загадзя.

Хура бурчыць, лаецца і кляне свайго Тэпо, людзей, надвор'е, зямлю і неба разам з усімі жыхарамі. Тэпо сядзіць нерухома, моўчкі карпее над сваімі калодкамі. На душы ў яго вельмі сумна.

— Каб было якое-небудзь цяплейшае лайно з аўчыны, тады б, можа, і мароз не так дапякаў і можна было б наламаць крыху дроў.

У ягонай памяці ўсплывае нязменны стары кажух Тэрапя, які той цягаў і зімой і летам.

— І куды гэта падлюга дзеў свой кажух?

Нейкі час ён думае, а потым вырашае схадзіць да Законніка Матці і спытацца аб тым. Праз марозную цемень, падскокваючы, як заяц, у сваёй дзіравай світцы, ён імчыцца да хаты Законніка.

— А-а-а,— кажа Законнік Матці.— Старыя апранахі Ійсакі Тайкінамаа? Яны ў мяне. Ён аддаў іх мне ў заклад невядома навошта. Пэўна, нешта задумаў. Так, старое рыззё. Можна і выкінуць, але хутка яму самому спатрэбіцца, бо дагуляўся, хутка па старцах пойдзе...

Тэпо пахмурна пазірае і прытопвае нагамі.

— Дык аддай яго мне. Яму яно не спатрэбіцца, а можа, ён ужо і забыўся на яго.

— Не, не забыўся. Але пагана тое, што ты мерзнеш, а гэтая рваніна дарэмна ляжыць у мяшку. Вялікай бяды не будзе — бяры і насі. Калі спатрэбіцца, дык такое знойдзе ўсюды. А калі запатрабуе менавіта гэту вопратку, тады забяру ў цябе назад.

Тэпо бяжыць дадому, размахваючы апранахамі Вялікага Тэрапя.

Дзіўная сцэна разыгралася ў той халодны вечар, калі на двары лютаваў мароз, а ў небе злосна мільгацелі зоркі. Тэпо круціць у руках зацухмолены стары кажух і брудную аблавушку, якія дасталіся яму ад багацея. Раптам ён спалохана вішчыць:

— Баба!

Хура падыходзіць, уздрыгвае і на нейкі час нямее ад здзіўлення: шво ў шапцы разышлося, і з-за падкладкі тырчыць пачак грошай. Старыя спалохана жагнаюцца, потым старанна абмацваюць усю вопратку і знаходзяць яшчэ некалькі тайнікоў, але пакуль што не разумеюць, што ў іх ёсць грошы, шмат грошай. Затым яны пералічваюць грошы і хаваюць пад камень за печкай. Усю ноч яны не могуць заснуць. Штохвіліны яны ўскокваюць, запальваюць лучыну, дастаюць грошы, пералічваюць і зноў хаваюць на старое месца. Яны спалохана выглядаюць у акно, баючыся, што хтосьці з вуліцы ўбачыць гэта. Аднак за акном мароз, ды халоднае неба глядзіць тысячамі зорак і нібыта паблажліва ўсміхаецца. Яны зноў кідаюцца ў ложак і зноў падымаюцца, усё гэта падаецца ім дзіўным сном, чароўнай казкай.

— Ясна адно: гэта грошы Вялікага Тэрапя. Можа, ён схаваў іх туды, а можа, проста забыўся.

Яны цвёрда ведаюць толькі адно: трэба маўчаць, як камень, а там будзе што будзе. Ну і што, калі яны пакінуць грошы сабе? У Вялікага Тэрапя і так грошай больш, чым трэба прыстойнаму чалавеку. А яны заўсёды былі бедныя і голыя, як лесавікі. Можа, той, хто

сядзіць высока на марозным воблаку, вырашыў палегчыць ім жыццё на старасці гадоў...

Спачатку яны не трацяць гэтых грошай. Старыя баяцца, што хто-небудзь пацікавіцца, адкуль у іх гэткае багацце? Тэпо, накінуўшы стары кажух Вялікага Тэрапя, становіцца на лыжы і з саначкамі кіруецца ў лес, каб насекчы дроў, колькі ўлезе. Затым яны сядзяць каля цёплай печы, думаюць, што рабіць далей, і нарэшце прыходзіць добрая думка.

У Тэпо быў старэйшы брат, які даўно, можа, з дзесятак гадоў, а мо і болей, з'ехаў у Амерыку, некуды ў Сікака[1], адкуль прывозяць сала для сплаўшчыкаў. Трэба гаварыць, што гэты брат памёр, а спадчыну прыслалі Тэпо. Гэтую думку яны пракручвалі і так і гэтак, рабілі сур'ёзны выгляд, каб нарэшце і самім даць веры, што ўсё тое, што з імі адбылося, праўда.

## XIII

Ізноў са свістам закружылі крылы ветру, пагналі хмары ў небе, накідалі снегу на лясныя вершаліны і тут жа здзімалі яго адтуль, і снег вялікімі шэрымі ахлопкамі падаў на зямлю. Хмарная нябесная заслона гусцее, хмурыцца і цямнее, і вось ужо пайшоў дождж, ды такі, што ажно застагнаў лес, а з галінак пацяклі ручайкі і апошні снег, які пакрываў іх, растаў. Сагнутыя і пачварныя, агаліліся дрэвы, нібыта вялізныя пальцы, і вось ужо ствалы выпростваюцца, бадзёра цягнуцца ўверх.

Пачалася адліга, і хворая зіма цяжка застагнала, закашляла. Пад нагамі чвякае снег, зверху на ягоную шурпатую паверхню ляніва падаюць самотныя празрыстыя сняжынкі.

---

[1] Чыкага ў фінскім вымаўленні.

Вось і шавец Тэпо вылез са сваёй цёмнай хаціны, і дзіўная думка невядома як трапіла яму ў голаў. Ён ідзе па заснежанай доўгай дарозе, абапал якой стаіць шэры штакетнік. Ён ідзе да Вялікага Тэрапя, у Рог Шчасця, у славутую Званіцу.

Высокае чырвонае пудзіла з цэглы ўзвышаецца сярод зімовай бялечы, гэтая недарэчная будыніна, і Тэпо апаноўвае страх і пачцівасць, калі ён падыходзіць да вежы і падымаецца па вітых усходах.

Ён уваходзіць у прасторны круглы пакой. Законнік Матці сядзіць там адзін. Ягоная доўгая постава выдзяляецца ў крэсле, а партфель вісіць на поручні.

— Добры дзень,— вітаецца Тэпо.

— Добры, добры.

— Штосьці гаспадара не відаць.

— Ды тут недзе непадалёку. Сядзь і пачакай. Пагрэйся крыху. І кажух, бачу, табе згадзіўся.

Тэпо сядае і недаверліва глядзіць на даўгалыгага Законніка з-пад брывоў.

— Як бачыш, згадзіўся.

— Напэўна, дрэнна табе было, Тэпо, у такія марозы, ■ ў хаце ні палена дроў. Нездарма табе давялося пайсці і папрасіць гэту аўчыну, каб сагрэцца.

— Давялося пайсці.

Тэпо моўчкі глядзіць на суразмоўцу і раптам адчайна прамаўляе:

— Цяпер мне ўжо няма чаго выпрошваць усялякія аўчыны! Толькі што атрымаў такую-сякую спадчыну.

— Спадчыну? Адкуль?

— Ды брата майго старэйшага там, у Амерыцы задушыла каменнем,— спакойна тлумачыць Тэпо.— Вось мне і прыслалі грошы.

— Во як. Ён памёр, а Тэпо цяпер багацей... Нездарма прымаўка гаворыць: хто памірае, а хто хлеб нажывае.

— Дык вось якая справа,— няпэўна прамаўляе

Тэпо, а потым адважваецца і працягвае: — Я прыйшоў як пакупнік. Я вось падумаў, ці не прадасць мне гаспадар хутар Тэрапя, а ён пражыве без бяды ў сваёй Званіцы.

— Ого! Відаць, шмат грошай табе прываліла, калі хочаш стаць землеўладальнікам. А чаму б і не прадаць, калі старгуемся? Прадаў жа ён амаль усе свае землі.

Уваходзіць Вялікі Тэрапя з цыгаркай у зубах.

— О, Тэпо, даўно цябе не было чуваць. Ну, што за справы?

— Нічога асаблівага. Я вось хацеў папытацца, ці не прадасць мне гаспадар апошні кавалак зямлі Тэрапя?

Вялікі Тэрапя здзіўлена глядзіць на яго і ніяк не можа ўцяміць, жартуе той ці ўсур'ёз, а потым расцягвае рот у з'едлівай усмешцы:

— Чаму б і не. Значыць, у цябе, Тэпо, у скрынцы столькі ўсяго, што ты і зямлю купіць можаш...

— Тое-сёе знойдзецца,— сур'ёзна і цвёрда гаворыць Тэпо.— Можам грошы хоць зараз выкласці.

Вялікі Тэрапя ледзь стрымаў сваё здзіўленне, і нават злосць пачынае варушыцца ў ім, ён усё не можа дапяць, здзекуецца з яго шавец ці сапраўды збіраецца выкласці грошы. Ён моўчкі сядзіць і думае. Рыпіць крэсла ў цішыні, і нарэшце Законнік Матці кажа:

— Ён, здаецца, атрымаў спадчыну.

— Во, нячыстая сіла! — гукае Вялікі Тэрапя. Да яго дайшло, у чым справа.— Разбагацеў. Ну, тады купляй Тэрапя. А мне можаш не даваць ніводнага пені. У мяне тут сабралася даўгоў гэтаму Коўпаіеху. Заплаці яму і забірай зямлю. А мне пакінь метраў дваццаць вакол дома.

— І ці многа ты яму вінаваты?

— Не ведаю дакладна, але, пэўна, не надта. Якраз такая цана і будзе за Тэрапя.

— Не ведаю, ці варта нам вось так, спехам, да-

маўляцца, але калі тваіх даўгоў не надта многа, дык напішам купчую і я заплачу́. А пакуль што збегаю да Коўпаіеху.

Тэпо нацягвае шапку і выходзіць.

— Пачакай, куды ты прэшся? — гукае яму ўслед гаспадар.— Ну добра, ідзі, падпіхні човен удачы. Шчасліва.

Вялікі Тэрапя падыходзіць да акна, глядзіць і кажа:

— Глянь ты на гэтага Тэпо! Адкуль яму гэтая спадчына падваліла? Вось зараз ён і палезе са сваёй мышынай нары, адхопіць сабе хлебнай зямелькі Тэрапя і ўсе мае радавыя пабудовы. Вось табе і галадранец шавец Тэпо! Чым вышэйшая куча гною, тым болей дзівосаў з яе пабачыш.

## XIV

Яны елі ў сталоўцы на першым паверсе, седзячы за багата накрытым сталом. Вялікі Тэрапя, які раней, калі быў халасцяком, у бацькоўскім доме грыз сухія скарынкі, хоць і быў багатым, жаваў салёную рыбу і запіваў малаком, ды і то не кожны дзень, цяпер есць толькі багатую і смачную ежу і частуе гасцей. Яны сядзелі за абедам, Вялікі Тэрапя, Законнік Матці і маладая прыгожая гаспадыня, сядзела таксама яшчэ адна жанчына з маленькім сынам. Яе Вялікі Тэрапя запрасіў у Рог Шчасця, як толькі пасяліўся там з маладой жонкай, і гэта тая маладая парабчанка, з якой ён застаўся ў лазні ў той дзень, калі згарэў стары хутар Тэрапя. Маладзіца не адмовілася ад запрашэння і прыйшла жыць разам з яснавокім гарэзлівым хлопчыкам трох-чатырох гадоў, які быў вельмі падобны на Вялікага Тэрапя. Ды і сам гаспадар нікольки не сумняваўся ў тым, што гэта ягоны сын.

Гэта вельмі не падабалася маладой законнай жонцы, і яна глядзела на непажаданых прыхадняў злымі вачыма і ўсяляк імкнулася дапячы сваёй незаконнай суперніцы. З гэтага амаль нічога не выходзіла, бо гаспадар, хоць і не ўмешваўся ў жаночыя сваркі, аднойчы цвёрда і назаўсёды забараніў жонцы цкаваць былую парабчанку.

У Дзевы, як называў яе гаспадар, і ў яе сына былі свае пакоі на апошнім паверсе, і заходзіць туды ў законнай гаспадыні не было ніякіх падстаў.

Застольная бяседа цякла, як звычайна, нічога асаблівага. Маладая гаспадыня кінула некалькі з'едлівых слоў пра былое жыццё Вялікага Тэрапя, імкнучыся зачапіць і цяперашняе жыццё, а мімаходзь падкусіць і другую гаспадыню, Дзеву. Але, як толькі яна прамовіла ўсё, што хацела сказаць, размова заглухла. Дзева з сынам, наеўшыся, падняліся з-за стала, а сам гаспадар патупаў наверх у вялікую залу, каб сесці ў сваё любімае крэсла-гушкалку і выкурыць цыгарку.

Законнік Матці і маладая гаспадныя засталіся ўдваіх. Жанчына нейкі час глядзела на старога адваката, потым ускінула галаву і злосна сказала:

— Нічога не зразумела, што думае гэты стары скнара. Ён шыкуе, і грошай яшчэ, відаць, у яго поўна.

— Ну, з грашыма яшчэ не ўсё ясна. У яго столькі даўгоў, што давялося прадаць усю зямлю Тэрапя, сваю апошнюю зямлю. Вось цяпер і будзе відаць, адкуль ягоныя даходы, ці мае ён якое патаемнае сховішча.

Маладая пышная жанчына сярдзіта тузае свой веер і кусае вусны.

— Няма чаго сумнявацца, грошы ў яго ёсць. А то чаму б ён сядзеў цэлымі днямі ў крэсле ды смаліў цыгаркі...

— Можа, ён чакае свайго часу, пакуль што-небудзь высветліцца, ці здарыцца якая бяда, ці яшчэ

што... Калі нават у яго і няма нічога, дык усё роўна да яго ставяцца вельмі добра за ягоны характар. Яму яшчэ доўга будуць пазычаць. Шмат людзей яшчэ вераць Вялікаму Тэрапя. Нікому і ў галаву не прыйдзе, што ў яго можа не быць грошай. Усе думаюць, што ён проста так забаўляецца.

— Так, так, трэба нешта прыдумаць. Я не збіраюся вечна жыць у гэтым дурацкім кляштары, які ён называе Рогам Шчасця.

— А наўрад ці ён будзе пярэчыць, калі вы захочаце сысці адсюль, дый што з таго, калі б вы задумалі пайсці.

Жанчына ўсміхаецца і кажа звонкім строгім голасам:

— Не, проста так я не пайду! Калі ўжо я вянчалася прылюдна з гэтым старым заімшэлым скнарам, дык павінна ж я мець нейкую выгаду, і хацелася б найбольшую.

— Ну,— лісліва кажа Законнік Матці.— Здаецца, большай выгады вам ужо не дабіцца.

— Вы так думаеце? Я што-небудзь яшчэ прыдумаю.

Яна пасміхаецца, гуляе з веерам і раптам рэзка пытаецца:

— А як па-вашаму, гэтая пацягуха Дзева не можа хаваць ягоныя грошы?

— Штосьці не верыцца. Не думаю, каб ён даверыў каму-небудзь іншаму, асабліва жанчыне, такую важную справу.

— Але ж у яго няма ні сяброў, ні прыяцеляў, ён жа нават вам не давярае! А можа, ён зрабіў дзе-небудзь паблізу тайнік?

— Вам лепей ведаць.

— Гэты стары жмінда не можа жыць, калі ў яго пад рукой няма грошай. Ён іх прыхаваў недзе тут, у сваёй Званіцы...

— Можа быць, так, а можа, й гэтак.

— Ну-ну, добра, ёсць у мяне адна задумка,— разважліва кажа маладая жанчына, круцячы ў руках веер.

Законнік Матці пакідае яе, падымаецца па лесвіцы і бачыць у крэсле Вялікага Тэрапя. Яны размаўляюць пра тое-сёе, пра Тэпо, пра ягоныя спадкі, пра тое, што шавец удала купіў зямлю... Потым яны прымаўкаюць і сядзяць моўчкі, думаючы кожны сваю думу.

Раптам знізу даносіцца шум, грукат і нехта пранізліва лямантуе:

— Пажар! Гарым!

Законнік Матці спалохана ўскоквае. Вялікі Тэрапя замірае і ўважліва прыслухоўваецца.

— Гарыць першы паверх,— узрушана і спалохана крычыць Законнік Матці.

— Ага, ёсць такая прымаўка, што агонь добры парабак, але дрэнны гаспадар,— спакойна адказвае Вялікі Тэрапя.

— Што ты балбочаш! Бяжым тушыць!

Кідаецца да дзвярэй стары пісарчук. Вялікі Тэрапя рашуча спыняе яго, спакойна гушкаецца ў крэсле і кажа:

— Чаго ты галосіш! Я ж вось не плачу, хоць гарыць мая хаціна. У мяне такая звычка, калі што гарыць, то няхай гарыць! Ты ж памятаеш, як гарэў мой стары хутар Тэрапя... Праўда, відаць, што ўсё ў маім жыцці звязана з агнём?

— Глузданууўся, дурань стары! Бегчы трэба! Згарыць лесвіца, і капцы нам.

Законнік Матці хапае гаспадара за шкірку і цягне да лесвіцы, як наравістага быка.

— Усё гэта штукарствы тваёй бабы.

І ў гэты момант яны сутыкаюцца з маладой гаспадыняй, якая бяжыць ім насустрач.

— Усё знізу гарыць! — пранізліва вішчыць яна.—

І сцены, і столь. Стары, у цябе ёсць што-небудзь каштоўнае, грошы ці яшчэ што, каб уратаваць!

Вялікі Тэрапя спакойна прыхіляецца да парэнчаў, расцягвае вусны ў з'едлівай усмешцы і акідвае жонку д'ябальскім здзеклівым позіркам.

— Нічога ў мяне няма, зямныя справы мяне мала цікавяць...

Раптам ён трывожна азіраецца.

— А дзе хлопчык і Дзева?

— Вось гэта і ёсць ягонае багацце,— насмешліва кідае гаспадыня.— Ды там яны, цэлыя, выцягваюць на ганак свой скарб.

Вялікі Тэрапя зноў прыхіляецца да парэнчаў і задумліва сочыць, як полымя рвецца з акон першага паверха. У нос патыхае дымам і гарам.

— О, чалавеча! — крэкча Матці і трасе яго за плечы.— Няўжо табе няма чаго ратаваць? Ну хоць бы маю распіску.

— Кожны клапоціцца пра сваё,— спакойна адказвае Вялікі Тэрапя.— Цэлая твая распіска. Спадзяюся, і мая старая вопратка таксама цэлая? Калі агонь жарэ ўсё маё дабро, прыйшоў час апрануцца і мне ў сваё жабрацкае адзенне.

— У завэдзганы кажух і шапку? — дзівіцца Законнік Матці.— Ды я іх аддаў яшчэ ў маразы шаўцу Тэпо.

Вялікі Тэрапя наўцямна глядзіць на яго круглымі вачыма, нарэшце да яго даходзіць, і ён болей не стрымліваецца:

— Аддаў Тэпо! Ты аддаў маё адзенне Тэпо! Святы Божа! Дык вось якая амерыканская спадчына ў Тэпо! У тым адзенні я схаваў свае грошы, мае запасы на чорны дзень, маю падтрымку на старасць... І ўсё пайшло на вецер. Ты, г... сабачае, ты пусціў мяне па старцах.

— Адкуль жа я ведаў,— устрывожана адказвае Законнік Матці.

— Дык вось дзе быў ягоны банк! — злосна і расчаравана крычыць маладая гаспадыня.— Грошы прапалі, дамы згарэлі, а ён усё прыдурваецца.

Вялікі Тэрапя раз'юшана тупае нагамі.

— Згарэлі, раз іх падпалілі! А ты, чортава баба, расцягнула мой набытак дый дом мой падпаліла! Пачакай, будзе табе і не такая бяда.

Але маладая жанчына здзекліва пасміхаецца і адказвае ласкава, амаль пяшчотна:

— А як ты гэта дакажаш? Хто ты цяпер? Бывай, любы, бывай навек.

Нахабніца нават падае яму руку, але Вялікі Тэрапя і вокам не міргнуў. Тады яна паспешліва бяжыць уніз па лесвіцы.

— Каб і духу яе тут не было.

— Ну, што будзем рабіць? — бездапаможна пытаецца паніклы Законнік Матці.— Можа, як-небудзь прыціснем шаўца ды забяром грошы назад?

— Нічога не выйдзе. Не такі ўжо ён дурны.

Унізе са звонам трэскаецца шкло, языкі полымя ўрываюцца на вузкую лесвіцу, прагна ліжуць драўляныя парэнчы. Старыя збягаюць уніз, выбягаюць на двор і стаяць воддаль, назіраючы, як полымя раздольна гуляе ў вялізнай вежы, нават і не збіраюцца тушыць пажар.

— Гэтыя таўстыя цагляныя сцены будуць стаяць вечна,— гаворыць нарэшце Законнік Матці,— і гэта ўсё, што табе застаецца. Што ты будзеш рабіць?

Вялікі Тэрапя стаіць, шырока расставіўшы ногі, і спрабуе вярнуць сабе ранейшую ўпэўненасць і спакой. У душы ў яго раптам вырастае дзіўнае, магутнае пачуццё: вось стаіць ён, Вялікі Тэрапя, і спакойна глядзіць, як згарае ягоны дом.

— Што рабіць? — пытаецца ён, махае рукой і працягвае, як прапаведнік: — Шмат чаго можна рабіць! Але на ўсё свой час, як сказаў баран, калі яму секлі

галаву! На гэтым свеце заўсёды так. Сёння ты аж трашчыш ад багацця, а заўтра ўвесь твой набытак ідзе дымам. Дзіўна жыццё паварочваецца, і невядома, дзе ты знойдзеш свой прытулак. Ды што там казаць пра зямныя справы. Адзін Госпад усемагутны і літасцівы, і ўсе лейцы ў ягоных руках...

Славуты Рог Шчасця Вялікага Тэрапя згарэў ушчэнт. Засталіся толькі задымленыя, шчарбатыя сцены, і халодны вясновы вецер тужліва скавытаў у руінах.

## XV

Нябесны купал свяціўся сінечай, сонечнае вока глядзела цёпла і добразычліва, цёмная лінія небакраю выразна акаляла далягляд. Размаляваныя белымі пэндзлямі ветру і сонца шматлікія сумёты зіхцелі і іскрыліся ў яркім святле. Лес чырванеў ад вясенняга хмелю, і легкадумныя цецерукі куляліся сярод зіхатлівых сумётаў. Моцны водар смалы плыў у паветры, па дварах і дарогах разліваўся здаровы пах гною, і вясковы певень гарлаў свае прызыўныя спевы.

Там, сярод сакавіцкай сінечы, святла і белі, на ўскрайку поля тулілася шэрая хаціна шаўца Тэпо. Як асвяжыў яе сакавік? Ніяк. Першы месяц вясны агаліў яе сцены і дах, навешаў у падстрэшшы ледзяшоў, якія блішчэлі ў сонечным святле, час ад часу капаючы слязьмі са сваіх вострых стрэл. Паветра ля хлява насычана выпарэннямі і пахамі, карова рыкае лянява і сумна.

А за цьмянымі шыбамі хаціны болей не сядзіць згорблены, варты жалю шавец Тэпо. Там сядзіць былы Вялікі Тэрапя з круглымі акулярамі на носе, у скура-

ным фартуху, рукавы закасаныя па локаць; ён бадзёра пастуквае малатком, забіваючы цвікі ў абцасы.

Вось такім цяпер стаў багацей Вялікі Тэрапя, якога ўсе цяпер клічуць Памежнік Тэрапя. Усё ён прагуляў, а тое, што прыхаваў за падкладкай аблавухі, пайшло на карысць былога небаракі Тэпо. Рэшткі цэглы ад згарэлага Рога Шчасця, пярсцёнкі і якія-ніякія каштоўныя рэчы забяспечылі яму сродкі для існавання, і ён выкупіў у Тэпо гэтую хаціну, а сам Тэпо пасяліўся ў новым вялізным доме, купленым за кроўныя грошыкі Вялікага Тэрапя. Тут ён і жыве, як прывязаны, шые, правіць абутак, зарабляе сабе на харчы, бо некалі з-за сваёй скнарлівасці, калі яшчэ быў гаспадаром вялікага хутара, навучыўся шавецкаму рамяству. Ёсць у яго і жонка, праўда, невянчаная — гэта былая парабчанка, якая жыла ў Званіцы і якую ён заўсёды называў Дзевай, а законная жонка знікла невядома куды.

На багатым і вялікім хутары Тэрапя цяпер гаспадарыць некалі забіты Тэпо, а з ягонай старой жонкі пачынае выходзіць увішная і ганарыстая гаспадыня. Іхнія дзеці адзін за адным павярталіся дадому, каб дапамагаць працаваць на хутары.

Тым сакавіцкім днём былы Вялікі Тэрапя забіваў цвікі ў падэшвы ботаў, ягоная жонка ўвіхалася ля печы, гатуючы каву, ■ Законнік Матці сядзеў ля дзвярэй са сваёй нязменнай сумкай каля ног, глядзеў, як стары працуе, і казаў:

— Во як, вялікія дзівосы дзеюцца на гэтым свеце. Вось і былы багацей, Вялікі Тэрапя забівае цвікі ў чаравікі парабчанак і цялятніц, каб не выцягнуць ногі з голаду...

— Ну і што з таго? — спакойна адказвае былы багацей.— Шмат хто займаецца гэтым з дня нараджэння і гарбее за капыламі да магілы, але ім ніколі не даводзілася пабыць на месцы Вялікага Тэрапя, пажыць у радасці, у шчасці раскошы, ніколі не даводзі-

лася адчуць усе выверты лёсу і шчасця... Даволі сумны лёс!

— Ты можаш супакойваць сябе, колькі хочаш, такімі думкамі, але болей за ўсё табе падыходзіць прымаўка: за дурной галавой і нагам неспакой. Вось ты на старасці гадоў з-за сваёй дурноты і дакаціўся да такога.

— А ці лепей мне было тады, калі я пералічваў кожную манету і дрыжэў, каб багацце маё павялічвалася, а не памяншалася... Ад смерці ж ніхто не адкруціцца, ні багацей, ні бядняк.

— Зусім іншая справа чакаць магілы, калі ў доме поўна хлеба і да хлеба. Ты рабіў бы ўсё, што захочаш, еў бы ўдосталь, гаспадарыў бы на многіх землях, цябе шанавалі б і баяліся. Дык не, сядзіш вось, скаліш зубы ды толькі людзей дарэмна лаеш.

— А чхаць мне на тваіх людзей,— кажа Вялікі Тэрапя, злосна забіваючы цвікі.— Якая мне справа да іхняга смеху і дурных размоў? Ты лепей пачытай свае маралі каму-небудзь іншаму, можа, і дапячэш. Ад мяне ж твае павучанні адлятаюць, як іскры з-пад тапара па камені.

— Што вы тут галовы круціце ды кіпяціцеся,— паварочваецца Дзева, завіхаючыся каля пліты.— Глупства ты нарабіў, і грошыкі праматаў, і даў гэтай пацягушцы сябе абакрасці... Каб ты быў крыху разумнейшы, дык пакінуў бы грошыкі ў запас, і мог бы дурэць аж да магілы, і хату сабе добрую паставіў бы. Дык не ж...

Былы Вялікі Тэрапя глядзіць на боты і змрочна бурчыць:

— Гэта ўсё чортаў Матці нарабіў. У мяне ж кацялок варыў як трэба.

— Дрэнна варыў, значыць,— бурчыць Законнік Матці.— Хто мог падумаць, што гэта зацяганая шапка і ёсць твой сейф.

Вялікі Тэрапя з размаху заганяе цвік і бурчыць:

— Вось нягоднік і купіў сабе на мае грошы мой хутар, вось гнойная куча, у мяне і сапраўды ўсё закіпае, калі пра гэта падумаю. Тэпо жыве ў Тэрапя, як некалі я, ■ мяне засунуў у гэтую нару, каб я гарбеў тут, як ён раней, над атопкамі. Мы як ролямі памяняліся. Так можна і звар'яцець. Скажы каму, дык веры не дасць. Скажа, лухту пляцеш, старэча...

— Ды і сам ты сапраўды, як з нейкай казкі. Дзіўна, што ты яшчэ згадзіўся жыць як усе.

— А за што цябе на неба пусцяць? Вось пажыві на зямлі, як усе, і памрэш, як твой час надыдзе. Ды што там казаць пра кароткае жыццё чалавечае, жыві як жывецца.

— А багацею жыць лягчэй.

— Бачылі мы, як гэта лягчэй. Я пажыў у смак, ■ цяпер можна і да беднасці прывыкаць. Чалавеку трэба ўсяго паспытаць.

— Ну, ну,— агрызаецца Законнік Матці.— Добра, што чалавек умее не засмучацца.

— А што за карысць распускаць нюні? Што зроблена, тое зроблена, і нават Гасподзь тут нічога не паправіць. Там вунь, у кутку, на паліцы стаіць кніга. Дзед мой усадзіў за яе кучу грошай. Дык вось там гаворыцца, што багацей памрэ гэтак жа, як і бядняк. Дык што ж добрага ад таго, што ягоная праца ветрам пойдзе...

Тут рыпяць нізкія дзверы, і ў хату ўвальваецца Тэпо ў новым мешкаватым касцюме, рукі глыбока засунуты ў накладныя кішэні, ды ўвогуле былы шавец нагадвае сініцу, якая натапырыла пер'е ад марозу. Голас у яго стаў высокі, нібыта хтосьці нацягнуў ягоныя галасавыя звязкі, чуецца ў голасе і сіла, і ўпэўненасць, хоць часам і відаць, што ён яшчэ не зусім звыкся з новай роляй.

— Добры дзень.

Вялікі Тэрапя кідае на яго позірк паверх акуляраў і працягвае грукаць малатком.

— Добры дзень, ну, што дзе чуваць?

— Нічога асаблівага. Вось зайшоў папытацца, чаму гэта плот мой так парадзеў, ад яго хутка адзін цень застанецца.

Перш чым адказаць, Вялікі Тэрапя даволі доўга цюкае малатком.

— Думаю, прычына тая, што і раней. Калі ў торпара няма ні лесу, ні грошай, каб дроў купіць, дык ён бярэ ўсё, што пад руку трапляе.

Тэпо стаіць упэўнена, стараецца выглядаць жорсткім, вочы яго блішчаць, як алавяныя гузікі, ён імкнецца гаварыць цвёрда і няўмольна:

— Я такога свавольства не пацярплю. Калі такое будзе і далей, я выкіну вас з гэтай хаціны.

— Ты ж сам гэтак жа цягаў жэрдзе з майго плота, калі жыў тут.

— А вы гэтак жа на мяне насядалі і пагражалі выгнаць.

— Але ж я цябе не выгнаў.

— І на шчасце,— умешваецца Законнік Матці,— на шчасце, у цябе, Тэпо, не было дроў у хаце, калі пачаліся маразы. Іначай ты б ніколі не атрымаў такіх багатых кажуха і шапкі.

— Во, во, Тэпо,— з бацькоўскай ласкавасцю ў голасе кажа Вялікі Тэрапя.— Гэта ж ад мяне ты атрымаў сваю амерыканскую спадчыну! І не задзірай носа раней часу, бо хто яго ведае, як яно далей пойдзе.

— У кожным разе не так, як у цябе! Я ўсялякіх там вежаў не будую.

Вялікі Тэрапя ўскіпае, закідвае бот пад лаўку і крычыць:

— Не хваліся маімі грашыма!

— Тваімі,— з'едлівым голасам адказвае Тэпо, расцягваючы словы.— Ты ж за грошы скуру з людзей

здзіраў! Як п'яўка, чужое дабро смактаў! Збяднеў, а ўсё роўна ж тое робіш — чужое цягнеш.

— Ну, браце,— адказвае Вялікі Тэрапя, супакойваючыся.— Ты ўжо, думаеш, вялікі пан? Усе людзі аднолькавыя. Мы з табой нават маглі б і пабратацца! Калі я быў вялікім жулікам, а потым стаў малым, з табой адбылося тое самае, толькі наадварот.— Ён нейкі час зноў заганяе цвікі, а потым працягвае: — Наўрад ці з цябе выйдзе што-небудзь добрае, вялікім жулікам ты не станеш, а Вялікім Тэрапя і пагатоў. А ўсё з-за таго, што няма ў цябе нічога ў галаве і вару пад пазногцямі.

— Не хваліся сваёй галавой, вось чым ты кончыў! Пастукай, пастукай малатком.

— І гэта трэба, каб было па справядлівасці.

— Глядзі, не цягай болей маіх жэрдак і штакецін. А то мала табе не будзе.

І Тэпо выходзіць з хаты і кіруецца да хутара Тэрапя, упэўнена ступаючы нагамі ў новых п'ексах, глыбока засунуўшы рукі ў кішэні.

У хаціне нейкі час пануе цішыня, толькі булькае кацялок ды стукае шавецкі малаток. Затым Законнік Матці прамаўляе:

— Ну, відаць, ролі і сапраўды памяняліся. Ты ж таксама не вельмі цырымоніўся з Тэпо! Ці не здаецца табе, што ў жыцці лепей загадваць ды камандаваць, чым вось так па сваёй волі скаціцца ўніз?

— І ў мяне было б зусім другое жыццё, каб я была гаспадыняй Тэрапя,— кажа Дзева, ставячы на стол імбрычак з кавай.— Гэта ж вялікая розніца, ці каравячая ляпёха, ці аржаны хлеб.

Вялікі Тэрапя пакідае работу і паварочваецца да стала, на яго шэрым, завостраным твары з'яўляецца нешта накшталт натхнення, і ён пачынае гаварыць, як прапаведнік, размахваючы рукамі:

— Мне ніякай розніцы. Я быў багацеем. Я добра

ведаю, што такое багацей. У багацея толькі адзін клопат, адна думка. І не дае яна яму спакою ні ўдзень, ні ўначы: каб болей грошай, каб болей... А бедняка гэта не хвалюе, яму няма куды падаць. Няхай багацей марнее! Я паспытаў гэта на сабе! Я сам быў багацеем. Я ведаю... Слухай ты, Дзева, і ты, Законнік Матці: разумны той, хто дарэмна не мітусіцца, не натамляе сябе, а жыве, нібыта красачка ці птушка нябесная пад сонцам.

Настаў бледны сакавіцкі вечар, і сярод пасінелых гурбаў стаіць нізенькая хаціна, у ёй спіць сівы чалавек, які шмат чаго бачыў у жыцці, легендарны чалавек, які, пэўна, хутка пакіне гэты свет зямной марнаты і адправіцца на вечны спачын у прахалодную зямлю, якая заўсёды будзе нараджаць непараўнальную прыгажосць.

Сіняваты жывы вечар згасае. Вышэй падымаецца небасхіл, мільгацяць зоркі, усміхаецца бледны месяц. У маўклівых лясах і вёсках пануе начны змрок, прывідны і таямнічы, начная цішыня ледзь шапоча і нараджае прыгожыя мары аб харастве жыцця, якое і дае надзею на заўтрашні дзень.

## XVI

Летнім днём двое падзёншчыкаў вострацць сякеры ў двары хутара Тэрапя. Адзін круціць тачыла, а другі трымае на ім сякеру. Сухое кола пранізліва рыпіць, і той, хто круціць, час ад часу плюе на вось, але рыпенне ад таго не сціхае, і ён сярдзіта лаецца. Ягоны напарнік падымае сякеру, праводзіць пальцам па лязе, спрытна плюе і прамаўляе:

— Ходзяць чуткі, што Вялікі Тэрапя памёр.

— Кажуць, што памёр,— адказвае другі.

— Некалі спускаў скуру з людзей, жываглот, а по-

тым і сам застаўся голы як бізун, правіў драны абутак.

— Дурасць замучыла, ды нячыстая спакусіла...

— Сын ад яго застаўся.

— Ага, застаўся. У той падсцілкі.

— Пэўна, і яна хутка памрэ. Хрыпіць, кашляе, сухоты ў яе.

— Так, дзеўка... Дый чаго добрага яна дасць сыну, па старцах пойдзе адзінае дзіця Вялікага Тэрапя...

— Во-во, не шмат пакінуў людзям Вялікі Тэрапя.

Яны змаўкаюць. Рыпіць тачыла. Сякера памалу вострыцца на цвёрдым камені.

Вялікі Тэрапя і сапраўды памёр у сваёй шэрай хаціне на краі поля. Памёр ён раптоўна і без пакут: малаток螺 вываліўся з рук, а сам ён моўчкі паваліўся на чаравікі і шавецкія прылады. Дзева, якая ўжо даўно хварэла і надрыўна кашляла сухім кашлем, якраз выйшла са сваёй каморкі і ўбачыла, як стары аддаў канцы. Яна крыху паплакала і задумалася: вельмі ўжо нечакана памёр Вялікі Тэрапя. Хутка, пэўна, і мая чарга... А што будзе з хлопчыкам? Ну, ды ёсць жа добрыя людзі на свеце, не дадуць з голаду памерці.

А ў двары сядзеў адзіны сын Вялікага Тэрапя Ялу, якому яшчэ не было і дзесяці гадоў. Вялікая капа белых валасоў пакрывае ягоную маленькую галаву з незвычайна шырокім ілбом, які дастаўся яму ад бацькі, шчокі ў хлопчыка тоўстыя і круглыя, а светлыя вочы здзіўлена глядзяць на белы свет. Ён сядзіць у двары, штосьці будуе з трэсак і пяску, і светлая ўсмешка гуляе на дзіцячым твары. Свеціць сонца, пахне травой.

Выходзіць маці, высахлая, як шчэпка, з заплаканымі вачыма і кажа:

— Дзед памёр.

Светлыя вочы хлопчыка адразу цямнеюць. Памёр,

гэтае слова ён звязвае, напэўна, з нечым халодным і нерухомым, з вялікай, беззваротнай стратай...

— А хутка і матуля цябе пакіне. Ялу, небарака, ты застанешся зусім адзін.

Потым яна патрухала да бліжэйшага чалавечага жытла, на хутар Тэрапя, дзе зусім яшчэ нядаўна кружылася ў вясёлых скоках, каб паведаміць, што адбылося, і папрасіць дапамогі.

І былога Вялікага Тэрапя, некалі такога пыхлівага і багатага, завезлі на могілкі. А ледзь паспела астыць зямля на магіле, як і сама Дзева звалілася хворая на ложак. Яна керхала і харкала крывёю і хутка падалася ўслед за тым, з кім падзяляла зямныя марнасці.

Ялу, адзіны сын Вялікага Тэрапя, застаўся адзін. Маленькі яснавокі хлопчык з белымі валасамі, неразумны, як лясны звярок. Што прынеслі яму гэтыя дзве смерці, ці адчуў ён страх і турботу? Можа, неяк бязладна і невыразна ён адчуў сваю безабароннасць, пустэчу... Бацька і маці, блізкія і родныя, адзіныя, што атачалі яго ў гэтым жыцці, сышлі туды, куды яму ніяк не дабрацца.

І вось Ялу — парабчук на хутары Тэрапя.

Старому дзеду Тэпо, былому нікчэмнаму шаўцу, а цяпер гаспадару хутара, узбрыло ў галаву ўзяць пад сваю апеку гэтага малога кормленца абшчыны, каб зарабіць на ім крыху грошай. Дый сама задума здалася яму даволі забаўнай: нашчадак Вялікага Тэрапя — парабак на хутары Тэрапя...

Як некалі ягонаму бацьку, яму давялося рана ўзяцца за працу на хутары Тэрапя. Ён сек дровы, вывозіў гной у санях на поле, а летам ад цямна да цямна пасвіў скаціну. Гэта нават падабалася яму. Так ён меў магчымасць пабыць адзін, далей ад Тэрапя і ягоных жыхароў.

А ўсе жыхары хутара і асабліва старая Хура, якая зусім ссохла і зморшчылася, абыходзіліся з ім па-

гардліва і нават здзекліва. Яны расказвалі яму пра нябожчыка бацьку, здурнелага багацея Вялікага Тэрапя. Ага, вось тут, у гэтым самым доме, дзе калісьці жыў у раскошы ягоны бацька, парабкуе гэты паганец. Гэй, ты, падкідыш, ідзі на канюшню і вучыся, як трэба жыць! Хаця чаму навучыцца гэты прыдурак? Што зробіш, калі ён зроду такі прыдуркаваты. Усе ў яго родзе такія. Нічога людскага з яго не выйдзе.

Аднак у Ялу была вельмі чуйная душа. Здзекі і грубасць пакідалі ў ім глыбокі след. Ён пачуваў сябе сіратой, самотным і чужым сярод людзей. Ягоныя вочы лёгка напаўняліся слязьмі, а тады з яго яшчэ болей смяяліся.

— Гэй, не плач, хлопча, не плач! Твой бацька не плакаў, нават калі гарэў ягоны дом! Ён узрадаваўся і пайшоў у лазню, ды так пацешыўся, што атрымаўся вось такі сын, які цяпер пускае соплі! Не хвалюйся! Ты ж сынок багацея. Твой бацька таксама не хваляваўся. Вось і аддаў канцы жабраком!

І хлопчык сапраўды супакойваўся, прынамсі, на выгляд. Ён супакойваўся і, не кажучы ні слова, зноў браўся за работу. Але ягоны спакой і маўклівасць вельмі дапякалі старой Хуры, яе згрызала злосць і помслівая зайздрасць.

— Авой-авой, які ты дурны хлопец! Чаго ты разявіў зяпу, калі цябе вучаць жыццю-быццю. Даць бы табе дубца, дык адразу б усё зразумеў.

І яна паспрабавала адсцябаць яго, калі аднойчы ён трапіў пад руку, але невядома, ці праяснела ў хлопчыка ў галаве ад таго. Ён стаў яшчэ болей маўклівым, у душы ў яго падняліся злосць і нянавісць да ўсяго на свеце. Але ён пакорліва працаваў і ўпарта працягваў сваё. Ад людзей ён бачыў толькі знявагу і здзек, а таму пачуваў сябе самотным і чужым. Ён часта думаў пра бацьку, якога баяліся і паважалі, якому служылі. Ён цьмяна помніў высокую цагляную вежу, дзе жыў, калі

быў маленькі, дзе весела шумеў вецер і весела жылі людзі. Ён чуў, як людзі насмешліва гаварылі пра гэтую вежу, і праз насмешку выбівалася павага і захапленне, а ён слухаў уважліва і, здавалася, абыякава.

Аднойчы ў нядзелю ён пайшоў паглядзець тое месца, дзе на беразе рэчкі стаялі руіны былога дома, і ў ягонай душы нарадзілася мара аб тым, што калі-небудзь настане час, ён вырасце і расквітаецца з крыўдзіцелямі. Ён марыў, як ён адплоціць Хуры, Тэпо і ўвогуле ўсім жыхарам хутара. У душы выраста-ла злосць і прага помсты, гонар і жаданне адпла-ціць за ўсе крыўды яшчэ болей распальвалі ягонае ўяўленне.

Ішлі гады, павольна, нібыта слімак, і слабы хлоп-чык рос, запамінаў і вучыўся жыць. Людзі лічылі яго прыдуркаватым, бо ён заўсёды стараўся быць адзін, маўчаў і толькі зрэдку ўсміхаўся. Летам, у нядзелю, ён звычайна сядзеў на беразе рэчкі і вудзіў рыбу. Тут, на беразе, ён мог спакойна сядзець, марыць, глядзець на паплавок і чакаць, калі клюне рыбка. Затым ён, хаваючыся, ішоў дадому і цішком скормліваў усю рыбу кату.

Аднойчы ўвечары ён гнаў дадому скаціну і ўбачыў старога, які сядзеў каля чырвонай хаціны ля моста. Гэта быў Законнік Матці, састарэлы, схуднелы і сівы, ссохлы, як галінка на марозе. Гэтае аблічча старога Ялу запамятаў на ўсё жыццё. Стары сказаў яму хрып-лым шэптам:

— Ты сын Вялікага Тэрапя. Твой бацька быў разумны і горды чалавек. Будзь такім і ты. Хай не саслабее ў табе ягоная кроў.

Ялу здзіўлена прайшоў міма і падумаў: смяецца гэты стары корч, а можа, і праўда...

# XVII

Так незаўважна Ялу пражыў некалькі гадоў, у працы, у засяроджаным маўчанні. Душа яго поўнілася сталымі пачуццямі. Са здзекамі і кпінамі да яго болей не чапляліся, бачылі, што хлопцу гэта ніяк не дапякае. А ён жыў толькі сваім жыццём. Ялу споўнілася пятнаццаць гадоў, а потым і болей. Стары, нікчэмны Тэпо памёр, яго пахавалі, и на магілку паставілі чорны дарагі камень. Хура яшчэ жыла, але ад рэўматызму яе скруціла і сагнула, суставы пакрыліся гвылямі і закасцянелі, яна амаль не падымаецца з ложка, ды і лежачы, усё роўна скавыча і лаецца ад болю і злосці. Гаспадаром стаў сын Тэпо, высокі і стройны. Ён пайшоў і ў бацьку і ў матку: звяглівы і з'едлівы, але дабрадушны і тупаваты.

Потым адбылося нешта такое. Законнік Матці, шэры і высахлы, аж свіціцца, памёр у сваёй чырвонай хаціне і пакінуў запавет, у якім перадаваў усю сваю маёмасць сыну Вялікага Тэрапя Ялу Тайкінамаа. Такім чынам, хлопец атрымаў у спадчыну чырвоную хаціну, стос кніжак, чарніліцу і ручку з пёрамі. На хутары зноў пачалі смяяцца і здзекавацца: давай, вялікі пан, валодай зямлёй, сей збожжа, багацей і купляй, і купляй усе землі ў наваколлі, як некалі рабіў твой бацька.

Але Ялу маўчаў і ў хуткім часе пераехаў з Тэрапя ў Чырвоную хаціну. Сякерай і рыдлёўкай ён зарабляў свой сухі кавалак хлеба з соллю і запіваў яго халоднай вадой з ручаіны. І неўзабаве людзі заўважылі, што хлопец гэтакі самы дзівак і шаленец, як дзед і бацька: ён запоем чытаў кнігі. Начамі Ялу сядзеў з кнігамі нябожчыка Матці-Законніка і з палкімі вачыма гартаў старонку за старонкай. Але большасць кніг нябожчыка былі напісаны па-шведску. І як ні стараўся сын Вялікага Тэрапя расчытаць іх, ад незнаёмых слоў у галаве

нічога не прыбаўлялася, перакласці са шведскай мовы ён ніяк не мог. І што ж ён зрабіў? Ён пайшоў у царкву і дамовіўся са святаром, што той навучыць яго шведскай мове. Святар згадзіўся, і хлопец старанна ўзяўся за вучобу. Стары пробст дзівіўся з такой стараннасці хлопца, хваліў і наважваў яго вучыцца далей. Хлопчык вяртаўся ў сваю хаціну і сядзеў і чытаў, вывучаў кнігі. Неяк яму ў рукі трапіла цікавая кніжка, дзе расказвалася пра Саатаснаму, які быў абяздоленым нявольнікам, чалавекам з цяжкім лёсам і сабраў усіх паднявольных супраць свайго валадара. Вось гэта была кніга для Ялу! Кроў прыхлынула да твару хлопца, вострымі, як нож, вачыма ён прабягаў старонкі, цяжка тахкала сэрца, а па спіне бегалі мурашкі. Ён бачыў Саатаснаму хударлявым, высокім, вузкаплечым, прыветлівым, лоб ягоны хмурыўся ад цяжкіх думак, вочы глядзелі пранізліва, на поясе вісеў кінжал, а чырвонае пяро развявалася над шапкай. Хлопец чуў ягоны голас сярод грукату стрэлаў, бачыў, як зіхцелі доўгія дзіды і стальныя мячы, як барвела кроў і чырванела полымя, як у неба ўздымаліся вялізныя хмары дыму. Так Саатаснама і ягонае войска змагаліся супраць прыгнятальнікаў... «Воля! — грымеў голас Саатаснамы.— Воля або смерць!» Шчаслівыя тыя, хто гіне ад куляў у бітвах, бо ім ніколі не давядзецца лізаць пыл пад нагамі тыранаў і пакорліва гнуць шыю перад прыгнятальнікамі...

Вось гэта кніга якраз па Ялу! Хлопец чытаў і аж уздрыгваў, аплакваючы лёс Саатаснамы. Саатаснама загінуў. Ягоныя таварышы здрадзілі яму і прадалі, як нікчэмныя баязліўцы, і Саатаснаму забілі, спачатку паднялі на дзіды, а потым рассеклі на чатыры часткі. Полымя паўстання залівалася крывёю, але ідэя свабоды заставалася жыць, цеплілася і ўзрастала ў сэрцах зняволеных і прыгнечаных.

Гэтую кнігу Ялу Тайкінамаа чытаў і перачытваў

некалькі разоў. Толькі калі даймаў голад, ён пакідаў кнігу, сек дровы або капаў канавы гаспадарам. Ён атрымліваў ад іх акраец хлеба і жменю солі, быў на выгляд хударлявы і слабы, але жылаваты і вынослівы, твар ягоны быў белы, а вочы гарэлі, нібы вуголле пад ілбом, які выступаў, як скала. Хлопец амаль ні з кім не размаўляў, ён хадзіў засяроджаны, паглыбіўшыся ў свае думкі. А людзі ўсё чакалі, калі ж у яго ад тых кніжак павылятаюць апошнія клёпкі з галавы.

Але здарылася так, што Ялу сталі апаноўваць зусім іншыя пачуцці. Яны хвалявалі кроў, і яму болей не хацелася чытаць чорныя адбіткі слоў на пажоўклай паперы і маляваць перад вачыма магутны вобраз Саатаснама. На хутары, дзе ён аднойчы працаваў сякерай і лапатай, каб зарабіць сабе на пражытак, ён убачыў дзяўчыну. Гэта была служанка з белай, гладкай скурай і бурлівай маладой крывёй. Маладая і прывабная. Маўклівы, змучаны працай, паглыблены ў кніжны свет Ялу адчуў, што ў ягонай крыві бурліць нешта гарачае і дурманнае. У галаву лезлі дзіўныя і спакуслівыя думкі. Яму мроілася маленькая чырвоная хаціна, чароўная жонка і дзіцятка ў яе на руках. Дарэмна ён стараўся заглушыць гэтыя блытаныя спакуслівыя думкі сілай розуму. Ён бачыў брудную хату, дзяцей, змучаную жанчыну, з якой давядзецца звязацца на ўсё жыццё, а значыць, усё жыццё не разгінаць спіны, каб здабываць ім кавалак хлеба. Вось такі лёс чакаў яго, яго, хто хацеў некалі перавярнуць жыццё, вырвацца з кола тупагаловых, такі лёс чалавека, у галаве ў якога спелі ўзвышаныя, хоць і бязладныя думкі, вялікія і дзівосныя памкненні. Аднак заўсёды бывае так, што нешта маленькае і нязначнае аказваецца мацнейшае, чым усё вялікае і прыгожае. Ён забыўся дарогу ў сваю хаціну, пакінуў старыя кніжкі пыліцца ў куце і цэлымі днямі круціўся каля вясёлай маладой дзяўчыны. Ён пераконваў сябе, што зусім неабавязкова думаць пра

хаціну, дзяцей і законны шлюб. Можна і інакш: жыві, гуляй, цягні дзяўчыну да сябе ў ложак і весяліся.

Дзяўчына аказалася не вельмі пераборлівай. Ды і Ялу Тайкінамаа быў не такі ўжо паганы на выгляд: высокі, зграбны, з сумленнымі палкімі вачыма, да таго ж ён быў сынам Вялікага Тэрапя, некалі багатага і славутага чалавека. А магчыма, у схільнасці дзяўчыны да хлопца было простае жаданне жаночай паловы роду чалавечага вабіць і зачароўваць мужчын.

Такім чынам, Ялу Тайкінамаа апанавалі туманныя сардэчныя пачуцці, але адначасова з'явіліся і іншыя: раздражненне, зайздрасць і горыч.

Цяперашні гаспадар хутара, сын Тэпо, быў яшчэ нежанаты, паўсюль шукаў сабе жонку, і здарылася так, што палажыў вока на тую самую дзяўчыну, да якой заляцаўся Ялу. Па хуткім часе гаспадар хутара перамог: ён быў смялейшы, дужэйшы і, апрача таго, валодаў гэткім багатым хутарам. Дзяўчына, не доўга думаючы, выбрала багацея. Да таго ж болей прыветнага, чым небарака Ялу, ад якога можна было чакаць усяго, чаго хочаш. Праўда, яна не адразу паказала свой выбар. Яна вагалася, хісталася, нібы капялюш на пудзіле, але такое ўжо шчасце бедняка, сэрца якога працінаюць усе вятры, вось і дзяўчына ўсё вагалася і не ведала, у які бок зваліцца, ды і ці звальвацца ўвогуле. Яна зацікавіла абодвух мужчын, разбудзіла зайздрасць, варожасць і рэўнасць.

Нябожчык Законнік Матці жыў на зямлі Тэрапя, бо сваёй у яго не было, толькі гэты невялікі шматок, дзе стаяла хаціна. І вось малады гаспадар Тэрапя пачаў думаць, як дапячы свайму суперніку, і ўспамінаць, ці была закладная папера на гэты шматок зямлі. Ён пачаў шукаць закладную і знайшоў, а там было напісана, што арэнда хутка канчаецца, засталося некалькі месяцаў. Ён прыціх і стаў чакаць, а калі тэрмін сышоў, то сустрэў Ялу на хутары, дзе той ашываўся,

каб пабачыць дзяўчыну, да якой яны абодва заляцаліся.

— Здаецца, гэта хата ўжо не твая. Тэрмін арэнды скончыўся, дык забірай свае кніжкі, іншае майно і матай адсюль.

Ялу спалатнеў, душу ахапіла сумота, а ўсярэдзіне ўсё кіпела ад злосці. Не, яму было ўсё роўна, што яго выганяюць з хаты, не шкадаваў ён і сваіх кніжак. Злавала тое, што супернік гэтак паказаў перад дзяўчынай сваю ўладу, гэтак бесцырымонна загадаў збіраць манаткі. А гаспадар Тэрапя адчуў сябе яшчэ болей упэўненым, вырашыў паддаць жару і прыпомніў колішняе:

— Вось бачыш, Ялу, і ты страціў свой дом, як і твой бацька.

Ялу нічога не змог адказаць на тое, ён нават не падумаў, ці мае права гаспадар гэтак адразу высяляць яго. Ён адчуў пустэчу і знясіленасць.

— Плакаць не збіраюся,— нарэшце вымавіў ён.— Жыві сам тут, калі хочаш. Усё ж дармавы прытулак...

— І ў мяне дармавы, але я занепакоіўся б, калі б мне загадалі выбірацца адсюль.

Праз некалькі дзён Ялу прыйшоў паглядзець сваёй хаціны. Рамы павыдзіралі, у пустой будыніне стаяла халадэча, праз вокны намяло снегу. Непатрэбная мэбля была выкінута на двор, вецер замятаў зваленыя ў кучу кнігі, матляў раскрытыя старонкі. У той жа момант ён пачуў віскат палазоў і залівістыя званочкі: паўз яго праляцеў конь, запрэжаны ў сані, дзе сядзелі двое. І ён, і яна засмяяліся, убачыўшы чалавека, які стаяў у пустым двары і нечага шукаў у гурбах. Гэта былі гаспадар Тэрапя і маладзіца, якія, напэўна, ехалі да свяшчэнніка.

Хлопцу, які стаяў перад хатай у двары, стала вельмі цяжка. Яго нібыта наскрозь прахапіў халодны, злы і жорсткі зімовы вецер. Дарэмна ён стараўся

супакоіць сябе тым, што не варта плакаць з-за гэтай жанчыны, ці мала такіх на свеце. Проста гэтая самка дорага прадаецца. Аднак ён усё ж адчуваў, што з рук у яго выслізнула нешта такое, чым ён імкнуўся авалодаць. І ён падумаў, што і хаціна, і кнігі ўсё ж нечага варты. Сядзеў бы ён цяпер каля грубкі, чытаў бы і раздумваў бы, а гэтая дурная гісторыя проста забылася б. А цяпер усё ляснула.

Ён цяжка пайшоў па глыбокім снезе, пакінуўшы свае кнігі і пажыткі пад гурбамі ў двары. Хай бяруць усе, хто хоча, ці людзі, ці чэрці.

## XVIII

І вось Ялу Тайкінамаа туляецца ў змрочнай шэрай вёсцы, і ў душы яго таксама халодны змрок і пустэча, як самай халоднай зімой, безнадзейна і сумна, нібыта ў самыя вялікія маразы. Час ад часу ўздымаўся шалёны вецер, вар'яцела завіруха, бязладна кідаючыся туды-сюды. І тады душа Ялу перапаўнялася злоснай атрутай і горыччу. У шэрай пустэчы ягонай душы вырастала бязмежная злосць і прага помсты.

Яму хацелася неяк адплаціць гаспадару Тэрапя. Той адабраў у яго дзяўчыну і прытулак, дзе ён мог сядзець каля грубкі, слухаць, як за вуглом свішча вецер, дзе ён мог чытаць і мроіць пра сваё далёкае шчасце. Ялу думаў, што не так ужо і важна, не так патрэбна яму дзяўчына і прытулак, якія адабралі ў яго, а галоўнае цяпер неяк прыпомніць гаспадару Тэрапя ўсё былое, давесці яму, памучыць і ўтаймаваць, даказаць, што ён нікчэмны, гнюсны, мярзотны чалавек...

Ялу раздумваў і гаварыў сабе, што трэба быць цярплівым і дальнабачным. Калі ён стане дужым, тады ён зможа адпомсціць за крыўду... Аднак такія думкі не

супакойвалі душу. Хто ведае, калі ён стане дужым, ды і ці стане ўвогуле? Адкуль яму ўзяць грошай, каб набраць сілы? З ветру і сонца?

Ялу распальваў сваю злосць, нянавісць працінала ўсю ягоную душу, нібыта цяперашні гаспадар Тэрапя быў вінаваты ва ўсіх тых няшчасцях, якія напаткалі яго ў жыцці. Аднойчы, калі хлопец сек дровы непадалёк ад лясной дарогі, гаспадар Тэрапя праязджаў міма на кані. Ён спыніўся, перадаў парабку лейцы і загадаў:

— Гэй, Ялу, завязі дроў і на Тэрапя! Можаш нават правесці ноч каля гаспадыні, успомніць старое каханне.

Ялу толькі заскрыгатаў зубамі і пачырванеў ад злосці. Ад крыўды ў яго адняло мову, і ён змог выдавіць толькі лаянку:

— А каб цябе тысяча чарцей даілі! Можа, мне яшчэ і папрацаваць на тваю пошасць з тваёю бабай?

Вечар выдаўся цёмны, віхурысты. Калючы, цвёрды снег раставаў на твары, як соль, і скура смылела. Аднак Ялу не змог уседзець і праз цемру і завіруху пабрыў да Тэрапя. Там ён спыніўся, прысеў за вуглом дома і злымі халоднымі вачыма стаў сачыць за хутарам. Вось і гаспадар Тэрапя з ліхтаром у руцэ падаўся да канюшні. Ялу выбраў пад павеццю сухое бярозавае палена і незаўважна пракраўся ўздоўж сценкі да варот. Агеньчык у акне насмешліва падміргваў яму праз чорную цемру, вецер выў у падстрэшшы, шорсткія сняжынкі калолі твар.

Высока падняўшы ліхтар, гаспадар выйшаў з канюшні. Удар паленам прыйшоўся яму па руцэ; ліхтар выпаў і разбіўся. У той жа момант чорны цень кінуўся да гаспадара, нож прабіў суконную світку, упіўся ў грудзі, пырснула кроў, і чалавек з кароткім ускрыкам паваліўся на разбіты ліхтар. А Ялу кінуўся бегчы, шпурнуўшы акрываўлены нож у снег. Па спалатнелым

твары хвастала завіруха, і вецер вішчэў у полі, як недарэзаная свіння.

— Ну вось, атрымаў, нячысцік, жалязяку пад рэбры,— прахрыпеў забойца, сцішваючы крокі. На другі дзень Ялу даведаўся ад вяскоўцаў, што нехта ўдарыў нажом гаспадара Тэрапя і той пры смерці, можа, хутка і памрэ. Ён слухаў людзей, слухаў, як яны дзівіліся, хто б мог такое зрабіць, і маўчаў. Ён радаваўся, што раней ніколі не лез у чужыя размовы, ■ таму ніхто і не здзіўляецца, што ён маўчыць і цяпер. Але ўдзень, калі ён зноў пачаў секчы дровы, у душы нарадзілася трывога. «А што, калі ўсё раскрыецца? А што, калі яго закуюць у кайданы і пасадзяць у турму?» Раптам ён адчуў, што любіць жыццё і волю, нягледзячы на тое, што жыць даводзіцца вельмі цяжка. У душы пачаліся згрызоты, яго даймаў слізкі, халодны страх, аж ногі халаднелі. Ён пачаў маліцца Госпаду, нягледзячы на тое, што да гэтага часу нават не ўспамінаў пра валадара нябеснага, не верыў у яго існаванне, а часам і праклінаў творцу, кажучы, што калі недзе і ёсць, то ён проста дурань... Цяпер жа ён маліўся, нават укленчыў проста ў снезе, прасіў Усявышняга дапамагчы і абяцаў, што будзе добрапрыстойным вернікам і праведным. Ён горка каяўся ў тым, што зрабіў учора, праклінаў свой грэх і свой неабдуманы ўчынак. Ён абяцаў, што калі Бог даруе яму, то стакроць будзе ўхваляць Госпада. Потым яму стала сорамна і прыкра: ці час яму, небараку, прасіць у Бога паратунку?.. Ці сумленна гэтак абяцаць, што гэта твой апошні грэх толькі таму, што не хочаш адказваць за яго... Занепакоены і прыціхлы, з затуманенай галавой ён вырашыў паехаць на лыжах да хутара. Там ён пачуў, што злачынцу ўжо знайшлі. Гэта быў торпар, які і раней заўсёды сварыўся з гаспадаром, былым суседам Тэпо. Але той кляўся і бажыўся, што ні ў чым не вінаваты і ў той дзень нікуды не выходзіў са свайго дому. Ён быў моцна ўсхваля-

ны, мітусіўся, бесперапынна хрысціўся і бажыўся, што ні ў чым не вінаваты. Гаспадар жа трызніў у непрытомнасці і наўрад ці змог бы пазнаць таго, хто напаў на яго цёмнай ноччу. Торпара арыштавалі. Кажуць, што паліцэйскія дубінкамі хацелі выбіць прызнанне. Тады арыштаваны раззлаваўся, сціснуў зубы, а потым закрычаў, што гэта не ён ударыў гаспадара, але добра, што нехта гэта зрабіў... Правільна зрабіў! Можа, гэта сам сатана разануў свайго...

Ялу пачуў усё гэта і адчуў, як страх пакідае яго, нават узрадаваўся: Гасподзь пачуў ягоныя малітвы і дапамог яму... У той жа час мільганула думка, што не зусім праведная гэта дапамога: невінаваты чалавек будзе пакараны з-за яго! Вось так заўсёды на свеце. Пакутуй, нічога, што ты вінаваты альбо невінаваты... Але ён заглушыў такія думкі, сцішыўся і нават засароміўся: што яму ведаць пра нябесныя справы? Справы Усявышняга няведамыя простаму чалавеку. А можа, гэты арыштаваны меў які-небудзь грэх перад Госпадам і не замаліў яго... Вось за гэта яго і абвінавацілі. А яго, Ялу Тайкінамаа, Гасподзь памілаваў. І ён сапраўды адчуў, што ноша ягоных грахоў не такая ўжо і вялікая, каб несці за гэта яшчэ і кару зямную. Ён выправіцца і будзе весці прыстойнае жыццё. Напэўна, Гасподзь пачуў яго і паказаў правільны шлях.

І Ялу, то згараючы ад трывогі, то зноў супакойваючы сваю душу, шчыра ўзяўся за працу. Ён прыходзіў дадому позна вечарам, еў, выпростваў стомленыя суставы, засынаў, а зранку зноў прачынаўся з пачуццём трывогі. Яго непакоіла, што будзе з тым торпарам? Як той лаяўся, калі лажыўся спаць на падлогу ў турме? А ў яго ж гаспадарка, жонка і куча дзяцей. І жылі яны не надта багата, а болей у нястачы... А ты, малады хлопец, у якога ні радні, ні сяброў, азінокі чалавек, будзеш гуляць на волі. А за твае злачынства будзе расплачвацца нехта іншы. І зноў

у галаве ў Ялу мільганула думка: што ж ён там думае, гэты ўсемагутны стары на небе... Ён толькі напужаў яго і даў яму добры ўрок. Аднак настане час, і яму давядзецца адказваць за свае грахі. Дык ці варта хадзіць пад вечным страхам, што некалі карная сякера апусціцца і на цябе? Ці не спакайней хадзіць па свеце, пакорліва працаваць, каяцца і тым расплочвацца за свае грахі. Але няўжо заўсёды хадзіць у страху перад расплатай, баючыся прызнаць свой грэх? І любая твая радасць, любая думка і шчасце будуць атручаны страхам перад Богам, які можа раззлавацца і ў любую хвіліну пакараць цябе за патаемны грэх. Лепей ужо, каб гэтыя ўдары ўпалі на цябе адразу! І не будзе табе чаго таіць, і душа твая будзе спакойная... Ялу апантана сек дровы, і душа яго калацілася, як у ліхаманцы. Міналі дні. Аднойчы ранкам ён адчуў у душы дзіўную палёгку і халодны спакой. Ён пайшоў у вёску і прызнаўся ленсману, што гэта ён ударыў нажом гаспадара Тэрапя. Торпар не вінаваты. Яго трэба неадкладна вызваліць.

Ялу Тойкінамаа арыштавалі.

Стаяў спакойны, цёплы і светлы зімовы дзень. Над ляснымі вяршалінамі радаснай усмешкай свяцілася сонца.

Ялу закавалі ў кайданы. Наглядчык кляпаў кайданы, грукаючы малатком. Ялу сядзеў, утаропіўшыся нерухомым позіркам у падлогу.

— Навошта ты ўдарыў яго нажом? — запытаўся нарэшце наглядчык.

— Ён біў мяне малога. Біў па спіне.

— Кажуць, гэта так,— сказаў другі.— Ды яшчэ кажуць, і дзяўчыну ў цябе адабраў...

— Якая там дзяўчына...

— А навошта ты прызнаўся, каб цябе пасадзілі?

— Дык жа невінаватага абвінавацілі.

— А чаго ты так доўга чакаў? Таго ж адразу пасадзілі.

— Трэба было падумаць, спачатку ўсё ўзважыць, а потым ужо ісці пад гэты вянец.

— Мог бы крыху падумаць і раней, перш чым адважыцца на такую паганую справу. Вось і будзеш цяпер сядзець на казённым хлебе за гэты ўдар, хлопец.

Так і павезлі сына Вялікага Тэрапя ясным зімнім днём з роднай вёскі, закутага ў кайданы.

Двое падзёншчыкаў разграбалі гной у двары хутара Тэрапя. Яны паглядзелі ўслед саням.

— Здаецца, гэты хлопец навечна сядзе на турэмны хлеб,— сказаў адзін.

— Наўрад ці за адзін удар дадуць гэтулькі многа.

— Занадта ж яшчэ малады. Яму ж і дваццаці няма...

Конь бег трушком, рыпеў снег пад палазамі, і неўзабаве сані зніклі за даляглядам.

## XIX

Ялу Тайкінамаа снаваў па камеры з голымі сценамі з кута ў кут, нібыта чаўнок. І зноў недзе ў самых цёмных закавулках душы з'явіліся чэрві страху і сумлення і пачалі бязлітасна грызці яго. Ён пачуваў сябе мярзотна, прыгнечана, жахліва. Чорт ведае навошта запіхваць чалавека ў каменны мяшок, дзе парахнее душа, а галава запаляецца, дзе самота ціснe і душыць грудзі... Далі б хоць якую-небудзь працу, далі б крыху пабыць на двары, пад вольным небам, дзе шуміць вецер і плывуць хмары, каб хоць крыху неяк сталілі чалавечае цела...

— А што ж там з гаспадаром Тэрапя? Ці паправіўся ён? За што будуць судзіць — за цялесныя пашкоджанні альбо за забойства?

Так ён хадзіў, лаяўся і шкадаваў.

— Хаця б вынеслі прысуд, хай будзе любы, але каб спакайней адсядзець, скарыцца перад лёсам, калі ўжо так наканавана. Бо самае страшнае — гэта чаканне... І навошта мне спатрэбілася гэтак здурнеўшы кідацца на яго з нажом? Навошта было гэтак упадаць у шаленства? І чаму гэты торпар так папаўся, чаму ўсё так атрымалася?

Ялу хадзіў, начамі ён не мог спаць, думкі ягоныя бязладна кружыліся вакол гэтай справы. Яму здавалася, што з яго цела вырастае нейкі куст. Ён глыбока пусціў свае карані, і кожны дотык выклікае нясцерпны боль, але трэба яго выдраць, чаго б гэта ні каштавала.

— Дык чаму ўсё гэтак з ім зрабілася. Дарэмна пытацца. Там, наверсе, ці Бог, ці нячысты, хто-небудзь з іх добра ведае, але маўчыць... Вось так, куча гною!

З самага дзяцінства Ялу атрымліваў ад лёсу толькі моцныя кухталі. На імгненне ён адчуў нейкае дзіўнае, крыху сумнае пачуццё, калі падумаў аб тым, што ўсе ягоныя няшчасці ад таго, што ён дзіця жорсткага лёсу...

Нібыта цяжкі шэры сон прайшлі месяцы, і стала вядома, што гаспадар Тэрапя паправіўся. Надышоў суд. Пад час двух судовых паседжанняў Ялу стаяў і адчуваў у сабе нейкую трывогу і злосць, калі вяскоўцы, выцягваючы шыі, глядзелі на яго: вось ён стаіць, сын Вялікага Тэрапя, у паласатым убранні, закуты ў жалезныя кайданы...

І вось Ялу Тайкінамаа пачуў свой прысуд: два гады на казённым хлебе ў губернскай турме з чырвонай цэглы.

Стаіць спякотны летні дзень, ярка і горача свеціць сонца. Падзёншчыкі Тэрапя робяць плот каля высахлага і пыльнага папару. Адзін з іх, шырока расставіўшы ногі, забівае кол, злосна плюе і кажа:

— Што сын, што бацька Тэрапя — адно і тое: і таму і другому патрэбны вежы, ды ўсё цагляныя, цагляныя.

А сын Вялікага Тэрапя сядзеў у цагляным доме. Ён сядзеў на хлебе і вадзе, з кайданамі на нагах, а наручнікі былі закляпаныя так шчыльна, што часам аж курчыліся пальцы. Калі з яго знялі аковы, дык ён не змог стрымацца і пачаў крычаць і лаяцца так, што настроіў супраць сябе ўсіх ахоўнікаў. Асабліва змрочным жыццё здавалася яму ад немагчымасці змяніць сваё становішча, і недзе глыбока ў душы вырастала неспатоленая злосць і горыч. Ён успамінаў пра тое, што некалі ў дзяцінстве вычытаў у кніжках, імкнуўся звязаць гэта са сваім становішчам і думаў, як адпомсціць. Цяпер ён не будзе такі дурны і бяздумны. Цяпер ён будзе асцярожны, вельмі асцярожны, бо адзін раз ужо трапіў у няшчасце... Якое права маюць адны жыць лепей, чым другія? Няхай ва ўсіх будзе адно шчасце і адна бяда...

Так ён змрочна сядзеў у цёмным куце і абдумваў свае планы, бледны твар яго палаў, звінелі ланцугі на нагах.

— Хай яно гарам гарыць усё сучаснае грамадства. Няхай абрынецца ўсё старое і дурное, каб можна было пабудаваць нешта новае, хоць і не ведаю якое. Няхай узнясецца новы Рог Шчасця, як некалі ў майго старога бацькі... Хаця і яго некалі спаліць агнём.— Ах, ён быў цяпер як Саатаснама, вялікі і змрочны паўстанец! Ён успомніў пра старую цікавую кнігу, якую так некалі любіў, і сэрца ягонае задрыжала ад злосці і гонару. Ну хоць бы раз нанесці ўдар, паказаць зубы, выпрастаць магутныя крылы і ўзляцець вольным арлом...

Такія былі думкі Ялу Тайкінамаа, маладога зняволенага, думкі змрочныя, поўныя нянавісці і жадання абрынуць усё старое грамадства. Няўклюдныя і бясформенныя, нібыта вялізная пачвара, думкі цяклі павольна, быццам ступалі на драўляных нагах. Аднак гэтыя думкі надавалі сэнс ягонаму жыццю, будзілі прагу да жыцця і надзею на лепшыя часы. Ён ужо не

глядзеў на сябе, як на высахлую сасну, шэрую і бясплодную, на якой ніколі не вырастуць зялёныя галіны. Ён адчуваў, як у ім забурлілі жыццёвыя сокі і абудзіліся магутныя сілы зла і пераўтварэння.

## XX

Воля! Дзверы цаглянай вязніцы расчыніліся.

Была зіма, светлая і празрыстая. Праз галіны нямых дрэў прасвечвала глыбокая сінеча, і шэры, з чырвонымі адлівамі дым уздымаўся высока ў неба. Але для Ялу Тайкінамаа гэта была вясна, і непаўторны вясенні водар моцна хваляваў ягоную душу. Вераб'і, жывыя шэрыя камячкі, кружыліся каля гною на дарогах і нешта вяшчалі сваім чырыканнем.

Ялу Тайкінамаа паўсюль бачыў і глыбока ўдыхаў вясну барацьбы і волі.

Гэта была вясна паўстання. Частка фінскага народу паўстала і пайшла вайной супраць другой часткі. Яны стралялі адзін у аднаго бліскучымі нікелевымі кулямі, калолі штыкамі, тоўстыя гарматныя ствалы цяжка керхалі і шпурлялі ў людзей метал, які ператвараў іхнія целы ў кавалкі мяса, запальваў дамы, нібы свечкі.

Мяцежнікам быў і Ялу Тайкінамаа, адзіны сын Вялікага Тэрапя, самы чырвоны з усіх чырвоных. Нарэшце спраўдзіліся ягоныя даўнія сны! Цяпер ён быў як Саатаснама, адважны герой з дзіцячай кнігі, вастравокі і змрочны Саатаснама, мяцежнік, чый голас грымеў сярод стрэлаў, праносіўся праз дым, праз густы бліскучы лес дзідаў, з якіх капалі чырвоныя важкія кроплі... Так, настаў час разбурэння, крыві, крыві і агню! Трэба пранесціся па зямлі, як знішчальны агонь! Праглынуць і знішчыць усё старое, зношанае і спарахнелае. Няхай уздымаецца агонь, як пякельнае полымя,

якое спаліць, пакарае і ачысціць усё... Няма нічога вечнага на зямлі, дык няхай знікне ўсё дрэннае, каб на тым месцы вырас новы свет, новыя светлыя будынкі. Няхай цяпер пануе злосць і помста, каб потым, калі ўсё аціхне, на свеце насталі новыя шчаслівыя дні, а пакуль няхай гараць і дымяцца спарахнелыя будынкі, няхай плыве над зямлёю чырвоная крывавая пара.

Ялу ішоў па бясконцых вясенніх дарогах, і адважныя паўстанцкія песні прымушалі віраваць ягоную кроў. Цяпер паўстанцы змагаюцца за святую справу, а заўтра надыдуць шчаслівыя часы, яны будуць шчаслівыя і для яго, каму выпала нялёгкая доля. Ды толькі ці надыдуць яны. А можа, ён, як і правадыр мяцежнікаў Саатаснама, яшчэ пабачыць, як усё загіне, і яму таксама давядзецца загінуць? Не, настане перамога, справядлівасць і праўда прывядуць да перамогі, сталёвыя мячы яшчэ не ступіліся...

Перамога! І невялікая бяда, калі закарчанелае цела Ялу Тайкінамаа будзе ляжаць у расталым, чырвоным ад крыві снезе і тэлеграфныя драціны будуць спяваць над ім сваю журботную песню. Шмат людзей ужо загінула за святую справу, шмат яшчэ загіне.

Ялу Тайкінамаа крочыць у атрадзе чырвонагвардзейцаў, схуднелы, у аблавухай шапцы на галаве, у чырвоным шаліку, даўгія канцы якога матляюцца пад ветрам. Стомлены, ён ляжыць на сумёце, прыціснуўшы стрэльбу да шчакі карычневым прыкладам, і злосна выплёўвае нікелевыя кулі ў ворагаў. Вораг быў недзе там, крывасмок, буржуй, які ўяўляўся Ялу вялізным, пузатым, тупым і надзьмутым. Ён не хоча, каб насталі новыя часы, раўнапраўе, калі шчасце і гора будуць падзелены пароўну і кожны атрымае сваю долю... Ён па-ранейшаму хоча трымаць верх, ён хоча як мага далей трымаць у сваіх руках нітку шчасця, а іншым кідаць толькі аб'едкі; ён хоча, каб для Ялу

Тайкінамаа ніколі не насталі шчаслівыя і спакойныя часы... Ялу люта ненавідзеў свайго ворага і праклінаў яго за тое, што ён не быў такім, як здавалася: адкормленым буржуем; яго нялёгка было пракалоць штыком альбо збіць прыкладам у рукапашнай бойцы.

Аднак атрад не кінуўся наперад і не рынуўся ў бой. Недзе ў канцы калоны ўпаў баец, і вясновы снег афарбаваўся чырванню, і тады ўсе пацягнуліся назад па той самай даўгой дарозе, пакрытай вясновым снегам, галінкамі і саломай. Неба было светлае, свяціла сонца, але Ялу паглыбіўся ў змрочны роздум, і чырвоны шалік па-ранейшаму матляўся ў яго на шыі. Ён усё не даваў веры, што адбылося нешта нядобрае: гэта толькі часовая няўдача, яшчэ крыху — і яны кінуцца наперад і перамогуць. Ну і што, што некага забілі? Шмат людзей гіне і тут і там. Затое тым, хто застаўся жывы, будзе болей прасторы, болей шчасця і долі...

Але атрад усё ішоў па бясконцай вясновай дарозе, прыпякала сонца, цурчэла вада ад расталага снегу. Усё часцей і часцей каго-небудзь ззаду даганяў бязлітасны свінец, нібыта жалезная дзюбка нейкага прывіднага ястраба, чалавек падаў на сумёт, і снег навокал чырванеў пралітай крывёю. Усё часцей стрэльба з карычневым прыкладам апускалася і замаўкала. Атрад паўстанцаў цяжка цягнуўся па дарозе, настрой падаў, няпэўнасць і страх, што канец ужо недалёка, апаноўвалі яго. Тыя ж, хто ўступіў у бой, ішлі, выпнуўшы грудзі, хоць і ведалі, што справа загінула, але яны спадзяваліся, што памруць у яркіх патоках крыві, у віхуры снегу і попелу... Потым, адной вясенняю ноччу, калі аголеныя лясныя паляны ў месячным святле здаваліся пустэчай, Ялу Тайкінамаа раптам убачыў сябе палонным. Ворагі хітра атачылі іх і загналі, як рыбу ў нерат. Ялу змарнеў ад шматтыднёвай абароны, ад роспачных думак, што ўсё загінула. Закасцянелымі бяссільнымі рукамі ён ледзьве мог загнаць патроны

ў магазін вінтоўкі, потым і патроны скончыліся, і ў той жа момант нехта вырваў з рук яшчэ гарачую зброю. Яны трапілі ў палон. Забітых было шмат, вельмі шмат, нават там, дзе адбіваўся з кулямёта Чырвоны Сімі. Параненых было безліч. А Ялу стаў палонным. У начной цемры чуліся крыкі і лаянка, стогны параненых, недзе яшчэ грукалі стрэлы, разрываючы паветра, як удары вялізнай пугі.

А сэрца Ялу Тайкінамаа перапаўнялі бяссільная журбота і горыч за сваю няшчасную долю. Усё прапала. Ён сцягнуў з шыі чырвоны шалік і заплакаў. Усё прапала. Няма на свеце справядлівасці, а здранцвелая праўда запаўзла ў нейкі цёмны кут, як сляпая мурашка... Зноў узбуяла крыўда, грошы аказаліся мацнейшыя, і паны перамаглі.

Хадзілі чуткі, што ўсім асабліва вінаватым прысуд будзе кароткі, але заставалася яшчэ шмат і іншых. Тады ж, ноччу, у бляклым свеце газніцы дапыталі і Ялу Тайкінамаа.

— Вы са зброяй у руках выступілі супраць законнага парадку. Да таго ж вы супраціўляліся, калі ўжо многія здаліся.

— Ніхто не ведае, на чыім баку закон, а на чыім толькі ягоны цень.

— Вы забілі шмат герояў, якія змагаліся за законны грамадскі парадак.

— Забіваў, забіваў колькі мог. А на вайне і трэба забіваць...

— Так-так! Трэба забіваць! Слушна кажаш, прыяцель: трэбы забіваць. Адвядзіце яго.

Тады ж, на досвітку, два дзесяткі палонных пачалі капаць доўгую яму на беразе ляснога возера. Яны капалі, калупаючыся ў прамерзлай ледзяной зямлі, адны маўчалі, другія лаяліся, а нехта нават спрабаваў і пажартаваць. І толькі адзін чалавек у чырвоным шаліку старанна дзёўб зямлю, і буйныя кроплі поту

цяклі з-пад злямцаваных валасоў. На хвіліну ён выпастаўся і абапёрся на рыдлёўку. Сярдзіты вецер варушыў хвалі на вадзе і гнаў на ўзбярэжныя камяні.

— Ну, жвавей варушыцеся! — закамандаваў нейкі камандзір з пераможцаў.— Пара і на спачын, чырвоныя, канчайце, а то яшчэ пільнуй вас тут. Весялей, чырвоная сволач!

Неўзабаве той самы чырвонагвардзеец зноў выпрастаўся і загаварыў:

— Паколькі развітальных прамоў не будзе і калі тыя, каго гэта тычыцца, не супраць, то я скажу некалькі адпаведных суцяшальных слоў. Таварышы! Мы не старыя дзяды і не малыя дзеці. Мы цярпліва пераносілі боль. Хутка ўсё скончыцца. Адны загінуць, і тыя, што прыйдуць за імі, яшчэ паспытаюць таго. І смерць здасца ім нават салодкай.

Прамова здалася даволі змрочнай, ніхто не засмяяўся, і толькі некаторыя, скрывіўшы вусны, працягвалі слухаць. А вартавы загадаў прамоўцу закрыць ляпу.

Нарэшце яма была гатова. Людзі з цяжкасцю вылезлі на край, і ў іх адразу адабралі рыдлёўкі.

— Ну вось,— сказаў камандзір.— А зараз адправім вас каго да д'ябала, каго да Бога. Зараз пачнём расстрэльваць. Вочы вам завязваць?

— Не трэба,— прабурчаў высокі змрочны хлопец у чорным касцюме.— Нам і раней даводзілася нюхаць пораху...

Некаторыя чырвонагвардзейцы стаялі, счапіўшы рукі, варушылі вуснамі, некаторыя пападалі на калені, але большасць стаяла з цёмнымі тварамі. Змрочны хлопец у чорным касцюме сказаў:

— Айцец, даруй ім, яны не ведаюць, што робяць.

— Вы яшчэ і насміхаецеся? — прасіпеў начальнік канвоя.— Падрыхтаваліся! Агонь!

І ўзарвалася цішыня вясновага рання. Затрашчалі

вінтоўкі, і магіла напоўнілася. У даўгой яме апынуўся і чырвонагвардзеец у аблавуху з чырвоным шалікам на шыі.

— Ну вось,— сказаў камандзір.— І зроблена справа. Прывядзіце сюды каго-небудзь з жывых чырвоных, няхай крыху прыкапаюць сваіх сяброў.

А хутар Тэрапя ўсё стаяў на схіле ўзгорка, звінеў у кузні молат, шумеў крыламі вятрак. І ў новым прасторным доме можна было яшчэ пачуць розныя гісторыі пра славуты род Тэрапя.

Парабкі штосьці робяць, свеціцца жоўтая лямпа, трашчыць мароз пад зімовым небам.

— Дык вось, гэты самы Вялікі Тэрапя... А ягонага сына пасадзілі. Кажуць, ён быў чырвоным. І знайшоў сваю смерць у той жорсткі час. Гаспадароў брат бачыў, як яго павялі і расстралялі.

— Вось і знайшоў сабе царства, якога хацеў: некалькі аршынаў пад зямлю.

— Такі вось лёс у апошняга са славутага роду Тэрапя.

## XXI

Аднак Ялу Тайкінамаа ўсё ж не трапіў у царства вечнага спачынку, і ягоны апошні прытулак не зарос зялёным травяным убраннем.

Той цёмнай вясенняй ноччу, калі ён трапіў у палон, здарылася так: пераможцы выбралі сярод палонных чалавек дваццаць, якіх так альбо іначай палічылі найбольш вінаватымі. Яны стаялі асобнай групай недалёка ад астатніх палонных, акружаныя стомленымі ад ваеннай бязладзіцы і баёў канваірамі. З цёмнага начнога неба падалі рэдкія кроплі, хоць хмары парадзелі

і рассеяліся. Сэрца Ялу Тайкінамаа тачыў жахлівы, слізкі і халодны чарвяк: страх смерці. Яму хацелася пажыць яшчэ на гэтым свеце, пад сінім небасхілам, дзе зямля мяняе свае формы, то буйна квітнее, то зноўку вяне, дзе ў нябёсах свеціць вялізнае цёплае сонца, лятуць хмары і капаюць цяжкія кроплі дажджу... Эх, цяжка паміраць, калі ты з'явіўся на свет дзеля жыцця. Лепш было б ніколі не бачыць гэтага свету, а яшчэ ў маленстве ператварыцца ў камень... У неразумнага немаўляці яшчэ няма душы...

— Ну вось,— ціхім голасам сказаў адзін палонны з другой групы, Чырвоны Сімі, з якім Ялу шмат пахадзіў па ваенных дарогах.— Табе прысуд будзе кароткі, хоць крышку табе пашчасціла...

— Пашчасціла... Раней хоць была нейкая надзея,— адрэзаў Ялу.

— Надзея? Уся справа безнадзейна загінула, далей можна і не жыць. І лепей цяпер, чым потым пакутаваць,— ціха адказаў Сімі.— Калі ты хочаш паспрабаваць яшчэ, то давай, хуценька... А я ўжо стаміўся.

Чырвоны Сімі падышоў, садраў з Ялу шапку і чырвоны шалік, а яму на галаву надзеў свой аблавух.

— Ну, давай бягом, пакуль не заўважылі.

Ялу стаяў бездапаможна.

— Не, так я не магу. У цябе ж сям'я, дзеці.

— Якраз вось таму. Ды і не магу я болей жыць, калі справа загублена...

Чырвоны Сімі выпіхнуў Ялу і сам стаў на ягонае месца. Сонны канваір з вінтоўкай прачнуўся і вяла прамармытаў:

— Што там яшчэ? Вось зараз я штыком альбо прыкладам.

І якраз у гэты момант падышлі яшчэ канваіры, каб забраць палонных. Нейкі камандзір крыкнуў:

— Усе тут? Ніхто не ўцёк? Ніхто не памяняўся? Колькі ўсяго? Трынаццаць... Поўны склад! Ну, пайшлі! Наперад!

І яны зніклі ў чорнай ночы, акружаныя канваірамі. А Ялу Тайкінамаа застаўся стаяць у групе палонных на вясковым двары, спустошаны і бяссільны.

Павольна ішоў час. Допыты. Лета і лагер для палонных, шэрыя аднастайныя дні пад летнім небам, голад і глыбока прыхаваная злосць.

— Ну чаму, чаму мы не біліся як след? — пытаўся ў самога сябе Ялу, глыкаючы калатуху з карэннем нейкіх невядомых раслін.— Лепей было б памерці там, калі быў вынесены кароткі прысуд... А цяпер вось пакутуй. Сонца і садзіцца, каб потым зноў падняцца. Але ці падымецца яно для мяне, Ялу Тайкінамаа?

Кожны дзень з лагера вывозілі трупы памерлых ад голаду і хвароб. Жывыя ператвараліся ў цені, у шэрыя схуднелыя здані. Усё да апошняй травінкі павыдзіралі галодныя людзі ў лагеры, нават сосны стаялі з абгрызенай на вышыню чалавечага росту карой.

«Мораць голадам,— думаў Ялу, круцячы свае вялыя і грубыя, як нітка, думкі.— Ды і ў іх з ежай не надта. А хто ж дасць лішнюю крошку палоннаму, калі і самому не хапае. На зямлі няма ежы. Шмат забівалі, але трэба забіваць болей. Зашмат людзей».

Аднак і ў роспачы надзея не пакідала яго.

Ён застаўся жыць, ён жыў.

Прайшла восень у лагеры для палонных, потым гады ў турме, думкі ацяжэлі, нібыта закамянелі: так жыве чалавек з цяжкім лёсам, няшчасны чалавек. І гэтая думка прынесла яму нейкае дзіўнае задавальненне.

Затым прыйшла воля. Зноў расчыніліся перад ім вароты турмы. Стаяла лета, зелянела трава, вісеў у паветры дурманлівы водар, і ад слабасці дрыжэлі ногі. Ялу Тайкінамаа было гадоў трыццаць пяць, аднак з выгляду яму можна было даць і пяцьдзесят. Ён схуднеў на трэску і выглядаў гэткай жа сухой жардзі-

най, як некалі ягоны дзед пад час хваробы, з шэрай завялай скурай.

Такім стаў Ялу Тайкінамаа, адзіны сын Вялікага Тэрапя. І куды цяпер ён падасца? Некалі ў турме ён пахваліўся аднаму прыяцелю, што калі выйдзе з турмы, то ніколі болей не будзе працаваць, ніколі болей не возьме ў рукі ніякай працоўнай прылады.

— А як ты будзеш жыць?

— Нічога, людзі пракормяць. Дурні шмат працуюць, нават залішне. Вось з-за таго, што адны працуюць зашмат, і пачынаюцца на свеце вялікія войны. Збіраецца на свеце шмат прадуктаў працы, якія немагчыма спажыць. Робяць зброю, снарады, страляюць адзін у аднаго, не памагае. Зашмат людзей, зашмат прадуктаў працы. Калі б людзі толькі елі, яны не нарабілі б гэтулькі прыладаў для вынішчэння чалавека.

Прыяцель глядзеў на Ялу круглымі вачыма. Ён глядзеў у налітыя крывёю вочы Ялу і думаў, што такія вочы могуць быць толькі ў вар'ята. Дый пляце ён абы-што.

І вось Ялу Тайкінамаа на свабодзе, ён крочыць па дарозе і заходзіць на хутар. Адразу відаць, што ён не звычайны прахожы. Ён садзіцца на лаву, схуднелы і даўгі, як жардзіна, налітыя крывёй вочы блішчаць на шэрым, нерухомым твары.

— Я змагаўся за свабоду,— загаварыў ён абыякавым, хрыпатым ад доўгага маўчання голасам.— Я ліў кроў за свабоду! Супроць чорта і д'ябла! Зямля свабодная! І я на ёй! Так заўсёды бывае са змагарамі за свабоду.

Ён паўтарае гэта доўга і аднастайна, а потым, нарэшце, просіць ежы і грошай.

— Ён, пэўна, не ў сабе,— думаюць гаспадары.— А чаму б і не, чалавек змагаўся за вольную зямлю, салдат-вызваліцель... Можа, і здурнеў.

Яму даюць есці, даюць крыху грошай, і Ялу Тайкінамаа ідзе далей.

Ён ідзе да наступнага хутара: зноў садзіцца на лаву і, нібыта бязглуздае птушынае пудзіла, паўтарае тыя ж словы:

— Я змагаўся за свабоду! За свабоду я аддаў усё! І маёмасць, і сілу! Усё пайшло! І вось я цяпер!

І ён не адыходзіць, пакуль не атрымлівае грошай альбо ежы, калі галодны.

Так ён пачаў валачыцца з хутара на хутар, з вёскі ў вёску. Спачатку ён крыху саромеўся прасіць ежы і грошай у людзей, якім некалі зайздросціў, якіх некалі ненавідзеў і якімі пагарджаў. Але нічога з імі не будзе з-за гэтых капейчын. Не заб'юць жа яго за гэтыя грошы... Тым болей што ён не хлусіў, ён жа і сапраўды змагаўся за свабоду.

Часам ён успамінаў голад у лагеры, свае пакуты і катаў і ў глыбіні душы праклінаў усіх, зноў адчуваў злосць і прагу помсты. Ён успамінаў сваё першае зняволенне, свае вялікія планы і фантазіі, як ён хацеў стаць правадыром паўстанцаў са старой кнігі. Цяпер ён пра гэта ўжо і не думае. Які з яго правадыр, які Саатаснама, калі ён, трухлявы пень, не змог пайсці пад расстрэл, а памяняўся з таварышам. Ён думаў пра тое, што калі б зноў людзі ўзяліся за такую справу... Ці пайшоў бы ён з імі? Ці стаў бы ён зноў страляць па ворагах, сціскаючы ў руках карычневы прыклад? А можа б, падпаўзаў бліжэй, каб калоць штыком... Яму станавілася непамысна, калі ўспамінаў турэмныя гады і здзекі турэмшчыкаў.

Так думаў Ялу Тайкінамаа, але ўсё ж не высветліў: пайшоў бы ці не. Нарэшце ён падумаў, што не пайшоў бы, а глядзеў бы збоку і цешыўся, як яны грызуць адзін аднаго і б'юцца, нібы дурныя бараны, ды так, што ажно лбы трашчаць. А ён, мудры чалавек, стаяў бы ўбаку і толькі назіраў.

Так думаў бадзяга, ідучы па доўгіх дарогах і паўтараючы людзям сваё адвечнае выслоўе: я змагаўся за свабоду...

У кішэнях ягонай падранай вопраткі, за падкладкай і ў іншых патаемных месцах пачалі збірацца грошы, папяровыя грошы. Ён жабраваў даволі ўдала, ніхто яму не адмаўляў. З нажабраваных грошай ён не траціў ніводнага пені. Каб не памерці з голаду, ён прасіў есці. А часам і сам дзівіўся, як добра ён спраўляецца з роляй жабрака. Ён ведаў, што ёсць і іншыя жабракі, у якіх болей прычын на адпушчэнне грахоў, чым у яго, Ялу Тайкінамаа. Але ім даставаліся толькі лаянка і выспяткі. Затое ён, калі ўжо заводзіў сваю песню, то не змаўкаў, пакуль гаспадары не лезлі ў кашэль і не давалі хто пені, хто пятак, а хто і дзесятку. Здаралася, што які-небудзь багацей-патрыёт, спачуваючы герою-вызваліцелю, даваў і большыя купюры.

Аднойчы Ялу пералічыў свае грошы і са здзіўленнем выявіў, што іх шмат, тысячы.

Тады ён падумаў:

«Нездарма я сын Вялікага Тэрапя: грошы набягаюць. У майго бацькі таксама была драная вопратка, і ён таксама хаваў туды грошы, але нейкі злодзей сцягнуў іх. Вось я і дайшоў да таго, што збіраю грошы... Напэўна, гэта ў нас у крыві, наша радавое...»

Часам у яго пыталіся:

— Дзе вы змагаліся? У якіх войсках?

Тады ён рабіў выгляд, што не чуе, і цягнуў сваю звычайную песню: я ўсё аддаў за свабоду! Усё пайшло дымам! Вось так я і жыву!

І ўсе лічылі яго прыдуркаватым.

Мінула колькі гадоў.

Аднойчы летнім днём Ялу Тайкінамаа пералічыў свае грошы на ўскрайку лесу. Потым ён зноў схаваў іх

і рашуча пайшоў па дарозе. Ён спяшаўся да роднай вёскі Тэрапя. Па дарозе яму вельмі карцела зайсці ў які-небудзь дом і завесці сваю адвечную песню:

— Я змагаўся за свабоду!

## XXII

Стаялі начныя замаразкі, іней пакрыў наваколле. Мароз прыхапіў жыта і на хутары Тэрапя. Сівыя каласы ціха шапацелі пад золкім ветрам. Гаспадар змрочна глядзеў у акно і думаў: гіне збожжа. Ці варта старацца, калі за адну ноч можа загінуць уся твая праца. Ніякія дужыя рукі не дапамогуць...

У хату ўвайшоў схуднелы, як палка, дзіўны валацуга з пажоўклым тварам. Ён сеў на лаву і закудахтаў:

— Я змагаўся за свабоду!

— Кожны тут змагаўся за свабоду! Толькі хлеб ад таго не пабялеў, не пасмачнеў... Выдаткі і падаткі ўзраслі, а тут яшчэ і мароз,— злосна сказаў гаспадар і, павярнуўшыся спіною да акна, паглядзеў на дзіўнага госця.

А той, не зважаючы ні на што, прыдуркавата цягнуў:

— Я ўсё аддаў за свабоду! І вось я тут!

— Мы хутка ўсе пойдзем па старцах, калі не хопіць розуму. Прадаць бы каму гэтую старую парахню ды з'ехаць туды, дзе можна спакойна расціць хлеб, у Амерыку ці Аўстралію. Пішуць, што там жывецца няблага.

Пачуўшы гэта, валацуга перастаў буркатаць і прамовіў:

— Дык прадай!

— А які чорт гэта купіць! Я б прадаў, каб хоць крыху далі.

— Прадайце мне. Я дам.

Гаспадар уважліва разглядае яго. Што яшчэ ўзбрыло ў голаў гэтаму прыдурку.

— Значыць, дом захацеў набыць. А толькі што казаў, нібыта задаволены і меншым.

Бадзяга суне руку ў кішэню і выцягвае пачак грошай.

— Думаеш, я не змагу? Хоць цяпер выкладу грошыкі на стол, калі сыдземся ў цане.

Гаспадар вырачыў вочы. Бываюць жа такія багатыя вар'яты. Знайшоўся пакупнік. Ён глядзіць на прымарожанае жыта, паварочваецца, крыху вагаецца, а потым называе суму.

— Вось выкладай і будзеш гаспадаром.

Бадзяга сядзіць, ківае нагамі і нарэшце кажа:

— Ну давай, пісака, учынім дамову. Я не таргуюся.

Так і выйшла, купля адбылася. Бадзяга выцягнуў яшчэ пачак грошай з патаемнай кішэні, пералічыў і падаў гаспадару. Потым ён павесіў паліто на цвік і сказаў:

— Ну, вось я і зноў у родным доме майго нябожчыка бацькі...

Усе здрыгануліся. Толькі цяпер, уважна прыгледзеўшыся да валацугі з шэрым, пажоўклым тварам, яны пазналі Ялу Тайкінамаа, нашчадка былога ўласніка хутара. І гаспадар, які аднойчы зведаў нажа Ялу, глядзеў на яго спалохана і падазрона: што яшчэ ўзбрыдзе яму ў голаў... Аднак Ялу толькі і сказаў пісарчуку:

— Ну вось, трэба паставіць подпіс.

І ён працягваў:

— Няхай людзі не спяшаюцца сыходзіць. Калі зможаце, тады і паедзеце. Месца ўсім хопіць. А я чалавек адзінокі.

Аднак былыя гаспадары з'ехалі наступным днём. Хадзілі чуткі, што яны падаліся за мяжу. Перад ад'ездам былы гаспадар запытаўся ў Ялу:

— Як жа ты ацалеў у гэтай крывавай віхуры? Цябе ж, кажуць, расстралялі...

Аднак Ялу нічога не растлумачыў. Ён толькі і сказаў:

— Не кожная куля забівае! Ды і зямля не такая ўжо цяжкая коўдра, каб з-пад яе не выбрацца!

Неўзабаве па вёсцы пайшлі пагалоскі, што Ялу Тайкінамаа, адзіны сын Вялікага Тэрапя, купіў хутар Тэрапя і жыве там, як жыў некалі ягоны бацька. Казалі, што яго ўжо аднойчы расстрэльвалі. А ён жыве сабе і гэтак жа вар'яцее, як і ўсе ягоныя продкі. Вядома ж, Тэрапя. Казалі, нібыта ён хоча ажаніцца і завесці дзяцей. Нібыта ён сам казаў, што ягоны род не павінен вымерці. Калі ж да яго прыходзілі госці, то ніхто не мог зразумець ягонай гаворкі:

— Я быў чырвоным,— упэўнена тлумачыў гаспадар гасцям.— Я змагаўся за свабоду, а цяпер я буржуй. У мяне ёсць грошы і сіла. Голымі рукамі, поўзаючы па гразі, жыццё не палепшыш. Кожны сам за сябе. Калі не шанцуе, то дрэнна. А калі пашанцуе, дык станеш буржуем і будзеш буржуем, пакуль змогі хопіць...

Ён знайшоў сабе і жонку, маладую ўдаву. Час мінаў, але дзяцей не было. Ялу Тайкінамаа прагнаў жонку, сказаўшы ўслед:

— Не хочаш, каб у мяне былі спадчыннікі, думаеш, мой род вымірае, бо я апошні гаспадар Тэрапя, а потым усё застанецца табе...

Так гаварыў мужчына, на дзесятак гадоў маладзейшы за сваю жонку. Ён прагнаў жонку і зажыў адзін.

Думкі ягоныя перамяніліся. Ён болей не збіраўся пускаць дзяцей на гэты паганы свет, дзе людзі ваявалі і забівалі адзін аднаго... Людзей на свеце і без таго зашмат, патрабуюцца войны і прылады смерці, каб час ад часу людзей станавіла меней. А значыць,

яно і лепей, калі зусім не будзе дзяцей. Гэтыя дурныя людзі толькі марнуюць час, нешта будуючы, а потым разбураючы, на гэтым свеце. А можа, яно і не блага. Розныя бываюць людзі, адны пускаюць на свет дзяцей, а другія іх мыюць...

Ён пачаў даволі часта хадзіць па вёсцы. Распавядаў усялякія богамярзотныя гісторыі і так з'едліва жартаваў, нібыта рэзаў нажом па жывым. Ён распачынаў сваркі з людзьмі, стараўся пасварыць іх паміж сабой. І вельмі радаваўся, калі гэта ўдавалася, і аж трымцеў ад шчасця, гледзячы, як людзі б'юцца і сварацца. Яму было пад сорак, але выглядаў ён сапраўдным дзедам, згорбленым, шэрым, як попел, і такім худым, што, здаецца, можна было пералічыць усе косці. Так і здавалася, што вось-вось на ім вырасце мох, шэры, заплеснелы лішайнік.

І людзі празвалі яго Нячысцік Тэрапя.

## XXIII

Стаіць кастрычніцкі вечар. Чорная цемра, вільготная зямля хлюпае гразёю, шуміць вецер, глуха стукае дождж па шыбах.

Ялу Тайкінамаа сядзіць на хутары Тэрапя з нейкім чалавекам. Ялу варушыць качаргой вуголле ў печы, а госць панскага выгляду сядзіць за сталом, на якім стаяць дзве свечкі, бялеюць нейкія паперы і пісьмовыя прылады.

— Што? — гаворыць госць.— Вы складаеце запавет, у якім ваша ўласнасць пасля смерці не застаецца нікому... Такія запаветы закону не вядомыя. Так рабіць нельга, суд не зацвердзіць.

Ялу Тайкінамаа сядзіць, крэхча, варушыць качаргой галавешкі і, нарэшце, кажа:

— Што гэта за такі закон? Я магу рабіць са сваёй уласнасцю ўсё, што захачу.

— Вядома, вы можаце,— тлумачыць чужы пан.— Можаце, пакуль жывы. Аднак грамадства не пацерпіць, каб вы ў сваім запавеце забаранялі карыстацца вашай маёмасцю, каб дамы вашыя спусцелі і згнілі, а палі здзічэлі і пазарасталі, каб рука чалавечая не магла дакрануцца да іх. Так не будзе.

— Будзе, будзе. Якая ваша справа? Вы складаеце паперу, як належыць па закону, і падасце запавет на суд, калі я памру.

— Суд яго не зацвердзіць. І,— працягвае госць,— навошта вам яшчэ запавет? Вам яшчэ жыць ды жыць, вам жа ўсяго каля сарака...

— Так толькі здаецца. А зрабіць запавет трэба цяпер. Я хутка памру.

— Вы гэтак дарэмна.

— Гэта праўда, я памру. Так што пішыце паперу. І калі закон не паклапоціцца аб выкананні маёй пасмяротнай волі, дык я сам паклапачуся. Я стану прывідам, няхай толькі хто-небудзь паспрабуе дакрануцца да маёй зямлі, дык я вылечу з магілы і пашкуматаю нахабніку ўсё адзенне...

Стукае па шыбах дождж. Стогне ў коміне вецер, выдзімаючы з печы гарачы попел. Юрысту робіцца непамысна. Ён глядзіць на гэтага незвычайнага чалавека, што сядзіць каля печы, нібыта вялізная шэрая птушка, успамінае шматлікія аповяды і байкі, якія расказваюць пра кліента, потым бярэцца за ручку і пачынае пісаць.

Дождж стукае па вокнах і сценах, рыпіць пяро, а Ялу Тайкінамаа сядзіць каля печы, хітае галавой і глядзіць, як паціху згасае вуголле.

Нарэшце папера скончана. Ялу Тайкінамаа старанна вывучае змест, гэтак жа старанна выводзіць свой подпіс і пячаткай прыціскае чырвоны сургуч.

— Ну вось,— гаворыць ён,— падыходзіць. А вы паклапаціцеся здаць паперу куды трэба. Занадта позна. Начуйце тут. Куды вам ісці ў такую цемру і дождж.

Гаспадар выходзіць з пакоя, а госць пачынае ўладкоўвацца нанач, час ад часу спыняючыся, каб падумаць і перачытаць напісанае. Але Ялу Тайкінамаа ўзяў свечку з сабой. Позна, хутка поўнач. Чорная непраглядная цемра агарнула наваколле, хрыпіць і стогне вецер, няспынна стукае, сыплецца дождж. Ялу Тайкінамаа ходзіць з ліхтаром вакол загона, абыходзіць будынкі, спыняецца, нешта разглядвае, не зважаючы на дождж. Аднак у цемры ён нічога не бачыць, толькі вадзяныя кроплі і вецер, які ледзь не тушыць полымя ў ліхтары.

Нарэшце ён кіруе да хаты. Садзіцца на ганку, нібыта вялізны начны пугач, і сядзіць нерухома, абхапіўшы галаву рукамі. Побач гарыць ліхтар, вецер гойдае невялічкі язычок полымя, па шкле ліхтара спаўзаюць буйныя кроплі.

Праходзіць ноч, у хаце прачынаюцца і знаходзяць свайго гаспадара каля дзвярэй нерухомага і шэрага, нібыта вялізная дзіўная птушка.

У ліхтары канчаецца газа. Полымя шыпіць журботна і ціха, быццам некаму скардзіцца. Ялу Тайкінамаа, адзіны сын Вялікага Тэрапя, спачыў навек.

**Хаанпяя П.**

Х 12 Боты дзевяці салдат: Раманы / Пер. з фін. і ўступ. слова Я. Лапаткі.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 220 с.: іл.

ISBN 5-340-00951-3.

Кнігу аднаго з відных прадстаўнікоў сучаснай фінскай літаратуры П. Хаанпяя (1905—1955) склалі два яго творы. Антыфашысцкай ідэяй працізаны раман «Боты дзевяці салдат», пабудаваны на гумарыстычным, нярэдка сатырычным апісанні прыгод на фронце і ў тыле дзевяці ўладальнікаў пары салдацкіх ботаў. Апісанню сялянскага жыцця трох пакаленняў на хутары Тэрапя, паказу нечаканых паваротаў, узлётаў і падзенняў чалавечага лёсу прысвечаны раман «Балада пра трох Тэрапя».

$$Х \frac{4703000000—035}{М 302(03) — 94} 120—94$$

**ББК 84.4Фін**

Літаратурна-мастацкае выданне

Хаанпяя Пентці

БОТЫ ДЗЕВЯЦІ САЛДАТ

Раманы

Рэдактар Л. І. Каўрус
Мастак А. А. Карповіч
Мастацкі рэдактар А. І. Цароў
Тэхнічныя рэдактары М. Ц. Папкова, Г. П. Тарасевіч
Карэктар І. М. Паланейчык

Здадзена ў набор 16.06.92. Падп. да друку 11.01.94. Фармат 70×100 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 9,10. Ум. фарб.-адб. 9,43. Ул.-выд. арк. 9,97. Тыраж 6000 экз. Зак. 2174.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Выдавецтва**
**«Мастацкая літаратура»**
**ў 1989 г. заснавала серыю**
**«СКАРБЫ СУСВЕТНАЙ ЛІТАРАТУРЫ»**

---

У серыі выдаюцца найлепшыя творы літаратуры
ўсіх краін і народаў, розных жанраў,
якія ўвайшлі ў залаты фонд сусветнай культуры.
Серыя выдаецца на беларускай мове.
У кожным томе змяшчаюцца ўступны артыкул і каментарыі.

За мінулыя гады выйшлі тамы з творамі
Т. Мана, М. Гогаля, Т. Шаўчэнкі, У. Шэкспіра,
П. Мерымэ, Лонга і Апулея, Э. Хемінгуэя, І. Вазава,
Ё. В. Гётэ, Шолам-Алейхема, І. Буніна і А. Купрына,
І. Андрыча, Ф. Шылера.

КУПЛЯЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ КНІГІ З СЕРЫІ
«СКАРБЫ СУСВЕТНАЙ ЛІТАРАТУРЫ».

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура» ў 1994 г. плануе выдаць кнігі з серыі «СКАРБЫ СУСВЕТНАЙ ЛІТАРАТУРЫ»**

---

МІХАІЛ БУЛГАКАЎ

**Майстар і Маргарыта**

Раман

*Пераклад Алеся Жука*

АЛЬБЭР КАМЮ

**Чума**

Раман, аповесці, апавяданні, п'есы

*Пераклад Зміцера Коласа*

ГЕНРЫ ЛАНГФЭЛА. УОЛТ УІТМЕН

**Спеў аб Гаяваце. Лісце травы**

Паэма. Вершы

*Пераклад Аркадзя Куляшова і Янкі Сіпакова*